# ДЗЕЯЧАС

*літаратурны агляд Лявона Вашка №16*
*(2009 – 2010)*

# ПРЫЧЫНА СУТНАСЦІ

**НУМАРАЗМЕСТ:**





*Яблынова, дваццаць чацвертага верасня 2002 года. Фотадзеячас.*

*Анатоль* **ВЯРЦІНСКІ**

***

*Я фільм глядзеў.*
*Там – Спартака распялі.*
*Распялі ноччу,*
*калі ў Рыме спалі.*
*Вісіць Спартак,*
*канае на крыжы.*
*А ўнізе, каля ног яго, жанчына*
*ўзіраецца ўтрапёнымі вачыма:*
*"Спартак, Спартак...*
*хоць слова мне скажы!.."*
*У роспачы хапаецца за ногі.*
*"Спартак, Спартак..."*
*У зале плачуць многія.*
*Ды і ў мяне самога ў горле ком,*
*і сам слязіну я змахнуў тайком...*
*Спартак, Спартак!*
*Героі ўсіх эпох!*
*Ці не такі ваш лёс быў у фінале?*
*Як нехта моцна спаў,*
*вас распіналі,*
*вы ціха на крыжы сваім канаді,*
*і білася жанчына каля ног.*

*Анатоль Вярцінскі. "Сятло зямное". Менск, 1981. С. 134.*

# “ДЗЕЯЧАС”: ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ВЕЧНАСЦІ




*Здымак з дзесятага нумару “Дзеячасу”. Фотадзеячас.*

Прычына зьяўлення мінулаагляду, які публікуецца ніжэй – круглая дата: у красавіку 2010 года “Дзеячасу” спаўняецца дзесяць пстрычак. Гадавіна, па-шчырасці, невялікая і ўзрост, мякка кажучы, несур’ёзны, таму на паседжанні рэдкалегіі было вырашана ад’значыць юбілей вельмі сціпла, бяз вордана і помпы – проста азірнуцца на мінулае выпадковым позіркам і выпадкова, бяз строгае сістэмы і нудлівага аналізу, прыгадаць што-небудзь з таго, што знаходзіцца на паверхні памяці.

***Першы нумар “Дзеячасу”(2000) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе грамадскага аб’яднання “Ратуша” (Гародня) на чале з Александрам Мілінкевічам. Друкар Ігар Лысееў. У выпуску змешчаная кароткая інфармацыя пра кніжкі Лявона Вашка, асблівасці ягонае творчасці. Паведамляецца пра выхад “Маленькага сшытка”. Друкюцца кранікальныя, біяграфічныя звесткі.***


ДЗЕЯЧАС

КНІЖКІ ЛЯВОНА ВАШКА

Першы нумар самавыдавецкага літаратурнага агляду “Дзеячас” пабачыў свет пры канцы красавіка 2000 года ў Гародні. Зборам у 299 асобнікаў ён быў надрукаваны на абсталяванні грамадскага аб’яднання “Ратуша”, якое ўзначальваў Александр Мілінкевіч. Цягам 2000 года выйшла сем нумароў “Дзеячасу”: пры рупнасці Александра Мілінкевіча першыя пяць нумароў былі надрукаваныя ў “Ратушы” друкаром Ігарам Лысеевым, шосты нумар быў надрукаваны ў Лідзе на абсталяванні Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны друкаром Артурам Ганьком, сёмы нумар зборам з сатняжыну асобнікаў надрукавалі добрыя людзі на лазерным прынтары.

У 2001 годзе выйшлі восьмы нумар (Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны ў Лідзе, друкар Артур Ганько), дзевяты нумар (грамадскае аб’яднанне “Варута” ў Баранавічах, друкар Уладзімір Гундар), дзесяты нумар (абсталяванне Свабодных прафсаюзаў Беларусі, Менск, друкар Пётар Толар).

Сямнаццатага траўня 2005 года быў забраны ў Паставах адзінаццаты нумар “Дзеячасу” (аб’яднаны за 2002-2003 гады; у раздзеле “Твораспакметы” змяшчаецца інфармацыя датаваная 2004 годам), які пабачыў свет дзякуючы клопатам Міколы Гіля і Язэпа Палубяткі (надрукаваны ў Паставах праз выдавецкую ініцыятыву “Сумежжа”, друкар Мікола Гіль).

У 2007-2009 гадох у Мастох, дзякуючы Алесю Зарэмбюку, Уладзіміру Каўшовіку, Зміцеру Кухлею выйшлі дванаццаты нумар агляду (аб’яднаны нумар за 2004-2007 гады), трынаццаты нумар (2008), чатырнаццаты нумар (2008), пятнаццаты нумар (2009).

Як бачна, строгае перыядычнасці “Дзеячас” ня мае. У розныя гады ён выдаваўся розным аб’ёмам: ад чатырох палос – да васьмідзесяці чатырох. Розныя выпускі выдаваліся розным зборам: ад сотні асобнікаў – да двухсот дзевяноста дзевяці. Скрозь нумары “Дзеячасу” фармавалася канцэпцыя выдання: межы рэкламнага буклета спалучаліся з адметнасцямі інфармацыйнае газеты, шырыліся часопіснымі аналітычнымі матэрыяламі... Знешняе аблічча, змест, напаўняльнасць інфармацыяй аб’ектыўна залежалі ад шматлікіх абставінаў: першыя нумары “Дзеячасу” паўставалі ў абмежаваных умовах, пры дэфіцыце арганізацыйнага абсталявання – сканера, лічбавага фотаапарата, мадэма, капіравальнае тэхнікі, праграмнага забеспячэння...,– пры недахопе матэрыяльна-фінансавых сродкаў; з цягам развіцця кампутарных й інфармацыйных тэхналогіяў, пашырэння друкарскіх магчымасцяў мянялася знешнасць літаратурнага агляду, развіваўся ягоны змест...

***“Дзеячас” № 2 (2000) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе грамадскага аб’яднання “Ратуша” (Гародня) на чале з Александрам Мілінкевічам. Друкар Ігар Лысееў. У выпуску апавядаецца пра п’есы Лявона Вашка і тэатральныя пастаноўкі. Друкуецца кроніка творчага жыцця.***

Агульнае, што аб’ядноўвае ўсе нумары “Дзеячасу” – гэта дух волі: літаратурны агляд стаўся прастораю творчае свабоды, дзе ягоны стваральнік, мастоўскі пісьменнік Лявон Вашко, займеў магчымасць самастойна, без аглядкі на рэдактароў і цэнзуру друкаваць свае творы, выказваць уласныя погляды і меркаванні. На старонках выдання змяшчаецца інфармацыя пра беларускую літаратурную творчасць, друкуюцца творы прозы, паэзіі, публіцыстыкі, літаратурнае крытыкі... Мэта “Дзеячасу” – папулярызацыя творчасці Лявона Вашка, прапаганда беларускіх літаратуры, мастацтва, мовы і культуры.

# ЧАСАГЛЯДЫ

## *падарожжа па старонках “Дзеячасу”*

***Звестка ад Біла Клінтана***



***п***рыйшла ў горад Масты ў творчую майстэрню Лявона Вашка. Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі дзякуе за зычлівы падарунак беларускага пісьменніка – кніжкі з аўтографам аўтара – і абяцае ўважліва разглядзець пытанне пра судзеянне беларускай духатворчасці. Досыл з далёкага кантыненту – адказ на прапанову Лявона Вашка дапамагчы беларускай культуры аб пары цяжкіх выпрабаванняў.

***“Дзеячас” № 1 (2000), с. 4.***

### *Калі тэрапеўты не даюць рады і пініцылін ня мае сілы, дык за справу бяруцца хірургі*

*“Дзеячас” № 3 (2000) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе грамадскага аб’яднання “Ратуша” (Гародня) на чале з Александрам Мілінкевічам. Друкар Ігар Лысееў. Нумар прысвечаны кніжцы Лявона Вашка “Еўрапейскія гісторыі”.*

**П**’еса “Ампутацыя міндалінаў”, якая завершаная аўтарам пры канцы траўня 1999 года, апавядае пра серыю беспадобных хірургічных аперацыяў беларускіх медыкаў па перасадцы полавага чэлеса з цела калгаснага трактарыста Васіля Шкуды ў падбрушша высокапастаўленага члена Кузьмы Еўдакімавіча Кобана. З мэтаю павялічыць сэксуальны патэнцыял Кузьмы Еўдакімавіча Кобана прафесар Канстанцін Лукіч Катовіч і спрактыкаваны хірург Аляксей Віннік праводзяць унікальную аперацыю, выкарыстоўваючы Васіля Шкуду ў якасці донара: зманіўшы, што маюцца выразаць хлопцу гланды, яны засоньваюць бедака наркозам, а тады лягчаюць. Прачнуўшыся і не знайшоўшы свой сакральны ворган на месцы, Васіль Шкуда спрабуе аднавіць справядлівасць. Вакол гэтага аднаўлення і развіваецца далейшы сюжэт.

Гэтая дзвюдзея-перасмеўка з захапляльным сюжэтам і невыноснакамічнымі сцэнамі ёсць сатыра на беларускі дзяржаўны заатэхнізм, скіраваны супраць чалавека, ягонае душы, на спробы сённяшніх афіцыйных чольнікаў правесці палітыку глабальнага аскацінення беларускіх грамадзянаў.

*“Дзеячас” № 2 (2000), с. 3.*

### *Калі беларушчына пакутліва блукала па зямлі невядомай, зьявілася кніжка апавяданняў “Еўрапейскія гісторыі”*

**К**ніжка выйшла ў Менску ў 1995 годзе як планавае выданне дзяржаўнага выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Пісалася яна аб гадох перабудовы, “хозрашчоту” і “сямейнага падраду”, барацьбы п’янства супраць барацьбы з п’янствам, развалу СССР і правалу КПСС, змагання дапутатаў за мяккія знакі і крэслы, татальнага крадзяжу вярховымі ўладцамі цвікоў у дзяржавы і жаночых кайстрачкаў у аэрафлотаўскіх сцюардэсаў. Усё гэтае вытварыла непаўторную еўрапейскую асноведзь апавяданняў.

*“Дзеячас” № 3 (2000), с. 4.*

### *Трагедыя смеху*

**І**дэя паставіць “Сэкс па перапісцы” на маладэчнецкай сцэне захапіла мастацкага кіраўніка тэатра, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь Мікалая Мацкевіча адразу ж пасля першага знаёмства з тэкстам. У рэжэсуры Мікалаю Мацкевічу ўдалося здзейсніць галоўную задуму драматурга: разняволіць душу гледача, абудзіць у ім неўтаймоўны псіхізм, прымусіць перажываць бязрозумна, насуперак свядомасным памкненням. Гэткая задума вымагала эксперыменту: трэба было наўмысна парушыць межы асобнага жанру і паяднаць у адным розныя сутнаснапроцілеглыя жанравыя асновы. Камедыя, такім чынам, зрабілася псіхічнай умоваю трагедыі:

моцны смех у часе першае дзеі пры канцы спектакля паўстаў як падстава адваротнага – скрухі. У пастаноўцы дзейнічае прынцыпківача, калі той, гайдануўшыся, мусіць паўтарыць амплітуду ў процілеглым накірунку; спрацоўвае пэўная псіхалагічная "пастка", якая з кожным выбухам смеху набліжае суперажывальніка да немінучага глыбокага вычування роспачы, і – урэшце тое, што яшчэ хвіліну таму назад было смешным, уражвае сваімі жальбою і безвыходнасцю. Раптоўнае адчуванне двух процілеглых акраяў душы спасабляе гледачоў на ўведанне свае собскае душэўнае глыбіні, на раскрыццё пакраёмых абсягаў, якія схаваныя па-за абыклымі, на першы погляд, прадметамі і зьявамі.

*"Дзеячас" № 4 (2000), с. 3.*

## *Замоўчваюць смерць*

**24** верасня 2000 года Лявон Вашко паслаў у штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" на імя галоўнага рэдактара Алеся Пісьмянкова ліст, у якім выказаў заклапочанасць з прычыны замоўчвання газетаю смерці беларускае паэткі Ніны Чарнейкі. На пачатку жніўня Лявон Вашко даслаў у радакцыю апасмертку на сыход Ніны і меў з рэдакцыяй вусную дамоўленасць па тэлефоне на друк некралогу. Даўно мінулася сорак дзён з дня смерці паэткі, а "ЛіМ" усё затрымлівае публікацыю. У сваім лісце да лімаўцаў Лявон Вашко выказаў дамнеў, што гэткая непашана рэдакцыі да памяці Ніны Чарнейкі – не наўмысная пагарда, а хутчэй за ўсё – вынік безадказнасці, абыякавасці і гультайства супрацоўнікаў штотыднёвіка; пісьменнік ад'значыў у сваім звароце да газеты: "...Практыка замоўчвання смерці паэтаў не спрыяе прафесійнаму росту Вашага выдання і зневажае светлую памяць тых, хто яшчэ нядаўна быў сярод нас, тварыў беларускую літаратуру і рухаў беларускую ідэю."

*"Дзеячас" № 5 (2000), с. 4.*



***"Ну што, Святаслаў, дап'ёш канняк, і разайдзёмся, як у моры караблі?.. Ілі што лі?.." Акторскі дуэт Алены Рахмангулавай і Алеся Пашкевіча ў часе спектакля "Сэкс па перапісцы" выклікае гром смеху. Але ў камедыі жарсці пакрыёма спеліцца трагедыя шчырае душы... "Дзеячас" № 4 (2000), с. 1. Фота Ўладзіміра Мяжэвіча.***



***Дзяцінства – мінулае ці сучаснасць?.. Пэражытае ці жывое?.. Забава дарослых людзей ці прытулак адзінокіх душаў?.. Вобразы сваех герояў Ірына Камышава і Алесь Пашкевіч напоўнілі чысцінёю, светлым наівам і шчырасцю. Сцэна са спектакля "Сэкс па перапісцы". "Дзеячас" № 4 (2000), с. 2. Фота Ўладзіміра Мяжэвіча.***




*“Дзеячас” № 4 (2000) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе грамадскага аб’яднання “Ратуша” (Гародня) на чале з Александрам Мілінкевічам. Друкар Ігар Лысееў. Нумар прысвечаны спектаклю “Сэкс па перапісцы” (пастаноўка Мікалая Мацкевіча, Маладэчня, 1998).*




*“Дзеячас” № 5 (2000) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе грамадскага аб’яднання “Ратуша” (Гародня) на чале з Александрам Мілінкевічам. Друкар Ігар Лысееў. Тэма выпуску – электронная ведамка Лявона Вашка “Духахрам”. Змешчаныя анатацыі.*

### *Думніцтва*

Думніцтва Лявона Вашка – гэта мастацкі, навуковы і выдавецкі чын. Пісьменнік стварае цікавыя мастацкія творы, напоўненыя жывой мудрасцю, глыбокай філасофіяй і тайнічай вобразнасцю; ён піша адмысловыя прозу і драматургію, якія спавядаюць філасофію творчасці і пачуцця; ён выказвае арыгінальныя ідэі, уводзіць у беларускія літаратуразнаўства і філасофію шмат новых паняццяў і выпрацоўвае незвычайную для беларускага навуковага знаўства канцэпцыю духатворчасці, якая палягае на разглядзе рэчаіснасці як зьявы псіхічнай. Сёння думніцтва Лявона Вашка – гэта сотні літаратурных публікацыяў, сярод якіх апавяданні, навуковая манаграфія, літаратуразнаўчыя і філасофскія артыкулы, лісты, дзённікавыя запісы, рэцэнзіі, анатацыі, зацемкі ў кніжках “Еўрапейскія гісторыі”, “Паэты-цары”, “Гістарызацыя свядомасці”, “Маленькі сшытак Лявона Вашка” ды ў выпусках літаратурнага агляду “Дзеячас” і электроннае ведамкі “Духахрам”. З некаторымі адметнасцямі думніцтва Лявона Вашка можна пазнаёміцца ў сённяшнім нумары “Дзеячасу”.

*“Дзеячас”, № 6 (2000), с. 2.*

### *2000*

Апошнім годам тысячагоддзя пабачылі свет некалькі перыядычных выданняў Лявона Вашка: выйшлі два першыя выпускі альманаха “Маленькі сшытак Лявона Вашка” , выпушчаныя сем нумароў “Дзеячасу”, пабачыў свет першы нумар электроннае ведамкі “Духахрам”. У Вітэбску на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа пастаўлены з поспехам у гледачоў спектакль “Любоў па перапісцы” па п’есе Лявона Вашка “Сэкс па перапісцы”, рыхтуецца прэм’ера спектакля па п’есе “Сэкс па перапісцы” ў Бабруйскім драматычным тэатры імя Вінцука Дуніна-Марцінкевіча...

*“Дзеячас” № 7 (2000), с. 3.*

### *Дзеячас часадзеі*

Выпускаць літаратурна-мастацкі перыёдык “Маленькі сшытак”, які б складаўся з уласных твораў, Лявон Вашко вырашыў дзеля таго, каб надаць сваёй творчасці розгалас і зрабіць яе даступнай для шырокага кола чытачоў. Цягам шмат якіх гадоў Лявон Вашко ня

меў магчымасці публікаваць уласныя творы і выказваць свае меркаванні: літаратурна-мастацкія перыядычныя выданні Беларусі не друкавалі творы пісьменніка, а самавыдавецтва сутыкалася з вялікімі матарыяльнымі і арганізацыйнымі цяжкасцямі. Але на змену пары безвыніковасці й духовага беспрытулку прыйшоў жывы век сакральнае дзеі, якая і запавядае ды ўладнатворыць наш новы духатворчы жывачас.

*“Дзеячас” № 8 (2001), с. 2.*

### *Таямнічая кніжка*

**Б**еспадобная кніжка Ілоны Сцяцко “Нябёсныя карункі” існуе ў адным самавыдаўскім асобніку. Аднак яна адмысловая ня толькі гэтым. Кніжка напоўненая паэтажыццём, чуллівым думніцтвам, неўтаймоўнай духатворчасцю. Галоўная ейная тэма – загадкавы бязмежны космас, асноўная ідэя – пранізлівая вечнасць жыцця між гарачых зораў, неразгадная таямніца – шчырая творчасць натхнёнае душы. У зоравершах Ілоны Сцяцко чуваць адгуччы магічных зораастрыйскіх гімнаў і жываспеў неўмiручае беларускае будучыні. Кніжка “Нябёсныя карункі” паяднала ў сабе дух прамінулых і яшчэ ненароджаных багоў, яна ёсць наканаваны прыход нашага мастацтва да новае беларускае традыцыі, якая запавяданая зораночамі Максіма Багдановіча, вогнемістэрыяй Янкі Купалы, старажытнай сусветаміталогіяй і няўрымслівай беларускай мітатворчасцю. Гэтая кніжка – духашлях праз кола чароўных пераўтварэнняў у берагох касмічных вогнезавяршэння і вогнепачатку; то поступ велічнае духовае творчасці, магутная філасофія душы, свядомае вытварэнне новасвету. Вашае ўвазе прапануюцца некалькі вершаў з “Нябёсных карункаў”. Частка гэтае кніжкі апублікаваная ў інтэрнэце. Пры жаданні Вы можаце пачытаць у трэцім выпуску “Духахраму” ў садзе беларускага пісьменніка больш шырокую вершаваную падборку з гэтае кніжкі.

*“Дзеячас” № 9 (2001), с. 14.*




***“Дзеячас” № 6 (2000) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе ТБМ імя Францішка Скарыны (Ліда). Друкар Артур Ганько. Тэма выпуску: думніцтва Лявона Вашка. Змешчаныя анатацыі.***




***“Дзеячас” № 7 (2000). Навагодні нумар. Надрукаваны зборам каля сотні асобнікаў на лазерным прынтары. У нумары: агляд творчасці й працы, кроніка, анатацыі, комікс.***

### *Ілона СЦЯЦКО*

**А**д гарачай Чорнай Русі
я прыйшла да белых азёр.



***Ілона Сцяцко нарадзілася ў Тыблісі аб 1976 годзе. Жыла ў Расеі. Скончыла сярэднюю школу ў Ваўкавыску, Менскі фінансава-эканамічны каледж, філасоўска-эканамічны факультэт БДУ. У часопісе “Першацвет” (№9/1997) пад рубрыкаю “Кніга ў нумары” выйшла ейная кнігападборка вершаў “Галінка язміну”.***

***“Дзеячас” № 9 (2001), с.15.***



ДЗЕЯЧАС

Беларусі

МАЛЕНЬКІ СШЫТАК

ЧАРГОВАЯ ПРАМ'ЕРА

*“Дзеячас” № 8 (2001) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе ТБМ імя Францішка Скарыны (Ліда). Друкар Артур Ганько. У нумары апавядаецца пра пастаноўку “Сэкса па перапісцы” на сэне тэатра ў Бабруйску (рэжэсэр Валеры Ласоўскі), кніжку “Маленькі сшытак Лявона Вашка” (першы выпуск), пра кніжку Восіпа Арлоўскага “Беларускія народныя расказы”, публікуецца твор Восіпа Арлоўскага “Старшына і сасед яго Агапон”, друкуюцца самагутарка, анатцыі, кроніка.*

Я прыйшла гэты край прасіць  
стаць мне хросным,  
бо мой – памёр...  
Я прашу: хай яму цяпер  
будзе кінуты зорны брас,  
няхай ён на зямлю яшчэ  
прыйдзе, прыйдзе  
ў найлепшы час.  
Заблукала яго душа  
сярод белых нябёсных крыг.  
Я ж – да белага краю прыйшла,  
каб мяне ён хрысціў у віры –  
у віры святла, чысціні,  
у азёрных сваіх струмянях.  
Я прыйшла парадніцца з ім.  
Я прыйшла, каб абраць імя,  
прычасціцца да светлых сіл,  
памаліцца да блізкіх зор...  
Ад гарачай Чорнай Русі  
я прыйшла да белых азёр.

*“Дзеячас” № 9 (2001), с.1.*

## *Учора, сёння і заўтра*

“Дзеячас” не спыніць і не стрымаць, як старажытную Пагоню. У 2001 годзе, нягледзячы на матарыяльныя і арганізацыйныя цяжкасці на шляху падрыхтоўкі і друку літаратурнага агляду, газета мастоўскага пісьменніка здолела прыйсці да чытачоў, пашырыўшы пры тым свае плошчы (восьмы, дзевяты і дзесяты нумары выйшлі на шаснаццаці палосах). Пашырэнне газетаплошчы дазволіла зрабіць выданне больш змястоўным – павялічыўся інфармацыйны аб’ём, зьявіліся новыя рубрыкі і жанры, а да паведамляльных матэрыялаў дадаліся мастацкія і аналітычныя творы... Шматлікія праблемы не дазваляюць казаць з пэўнасцю наконт заўтрадруку мастоўскае газеты, ейнае перыядычнасці і ейных аб’ёмаў – аднак няспрэчна адное: якія б акалічнасці не заміналі выхаду літаратурнага агляду, мастоўская творчасць Лявона Вашка няўпынна будзе набліжаць дзень ажыццяўлення чарговага нованумару “Дзеячасу”.




*Гэтая ілюстрацыя паказвае, што пры зніжэнні перыядычнасці “Дзечасу” у 2001 годзе (графік 1) павялічыўся аб’ём ягонае агульнае газетнае плошчы (графік 2). “Дзеячас” № 10 (2001), с. 1.*

Затрымаўшыся ў адоймах каляндарнага ліку, “Дзеячас” ніколі ня спозніцца ў імгненнях вечнасці, і, раней ці пазней, ён немінуча прыйдзе да чытачоў.

*“Дзеячас” № 10 (2001), с. 1.*

## *Алесь Масарэнка*

Мастацкая творчасць Алеся Герасімавіча Масарэнкі мае шмат скраняў. Ён стварае выдатную прозу і паэзію: радкі ягоных твораў напоўненыя беларускімі спрадвечнай мудрасцю,

адпрыроднай чысцінёю, жывавобразнай моваю. Ён вядомы ў Беларусі як таленавіты рэдактар, што здолеў адкрыць для Бацькаўшчыны сотні імёнаў беларускіх творцаў, сярод якіх людзі розных літаратурных пакаленняў і плыняў. Таксама яго ведаюць як руплівага педагога ў літаратуры: год пры годзе ён ладзіць з моладдзю творчыя сустрэчы, якія праходзяць па панядзелках у Саюзе Беларускіх Пісьменнікаў, – сваім адданым жыццёвым прыкладам, няўтомным літаратурным настаўніцтвам ён робіць немалы ўплыў на сучасную і заўтрашнюю беларускую літаратуру. У садзе “Духахрам” апублікаваная нізка ягоных цудоўных вершаў, адзін з якіх друкуецца ў сённяшнім нумары “Дзеячасу”.

*“Дзеячас” № 11 (2002-2003), с. 11.*

***Алесь МАСАРЭНКА***



**Г**усты дзірван
прарос праз нашы сэрцы.
І спапяліць яго
няма ўжо як:
нам жыць ня хочацца,
амаль як і памерці, –
пайсці б за небакарай,
ды хтось задзьмуў маяк.

Жывыя кружым мы
скрай продкавай магілы.
З аўчынку нам
здаецца Божы свет.
Аслеплі нашы вочы
й душы ўстылі...
“Устань, ваяр... Устань!
Нас душыць прайдзісвет”.

*“Дзеячас” № 11 (2002-2003), с. 9.*

***Зніч***

**П**аэзія Зніча заўсёды была і ёсць духовым подзвігам; ейная філасофія – у дзеянні, ва ўчынку, у самым жыцці... Зніч – паэт, які ніколі не зважаў на ганарары, пасады, каньюктуры, і які суцэльна існаваў у абладзе ўласнае творчасці, не здраджваючы сваім жыццёвым і мастацкім прынцыпам, ня трацячы душу ды талент на драбязкое мадзенне ва ўмовах двайное маралі, мужна перажываючы цкаванне з боку ўладнікаў і замоўчванне творчасці з боку літаратурных функцыянераў. Паэт слухаў адно голас свайго сэрца, а сэрца шчырапрамаўляла вершы, а вершы пісалі паэтава жыццё і ягоны лёс... Гэтак паэзія сталася жыццёвым шляхам, пошукам велічных ісцінаў, крыжом...; а вершы сталіся малітваю і багавызнаннем... Паходжанне з сям’і беларускіх інтэлегентаў, вядомага скульптара Андрэя Бэмбеля дапамагло Знічу не загасіць у сабе Божую знічку, пранесці скрозь жыццё веру ў Беларусь ды ня здрадзіць свае чалавечае сутнасці, ашчадзіць у сабе сумленне і годнасць. Служэнне Богу і Беларусі зрабіліся для яго галоўным маральным вызначальнікам і галоўным сэнсам жыцця. Шчырыя чалавецкасць, інтэлегенцкасць ды глыбежны, духовы,


ДЗЕЯЧАС

“МАЛЕНЬКІ СШЫТАК ЛЯВОНА ВАШКА” другі выпуск

ПРАРЫЎ У НОВУЮ РЭАЛЬНАСЦЬ

http://liavon.virtualave.net

***“Дзеячас” № 9 (2001) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе грамадскага аб’яднання “Варута” (Баранавічы). Друкар Уладзімір Гундар. У нумары разглядаецца другі выпуск “Маленькага сшытка Лявона Вашка”, распавядаецца пра кніжку паэзіі Ілоны Сцяцко “Нябёсныя карункі”, публікуюцца вершы Ілоны Сцяцко, друкуюцца кроніка і анатацыі.***


ДЗЕЯЧАС 2002

УЧОРА, СЁННЯ І ЗАЎТРА

*“Дзеячас” № 10 (2002) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе Свабодных Прафсаюзаў Беларусі (Менск). Друкар Пётр Толар. У нумары апублікаваныя самагутарка, прагноз краснаярскага астролага Аляксея Гетмана, анатацыі і кроніка.*

патрыятызм мудрачуюцца ў ягоных богавершах, напісаных у мурох Жыровіцкага манастыру; вершах, якія паэт зычліва дазволіў надрукаваць у садзе “Духахрам” і адзін з якіх публікуецца на гэтай старонцы.

*“Дзеячас” № 11 (2002-2003), с. 9.*

### ЗНІЧ

– ... **Ж**ыве Беларусь!..
– Жыве!..
– і ў Польшчы...
і ў Нямеччыне...
паўсюдна, дзе дух чалавечы
ратуецца ў Царкве...
– ... Жыве Беларусь!..
– Жыве!..
– ... Жыве Беларусь!..
– Жыве!..
– і ў Бельгіі...
і ў Ангельшчыне...
паўсюдна, дзе памяць
вечная схіляецца
ў журбе...
– ... Жыве Беларусь!..
– Жыве!..
– ў Амерыцы... і ў Аўстраліі...
паўсюдна, дзе са смерці паўсталі, –
хто не забыў сябе...
– ... Жыве Беларусь!..
– Жыве!...
– у Піцеры... і ў Маскве...
ў Сібіры... і ў Кітаі...
з нябыту Яна ўваскрасае...
– ... Жыве Беларусь!...
– Жыве!..
...ля сэрцаў – сляпых
і глухіх, –
крывавячы губы і скроні, –
...лятуць і лятуць
тыя коні...
– па гонях сваіх і чужых...
... лунаюць бель –
чырвань – і бель
у золаце і блакіце...
то – нібыта золак у жыце
ўзыходзіць Царквы карабель...
... у сэрцы і ў галаве –
дзе цені шаленства
і горасць – Жыве
Падабенства
і Вобраз...
– ... Жыве Беларусь!..
– Жыве!..

*“Дзеячас” № 11 (2002-2003), с. 9.*



*Цемрык Велет жыве ў Менску, дзе вучыцца ў школе, але каранямі ён сувязаны з Мастамі. Ягоныя першыя вершы прываблівають да сябе арыгінальнымі метафарамі, глыбінёю паэтычных вобразаў, незвычайным вычуваннем свету. На старонках саду “Духахрам” змешчаная падборка ягоных вершаў, адзін з якіх прапанаваны Вашае ўвазе.*

*“Дзеячас” № 11 (2002-2003), с. 11.*



### *Цемрык ВЕЛЕТ*

### *Niemen*

***Я*** люблю тыражаваць сляды
на вытанчаным прынёманскім пяску

шкада мне часам іх
але й шкада бяззубак луску
гэтыя дыназаўраўскія мікраіклы
гэтыя пячоры пыльных птушак
і разлітую фарбу выспы
між сівых драўляных тушак

...

сляды любяць тыражавацца
на вытанчаным прынёманскім пяску
любяць мае красоўкі
трушчыць бяззубак луску
гэтыя кінутыя абгорткі
гэтыя тунэлі птушыных камунікацыяў
і сталёвы дуб-бортнік –
бярлог пчаліных авацыяў

*“Дзеячас” № 11 (2002-2003), с. 11.*


ДЗЕЯЧАС

*“Дзеячас” № 11 (2002-2003) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе ў Паставах (выдавецкая ініцыятыва “Сумежжа”). Друкар Мікола Гіль. У нумары надрукаваныя агляд кніжкі прозы Лявона Вашка “Паэты-цары” і апавяданне “Абы ціха”, допісы Лявона Вашка, твор Восіпа Арлоўскага “Дзядзька і пляменнік”, вершы Цемрыка Велета, Зніча, Алеся Масарэнкі, Зміцера Цеслянка. Апублікаваныя анатацыі і кроніка.*

### *Зміцер ЦЕСЛЯНОК*

**Я** прашу ў вас цішыні.
Я прашу ў вас свабоды.
Мне шкада свайго народа.
Не хачу я згубіць карані.

Не хачу я жыць у няволі.
Не хачу я жыць у выгнаньні.
Засьпяваю песьню змаганьня.
І ўпарта прамоўлю: “Даволі!”

Пасыпае попел краіну,
Пашы, ростані ды лугі...–
Вы зніштожыць нас не змаглі,
І – мы зробім, ачысьцім сядзібу.

Пакажыце мне праўду сьвятую.
Пакажыце вочы свае... –
Вашы вочы народ асьмяе,
Бо вы кажыце праўду ня тую.

Я прашу ў вас цішыні.
Мне ня трэба палітычная казка.
Мне ня трэба хлуслівая ласка.
Я прашу ў вас цішыні...

*“Дзеячас” № 11 (2002-2003), с. 11.*



*Зміцер Цеслянок – вучань адной з Мастоўскіх школаў. Ягоныя першыя спробы ў паэзіі прасякнутыя любоўю да Беларусі й роднае мовы; вершы адметныя шчырым пратэстам супраць задушэння волі, творчасці й беларушчыны. Гэты верш сярод іншых надрукаваны ў садзе “Духахрам”. “Дзеячас” № 11 (2002-2003), с. 11.*

### *Краіна шляху*



**У** краіне шляху сыход – абавязковая ўмова падарожжа; у краіне шляху набыццё волі ёсць выбаўленне з путаў; тут родная мова і спрадвечныя беларускія сімбалы ня кідаюцца долу ў адказ на шчодрыя абяцанні выгодаў і багаццяў – тут дзеці мудрэйшыя за сваіх бацькоў, бо не гандлююць

святынямі і ня вераць у слодыч здрады; тут розныя прайдзісветы і ашуканцы, што глумяцца з беларускае духатворчасці, атрымліваюць пад нос вялізазны, аграмадны палец...; краіна шляху, краіна волі, краіна цяжкога і годнага падарожжа...

*“Дзеячас” № 11 (2002-2003), с. 32.*

### *Пра што гэтая кніжка?*




*Кніжка Лявона Вашка “Гістарызацыя свядомасці. Беларуская літаратура і беларушчына на пачатку XX стагоддзя” выдадзеная а 1997 годзе ў Мастох, Гародні й Менску зборам у 500 аобнікаў. Самавыдавецтва.*

**Н**арыс і артыкулы кніжкі “Гістарызацыя свядомасці” прысвечаныя пытанням станаўлення беларускае гістарычнае свядомасці. Даследуецца маладая беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя, праводзяцца паралелі з ранейшымі й пазнейшымі перыядамі роднае літаратуры. У кнізе падкрэсліваецца над‘звычайная роля мастацтва, і найперш маладой беларускай літаратуры, у нараджэнні, станаўленні й развіцці нацыянальнае свядомасці беларуса, вызначаюцца асноўныя этапы і механізмы гэтага станаўлення. Разглядаюцца псіхічныя феномены літаратуры і даследуецца іх роля ў гістарызацыі беларускае свядомасці. Навацыйнымі для айчыннага літаратуразнаўства зьяўляюца псіхалінгвістычныя падыходы ў вывучэнні й асвятленні тэмы, аўтарам ужываецца шэраг новых тэрмінаў і паняццяў. Матэрыял кніжкі яднае ў сабе навуковы аналіз з эсэістыкаю – літаратуразнаўчы дослед спалучаны з публіцыстычным роздумам паводле лёсу роднае літаратуры і беларускага шляху.

*“Дзеячас” № 12 (2004-2007), с. 2-3.*


ДЗЕЯЧАС

ДУХОЎНАЯ АКУПАЦЫЯ

*“Дзеячас” № 12 (2004-2007) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на ксераксе ў Мастох. У нумары апублікаваны агляд кніжкі Лявона Вашка “Гістарызацыя свядомасці” і артыкул “Мёртвакультура і наважыццё”, творы Галы Гары, вершы Платона Крэня. Надрукаваныя пяцьдзесят эпіграмаў, рэцэнзіі, анатацыі і кроніка.*

### *Край жывамрояў*

**Н**оччу мы сляпые, а раніцаю – расплюшчваем вочы і бачым перад сабою сляды прамінулае бездані... Літаратура нараджаецца ў вечнасці бяссоння, у краіне жывамрояў – у той расхваляванай бездані, што мінае за покрывам ночы незаўважна для старонніх вачэй; далёка ня кожнаму наканавана ступіць у гэты акрай, і ня ўсім, хто ступіў, наканавана адтуль вярнуцца. Там, за покрывам – хвалюецца небяспечны сусвет душы, які ў кожны міг можа разбурыць асобу духоўна і знішчыць фізічна... Аднак калі свядомасць не дакранаецца да тае небяспечнае вечнасці стала, літаратура ператвараецца ў піжонства.

Літаратурныя творы Галы Гары, як зазвычаена ў таленавітых людзей, знойдзеныя на ўскраінах душы. Творчасць Галы Гары – то абсалютная шчырасць, а ейныя творы – мужнасць і сумленнасць. Творы і творчасць Галы Гары – пераадоленне штодзённых спакусаў, сталых нястачаў, наканаванае

хваробы... Гэта чулая і самотная філасофія душы, самаадданае дакрананне да страшных і неабходных тайнаў, з якіх зьяўляюцца хвалёўныя творы пісьменніцы, дзе неверагодным чынам суіснуюць роспач і светлы гумар, лірычнае захваляванне й іранічны досціп, вечная мудрасць і мімалётная дзіцячая рахманасць...

*“Дзеячас” № 12 (2004-2007), с. 27.*




***“Дзеячас” № 13 (2008) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на ксераксе ў Мастох. У нумары апублікаваныя агляд кніжкаў Лявона Вашка, ягоныя вершы, артыкулы, інтэрвію, прамова, рэцэнзіі, анатацыі. Надрукаваныя вершы Міколы Аўрамчыка, Алеся Масарэнкі, навіны.***

### *Гала ГАРА*

***

**П**радаецца
Душа і сэрца,
Дом каменны,
Пакой пусты,
І адстойнік для смецця
Прадаецца...
Усё прадаецца...
Цела, розум, роздум і сэрца...–
Прадаецца, усё прадаецца...
Прадаюцца дзядоў магілы,
Прадаецца неба... і крылы...
Прадаюцца леты і зімы,
Прадаецца наўсцяж Радзіма...
І магілы...
Ізноў магілы... –
Прадаюцца клады адменна
З маўчынёй маўзалейных сценаў...
Прадаюцца грабы і надгроб‘і –
Прадаецца ўсё, што зроблена,
Прадаецца звонка і з енкам,
Прадаецца янкам... эвенкам...
За рублі... за даляры... за франкі...
Прадаецца эвенкам... янкам...
Прадаюцца старыя прынады,
Прадаюцца гад*ы* і г*а*ды,
Прадаецца вандроўны кій-посах,
Прадаецца абутак босых...
І паўсюдна стаяць мянялы...

Што на што, сябры, прамянялі?...

*“Дзеячас” № 12 (2004-2007), с. 23-24.*



***Гала Гара нарадзілася 24 лютага 1962 года ў вёсцы Канатоп Іванаўскага раёна Берасцейскае вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсітэта. Працавала журналісткаю на тэлебачанні. Выдала зборнік вершаў “Спрабую хадзіць” (2002). Цяпер жыве ў Іванаве.***

***“Дзеячас” № 12 (2004-2007), с. 23.***

## *Зайграўка да Беларускае духахрамнасці*

...**Н**араджэнне гістарычнай Беларусі – феномен найперш мастацкі, духовы, псіхічны, а тады ўжо сацыяльна-гістарычны. Гістарычнае ўрэчаісненне беларускае дзяржаўнасці напрасткі вынікае з глыбіннага мастацкага вобразу Беларусі, які стварыла маладая нашаніўская, і паслейшая, літаратура. Як засведчыў наступны час, вобраз гэты неўміручы, бязмежнанапаўняльны і бязмежнатворчы; па сутнасці, Беларусь ніколі не жыла напоўніцу істапраўдна-рэчаісна, і як прадметная рэчаіснасць яна заўсёды была проста этнічным краем, мёртвым, ня здатным на якоесьці паўнавартаснае нацыянальнае жыццё; і разам з тым ад першых



ДЗЕЯЧАС

У нумары

*“Дзеячас” № 14 (2008) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на ксераксе ў Мастох. У нумары: агляд прозы Лявона Вашка ў беларускім друку, ягоныя апавяданні, вершы, рэцэнзіі, анатацыі. Таксама надрукаваныя творы Алеся Белакоза, Анатоля Гармазы, Ларысы Геніюш, Алега Лойкі, Міхася Явара, інтэрвію са Зміцерам Кухлеем.*

сваех дзён Беларусь жыватварылася духова, вобразамастацкі – і гэтае карэнным чынам бурыла ўсе аб’ектыўные законы свету акурат мастацкаю свабодаю Духу; паводле гэтае бязмежнае мастацтвасвабоды, наперакор аб’ектыўным і мізэрным законам рэчаіснасці раб стаўся творцам, той, хто нарадзіўся поўзаць, здолеў паляцець да неба, а старажытныя гукі і сугуччы, якім было наканавана ціха сканаць-змоўкнуць пад гэтым небам, спалучыліся ў тайнічую песню маладое беларускае душы і выявілі ў свеце новы народ і новую культуру.

***“Дзеячас” № 13 (2008), с. 3.***

## *Проза Лявона Вашка ў беларускім друку*

**П**разаічныя творы Лявона Вашка друкаваліся ў розных газетах і часопісах. Дэбютнае апавяданне “Пераможца” было надрукаванае ў дванаццатым нумары часопіса “Беларусь” за 1987 год. У 1989 годзе ў шостым нумары часопіс “Крыніца” апублікаваў апавяданне “Кызючка”. У 1996 годзе ў чацвертым нумары часопіса “Першацвет” было надрукаванае апавяданне “Абы ціха”. Апавяданне “7-45” апублікаванае ў 2000 годзе ў часопісе “Правінцыя” (падвойны № 1-2). У адным з нумароў газеты “Пагоня” на пачатку 1990-х гадоў надрукаванае апавяданне “Рай на зямлі”. Апавяданні пісьменніка друкаваліся на старонках “Дзеячасу” і “Маленькага сшытку Лявона Вашка”. Пераклады апавяданняў на рускую мову змяшчаліся на старонках часопіса “Нёман”.

У двзюх выдадзеных Лявонам Вашком кніжах прозы “Еўрапейскія гісторыі” (1995) і “Паэты-цары” (1997) надрукаваныя пяцьдзесят дзевяць апавяданняў.

***“Дзеячас” № 14 (2008), с. 2.***





***Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”. Надрукаваны ў “Дзеячасе” № 14 (200), с.51.***

## *Гісторыя апавядання “Кызючка”: двайны ўдар Лявона Вашка*

**А**павяданне “Кызючка” зьвілася праз дбанне Сяргея Дубаўца і Анатоля Сідарэвіча ў 1989 годзе ў шостым нумары часопіса “Крыніца”, які ўзначальваў Уладзімір Някляеў. У невялічкім рэдакцыйным даслоўку паведамлялася, што “Кызючка” – дэбют Лявона Вашка ў рэспубліканскім друку. Гэта не дакладныя звесткі, бо раней, у 1987 годзе ў дванаццатым нумары часопіса “Беларусь” ужо друкавалася проза мастоўскага аўтара, твор “Пераможца”, які аднак ня стаўся прыкметаю ў літаратуры – таму свядомасць чытачоў і крытыкаў часцяком атаесамляе з дэбютам апавяданне “Кызючка”.

Такім чынам, Лявон Вашко дэбютаваў у беларускім рэспубліканскім друку двойчы.

Апавяданне было напісанае ў Карэлічах аб 1988 годзе. Яно ўвайшло ў кніжку “Еўрапейскія гісторыі”. Сёлета спаўняецца дваццаць гадоў ад часу, калі апавяданне “Кызючка” было надрукаванае ў часопісе “Крыніца”.

*“Дзеячас” № 15 (2009), с. 2.*



**Р**эўнаган – рэвальвер сістэмы бяльгійскіх збраяроў братоў Лявона і Эміля Наганоў. З канца XIX стагоддзя знаходзіўся на ўзбраенні ў войсках шэрагу еўрапейскіх дзяржаваў, у тым ліку і ў войску Расійскай Імперыі. У Савецкай Арміі быў на ўзбраенні наган узору 1895 года з семізарадным барабанам (патрон калібру 7,62 мм). Рэвальвер выкарыстоўваўся ў Першую і Другую сусветныя войны, у Грамадзянскую вайну ў Расіі, іншых збройных канфліктах. У часе Вялікае Айчыннае вайны рэвальвер знаходзіўся на ўзбраенні ў Чырвонай Арміі, у іншаземных злучэннях, што ваявалі ў шэрагах арміі Савецкага Саюза. Таксама ён быў на ўзбраенні ў танкавых войсках – у нагана няма выкіду гільзы, і гэтая акалічнасць дазваляла з большай эфектыўнасцю весці агонь скрозь амбразуру бронетэхнікі, чымся з пісталета. Рэвальвер паказаў сябе як вельмі надзейная баявая зброя. На базе рэвальвера Наганоў створаная таксама спартовая, вучэбная, траўматычная зброя. Сёння ў Расіі і ва Ўкраіне наладжаная вытворчасць па пераробу наганаў з баявой зброі ў грамадзянскую. Істотны мінус рэвальвера – нізкая хуткастрэльчасць у параўнанні з самазараднымі пісталетамі. На здымку: “камандзірскі” наган – мадыфікацыя рэвальвера сістэмы Наганоў са скарочаным ствалом.

*“Дзеячас” № 15 (2009), с. 9.*



ДЗЕЯЧАС

ПРЫСУТНАСЦЬ

*“Дзеячас” № 15 (2009) надрукаваны зборам 299 асобнікаў на рызографе і ксераксе ўлетку 2009 года. У нумары: агляд прозы Лявона Вашка, ягоныя апавяданні “Кызючка”, “Ліквідацыя”, а таксама вершы, рэцэнзіі, анатацыі, проза і эсэістыка Сяргея Астраўца, успаміны Алеся Белакоза, вершы Восіпа Арлоўскага, Максіма Танка, кроніка.*

# ТРЫ АПАВЯДАННІ

***дасловак***

**Увазе чытача прапануюцца тры апавяданні Лявона Вашка, якія напісаныя ў Мастох аб розным часе: “Туман” (1985), “Акно” (2009), “Сталёвая галава” (2009).**

### *“Туман”*

Апавяданне “Туман” было зробленае Лявонам Вашком у сярэдзіне васьмідзесятых гадоў мінуластагоддзя.

Напісанае а той пары можна аднесці да ўсё яшчэ першых літаратурных спробаў пісьменніка: у пераважнае большасці апавяданняў й імпрэсіяў было шмат вучнёўскага і недасканалага – таму яны не прапаноўваліся да друку ў перыядычных выданнях й не змяшчаліся Лявонам Вашком у ягонах кніжках прозы. Разам з тым у шэрагу апавяданняў можна заўважыць і пэўныя поспехі ў пошуках мастацкае пабудовы твору. Такім ня самым горшым прыкладам тагачаснае творчасці можа быць і “Туман”; некалі, у васьмідзесятых гадох, апавяданне дасылалася ў часопіс “Маладосць”, аднак не было там надрукаванае.

“Туман” – маленькая навэла пра трох людзей, якія апынуліся на дарозе ў адной машыне. У часе гэтай сустрэчы раптам раскрываецца драматычная глыбіня жыцця – з-пад покрыва паўсядзённасці, бесклапотнасці й пуставатых, банальных размоваў нечакана праступае трагічная аснова сюжэту. Лёсы двух герояў паказаныя пункцірна, з націскам на іх псіхічнае вычуванне ўнутрысюжэтных падзеяў, лёс трэцяга персанажа знаходзіцца дзесь “за межамі” актыўнага паказу, акрэслены літаральна ў некалькіх фразах – але акурат ён кампазіцыйна змацоўвае ўсей сюжэт твору.

Сёлета спаўняецца дваццаць пяць гадоў ад часу, калі было напісанае апавяданне “Туман”. Да ягонае публікацыі варта паставіцца як да ілюстрацыі творчасці Лявона Вашка, што адбывалася ў сярэдзіне васьмідзесятых гадоў.

### *“Акно” і “Сталёвая галава”*

Апавяданні “Акно” і “Сталёвая галава” былі напісаныя Лявонам Вашком у 2009 годзе ў Мастох.

У сюжэтнай аснове апавядання “Акно” знаходзяцца маральна-этычныя пакуты галоўнага героя, сувязаныя з боллю душы і пераасэнсаваннямі ўласнага жыцця. Твор прасякнуты містыцызмам – унутраная дэпрэсія героя ўспрыймаецца ім як сутыкненне з інфернальнымі сіламі; спрабуючы вызначыць д’яблаў пачатак у сабе, галоўны герой апынаецца ў “перакуленым” свеце: тое, што здавалася часткаю душы, раскрывае абсалютную бездань, у якой душа – усяго толькі прыдатак.

Апавяданне “Сталёвая галава” таксама не пазбаўленае містыцызму, – у ім выкарыстоўваецца хрыстыянскі сюжэт прыхода Ісуса Хрыста. Твор мае ў сабе рысы фантастыкі. Галоўны герой дэманструе фенаменальныя звышуласцівасці; пасля нечаканае смерці ён робіцца аб’ектам для лабараторных доследаў, якія сутыкаюцца з праблемаю немагчымасці пакінуць прадвызначаныя кімсьці зне межы навуковага спазнання.



# ТУМАН

*апавяданне*



У суботу раніцай зноўку падняўся туман.

Анатоль выйшаў на шашу, каб запыніць спадарожную машыну. Побач з ім прайшлі два пяцьдзесят першыя “газоны” і зніклі ў белай макрэчы. Затое спынілася “Волга”. Анатоль адчыніў дзверку і запытаўся:

– Да Гародні не падкінеце?

Шафёр нават не зірнуў на яго. Сядзеў сабе панура і быццам з таго свету прамармытаў:

– Сядайце... Падвязу да павароту на Скідаль... Толькі сядайце спераду.

Анатоль сеў на пярэдняе сядзенне і прышпіліўся рэмнем бяспекі. На задніх сядзеннях нешта ляжала, пакрытае маленькай шэрай коўдраю – у такія коўдры захутваюць немаўлятаў.

Твар шафёра быў колеру туману і, здавалася, зліваўся з ім. Твар быў такі белы і празрысты, што здаваўся нежывы.

Адразу, як мінулі чыгуначны пераезд з аўтаматычнымі шлагбаўмамі, шафёр перайшоў на чацвертую хуткасць і даў па газох.

За пераездам скончыўся гарадок.

– Вы, напэўна, заўзяты шафёр? – запытаўся Анатоль.

– Чаму вам прыйшло гэтае ў галаву?

– Сам ня ведаю, але мне так падалося.

– Вы жывеце ў Мастох?

– Так.

– Што вы хочаце ўбачыць у Гародні?.. Зрэшты... што хочаце ўбачыць – пэўна ўбачыце...

– У мяне там некалькі сяброў...

– Што ж... – шафёр сказаў сам сабе.

– І ўсё-так вы зацяты шафёр.

– Вы памяляецеся. У тумане на такой хуткаці ездзяць толькі вар’яты... Я – вар’ят...

– Гэта тое самае, што і зацяты шафёр. Дарэчы, як вам надвор’е? Трэція суткі туман. Як у Лондане... Але мы ж не англічане, ядры іх у лапаць!

Яны абагналі пяцьдзесят першы “газон”. Трэба будзе завітацца на муры Старога замка, падумаў Анатоль, калі застанецца час... Зрэшты, чаму не застанецца? Наперадзе мільярды гадзінаў і вечнасць...

– Машына ў вас нішто бяжыць. Колькі ўжо тысячаў накаталі?

Твар шафёра сцяўся і на імгненне нагадаў скумечаны блін. Твар яшчэ болей пабялеў і зрабіўся празрысты. Вось табе і гоначнік, падумаў Анатоль, вось дык гусак... Шафёр адказаў:

– Яна яшчэ новая. Нядаўна толькі абкатаў.

***Апавяданне “Туман” Лявон Вашко напісаў аб 1985 годзе. Яно не друкавалася ў перыёдыцы і не змяшчалася пісьменнікам у ягоных кніжках прозы. Галоўны герой апавядання падарожнічае аўтаспынам. Твор пра агульную для ўсіх дарогу, якая ў кожнага свая.***

– Яшчэ доўга будзе бегаць.

– Вы памыляецеся. Толькі здаецца, што доўга. Ды доўга доўга не бывае...

– Магчыма і так. Вы і не заўважыце, як машына ператворыцца ў ламату.

Шафёр глядзеў так, нібыта і не бачыў дарогі. Нібыта нічога не бачыў і не існаваў сам.

– Усе мы калі-небудзь у яе ператворымся, – сказаў шафёр.

– Аднак, гэта нагадвае вар'яцтва... Такія туманы здараюцца раз у сто гадоў.

– Мо і радзей.

– Купіце сабе супрацьтуманныя ліхтары. Праз сто гадоў яны вам спатрэбяцца...

– Вы заўсёды такі зычлівы?

– Даруйце, калі пакрыўдзіў.

– Дарую... Толькі ўся справа ў тым, што гэтыя ліхтары, гавораць, ніхалеры не дапамагаюць.

– Тады і ня трэба іх купляць. Тады лепей купіць запасную шыну. Калі ў цябе што-небудзь ёсць у запасе, на сэрцы спакайней.

– Пэўна, так і зраблю.

Яны абагналі яшчэ адзін пяцьдзесят першы "газон", які поўз, бы на смерць. Шафёр дастаў цыгарэты.

– Паліце?

– Дзякуй, – адказаў Анатоль і ўзяў адну. Ён даў ад запалкі прыпаліць шафёру, затым прыпаліў сам.

– Як вам юніёры? – запытаўся Анатоль, выпускаючы дым. – Вы глядзелі?

– Адным вокам.

– Такіх кепскіх юніёраў, як у нас, цяжка дзе-небудзь знайсці.

– Кепскіх знайсці заўсёды можна.

Яны мінулі малады, але высокі лясок і набліжаліся да цыганскага хутару. За ім была паваротка на Скідаль.

– Я зразумеў адное, – сказаў Анатоль, – у бліжэйшыя часы нам нічога ня свеціць. Як вы лічыце?

Хутар ужо быў недалёка.

– Ніяк.

– Вас не цікавіць футбол?

Шафёр зацягнуўся, потым сухім голасам мовіў:

– Разумееш, у мяне памерла дачка. І гэта самае паскуднае...

Вочы шафёра блішчэлі, але твар усё роўна заставаўся нежывы і белы.

– Як яе звалі... даруйце... як яе імя? – запытаўся Анатоль.

– Лена.

– Гэта здарылася даўно?

– Я яе толькі забраў адтуль. Яна з намі.

Анатоль азірнуўся на коўдру і адчуў, што заўважыў нешта забароненае. Хутар застаўся ззаду.

– Яна была зусім малая і яшчэ нічога не цяміла, – прарыпеў шафёр. – Мне на ўсё зараз пляваць, разумееш, толькі яе шкада... Шкада, і болей нічога...

Ён спяшаўся гаварыць, як спяшаўся ехаць. А потым спыніўся. Быў паварот на Скідаль.

– Дзякуй, – адказаў Анатоль і працягнуў грошы.

Па шчоках шафёра ліліся слёзы.

Анатоль вылез з кабіны і зачыніў дзверку. Машына кранулася. Яна павярнула на Луну. Анатоль усё яшчэ паліў цыгарэту. Ён скіраваўся да аўтобуснага прыпынку. Ад нейкай вельмі простай здагадкі ён раптам адчуў пустоту. Ён перасмыкнуўся ці то ад прахалоды, ці то ад гэтай сваёй здагадкі.

З туману выехаў пяцьдзесят першы "газон". Анатоль памахаў рукой, але грузавік не спыніўся. Гэты туман даканае, падумаў Анатоль і выкінуў спалак. Туман, сапраўды, не хацеў рассейвацца.

***Масты, 1985 год.***

# АКНО

***апавяданне***



***Заўсёды ў нас было прыстанішча чарцей***
***Пад печчу ці ў балотным крактавінні,***
***Пад вываранцыю нейкай ці ў дупле,***
***У прыказках, у казках, у праклёнах.***
***А ўчора я ў чарнільніцы адкрыў,***
***Калі адрасаваў табе сваё прызнанне,***
***І чэрці кляксамі канверт размалявалі.***
***Калі ж я песню напісаць сабраўся –***
***Яны чарніла выхлебталі ўсё,***
***І я быў змушаны пісаць сваёй крывёю.***

***Максім Танк***

Чорт пачаў прыходзіць у хату адразу ж пасля апоўначы.

Спачатку ён зашнырыў пацукамі – ужо ў нуль, нуль, нуль адну будзіў Івана Вікенцевіча гэтым сваім жывым варушэннем, папіскваннем поцемкаў, тупатам конскіх валенкаў, пазвякваннем ды пагрукваннем прадметамі змроку, хрумстам ежы, сліматым чвяканнем цэлафану, трэскам драўляных сценаў... гукамі пілавання касцёў...

Атрута іх ня брала – а мо была пратэрмінаваная?

Потым пацукі зніклі самахотам...

Вядома ж, Іван Вікенцевіч не адразу ўгледзеў у іх нячысціка, але надаль ён дацяміў пра сваю неабачлівасць. Галоўны канцэрт пачаўся, калі Іван Вікенцевіч застаўся адзін – дзесь праз паўгода пасля хаўтураў бацькі, які быў ужо ў веку і памёр ад запалення лёгкіх...

Іхная хата стаяла на вуліцы гарадка асабняком, у лагчыне, між вольхаў і зарасцяў ляшчынніку, й Івану Вікенцевічу з малалецця мярэсцілася, што ў гэтым зацішку душы на гарадской ускраіне жыцця, дзесь ў лукавіне ручая, што адразу ж за плотам, тоіцца нейкая страшная сіла, якая чорначы выпаўзае з вады прыбярэжных драўляных каранёў, пераскоквае цераз агароджу, ідзе паўз агарод і сад, падыходзіць да вокнаў і глядзіць праз шыбы з смерці або з чагось такога ж, як і смерць, бязмежнага і неверагоднага.

***Апавяданне “Акно” напісанае Лявонам Вашком у 2009 годзе. Галоўны герой перажывае ўнутраную дэпрэсію. Апавяданне аб рэгулятыўнай функцыі пачуцця віны.***

І вось ужо чорт тут, у ягонай адзінокай хаце.

Сярод цемені хтосьці моўчкі здушыў Івана Вікенцевіча за горла. Ён стаў вырывацца, адбівацца...; зачалася барацьба, з сапраўднымі крывёю, болем і жахам, у часе якой дзе навобмацкі – кулаком у свіное рыла ці пецярнёю за бычы рог, – а дзе вочна – касавурым позіркам напярэймы месяцоваму струменню – ён разгледзеў чорта.

У бойцы яны зваліліся з ложка; на падлозе Іван Вікенцевіч асеў нячысціка, наваліўся каленам на яйцы, дацягнуўся да смярдзючага горла, здушыў, і ў гэтае імгненне чортацела ператварылася ў гронку пацукоў, рассыпалася ды шмыганула ва ўсе канцы; у пальцах Івана Вікенцевіча засталася адно пустота з-пад маладога пацука-падкотка, які перш, чым вылузацца з мёртвай хваткі, злосна кусянуў заківук.

Праз ноч чорт зноўку прыйшоў, і ўсё паўтарылася: і жах, і бойка, і пацукі...

Цяпер чорт займеў завядзёнку зьяўляцца раз-пораз ды ладзіць Івану Вікенцевічу панкратыён. Строгае перыядычнасці ў начных наведваннях не было, аднак гэтае больш за ўсё і непакоіла: толькі Іван Вікенцевіч страціць пільнасць, дык тут жа яго хапаюць за горла.

У чым прычына? Іван Вікенцевіч не даваў рады разабрацца: гарэлку ён ужываў ня дужа часта і піў да пэўнае пачцівае меры – не ў гарэлцы тут справа.

Біцца па начох яму было цяжка, мутарна, невыносна – якая можа быць задзірыстасць у ягоным прысівелым, перадпенсійным узросце? Барацьба знясільвала; дагэтуль жвавая і пругкая цэнтральная нервовая сістэма ператварылася ў напаўздзьмуты мячык, які ён спрабаваў адабраць, вырваць з рук у часа, што ліпка баскетболіў глёўкім халадцом Іванавікенцевічава мозга аб жалезабетонную падлогу хвілінаў... хвілінаў... хвілінаў... *чорна*НОчНАбелаДЗёН нн *Ы... Х*... хвілінаў...

Што рабіць?

Знаёмы, у якога быў вопыт стасункаў з чортам праз белую гарачку, параіў народны спосаб: пасланць на *хэ*. Як усё народнае, прыём аказаўся дзейсным. Сапраўды – дапамагло; аднак, як усё народнае, дапамагло толькі напалову, ды дапамагло напалову гэтак, што зрабілася толькі горай. Чорт адступіўся, але не сышоў; цяпер ён нахабна, па-начальніцку сядзеў у мяккім крэсле й гарэў з-пад ілба гіпнатычнай вогнепрахалодаю чырвоных светладыёдаў.

Маўчаў.

Вечнае маўчанне чорта марыла горай, чымся бесперадышныя начныя сутычкі; як удаў, гнятлівай нематою пятлі бесюган пазіраў у душу, запаўзаў у яе сваімі вачыма і заставаўся ў ёй, не выходзіў з яе, не знікаў з сыходам ночы, – цяжыў сваёй вокапрысутнасцю душу і млосціў плоць. З адчаю Іван Вікенцевіч, было, зноўку кінуўся да чорта дужацца, але той тут жа разбегся пацукамі ў розныя канцы; і зараз жа ўцелаісніўся назад... зноўку... яшчэ болей... у пранізлівы рэнтгенапозірк д'ябла.

Цяпер злыдух ніколі не пакідаў Івана Вікенцевіча, вокажыў у ім усе сто гадзінаў у суткі й пазіраў... пазіраў...; і ў нейкі момант нячыстая глыбіня, якая паланіла развярэджаную псіхію і асялілася пад анатамічным покрывам, пачала ўгалотваць у сябе сваю жа знешнасць: Іван Вікенцевіч адчуў, што пакрысе правальваецца ва ўласны ўнутраны чортавір, памалу робіцца дадаткам да нечага бязмежнага, якое ён раней памылкова ўважаў за неспадзяваную невялічкую частку самога сябе; ён адчуў, што зьяўляецца проста працягам таго чужога і варожага, што ажыло ў ім ня ім – прабудзілася знекуль, ісціцца і сцішна пазірае ў свет фрагментамі быцця Івана Вікенцевіча... ягонымі ўрыўкавымі пачуццямі й сумневамі... усёй бязглуздай сукупнасцю ягонае целадушэўнае явы...; і ад думкі, што ён – усяго толькі позірк таго, хто глядзіць ім, ягонымі лёсам і наканаваннем праз жахлівую скрозь мінучага свету, яму зрабілася роспачна ў кожнай сваёй хвіліне.

Ад атлумеласці ён паспрабаваў ратавацца заспакойлівымі сродкамі.

Гэта выдавала на прыхаваны суіцыд – у змучанай, паніклівай паняверцы яму захацелася зрынуцца ў цішыню выпітых брамідаў насуперак небяспецы: пакуль ён спіць, няхай чорт прыйдзе ды задушыць, – безнадзейнасць біялагічнага самаіснавання болей не палохала яго, дакладней, страх смерці зрабіўся меншы за канцэнтрат псіхатропнае абыякавасці ў медычных прэпаратах. Аднак і яно не ратавала ад пакутаў. Чорт ня сіліў, а проста зноўку вяртаўся з забыцця, калі Іван Вікенцевіч атрупела прачынаўся сярод свайго седатыўнага пахмелля ў набрынялым задушнай мятаю "Карвалола" пакоі; мефіст быў тут, у вачох і мазгох, у галаграмах вадкага паветра з плыўным пылам сярод пасечаных фіранкаю промняў, у ступелай безадрэналінавай вусцішы, якая мутарна выцякала на паверхню свядомасці скрозь далёкі бой дрымотнае крыві ў жылах...

…Халера на гэтую псіхіятрыю!.. на дахтароў й іх дыягностыку... на кроплі й пігулкі... Ён вырашыў звярнуцца да бацюшкі.

Шчымлівае пачуццё віны – таксама інструмант экзекуцыі.

Пражыты час чорт павяртаў супраць самаго жыўца, – чамусь крытычны погляд на сваё мінулае не ўзвышаў розум, а прыгнятаў яго, не ачышчаў душу, а разбураў яе, выкрышваў у ёй анкалагічную злапрастору перароду, і рэгулятыўныя праявы пакаяння стваралі ў Іване Вікенцевічы адно недалужнага пачварніка, пустога нікчэмніка, паскуднага вычварэнца... Раскаянне адкрывала перад ім ягоную паталагічную неадпаведнасць дабру, на падставе якога ён вызнаваў сваю пахібнасць і да якога ўсё роўна не набліжаўся, а вышыні йдэалаў над бязвартаснасцю натуры зрабіліся карным мячом; і маралітэ нагадвала ўсё тое ж самагубства – ён проста знішчаў самога сябе з дапамогаю свайго разгубленага сумлення і зжытага жыцця: пічыў у сэрца выпадковымі брыдкасловамі, што калісьці даўно пасяліліся ў мовапамяці, нервова згадваў дзіцячыя садысцкія шчаўбаны ў нюхаўку любімага ката, балюча пераржываў колешнія юначыя правіны...

Яго мучыла марнасць долі – аднекуль са скляпення свае віны ён пазіраў на гэтага нікчэмнага Івана Вікенцевіча, пусталёс якога, насычаны мітуснёй надзеяў, завяршыўся калісьці даўно, на самым пачатку маладосці, а ўсё астатняе, паслязавяршальнае існаванне, падалося яму проста лагічным доказам колешняга лёсасканчэння: цяпер гэты няўдаліца з двума вышэйшымі адукацыямі, працуючы вартаўніком у дзіцячым садку – яскравы прыклад собскага марараспаду.

Яму прыпаміналіся жонкі... – апошняя, якой праз суд сплочваў аліменты за дачку, і другая – нерэіда Ахоцкага мора, калісьці забытая..., і пакінуты разам з ёю сын, што нарадзіўся на астравах тады ж, у часе марацтва ў акваторыі Ціхага акіяна...

Найбольшую віну ён чуў перад самай першай сужэнкаю. Ён і сам ня ведаў, чаму ажаніўся на ёй; ён ня знаў кахання – яму і цяпер, скрозь горкач самадакораў, дзіўна, што прывязанасцю да жанчыны сталася агіда. Ён не разумее і не разумеў, адкуль узялося ў ім столькі брыды і чаму брыда была накіраваная акурат на жонку, якая ад пачатку сумеснага жыцця пакорліва прыймала ўсе ягоныя здзекі – і брутальны падвопытны сэкс, фізіялагічная функцыя якога не сканчалася з завяршэннем акту, а працягвалася ў ягоным горле ванітнымі спазмамі, што будзіліся і стрымліваліся знеарыентаваным у распусце мозгам... і дзікія расправы, з гематомамі, разбітым тварам, слязмі скрозь кроў і бездапаможнасць... і гнюсныя абразы, цынізм якіх быў яшчэ больш забойчы, чымся кулакі...

Ён пражыў з ёю меньш за год; папіў пакутаў і сышоў прэч, пакінуўшы сваю брыду ў ейнай адзіноце, – як быццам выпаражніўся ад свайго наслання і ўцёк, замураваўшы яго ў чужым лёсе. Ён забыўся на яе назаўтра ж, але сцёртая інфармацыя, якая загінула іператварылася ў парахню архіваў, нечакана азвалася са шматгадовых забудкаў: зняпомленая гадаснасць ягонае ацяжаранае душою біялогіі вярнулася да яго праз даўніну... не да яго... да каго?... ..?.. – да таго, хто калісьці блукаў у ягонай шматразна абноўленай клетачнай матэрыі кімсьці іншым?.. У ім азваўся сорам за даўнаадсутнага і ўскрэслага ў ім сябе-самачужынца...; яго працяў суболь з некаханай ім жанчынаю, на якую ён абрынуў сваё неўтамаванае зло і якой таксама ўжо даўно няма ў той задаленай былой духовай самаякасці...; яго ахапіла колешняя мярзотнасць, што прайшла скрозь думкі, намеры і ўчынкі маладога жыцця, знерэчаіснілася і вярнулася фантомным болем назад, у ампутаваную рэчаіснасць.

У касе чыгуначнага вакзала за сертыфікаты будучыні ён набываў квіткі ў розныя канцы настальгічнае рэльсарэчаіснасці, заварожана ехаў у гарады-ніколі і часы-нікуды... не даязджаў... і не вяртаўся ні ў мінулае, ні з мінулага... заставаўся дзесьці *там*, у вобразе аднаго з часаміражоў... Зраненае сумленне цяпер успрымалася як сіндром, у якім усе жыццёвыя псіхагеніі, усё

абвостранае ўспрыняцце віны-сусвету явілі моташную прыроду ўнутранае суцэльнае грэшнасці: нават маленькія, зусім мізэрныя ганьбавінныя парасткі магчымае дзеясвеччыны, якія прабіваліся скрозь ягоную духаплоць, агортвалі Івана Вікенцевіча самаспапяляльным вычуваннем поўнае, безумоўнае сатаніскае нуды – нават віны “нявінныя”, у стане напаўэмбрыянальнага развіцця, і нават яшчэ ў ранейшым, дазародкавым, гіпатэтычным перад’зачатку, звальваліся на яго ўсім ярмом невыпраўнае здзяйснёнасці; і словы жыцця, і гукі самаго сябе, і здалелая мелодыя думнага пачуцця... – уся ягоная іставасць была абвіненая ім-пахібаю, яна сталася усеахопнай ім-вінаватасцю перад бясконцасцю жывых абсягаў, і грэзіла ператварыцца ў канчатковы вырок.

Гэта цалкам стасавалася з казаннямі бацюшкі, які бачыў у раскаянні шлях духовага ўзвышэння з суджанага, адпрыроднага няўгоддзя.

Усведамленне натхняльнае хрысціянскае формулы раскаянага грэшніка, які каштоўнейшы за дзесяцёх праведнікаў, спачатку прынесла палёгку, але ў хуткім часе здабытая душэўная раўнавага парушылася зноўку і зрынулася ў ранейшыя, а мо і большыя, як раней, мукі, – у святога айца і на гэта было тлумачэнне: ён даводзіў, што з кожным крокам уверх, да вяршыняў богапрасвятасці адбываецца ўсё большая актывізацыя д’ябальскіх сілаў, і таму сцяжына духовага ўзвышэння – гэта найперш дарога змаганняў, здзяйсненняў, выпрабаванняў... Атрымлівалася, Івану Вікенцевічу ў сваім богападарожжы ніколі не відаць суцішы, і ўсе ягоныя пранікнёныя прычашчэнні да ўратоўнае богаісціны, і бясконцыя, да ачмурэласці, малітвы, і гэты абрадак выгнання беса, праз які яго правёў святар – адно прычына ўзмацнення ў ім чортавых буянства й напорыстасці.

Увогуле, яны ўсе былі падобныя ў сваім змрочным аптымізме – і знаёмы псіхіятар, які, выпісваючы рэцэпт, з самаздаволеным радасным цынізмам раптам хіхікнуў: “А што ж ты хочаш... усё так, як і трэба...”; і бацюшка з елейнай канцэпцыяй прысутнасці мярзоцця ў боскай ствары як адпачатнае праявы таго цяжару, які святар праглынаў у эзатэрычную глыбіню свае веры і затым ачышчальна адпускаў з істоты... са стварнай істоты Івана Вікенцевіча; і псіхааналітык, які з усцешаным рабаціннем на дапытлівым носе натхнёна сустракаў збруднелую каламуць Івана Вікенцевіча, з дапамогаю абстракцыяў бессэнсоўных тэстаў і праклятых, з пакутнымі дылемамі, пытанняў – “...што б вы ўзялі, каб давалі задарма: каня ці мапед, кабана ці тэлевізар, казу ці піяніна?..” – запаўзаў на дно бездані... туды... там, дзе сатана... ва ўнутраны свет... і, блукаючы псіхалінгвістычнымі брадамі ў інфармацыйных акіянах падкоркі мозга, куляшыў са згубчых дэструкцыяў устаноўкі на дабрашчасце ды навяваў усю тую ж банальную думку – “...усё так, як і трэба...”; і кудзебныя шэпты варажбітак..., – хаця не... кудзебныя шэпты варажбітак з воперы аптымізацыі забытых казкаў, а не з воперы змрочнага аптымізму...

Да парапсіхолагаў ён звярнуўся ў апошні чарод, на самай акрайняй стадыі свайго асатанення, калі безнадзея зрабілася мацнейшай за астаткі здаровага розуму, і тут жа абдаў нечыстоццем усе вышыні, да якіх ён узняўся ў пакаянным спажыванні свае віны.

Магічныя тайніцы ягонага нядужжа раскрыліся ў маленькай, здушанай панельнымі сценамі кватэры-хрушчоўцы, дзе Іван Вікенцевіч разам з варажбіткаю, яшчэ ладнай, недарэшты зработанай бухгалтаркаю з сацыяльнага аддзелу, схіліліся над кубкам з каваю ў жаданні разгледзець там загадкавую шчырасць падводнага лёсу – з бяздоннага мярэсціва кубка проста ў акварыюмныя відзежы гадалкі вытанулі постаці ягоных аклятніцаў, дзвюх светлавалосых жанчынаў, старэйшай і маладзейшай, якія склялі Івана Вікенцевіча і ўтайкі змусілі яго тройчы выпіць у гасцёх прыгаворанай гарэлкі. У жанчынах, якія навялі на яго псоту, ён адразу ж пазнаў сваю першую жонку і цешчу, і ўвесь ранейшы ў ім боль віны, і ўсё ранейшае ў ім

пакаянне раптам зрабіліся ўтрапёным, невылечным лютазадуменнем – крыўдаю... і нянавісцю...; “...ай, гадзюкі!.. ай, сучкі!...” Усе намоленыя богавяршыні ён тут жа патапіў у морачы жылаў, у злахотлівасці тых нізкіх, непадуладных, інстынктаў руйнавання, што некалі, напачатку маладосці... жыцця... жыццяпамірання... знайшліся ў гідаснасці ягонае любові: цяпер ён займеў апраўданне сваёй даўняй і цяперашней апуслівасці, апраўдаў самападласць подласцю іншых, і ў ім зноўку збудзіўся кат з усёй конавай лютаўладаю над бяздольнаю ахвярай, – толькі зараз, у розніцу ад ранейшага пачуццёвага грэхападзення, ён знаўся на вытоках свайго вярхоўнага на адзін міг гнева, ён згодліва, паслужліва ведаў іх, гэтыя жудадэманічныя абсягі свайго гневанараджэння...; бязвольна распінаў сябе.., і бязмежна каяўся.., і адно люцеў яшчэ больш наперакор асэнсаванню ўнутраных таемных ведаў.

Яснабачанне варажбіткі й ейныя захады не гаілі; ад іх зрабілася толькі горш, вінанемачней за ранейшае.

Экстрасенс таксама не падсобіў.

Гэта быў былы дызайнер, былы мяснік, былы работнік культуры... – каснаязыкі, каструбаватага выгляду дзядзька, з лысінаю на ўсю адораную здатнасцю інтуітыўнага думкапрасякнення ў звыштонкія сферы быцця галаву; выпускнік Міжнароднае Акадэміі Чараўнікоў – яго ўсе так і клікалі ў гарадку: Гары Потар.

Ён адшукаў у аўры Івана Вікенцевіча аграмадныя дзіры, у якія запаўзала сіла зла і развальвала прадзіраўленую душу – атму – знутры. На сеансах Гары Потар аглушальна, нутробна-азвярэла галёкаў мантры сваёй шапялявашчарбатай дыкцыяй, надзімаўся і чхаў з грудзей кіпнем паравознага пару; агромістымі, як у цыклопа, далонямі ён вадзіў над худымі, змарнелымі чакрамі Івана Вікенцевіча, намацваючы энергетычныя правалы і замазваючы іх нябачнай гаючай субстанцыяй. Аднак ратаванне ня брала: між замазаных латак зьяўляліся новыя дзіры, Гары Потар латаў іх, але зьяўляліліся наступныя...

У нейкі момант, калі Іван Вікенцевіч ужо амаль загінуў у вомраку свае энервацыі, яму дапамагла вясковая вядзьмарка з дробнымі прыслёплымі бясколернымі вачыма ў пражытым прыцемку пахінатай, праселай у зямлю вясковай хаты.

Магчыма, цуд нарэшце атрымаўся таму, што старая памірала, – яна памерла праз які тыдзень пасля іхнага спаткання, – й Іван Вікенцевіч у душы адчуў ейны апошні развітальны імпульс трансперадачы казачнага натхнення, як баццам праз прачытаную замову над спаленым пасмом ягоных валасоў яна пакінула яму тое, што скрозь усё жыццё існавала ў ёй як дар, але не належала ёй, не зьяўлялася ейнаю ўласнасцю; магчыма, старая і не імкнулася ратаваць Івана Вікенцевіча, а проста пад выглядам лекавання ціхом, каб не знікла са свету, прылёсіла сваю таямніцу да першае выпадковае душы...; і – вось гэтая няўласная ўласцівасць, вымкнуўшы са стомленага сэрца перад смерцю, сядзіць ужо ўнутры Івана Вікенцевіча...

Ён адразу ж пачуўся лепей; і яму чамусьці падумалася пра гэтую кудзебную метасутнасць, што перайшла ад вядзьмаркі да яго.

А можа ягоная палёгка – таму, што ён прыладзіўся да пакуты?.. прызвычаіўся да свайго болю, і цяпер боль – насалода?..

Хаця... разважаючы сам-насам, ён часта думае, што ягонае выбаўленне з хваробы можа быць сувязанае проста з біялагічным працэсам, які развіваецца цягам узросту – з чарговай астарэласцю, што знайшла для ягонае клеткавае структуры генетычныя формы прыстасавання ў зменлівым, складаным сімбіёзе з навакольнасцю.

Ён прыслухаецца да клетак самаго сябе, і яму здаецца, што быццам ён зноўку, як шмат раз дагэтуль, абнавіўся, пакінуў сваю самаякасць у скарыстаным арганізме і ўвасобіўся ў новае... напэўна, больш шчаслівае цела, а душа... ну... вычуццё свае душы – гэта ж хваляванне плоці...; і калі клеткі больш ня рвуць

душу болем віны, а ўсяго толькі здаля нагадваюць пра злапрысутнасць дробнае часткі сатаны, чортавага семя ў ім, значыць, нарэшце ён зрабіў яшчэ адзін крок у напрамку да прасветласці, ачысціўся праз пакуты?..

А яшчэ, бывае, Івану Вікенцевічу здаецца, што ён увогуле знік, што ён знаходзіцца зусім не ў сваёй клеткаабноўленасці, а за межамі ідавочнага адбыву.

У гэткія азаральныя неўяснёнай цемраю імгненні перараджэння свае сутнасці ён, занурыўшыся ў покрыва квецені й жыцця, кратае халодным розумам подых пакрыёмых антырэчываў. Ён адчувае іхную проціворчую ўзаемазгоду, бачыць іхную прасычанасць прадуктамі мінучага існавання, іхную наталёнасць распадам імклівага жывачасу...

Ён падарожнічае па гэтай краіне прамінулых, закінутых лёсаў, купаецца ў чорных рэках зрасходваных, ужо нікому не патрэбных пачуццяў, крыві й ідэяў... А бывае, вынырвае з забытае сплыні покрывасвету, выходзіць на бераг, каб перастрэць раку у ейнай яшчэ не спустошанай, гарачай, спелай якасці. Тады жыццё вабіць яго салодкім смакам храбусткой знікомасці, і ён заварожана адрывае крамяны, сакавіты капустачас і спрабуе лісты на смак.

Ціха і непрыкметна ён ідзе праз сад да астароненай, жахлівай хаты Івана Вікенцевіча, падыходзіць да акна, зазірае і з дна глыбіні, з самага сэрца інфернуму глядзіць з залюстэр'я шыбы на Іванавікенцевічавы бесюганствы, на траўмаваную ўсёвінаватасцю душу Івана Вікенцевіча, на ягоны разгублены, дурнаваты, зморааны правіламі ўнутранае маралі розум глядзіць і позіркам ды сваёй падпокрыўнай антыдумкаю нараджае псіхічныя механізмы прывідаў... Ён ператвараецца то ў аптычныя спектры начнога неба..., то ў гукі пілавання і цэлафаначвякання..., то ў відмы марнатраўнага лёсу..., то ў бацюшку, ці ў знаёмага псіхіятра, ці ў Гары Потара..., то паўз рэльсарэчаіснасць пасажыраўскім лакаматывам ён цягне вагоны мерцвякоў у бесчасоўе.., то Іванам Вікенцевічам мышкуе на пацукоў у начной хаце, або – на рыбацкім судне штармуе ў Ахоцкім моры..., то асядае Івана Вікенцевіча чортам і душыць, душыць, душыць яго за горла..., то з гронкі пацукоў разбягаецца пацукамі па закутках бяссоннае свядомасці...

...Дзе ён?.. З якога боку шкла?..

***Масты, 2009 год.***

# СТАЛЁВАЯ ГАЛАВА

***апавяданне***



*П*асля смерці Андрэя Мікалаевіча Івановіча пачалі ўскрываць ягоны труп, і тут высветлілася шмат чаго незвычайнага.

Памёр Андрэй Мікалаевіч гэтак жа, як і жыў – раптоўна, не дацягнуўшы год да пенсіі. Ён напаўслове, у часе аповеду палітычнага анекдота пра Александра Лукашэнку паваліўся пасярод калідора нарыхтоўчае канторы, дзе працаваў эканамістам, і за некалькі хвілінаў панікі й таблетачнае мітусні ў

тумбачках, кайстрачках ды кішэнях ягоных калегаў сканаў са зьедлівай палітусмешкаю на твары.

***Апавяданне “Сталёвая галава” Лявон Вашко напісаў у ліпені 2009 года. У творы Ісус Хрыстос прызямліўся на Гарадзеншчыне. Апавяданне пра цяжкасці спазнання на шляху да сутнасці, якая знаходзіцца за межамі ўспрыняцця.***

– Тромб адарваўся!.. – пачуў ён, як нехта гукнуў ужо з іншага боку свету. – Тромб адарваўся!..

А мо і не пачуў, а мо і ня ён, а мо і не з іншага светабоку... – магчыма, як і ўсё ягонае раптоўнае жыццё, гэта былі проста галюцынацыі мыслёвае электрамагнітнае сістэмы ўсекасмічнага нусу, дзе Андрэй Мікалаевіч і ягоныя калегі – адно толькі невялічкі электраразрад вобразнае эманацыі ўнутры бяздоннае думнафункцыі.

Каб даведацца насамрэчную прычыну заўчаснае смерці, яго адправілі на ўскрыванне. Адразу ж выявілася шмат дзівосаў.

Ну, па-першае, хто сказаў, што Андрэя Мікалаевіча забіў тромб?..

Кравяносная сістэма была ў асбалютным парадку, і нават лепшая за абсалютны парадак, – немалады ўжо паталагаанатам Барыс Емельянавіч Кулак развёў рукамі, падобнага бо ў сваёй працяглай практыцы ён не сустракаў: у пяцідзесяцідзевяцігадовага нябожчыка было сэрца юнака, як і кравяносныя сасуды; ні пра якія тромбы тут і гаворкі быць ня магло. Унутраныя ворганы – таксама на сто дваццаць працэнтаў больш, чым добрыя: пячонка чыстая, як новая – ані плямкі, лёгкія – бы ў ласяя, і мочаполавая сістэма – жарабца...

Усё казала на тое, што памерці Андрэй Мікалаевіч ня мог.

Але галоўны феномен ня ў гэтым.

Самы парадокс паўстаў перад Барысам Емельянавічам у часе трэпанацыі чэрапа: тут і выявілася, што чэрап у нябожчыка – металічны; з металу складаліся ўсе чарапныя раздзелы, і рухавая – сківіца – у тым ліку.

Бур-машынка шво браць не захацела, – быццам хтось прайшоўся па галаве электразваркаю. Барыс Емельянавіч паспрабаваў дзейнічаць зубілам і малатком – усё дарэмна.

На выгляд метал быў нізкае якасці, з буграмі й ракавінамі ў структуры, высокавугляродны – чугун самага сырога, прымітыўнага дыхту. Барыс Емельянавіч вырашыў раскалоць арэшак абухом, але “чугун” спружыньваў, як дамаская сталь, і абух адскокваў ад патыліцы, як ад кавальні; нейкі незразумелы, неспасціжны ферум... А мо баўгарка дасць рады? З гаспадарчай групы шпіталю прынеслі “Макіту” на 2,2 кілавата, і слесар пачаў рэзаць, але і тут нічога не атрымалася: стачыў палову круга, а на феракостцы – усяго толькі тонкі след ад абразіву.

У часе перакуру санітар прапанаваў пазычыць у камунгасе, дзе працаваў сантэхнікам ягоны швагер, вадародную плазмарэзку, але плавіць мазгі Андрэя Мікалаевіча Барыс Емельянавіч катэгарычна ня даў згоды. У хірургу загаварыў прафесійны гонар, – справа пайшла на прынцып: ён зацяўся ў сваім жаданні дакапацца да аб’ектыўнае прычыны смерці, таму быў супраць таго, каб псаваць труп.

З праблемаю Барыс Емельянавіч звярнуўся ў абласную і рэспубліканскую больніцы, шукаючы там якойсь рады ці спецтэхнікі; сам жа, пакуль што ды як, вырашыў зазірнуць у мозг спадара Андрэя з боку хрыбетнага каналу, аддзяліўшы галаву ад тулава. Акуратна ён перарэзаў на шыі мышцатрапецыі, ключычную мышцу на горле ды жавальную мышцу, глотку, дыхніцу, абышоў шчытападобную залозу, спрактыкаваным позіркам зачапіўся за знешнюю і ўнутраную ярэмныя вены, сонныя артэрыі, вызначыў шыйнае нерваспляценне і задняя галіны шыйных спінамозгавых нерваў, затым дастаўся да аддзелу шыйных хрыбеткаў і асцярожна аддзяліў іх ад прадоўгага мозга, – цяпер галава Андрэя Мікалаевіча цалкам знаходзілася ў руках

Барыса Емельянавіча. Ён уважліва агледзеў сечыва, але ніякіх паталогіяў ня выявіў.

Праз ужо некалькі гадзінаў, пад вечар, на задрыпанай чорнай “Волзе” прыехаў маёр спецслужбаў, – ён меўся арыштаваць галаву.

– А ордзяр е? – з недаверам запытаўся Барыс Емельянавіч.

Маёр паказаў пракурорскую пастанову на арышт. Ён паклаў галаву ў мяты пластыкавы пакет “ААА “Хлебапрадукты”, узяў з Барыса Емельянавіча падпіску пра неразгалашэнне сувязаных з дзіўнай смерцю Андрэя Мікалаевіча фактаў і скіраваўся ў сакрэтны навукова-даследчы інстытут на экспертызу.

Агледзеўшы галаву ў НДІ, маёру заўважылі, што іншая частка Андрэя Мікалаевіча таксама ўяўляе з сябе надзвычайную навуковую каштоўнасць. Наступным днём раненька маёр зноўку завітаўся да Барыса Емельянавіча і арыштаваў тулава Андрэя Мікалаевіча.

Калі маёр даставіў цела ў лабараторыю, там работа ўжо ішла рукою. Марудна, мікрон за мікронам адточвалі ад сківіцы зрэзь – бралі метал на прабаванне. Самую галаву рыхтавалі да анімацыі.

Падключэнне да аніматару займала даволі часу: над аперацыяй працавалі некалькі брыгадаў спецыялістаў – ад нейрахірургаў і генетыкаў да праграмістаў і нанатэхнолагаў...

Аніматар быў створаны ў лабараторыі некалькі гадоў таму назад, ён меў магутнасць трыста пяцьдзесят гігадэкаў. *Дэк* – псіхаэнергетычная сіла духакрона, якая вызначае межы выбуху матэрыялізацыі ў “пункце цішыні” протаглюённае міжсубстанцыі (за часадыяпазонам так званае квантавае вечнасці – $10^{-77}$ *сек*) у момант субпрысутнасці кваркавае двоіцы па-за станамі нараджэння, развіцця і анігіляцыі ў пі-нуль-мезоне з папраўкаю на трэцюю гравітацыйную хвалю калапсу за паверхняю Шварцшыльда... Зрэшты, маёр ня дужа валачыў у рэлятывіскіх гашчах духаквантавання, і яму дастаткова было ведаць галоўнае: аніматар дазваляў адʼжыўляць трупы нават з даволі значнымі пашкоджаннямі цэнтральнае нервовае сістэмы. Гэта не было адраджэнне ў сапраўдным, біятворчым сэнсе: трупы варочалі ў імітаваную рэальнасць; шматлікія жыццёвыя працэсы сімуляваліся засакрэчанай кампутарнай праграмаю “Палессе 4.3 М”, і знесмертаўлёная існасць цалкам залежала ад лічбавых тэхналогіяў, адбывалася адно ў запраграмаваных межах і была немагчымая па-за імі. Тым ня менш аніматар дазваляў актывізаваць свядомасць і падсвядомасць мярца. Больш таго, былі відавочныя поспехі ў здзяйсненні малекулярнае біяпластыкі: атрымлівалася фармаваць новыя віды арганізмаў і трансгенераваць у іх чалавечы розум, але зноў жа – толькі ў лабараторных умовах і толькі ў адоймах праграмы “Палессе 4.3 М”; па-за праграмнымі прадпісаннямі трансклоны зараз жа спынялі сваё існаванне ў жывых формах. Аднак, з тэарытычнага пункту гледжання, створаная мадэль жыцця тлумачыла шматлікія, у тым ліку і фундаментальныя неразгады: пахібнасць аніміраваных ці новаўтвораных арганізмаў была ня ў іх недасканаласці, а ў абмежаванасці працэсараў і ўтылітаў – бо калі стварыць працэсар з псіхаэнергетыкаю Сусвету і асвяціць яго Праграмай-бясконцасцю, дык і ўнутрыпраграмнае існаванне пашырыцца ў сваех акраях адпаведна з напісанасцю...

Так ці ня так, але маёр рыхтаваўся да допыту.

Пакуль ладзілі аніматар, ён падняў архівы з паведамленнямі контрразведкі. Інцыдэнт выяўлення галавы са штучным чэрапам быў адʼзначаны ў Злучаных Штатах Амерыкі ў сярэдзіне пяцідзесятых гадоў XX стагоддзя. Праўда, у тым выпадку косці чэрапа былі зробленыя не са сталі, а з кампазіту на аснове вуглероднае кудзелі – вельмі тэрматрывалай, звышмоцнай і звышлёгкай; у хуткім часе пасля здарэння акурат гэткія вуглепластыкі былі выкарыстаныя ў касмічных тэхналогіях. Аніматараў тады не існавала, усе высновы спецслужбаў

грунтаваліся на інфармацыі сэксотаў, відавочцаў ды на медыцынскіх даведках. Расследванне вызначыла, што інтэлект каліфарнійскага гуманоіда знаходзіўся на ўзроўні алігафрэна, – у ягоных мазгох была выяўленая высокая канцэнтрацыя сіліконавага клею, і акурат гэткая акалічнасць магла негатыўна паўплываць на разумовыя здольнасці.

Маёр падняў дасье на Андрэя Мікалаевіча: у розніцу ад свайго амерыканскага субрата той быў зусім ня кеп – характар спрытны, настойлівы, стрыманы, нардычны; у крытычныя моманты Андрэй Мікалаевіч ня траціў самааблады, імгненна ацэньваў сітуацыю і быў здатны да рашучых дзеянняў. Пра гэтае сведчыла хоць бы і даўняе, гарбачоўскае пары барацьбы з п’янствам, паведамленне аднаго з сэксотаў. Як паведамляў сакрэтны агент, Андрэй Мікалаевіч ніколі не чмурэў, хаця піў нароўніцу з усімі калегамі, – адно моўчкі сачыў за п’янкаю; гэта, вядома ж, здзіўляла субутэльнікаў, і нават выклікала ў іх падазронасць, а ён жартаваў: маўляў, у яго кроў з віна... Больш таго, сэксот апісваў вельмі дзіўны выпадак. Аднойчы калегаў і Андрэя Мікалаевіча накрыў першы сакратар райкаму партыі: на працоўным месцы быў арганізаваны папой – усім калектывам ад’значалі дзень нараджэння Андрэя Мікалаевіча; імяніннік цвёрда заявіў, што ў бутэльках мінеральная вада, а не гарэлка, дэманстратыўна захмяліў свой лыч паловай пляшкі й тут жа запатрабаваў медыцынскага агляду; на машыне сакратара райкаму ён быў завезены ў паліклініку самім жа сакратаром райкаму, – дзіўна, але аналізы, сапраўды, паказалі, што Андрэй Мікалаевіч цвярозы як шкельца.

Увогуле, у дасье на Андрэя Мікалаевіча было шмат чаго неўразумелага. Бацькам быў запісаны ягоны дзед..., – байструк, значыць, ці што?.. Маці... Дый маці не было – замест маці запісаная суседка дзеда, якая скрозь усё жыццё ўсім навокал настойліва паўтарала: “Я не пры дзялох...” Пасля смерці дзеда і суседкі выхоўваўся ў дзіцячым доме. Пасля школы – войска, потым інстытут народнае гаспадаркі, праца эканамістам у спажыўсаюзе, затым галоўным эканамістам у нарыхтоўчай канторы. У паведамленнях сэксотаў таксама шмат рознае няўцяміцы: то ён п’е гарэлку і не ўпіваецца, і тэсты на алкаголь не выяўляюць ані граму, то ідзе ў прыбіральню і не выходзіць з яе, а выходзіць з кабінета праз некалькі дзён, а не, дык і праз некалькі тыдняў, то возьме за валасы сваю галаву, размахнецца, і – лобам аб сцяну, ажно тынкоўка валіцца...; і ўжо зусім збівалі з панталыку паведамленні сэксотаў накшталт “...расказвае феню, што ён Фенікс, а сам залажае на слуп з электрычаствам, галавешкаю зрынаецца на зямлю і ўстае з попелу...”, або “...казаў, што ён сын Божы, а хто ж яму паверыць, калі ж мы ўсе атэісты, а ён пасцыць на банькнонт дзяржбанку, і – той “Трайным” адыкалонам пахне...”, або “...кажа я – Хрыстос, а сам заголіць зад і голы бегае па вадзе ў тых мястах, дзе глыбіня з галоўкаю...” Усё выдавала на тое, што прасрала контрразведка Андрэя Мікалаевіча.

Нарэшце прынеслі генетычную расшыфроўку. Тут таксама спрэс – энігматыка. Сцяжына нуклеатыдаў малявала карціну Іллі Яфімавіча Рэпіна “Не чакалі”. Спадчынная інфармацыя ў храмасомах адпавядала традыцыйнаму геному чалавека – у малекуле ДНК яўна прасочваўся шлях змены-захавання-перадачы чалавекаінфармацыі ад самага моманту адамазачатку. Аднак, з іншага боку прысутнічалі дадатковыя сляды генетычных звесткаў. Асаблівую ўвагу спецыялістаў прыцягнуў да сябе моваген FOXP2 – нуклеінавая кіслата ў ім актывізоўвалася павышанай колькасцю бялковага спадарожніка, што казала на працэс бурлівае эвалюцыі ў высокамалекулярных злучэннях; падобная зьява была выяўленая і ў некалькіх генах, адказных за марфалогію арганізма, абстрактнае мысленне і самасвядомасць – ад’значаналася скіраванасць генаў, ня гледзячы на іхную меркаваную кансерватыўнасць, да дублікацыі й нестабільнасці ў першаснае структуры. Выяўленыя парадказвёны ланцуга,

безумоўна, належалі чалавечаму геному, але іх пакуль што яшчэ не існавала ў агульнай, сённяцяперашняй паслядоўнасці, – тым дадатковым спадчынным прызнакам, якія ўтрымліваліся ў генетычным матэрыяле Андрэя Мікалаевіча, кампутарны прагноз прадвызначаў магчымую рэалізацыю ў далёкай будучыні. Але... парадак іхнага размяшчэння ў малекулаклетцы знаходзіўся ў пункце ня будучным, а ў дагістарычным – у старажытнасці, у перадстаражытнасці, перад самым пачаткам адамапрыходу. Гэткі фокус ані маёр, ані генетыкі, ані кампутар растлумачыць ня ўмелі. Як гіпотэза напрошвалася меркаванне пра тое, што Андрэя Мікалаевіча задзелалі на рубяжы сутыкнення процілеглых формапраяваў часакола, дзесь у безсучаснасці – там, дзе будучыня скальцаваная з мінуўшчынаю; а затым ён неяк выпаў з часапаралельнасці ў часапаралельнасць.

А вось аналіз мікраструктуры адшараванага ад сківіцы металічнага кацюлька ніякіх дадатковых сюрпрызаў не прынес, акрамя аднаго суцэльнага сюрпрызу: звычайная канструкцыйная сталь чэрапа, легіраваная, праўда, “брудным”, падобным на метыярытны купфернікель, элементам, немаведама чаму дэманстравала суперуласцівасці – адначасова і спалучала ў сабе добраякасці розных сплаваў, і пераўзыходзіла кожны з гэтых стопкаў сваімі звышмагчымасцямі. Аніякіх аб’ектыўных прычынаў дзеля існавання падобнага ноўмену ў аналізаваным матэрыяле не знаходзілася, – нічога не заставалася, як прызнаць ноўмен феноменам і гіпатэтычна патлумачыць высокія вартасці жалезакосці ўзмоцненай дэк-энергіяй, якая існавала ў чэрапе і пасля смерці.

Аніматар павінны быў даць адказы на шмат якія пытанні.

Біялагічнымі дратамі прытачылі галаву да цела. Паўторнае злучэнне адцятых Барысам Емельянавічам фрагментаў Андрэя Мікалаевіча было зробленае ў мэтах найбольш эфектыўнага выкарыстання тэхнічных сродкаў і наяўнага біяматэрыялу, – паяднанне галаўнога мозга з аддзелам мозга спіннога давала магчымасць вызваліць памяць кампутара, якая трацілася б на першасныя, самаідэнтыфікацыйныя сімуляцыі, і накіраваць яе на мадэляванне другаснага, аб’ектыўнага ўзроўню віртуальнае прасторы.

І вось пайшоў зваротны адлік: падключаныя з дапамогаю біяэлектрычных злучальнікаў тулава да галавы, а галава да тулава ляжаць у розных канцах аперацыйнага стала і ў матузах пратэідавых правадоў чакаюць сусветанараджальнага першаімпульсу. “...Шэсць... пяць... чатыры... тры... два... од*ы*н...” “УкЛюЧыЦьТуМ... бляр!..” “Ёйсць УкЛюЧыЦьТуМ... бляр!..” СТАРТ... “...Паехалі!..” Вось прабеглі па целе пачатковыя лічбы штучнае душы – гэта “Палессе 4.3 М” азвалася ў мёртвай плоці кароткай рэфлекцыйнай дугою кіберадраджэння, угалатнула маўклівы ўздых трупа і выдыхнула на экран манітора табліцу з першымі параметрамі анімаванае экзістэнцыі Андрэя Мікалаевіча...

Цяпер трэба было чакаць, пакуль кампутар загрузіцца Андрэем Мікалаевічам цалкам. Грузіўся ён незвычайна доўга – гадзіна за гадзінай, дзень за днём. Спачатку пёрла ў кластары каламуць падсвядомасці й усяго таго, што пад ёю. Ішлі розныя матэматычныя апельсіны, перакуленыя цыферблаты, ромбавыя парабаласабакі, трыццацідвухканцовыя кат*ы*..., беглі козлікі вечнасці, бочкі са сланіным калам смутку і каравякамі весялосці, брыкетаваная мача хуткага прыгатавання, сранікі неўмамонныя..., пішчом лезлі іухі-хераморы з херарамі херурораў, хуйнь ць і яйнь ць зы О о, запупочкі й запупенікі, а таксама т’дцыбперсцундбздрыкі з гульцяёйцавымі пісюлёдкамі... Уся гэтая фактура была прыпраўленая злосным матам; яна адразу ж трапляла на стол да навукоўцаў-аналітыкаў.

Апрача экспертаў сакрэтнага НДІ да працы далучылі й розных знаўцаў з іншых установаў – маёр штодня рассылаў раздрукоўку атаесамленняў Андрэя Мікалаевіча на некалькі

дзесяткаў адрасоў па рэспубліцы і ў замежжа; далучаныя псіхалінгвісты працавалі наўслеп – пра патаемныя вопыты і ўскрэсіны Андрэя Мікалаевіча ім не паведамлялася, проста даваўся абстрактны матэрыял, які яны абагульнялі й тлумачылі састаронена. На аснове гэтых тлумачэнняў зьяўляўся эклектычны, вельмі супярэчлівы прагноз, які ня меў ані аператыўнага, ані тактычнага, ані стратэгічнага інтарэсу; але рабіць канкрэтныя высновы было рана – уся лабараторыя чакала, калі лічбавы слоік сэнсаў напоўніцца даастачы.

У міжчасе прыйшлі звесткі, што цела Андрэя Мікалаевіча настойліва шукаюць суседзі й калегі, да пошукаў падключылася прэса, – яшчэ добра, што ў наўца не было сям'і і сваякоў; патэлефанаваў Барыс Емельянавіч, паскардзіўся, што маўчаць яму згодна з дадзенай маёру падпіскаю з кожным днём усё цяжэй, – грамадскасць абвінавачвала яго ў продажы Андрэя Мікалаевіча на ворганы. Тэрмінова на мяжы з Расійскай Федэрацыяй быў спынены рэфрыжэратар і арыштаваны цэнтнер свіное тушы. З дапамогаю аніматара з арыштаванае сыравіны зрабілі муляж Андрэя Мікалаевіча – дакладную копію, нават лепшую за арыгінал – з відавочнымі слядамі скананьня, і галава не сталёвая, а – як у людзей. Муляж адпелі й пахавалі. Потым, каб спыніць распаўсюд чуткаў пра незвычайную канстытуцыю памерлага, інсперавалі скандал, эксгумацыю і паўторную экспертызу, цягам якой спецыяльная камісія засведчыла абсалютную нармальнасць мерцвяка і афіцыйна вызначыла абсалютна нармальную прычыну смерці – тромб.

І раптам нейкага дня лабараторыя схамянулася – з жыватрупа прабілася першае акрэсленае жаданне: Андрэй Мікалаевіч папрасіў піць. Імгненна быў актывізаваны сімулятар наталення смагі.

Зомбі пачынаў жыць страчанай паўсядзённасцю – зазвычаенасцю свядомасці.

Каб не траўмаваць псіхіку памерлага, вырашылі зрабіць акцэнт на ягоныя апошнія перадсмяротныя эмоцыі й ажыццявіць версію замагільнага свету – дзеля гэтага “Палессе 4.3 М” сканструявала рай, якім акаліла Андрэя Мікалаевіча.

Маёр выступіў у ролі анёла; яго падключылі да субежнага інтэрфейсу кампутара і загналі ў мозг трупа. Аднак мова алгарытмаў праграмы загучала заікліва, са збоямі, – існавалі ў Андрэі Мікалаевічы нейкія незразумелыя лічбы і велічыні, непадуладныя электроннаму злічэнню, якія раскрывалі недастатковую магутнасць аператыўнае памяці: здольнасці кампутара чамусь былі яўна меншыя за паддоследную нерваклеткавую прастору волі, а мо і зусім мізэрныя ў параўнанні з прасканаванай глыбінёю нейрагіяметрыі й -матэматыкі. Андрэй Мікалаевіч адразу ж распазнаў фальшывасць раю і д'ябальскую блазнаватасць анёла, – які ж гэта рай, смеючыся мовіў Андрэй Мікалаевіч, гэта ня рай, гэта пекла...

– Я бываў і там, і там... Я ведаю... – у тупой зацятасці паўтарала галава на пяшчоту анёла, маёравы “кось-кось”, і настойлівыя загады кампутара, якія шматкроць і аднастайна безвынікова множыліся й гучалі ўсцяж да завісання.

Маёра спешна вярнулі з глюканутага кампутара і з галавы назад – у першасную рэальнасць. Дзеля гэтага давялося скарыстацца з аварыйнага рэжыму. Файлавую сістэму праверылі на вірусы і бэды, але нічога падазронага ня выявілі.

Перазагрузілі.

Можа віртуальны допыт пабудаваць на іншай легендзе – палюбоўніцкай?

За гэтым разам маёр граў ролю спакусніцы – яго запакавалі ў вобраз спявачкі Джэніфер й імпартавалі ў сталёвую галаву. Задача была закахаць у сябе Андрэя Мікалаевіча, загарачыць кроў маладым лацінаамерыканскім целам і збудзіць у ім бязрозумную жарсць, вывесці яго на шчырасць праз падаўленне базавым інстынктам усіх іншых інстынктаў і ўстаноўных наслаенняў. Аднак і тут праграма схібіла: мярзотная

пажадлівасць, якая знячэўна, па-за лічбавымі камандамі, апанавала жыццё трупа, рынулася на маёра ўсёй магчымаю гідотаю, па-садыску заламіла яму рукі, уткнула носам у вільготны, зямлісты дол ночы, сярод якой яны з Андрэем Мікалаевічам пасля распітай у альтанцы бутэлькі самагонкі апынуліся ў цемры прыгараднае пусткі...

Усё неяк адразу пайшло наперакор запраграмаванай рамантычнай вячэры ў рэстарацыі; узнёслая рамантыка была парушаная воляю Андрэя Мікалаевіча, як быццам гэта ён – Кампутар, як быццам гэта ягоныя думкі й намеры – Праграма. Маёр і сам не зразумеў, чаму і як пачаў выконваць чужы сцэнар, самашкадліва паддаўся грубаму напору ды паслухмяна стаў ракам. Не гігіенічна, не ў тое месца, куды было запланавана праграмістамі, па вычварэнску, моўчкі Андрэй Мікалаевіч адмеў маёра як суку, – і адно, сыходзячы кудысь у запрастору, на развітанне прамовіў:

– Глядзі, не трапляйся больш да мяне!.. – і даў ляшча па голай попе.

Прыніжаны і згвалтаваны маёр бездапаможна застаўся ў начной чорнаадзіноце спусцелага чужынскага мозгу, – гэта была абмежаваная праграмаю ўскраіна гульні: ён спрабаваў прайсці скрозь паўсюдную цемень, але натыкаўся на нябачную сцяну...

Давялося зноўку запускаць аварыйны рэжым ды выцягваць маёра з пасткі.

Пасля гэткіх штукарстваў нічога не заставалася, як дзейнічаць у жорсткіх рамках. Усе адказныя за волю цэнтры сталёвае галавы былі прыгнечаныя, самаго ж Андрэя Мікалаевіча затачылі ў карцар. Пасля тысячагадовых зняволення, няпэўнасці й чакання свайго лёсу, змарнелага і ледзь жывога яго прывялі на допыт у казематнае сутарэнне да маёра два размаляваныя індэйскай баявой афарбоўкаю “хуйвэнбіны” з нунчакамі й аўтаматамі Калашнікава. Аднак у Андрэі Мікалаевічы яшчэ заставаліся непрадбачныя выглыбкі духу, якія ня здолела індыфікаваць і знішчыць праграма – ягоная годнасць, ягоны крыж...; аднекуль ён знайшоў сілы маўчаць, не адказваць нават на звычайныя, працэдурныя пытанні. Дыялог не атрымліваўся, немата нарастала, болела, праглынала словы, сугуччы, і цішыню чакальных паўзаў, ды спусташала сэнс чатырох бетонных муроў вузкае камеры.

Тады маёр узяўся выбіваць сведчанні фізічна: знянацку кулаком ён зваліў з табурэткі Андрэя Мікалаевіча на падлогу, а затым моцна, але каб не разбіць пячонку, лягнуў ботам пад рэбры.

– Ты ў мяне загаворыш, сука!

Але Андрэй Мікалаевіч не загаварыў.

Ён падняўся і з злосным сапам пхнуў маёра гэтак, што той пакаціўся цераз стол; а затым імгненна адарваў прынітаваную да падлогі табурэтку і з размаху выбіў дзверы...

Што за хмурня?.. Такога няма ў праграме!..

Ён пабег.

– Не страляць! – крыкнуў маёр “хуйвэнбінам”, якія забавіліся ў калідоры і не чакалі прарыву арыштанта. – Або біць па нагах!.. – ён спалохаўся, каб выпадкова, дурной куляй ня знішчыць у сталёвым чыгунку нервовую сістэму Андрэя Мікалаевіча – тады трындзец усяму эксперыменту; дый маёру капцы: няма работы духапарвацца на кавалкі следам за мазгамі Андрэя Мікалаевіча... – Не... Адставіць біць па нагах!.. Не страляць! Браць жывым і цэлым!

Яны кінуліся ў пагоню.

На некалькі секундаў Андрэй Мікалаевіч знік за павароткаю казематнага калідора... потым зьявіўся... потым знік... потым зьявіўся... потым знік... потым зьявіўся, але без галавы... дакладней, з галавою, але не на шыі, а пад пахаю...

Не, ну яўна нейкі глюк!..

Андрэй Мікалаевіч, моцна прыціснуўшы да сябе сваю галаву левай рукою, порстка даваў цягу па лабірынце, які змастачылі праграмісты лабараторыі; але – нарэшце забіўся ў

тупік. Далей ходу няма, і дзверы ўсе замкнёныя... перавучот, іці іх маць... або праграмісты – гультаі: сэканомілі свой час на прасторы Андрэя Мікалаевіча... Наматаўшы праваду на кулак, ён з размахам стаў ламіць жалезным лобам, як цапом, дзверы туды – у пазамежжа змадэляванага свету... прабіваў наскрозь... праламіў... ступіў...

Маёр і "хуйвэнбіны" забеглі за ім, агледзеліся. Гэта быў санвузел. "Пойдзе ў прыбіральню пасцаць на пяць хвілінаў, а выходзіць цераз месяц саўсім з другога месца..." – маёру ўспомніўся данос аднаго з сэксотаў...

Памяшканне прыбіральні нагадвала антураж кампутарнае гульні "Дзюк", у якую маёр калісьці даўно, у сваім геймерскім дзяцінстве заўзята гуляў, змагаючыся супраць узброеных свінняў; усё рыхтык такое ж, як і ў "Дзюку" – і колеры сценаў... і гукі.. і цурчанне вады з крану... і прадчувальная цішыня... І планіроўка... вунь вентыляцыйнае акно – там за пластмасавымі кратамі затоіўся кабан са стрэльбаю, вунь за дзвярыма кабінкі сядзіць на ўнітазе другі кабан – жмецца, а стрэльба напагатове...

Не паспеў маёр пра тое падумаць, як бабэхнула з вентыляцыйнага акна – аднаму з "хуйвэнбінаў" знесла карцеччу палову галавы; другі "хуйвэнбін" ускінуў "калаш", але яго пабіў на рэшата свінчак, што дзелаў дзела на трубе. Штосьці жыганула ў ягадзіцы і маёру... "Зачапіла...", – пранеслася ў галаве. Ён падаўся назад, у дзверы.

Калідор гарэў, бегчы не было куды; сцены трашчалі, з шыпеннем капала на падлогу палімерная столь... Ззаду выбухнула – гэта хтось са свінняў біў па маёру з гранатастрэла. У агні ён убачыў катапульту – дрэнны і добры знак адначасова. Катапульта была сігналам, што "Палессе 4.3 М" загінаецца – у крытычныя моманты, перад скананнем, праграма пільна прапаноўвала экстраную, адзіную магчымасць пакінуць паралельную саматыку.

Каб не загінуць у ашалелых мазгох сталёвае галавы ці не завіснуць у інтэрферэнтных хвалях зданкавае міжрэальнасці, маёр скочыў праз агонь у катапульту; ён паспеў пачуць у вібрацыі растопленага, кіпяткога часу словы, якія дагналі яго ўжо на адваротным баку звар'яцелае свядомасці:

– Глядзі, не трапляйся больш да мяне!..

Яго вынесла ў лабараторыю, у сваё цела, абвітае гарачынёю распаленых правадоў, – гэта быў акурат той міг, калі дагараў, канаў апошні модуль аніматара; маёр, ачуўшыся ў сваёй першаснай рэальнасці, порстка ўзяўся скідаць з сябе нагрэтую электраправодку.

У лабараторыі набілася дыму. "Палессе 4.3 М" развалілася, аніматар згарэў ушчэнт. Была энергетычная атака, паведамілі маёру: дэкамер зарэгістраваў удар у тысячу гігадэкаў, пасля чаго згарэў, бо не разлічваўся на больш высокія велічыні, – увогуле, падазравалі, што моц удара вылічаецца ці ня тысячамі тэрадэкаў. Андрэй Мікалаевіч знік, – сказалі: падскочыў, схапіў галаву і ламануў у прыбіральню, дзе неверагодным чынам знеціўся бяз знаку. Усе службы кінутыя на пошук; прачэсваецца мясцовасць.

Маёра накіравалі да медыкаў. Распораную шрацінаю левую ягадзіцу зашылі, прысмалены азадак замазалі зялёнкаю.

У аналітыкаў наконт падзеяў вакол сталёвае галавы было шмат меркаванняў: выказваліся здагадкі ад містычных – чарговае зьяўленне Хрыста, да касмічных – прылёт іншапланетніка... Паколькі зьява ня мела ў дастатковай колькасці навукова абгрунтаваных адказаў і не знаходзіла рацыянальнага патлумачэння, віталіся нават самыя неверагодныя, самыя фантастычныя дамневы. Маёру найбольш пасавала думка пра сутыкненне з сіламі, якія зьяўляюцца ўнутранай духаасноваю ў нараджэнні й развіцці рэчаіснасці.

Ён так і напісаў у рапарце: "Мы спрабавалі падпарадкаваць сваёй праграме тое, што ёсць запраграмаванасцю намі. Іначай кажучы, марнасць нашых памкненняў бачыцца ў двух

невырашальных праблемах: 1) падпарадкаваць сабе Праграму-намі ўяўляецца немагчымым, бо гэтае не прадугледжвае самая Праграма – яна распазнае нашыя памкненні як шкодныя, 2) нават калі дапусціць, што наўмысны выхад па-за межы запраграмаванасці мы здолеем здзейсніць, гэта прывядзе адно да змены нашае ўласнае якасці – да страты свае рэчаіснае аўтэнтычнасці й да патраплення ў падпарадкаванасць да зусім іншых, невядомых сілаў, – што толькі кардынальна, назаўсёды аддаліць нас ад нашай сутнасці, нашых мэтаў і задачаў, бо зробіць нас ня намі.”

Інтуітыўна маёр лічыў, што эманацыя Андрэя Мікалаевіча Івановіча ў навакольную рэчаіснасць была адказам на спробы лабараторыі вывесці йснаванне за межы дадзенасці, – калі азірнуцца, дык у гістарычнай і дагістарычнай структуры зусім ня рэдкасць гэткія вобразаўцелаісненні са знечасоўя, а даволі хуткапаўтаральны алгарытм: Праграма спрэс, заўсёдна, мо з якой перыядычнасцю штохвіліннае вечнасці пасылае ў сістэму дадатковыя карэктывы, бо мары і памкненні пакінуць межы Праграмы ці заказіць яе вірусамі й разбурыць ніколі не спыняліся... У справаздачы маёр наўпрост указаў на тое, што ў часе эксперыменту з Андрэем Мікалаевічам усе памылкова лічылі, быццам уздзейнічаюць на сталёвую галаву, калі ў тым часе яна маніпулявала ўсімі...; і ўсей іхны эксперымент, і ўсе яны самі, і ўся іхная рэчаіснасць – усяго толькі карэктыўная думка сталёвае галавы.

Вядома, гэта ня веда, а толькі нічым, акрамя прадчування, неабгрунтаваныя здагадкі маёра, ягонае ўнутранае, запраграмаванае толькі ім... ці кім?.. чуйво – але і нават гэтае дае яму разуменне таго, што ён ніколі больш ужо ня будзе шчаслівы, паколькі далучыўся да глыбіні праўды, якая вытаемніваецца з нетраў нейкага невядомага, неспазнанага магутнага сэрцапрацэсару, што лічбаштукуе жыццё з вузкімі межамі кампутарнае гульні скрозь пульсацыю імгненняў кронабіялогіі; і гэты горад, і гэтыя механізмы, і гэтае насельніцтва, і лабараторыя... і жываформы ў прыцягальным мроіве сусветаўтворнага прыгону хігсаўскага поля... – усё гульня, межы якой маюць сканчэнне ў штокожным міліметры змайстраванае прасторы... Тут, пад покрывам біянасалоды, эстэтычнае натхнёнасці, акрыленых радасці й дабрашчасця, маёру прыадкрылася ісціна ўсеахопнага падману – неадпаведнасць між рэчаіснаўсвядомленым і праўдапакрыёмым. Зрэшты, гэтае ганьбавіннае пачуццё ўласнае праклятасці, наканаванае адроднае пахібнасці – крок творчага ўзвышэння на шляху спасціжэння і выжывання: цвярозае разуменне ўласнапрыніжанасці ў сапраўднай рэальнасці можа аберагчы ад катастрофаў і знікненняў і адкрыць правілы далейшых касмічных і атамных падарожжаў унутры аграмаднае сталёвае галавы, у межах ейнага бязмежнага думабяздоння; і... можа нават з часам атрымаецца перахітрыць Праграму, спасцігнуць і перапраграмаваць яе, праграмапера-адолець усялёс, забіць сусветны мозг і застацца ў ім жывымі, узламаць знутры адушны і непрабіваны сталёвы лоб і выйсці на абсягі беспрасторы і бесчасоўя..., – аднак цяпер лепш не гаварыць пра гэтае ўслых, лепш думаць пра гэтае грэшнымі, маўклівымі, спалоханымі, забароненымі, арыштаванымі, зняволенымі, табуіраванымі нейрамадэлямі... і лепш у скоранай натхнёнасці маліцца перад імем і вобразам наўзвышняе Электрычнасці Сусветнага Подуму...

Хаця... можа яно зусім і ня гэтак, як здаецца маёру.... Бадай што, усё зусім ня так, як яму мярэсціцца... Пэўна, усё зусім іначай... Верагодна, усё ня так... А як?.. А хрэн яго ведае як... Маёру загадалі напісаць рапарт, ён і напісаў...



*Масты,*
*ліпень 2009 года.*

**Да напісання і друку ўласных ўспамінаў я заўсёды ставіўся з насцярогаю. Яна вынікала з сумневаў, наколькі падзейна і эмацыйна напоўненая памяць, – праблема мемуарнага жанру ў тым, што пры недастатковае загрузцы, памяць рызыкуе рэпрадукцыраваць пустоту, замяняючы веліч і глыбіню перажытага малазначнасцю адноўленых малюнкаў, ператвараючы сапраўднае ў аблуднае, і вечнае – у кароткачасовае. Насцярожанае адчуванне няспоўненае, ненаталёнае, несфармаванае памяці ўсё больш і больш адступае з гадамі перад напаўненнем яе падзеямі, зьявамі, рэчамі, якія прыняць немагчыма і якія тым ня менш прыняць мусіш. Памяць ураўнаважвае гэтае пярэчанне між немагчымым і мусовым, раскрываючы напоўніцу творчую, мастацкую, якая ў кожным з нас, якасць душы – свет, які працягваецца ня гледзячы на тое, што завяршыўся, які ўсё яшчэ жыве, не паводле знешніх прыгонных законаў рэчаіснасці, а насуперак ім.**

# СЯРГЕЙ



*На здымку: Сяргей Наготка – справа ў першым радзе, Лявон Вашко – у другім радзе ў цэнтры. Вялікая Бераставіца, другая палова 1960-х гадоў. Здымак з архіва Лявона Вашка.*

Некалі, на пачатку семідзесятых гадоў, Сяргей Наготка адкрыў мне беларускую мову. Магчыма, штосьці пра яе мог я пачуць раней, ды і ад іншых людзей, але памяць яскрава зафіксавала якраз тое даўняе першаадкрыццё.

Запомнілася нашая размова, што адбылася ў ягоным доме. Быў 1971 год. У Вялікай Бераставіцы мы абодва вучыліся ў пачатковых класах у школе імя Сяргея Восіпавіча Прытыцкага: у тым часе Сяргей займаўся ўжо ў трэцім класе, а я шкалярыў у другім. У школе ў першых двух класах вучылі рускую мову, а родную мову пачыналі дадаткова вывучаць толькі на трэці год. Як чалавек, што паспытаў ужо грэх мачанага ў чарнільніцы пяра, але яшчэ не паспеў перасыціцца грэхаведаю, я пацікавіўся пра новы прадмет, які праз год меўся вучыць сам; звестка пра нейкую “новую” мову, якую давядзецца асвойваць, мяне моцна ўсхвалявала. Сяргей заспакоіў: нічога страшнага, беларуская мова такая ж, як і руская, толькі – значна лягчэйшая... З гадамі я адно ўпэўніўся ў тых ягоных па-дзіцячы мудрых словах: у блытаных, пакручастых акадэмічных дыскусіях, у шматтомных навуковых палеміках і доследах часта губляюцца вельмі простыя і разам з гэтай простасцю сталыя, асноўныя ісціны, што

***Увазе прапануюцца ўспаміны Лявона Вашка пра Сяргея Наготку. Яны напісаныя ў верасні 2009 года.***



*Сяргей Наготка. Гародня, 1967 год. Здымак з сямейнага архіва Наготкаў.*

натхняюць сваёй жывой вечнасцю нашыя ўпартыя беларускія словы, нашае неўміручае беларускае аканне...

Праз пэўны час Сяргей паказаў мне дзіцячы выпуск "Зоркі", які выпісвалі з Польшчы разам з беларускай штотыднёвай газетаю "Ніва" ягоныя бацькі. Пасля гэтага на штотыднёвік падпісаліся і мае бацькі, і я таксама пачаў атрымліваць ніўскую "Зорку". Памятаецца, беластоцкая газета "Ніва" выклікала ва ўсіх захапленне. Старэйшым асабліва падабаліся жыццёвыя парады, якія з добрым беларускім гумарам друкавала на газетных старонках рэдакцыя і якія весела прачытваліся ўголас у дарослай кампаніі. А мы, дзеці, як гэта зазвычаена ў маленстве, былі невыносна шчаслівыя проста з таго, што мелі.

У 1970 годзе, калі я пайшоў у першы клас, давялося сутыкнуцца з прыкрым становішчам. У школе існавала два паралельныя класы – "А" і "Б". Вучні з класа "А" фанабэрліва, без усялякае падставы вызнавалі сябе вышэйшымі за вучняў з класа "Б": як аргумент уласных абранасці й лепшасці яны вылучалі проста літару, якая ў алфавіце знаходзілася наперадзе ўсіх астатніх. Паколькі я вучыўся ў "Б", гэткі дурны, беспадстаўны нарцысізм дужа мяне раздражняў і крыўдзіў. Неяк я распавёў пра ўсё Сяргею, сказаўшы, што кашнікі з паралельнага класа, расшыфроўваючы літару "Б", пагардліва клічуць нас баранамі. Сяргей вучыўся ў класе "А", але нечакана ён праявіў класавую салідарнасць са мною – адной фразай ён разбурыў усе надуманыя супярэчнасці, якія ўяўна маглі бы паўстаць між намі.

– Ну, тады акаўцы – авечкі... – ужарты азначыў ён усіх, каго аб'ядноўвала літара "А".

Ягоны адказ мяне супакоіў. Лёгкая збянтэжанасць з таго, што *авечка*, паводле правілаў рускае мовы, пішыцца праз *о*, у дадзеным выпадку вялікага значэння ня мела, – а тым часе, дый ня толькі а тым, нейкія граматычныя акалічнасці здаваліся пустымі фармальнасцямі: якая розніца *о* ці *а*, галоўнае, што – *авечкі*... І беларуская мова, якую праз некалькі гадоў пачаў вывучаць наш клас, гэтыя фармальнасці канчаткова адпрэчыла...

Моманту знаёмства з Сяргеем Наготкам я ня памятаю – гэтага моманту "няма", бо ён тоіцца ў смузе, з якой толькі пачынала акрасляцца мая самасвядомасць. У Вялікай Бераставіцы нас вадзілі ў дзіцячы садок, верагодна, там мы ўпершыню і сустрэліся.

Сяргей быў крыху старэйшы за мяне, і гэтае заўсёды выклікала павагу да яго, – у дзяцінстве, калі адбываецца прагнае назапашванне эмпірыкі, нават маленькая розніца ва ўзросце адчуваецца як над'звычай вялікая адлегласць: вучні, якія займаюцца ў старэйшым класе, выглядаюць людзьмі бывалымі, здаюцца амаль іншым пакаленнем. Таму я заўсёды пазіраў на Сяргея знізу ўверх.

Разам з тым узроставая мяжа не была настолькі глыбокай, каб раздзяляць нас напоўніцу. Нас абодвух хвалявалі агульныя пытанні; проста, Сяргей увесь час быў крыху наперадзе: неспадзяванасці, якія яшчэ толькі паўставалі перада мною, былі ўжо знаёмыя яму, і ён ахвотна тлумачыў тое, што для мяне

пакуль існавала як загадка. На шмат якія рэчы я глядзеў ягонымі вачыма, і шмат якія зьявы я спасцігаў праз ягоныя пачуцці.

Пры ўсім я не адчуваў з боку Сяргея аніякага зазнайства, да мяне ён ставіўся як да роўнага, і нават з нейкім клопатам старэйшага брата. Гэта было сяброўства, у якім я адорваўся, а Сяргей – дарыў...

З тых першабытных дзён захоўваюцца ў маім класэры амерыканскія, канадскія, нямецкія, польскія, савецкія маркі, падораныя Сяргеем...; ляжыць у схове за хатаю на выпадак вайны італьянскі пластмасавы "наган" – Сяргей падарыў мне яго, як я ўжо быў у Мастох...; ляжыць у шухлядцы ў тумбачцы гульня "15" у чорным футарале – гэта галаваломка, у якой трэба спарадчыць знумараваныя косткі...; успамінаюцца прэзентаваныя Сяргеем польскі значок з выяваю Шарыка з кінафільма "Чатыры танкісты і сабака" і маленькі ножык у скураной похве, што носяць польскія "харцэжы", – іх хтосьці ў мяне падбрыў... Калі бацькі Сяргея пераязджалі на жыхарства ў Менск, дык прывезлі да нас Арапа, які ня дужа быў прыдатны да сталічнага жыцця. Арап – сапраўдны пагранічнік, нямецкая аўчарка з радаводам, у якім шмат медаляваных продкаў; сабака быў над'звычай кемлівы і прыгожы. Я навучыў яго скакаць цераз плот, не губляць сляды на ручаёх і шашы, затрымліваць "ворага", ролю якога ахвотна выконвалі апранутыя ў фуфайку і ватныя нагавіцы знаёмыя хлопцы; выконваў ён і менш складаныя каманды: сядаў, поўзаў, прыносіў кіёк, вартаваў... З сабакам я бавіўся цэлымі днямі, улетку знікаў у лясох, купаўся на Нёмне або Зальвянцы, узімку Арап пакорліва цягаў мяне за сабой на лыжах. Сабака нарабіў упадку ў гаспадарцы – задушыў колькі курыцаў і катоў; да таго ж было два выпадкі, калі ён злякаў малых дзяцей. Але ня глядзечы на ўсе свае правіны, ён пакінуў па сабе цёплы ўспамін. Арап валачыў сваю долю да 1988 года і пайшоў да прашчураў на Дзень волі, дваццаць пятага сакавіка...

Згадваючы даўнія падарункі, найперш мне ўспамінаецца дабразычлівасць, з якой яны рабіліся і якой агортвалася нашае з Сяргеем сяброўства.

Як і ўсе берастаўіцкія дзеці, мы гулялі: і ў хованкі ў доме па вуліцы Першага мая, 8, дзе Сяргей жыў з бацькамі й старэйшым братам Ігарам і які здаваўся нам тады аграмадным і бязмежным, і на двары ў пікара, у лапту, у футбол, і ў вайну, і ў Бэрка – у гульні жыд даганяе ўцекачоў, а тыя дражняцца "Бэрак, Бэрак, дай цукерак!", – і ў выбівалу – гэта калі два ўдзельнікі кідаюць мячыкам у іншых гульцоў і пры траплянні выводзяць, "выбіваюць" іх з гульні... Помніцца, а тым часе культывавалася гульня ў гарадкі, якая была створаная ў Савецкім Саюзе й існавала нават як від спорту – пад уплывам мультфільма "Ну, пачакай!", дзе гэтая гульня з гумарам адлюстраваная, гарадкі маглі захапіць нас з ранку да вечара; Сяргей добра ведаў усе фігуры й іх пачароднасць і перадаў веды мне...

Але найяскравей мне прыгадваюцца нашыя тагачасныя інтэлектуальныя гульні.

Запомнілася, як мы гулялі ў лато – драўляныя бочачкі з нумарамі наўслеп даставаліся з мяшэчка і раскладваліся па картонных картках... Гэта Сяргей навучыў мяне гуляць у даміно, на якое я доўгага часу пазіраў проста як на кубікі – я помню тую сваю першую гульню ў даміно за сталом з Сяргеем і ягонам братам Ігарам у іхным доме... Запомнілася, як Сяргей у нас у доме, што па Калініна, 8, з неверагоднай простасцю і лёгкасцю навучыў мяне шахматнай гульні, якую ў розніцу ад шашак я дагэтуль аніяк не даваў рады пераварыць... Паказаў ён гульню ў Чапаева: на шахматнай дошцы шашкі й фігуры з іх збіваюцца пстрычкамі...

Гулялі мы і ў карты – спачатку ў дурня. Часта да нашай гульні далучаўся й Ігар. Пазней Сяргей навучыў мяне картачным гульням у ачко і ў тысячу. А вось перад покерам нават ягоная

педагогіка дала збой – гэтую гульню я так і ня вывучыў, як і прэферанс... Думаю, вытокі майго невуцтва і ня сцёртых з памяці сумесных думных гульняў у тым, што я заўсёды ўнутрана стараніўся паразы. Гульня, дзе я стала праігрываў, рабілася для мяне нецікавай; таму падспудна я ўнікаў спаборніцтваў, што палягалі на ўскладнёных схемах, якія даводзілася доўга спасцігаць.

Рэч у тым, што з прычыны асаблівасцяў свае псіхічнае арганізацыі, я мог распачаць істэрыку са злязмі, напрыклад, з нагоды ўласнага пройгрышу некалькі разоў запар у шашкі ці паддаўкі; было колькі здарэнняў, калі я пасля прайгранае шахматнае партыі кідаўся ў рукабой. Злаваў да слёзаў, крыўдаваў ды псіхаваў і тады, калі прайграваў у карты. Каб хаця не прайграць, я часцяком махляваў, на чым мяне неаднаразова лавілі. Іншыя сябрукі цвелілі мяне ды злацешыліся ў разе майго фіяска, і шчыра абураліся ў часе майго картачнага махлярства ці тады, калі я неўпрыкметку скрадаў з дошкі шахматную фігурку або цішком перайначваў становішча на сваю карысць. Падсмейваўся з маех няўдачаў нават родны дзед Іван. Дзеда дурыць атрымлівалася найчасцей з прычыны ягонае старэчае няўважлівасці, а здаралася, што і з прычыны нецвярозасці; у часе раскрыцця маех махлярстваў ён лаяўся, а было, хапаўся за дзягу, – у гэтым мы з ім былі падобныя: карты адбіралі ў нас розум.

З Сяргеем гульня афарбоўвалася ў зусім іншыя колеры душы, у якіх унутраная прастора нашых забаваў разгортвалася нечаканымі адкрыццямі па-за знешнімі дэструктыўнымі матывамі тупога азарту. Сяргей умеў улагодзіць мае пачуцці, а калі і пакепліваў, дык неяк не калюча. Ён заўсёды падбадзёрваў, спачуваў крыўдам, і я лаўлю ў сабе падспудныя, бяздоказныя



*Сяргей Наготка са старэйшым братам Ігарам. Вялікая Бераставіца, канец 1960-х – пачатак 1970-х гадоў. Здымак з сямейнага архіва Наготкаў.*

здагадкі, што ён знаходзіў выпадкі, каб паддацца знарок, абы толькі не даводзіць мяне да адчаю.

Пасля таго, як давялося развітацца з Сяргеем – ён з бацькамі й братам зьехаў у Слонім, а мы з бацькамі й дзедам Іванам пераехалі ў Масты, – я вымушаны быў гуляць адзін. Бавы самнасам ратавалі маю неакрэплую дзіцячую псіхіку, давалі магчымасць заўсёды перамагаць ці ў шашкі, ці ў шахматы, ці ў карты, ці ў даміно... і разам з тым ня трацілі свайго пакрыёмага сакральнага значэння, якое ашчаджалася ў колешніх сумесных гульнях з Сяргеем і часта губілася ў зманлівай бязрозумнай жарсці ў спаборніцтвах з іншымі.

Каб уявіць утоены сэнс гульні, які схаваны пад аблудным паказным выглядам непрадуктыўнасці часапражыцця, можна прывесці прыклад спаборніцтваў па зборцы кубіка-рубіка, калі ўдзельнікі за кароткі час, збіраючы барвы скраняў пад секундамер, дэманструюць спрытнасць пальцаў і тэхніку зборкі, – аднак якраз у гэтым спартыўным задоры пераможцаў і пераможаных знікае сусветамадэль бударажлівых абстракцыяў гульца, ягоны збуджаны творчы свет думнае стэрыёметрыі, што ахоплівае бясконцую рухавую, амаль нееўклідаву колерапрастору кубіка... Мяне заўсёды хваляваў не спартовы, а акурат гэты творчы, сакральны змест драмадзеі. Маё напоўненае гульнёю адзіноцтва, у якім прысутнічалі адначасова некалькі супрацьпастаўленых удзельнікаў віртуальнае рэальнасці, збуджала думку, клікала яе ў зашыфраваную філасофію змадэляванага Сусвету, ягоных папяровых і драўляных лялькавых лёсаў ды ў псіхасвет уяўных гульцоў, развівала мроі ў бясконцай чарадзе сюжэтных нараджэнняў і катастрофаў. У гэтае дзеі не было, або было не багата, вытанчаных хадоў і бліскучых камбінацыяў, але мяне і ня вабіла тэхнічнае майстэрства, і я даволіўся тымі вядомымі мне ня дужа хітрымі прыёмамі, якія дазвалялі дасягаць канчатковае мэты, – мне падабалася хваляваца не выканаўчай віртуознасцю ў межах умоўных, агавораных формаў, а перажываць думніцтва, вычуваць саму бязмежную псіхічную ідэю формастварца – няхай і Бога, – якая знаходзілася ў аснове ўсіх тых разmaітых умоўнасцяў і абмежаванняў, хадоў і схемаў, правілаў і забаронаў, пагібельных дылемаў і шматмагчымых выбараў, авалодванняў і ахвяраванняў, сюжэтаў і развязкаў, тупікоў і ростаняў..., шматварыянтнасць якіх, іхная сукупнасць, і ўяўляла з сябе адзіноту свайго стварца...

Такім чынам, праз Сяргея я навучыўся гуляць і зразумеў таемную метафізічную сутнасць гульні.

Безумоўна, аднымі гульнямі справа не абыходзілася. У кожным з нас сядзіць нехта, і ў кожным з нас ён праяўляецца пароснаму. З мяне дэман лез міжвольнымі імпульсамі. Кагосьці гэта раздражняла, кагосьці бянтэжыла, некага весяліла... злавала... Памятаю буру, што паднялася на бясхмарным небе ў імкненні растлумачыць мне, як ня трэба хаміць дзядулю, калі я ў палемічным запале сунуў дзеду Івану пад нос дулю ў святле нейкае дыскусіі... Неяк мы разам з адным маленькім хлопчыкам зьедліва падкалупнулі старую бабульку, што жыла па суседстве, жэстамі эратычнага характару, якія я дбайна засвоіў у дзіцячым садку – здалося, тут жа супраць мяне паўстаў сам свет са ўсёй сваёй шматвекавой мараллю... Жыць у такіх умовах ды з маёю імпульсовасцю, ды ў малым веку было даволі складана, і стасункі з Сяргеем сталіся той зонай сяброўскай дабрыні, дзе ўсе мае негаданыя штукарствы, раптоўныя перамены настрою, неўтаймаванасць і непрадказальнасць знайшлі абсяг для вольнага, нязмушанага, утульнага жыцця.

Калі выбуховасць малацямнай ці, увогуле, бязглуздай энергіі, разгойдвала і здрыгала збалансаваны вакол мяне спакой і выклікала супрацьдзеянне, дык у судакрананні з душою Сяргея ўся бессэнсоўнасць псіхічных воплескаў утаймоўвалася

неверагоднай гармоніяй, якая жыла ў ім. Усе грымасы маех каверзных хвілінаў, непадуладных мне, раптам разбіваліся аб ягоную душу, набывалі вымярэнне, каардынаты, значэнне, яснасць у стройнасці і зладнасці ягонага ўраўнаважанага свету і вярталіся да мяне сэнсамі, у якіх я адкрываў самога сябе. Ягоны разважлівы спакой, што ўласцівы людзям, якія, як і ён, нарадзіліся пад сузор’ем Шаляў, заўсёды вабіў і чараваў сваёй дасканалай завершанасцю, усеахопнасцю, у якой можна было знайсці й скласці ў адное цэлае аскепкі фрагментарнага быцця, і ў тым ліку ўласна сябе; гэта быў свет неперадавальнага жыццёвага гучання, танальнасць і сілу якога немагчыма выказаць, але зрэдку можна нечакана пачуць у душы іншага чалавека.

Сяргей ніколі не процістаяў імпульсовым памкненням майго беса, шчыра вітаў іх, і нават патакваў ім, а было, што і сам браў удзел у нечаканых псіхапатыях, якія раздзіралі мяне на штукі, і надаваў душэўным дыфузіям і сувязаным з імі хімерам якасць зручнае, спакойнае, сталае экзістэнцыі. Гіз душы, што праймаў мяне, насамрэч ішоў ад нямоўнасці – душа прагла выказацца, а словаў у яе было мала, а тыя, што былі, яшчэ не зліваліся з сугуччамі жыцця, а існавалі ва ўрыўкавай, выпадковай і абмежаванай сістэме семіётыкі. Сяргей падбіраў, знаходзіў трапныя сэнсы пад мае перадмоўныя памкненні, з незвычайнай лёгкасцю словавызначаў яшчэ ня вызнаныя мною і не зразумелыя мне адценні й паўадценні паўсюльісных зьяваў і прадметаў; гэтак жа, як на беларускую мову, ён адкрываў мне вочы і на ўсей астатні свет – з такой жа нязмушанай, ускрыленай і неаспрэчнай дзіцячай мудрасцю.

Магчыма, сёння цяжка ўгледзець у даўніх адкрыццях тайнічыя жыццёвыя нетры, куды заварожана паглыбляўся мой малечы розум, але на той міг простыя і нязначныя рэчы здаваліся мне самымі важнымі, самымі неабходнымі ў часасвеце; таму яны непакояць і дагэтуль – у іх так і засталася прыкмета рахманае першыні не ацяжаранага гадамі жыцця. Міжвольна знаходзячы ў архівах даўнія выпадковыя вобразы я і сёння адчуваю патаемнае зьяўленне Веды, якая містычна распачалася кімсьці й адкульсьці звыш і прыйшла праз негаданае дзіцячае сяброўства, і засталася ў душы незвычайнымі ў сваёй абыдзённасці сімваламі жыццёвага запавету...

З гэтым усхваляваным пачуццём зберажонае незваротнасці прыгадваюцца разрозныя карцінкі пакінутага дзяцінства. І прыемны голас тэлефаністкі, якой ня трэба было паведамляць нумар сувязі, а дастаткова было папрасіць злучыць проста з Сяргеем – быў час, калі тэлефонныя перамовы ў Вялікай Бераставіцы здзяйсняліся праз камутатар, і тэлефаністка з



*Сяргей Наготка. Масты, пачатак 1980-х гадоў. Фотадзеячас.*

лагоднымі ўшчункамі, што дзецям пара ўжо спаць, і з настаўленнямі, каб доўга не гаварыў, падключала мяне да тэлефонанумару Сяргея, з якім мне так хацелася пагаварыць перад сном... І незвычайны ды незабыўны смак торта з дзіўнай назваю "Напалён", які прыгатавала на дзень нараджэння Сяргея ягоная маці Галіна Ігнатаўна... І "енька", якую я, Сяргей і ягоны брат Ігар, ухапіўшыся адзін за аднаго танчылі ў наваголнюю ноч... І сумесныя нядзельныя прагляды амерыканскага каўбойскага серыялу "Бананза" па польскім тэлебачанні – у нейкі год мы вучыліся ў розныя змены і былі абмежаваныя ў сутрэчах на перапынках і па-за школаю... І сэнс, і філасофія размаітых навасловаў – гэта Сяргей расказаў мне пра хіпі й моду на даўгія валасы, і распавёў мне пра "Бітлаз", хард-рок, "Дып Папал"... І растлумачыў, што такое вестэрн... І распавёў, у якія гадзіны і ў якія дні йдзе па Польшчы мультфільм "Лёлік і Болік"...

Яскрава запомніўся выпадак, як на пагранзаставе, у часе аднаго з прыездаў у суніцы, мы разам з сынам камандзіра слухалі кружэлку з песнямі "Дып Папал"; Сяргей і наш старэйшы таварыш абмяркоўвалі альбомы і сінглы, а я ўважліва матаў інфармацыю на акцябронскі вус... Калі ў Мастох, куды пераехалі мае бацькі з Вялікай Бераставіцы, я пасля пачатковае школы пайшоў у чацверты клас, мае аднагодкі падаліся мне дрымотнымі каўтунамі. Мае веды пра "пёрплаў" ня толькі не былі ацэненыя, але з мяне нават насмяяліся, – рабяты, апрача як песню "Валенкі" па "радзіве", яўна нічога ня чулі; і толькі пры канцы пятага класа ласкавым травеньскім дзяньком у злямчаныя віхры піянераў прабілася сталёвая воля хард-року...

З пераездам у Масты стасункі з Сяргеем не абарваліся; штось лучыла нас насуперак расстанню. На канікулах я прыязджаў да Сяргея ў Слонім, куды перабраліся ягоныя бацькі, гасцяваў у іхным доме над Шчараю. А Сяргей прыязджаў да мяне ў Масты; бываў у Мастох і ягоны брат Ігар.

Слонімскі час памятаецца падарожжамі па старажытным горадзе, купаннямі ў Шчары, блуканнямі ў тамох "Всемирной литературы" і ў дыхтоўных амерыканскіх ды ангельскіх рускамоўных часопісах, якія былі ў хатняй бібліятэцы, абертонамі "Свінцовых цыпілінаў", "флойдаў", ды іншай роксвабоды, што злятала з гітарных або піянінных струнаў у выкананні Сяргея... А ў Мастох мы сыходзілі ў лясы, каталіся па Нёмне на надзіманай лодцы, якую прывёз мне з Францыі мой дзядзька Лёня, жылі ў наметцы ў садзе... Пазней, калі бацькі Сяргея пераехалі са Слоніма ў Менск, я наведваўся да яго ў сталіцу.

Мне часта прыгадваюцца нашыя тагачасныя гутаркі з утоенымі сэнсамі міжсловаў. Адное і тое ж слова, калі паўтараць яго з рознай інтанацыяй, нараджае дзесяткі розных, часта супрацьлеглых значэнняў. Спрэчкі й размовы – гэта сутыкненні й спалучэнні "інтанацыяў", словаадценняў, псіхічных прамаўленняў і ўспрыняццяў; таму часта сумоўнікі, спрачаючыся, насамрэч даводзяць адзіную думку. Сяргей неверагодна лёгка настройваўся на ментальную хвалю меркаванняў суразмоўніка, імгненна знаходзіў інтанацыйную сутнасць гаворкі й тут жа напаўняў спрэчку зладнасцю. Бывала, мне карцела перамагчы ў размове нягледзячы на ўсе Сяргеевы высілкі ў справе паразумення; тады ён проста з лёгкасцю згаджаўся, каб мне было лягчэй, і гэткая ягоная знарочыстая згода адно змушала слухаць голас розуму. Неяк я натрапіў у электроннай сетцы на каментар, які Сяргей Наготка на пасадзе дырэктара менскае харчовае крамы "Ларэнда" рабіў для інтэрнэт-выдання: я адразу ж пазнаў ягоную адметную здольнасць зразумела ахарактарызаваць складаную праблему і прапанаваць просты, прыймальны спосаб вырашэння. Ягоны

каментар прыгадаў мне даўнія шчырыя бясёды, у якіх мы душаспазнавалі вобразы і паняткі скрозьпаўсюднае існасці.

Нашыя спатканні з кожным разам адкрывалі перад намі ўсё новыя тэмы – мы раслі, і разам з гэтым ростам адбывалася і тэматычная градацыя; дый развіццё мыслення ад неўгамоннага дзіцячага ў бок яшчэ пакуль не задубелага дарослага бясконца адкрывала ў нашых стасунках навіну. Ад каўбойскіх пісталетаў й індэйскіх тамагаўкаў мы паступова прыйшлі да пошуку тых таямніцаў, што Імануіл Кант шукаў унутры самаго сябе – памятаю, як у Мастох, замкнуўшыся ў гаражы, мы вычытвалі ў кніжках Ігара Кона ўрыўкавыя звесткі пра фізіялогію, што будзілася ў нас... Помню, як спрабавалі разабраць хрыпенне словаў на цёртых магнітафонных запісах з песнямі Высоцкага, як насілі клёшы й абіякі, як палілі "Мальбара", як хадзілі на танцпляцоўку, як абмяркоўвалі сакрэты, што тоіліся пад строямі жаночых сукенкаў... Сяргей быў адораны той прыгажосцю, якая не пакідала абыякавым супрацьлеглы пол. Найпрыгажэйшыя дзяўчаты былі закаханыя ў яго. Гэта выклікала розныя праблемы, сувязаныя з рэўнасцю канкурэнтаў. У часе чарговага прыезду Сяргея ў Масты распачалася праз адную Алену траянская вайна з племем мясцовых ці то дон жуанаў, ці то атэлаў, на якой мы, ня гледзячы на перавагу супраціўніка ў жывой сіле, здолелі авалодаць стратэгічнай ініцыятываю і развіць яе ў перамогу.

Часам наш дуаэт выклікаў заклапочанасць у дарослых, і часам тое часам здаралася даволі часта, але ж – мы з першае хвілі самапачатку нікому нічога не абяцалі... Да таго ж шалапуцтва так і засталося шалапуцтвам, і тое, што яно не перарасло ў глабальныя беды, можа быць апраўданнем.

У гэтай сувязі прыгадваецца выпадак, што адбыўся ўзімку можа 1978, а мо і 1979 года – а часе, калі я вучыўся ў дзевятым класе.



*Сяргей Наготка – афіцэр Савецкае Арміі. Лепель, сярэдзіна 1980-х гадоў. Здымак з сямейнага архіва Наготкаў.*

Усе мы цягам жыцця ў рознай меры спрабуем здаць Самуэлю Ленгхарну Клеменсу экзамен на Тома Соера. Нейкага дня я нечакана адчуў сверць у месцы, якое лепш бы не свярбела, і спешна пачаў збірацца ў дарогу. Была ў мяне капілачка ў выглядзе аленя: цягам хуткаплынных гадоў дзяцінства я дбайна кідаў у яе сціплыя дарункі лёсу ды напрактыкаваўся падсоўваць яе дарослым, якія, было, гасцявалі ў хаце, з просьбаю праявіць шчодрасць. Любіў я ўзяць аленя, паважыць яго рукамі, патрэсці яго, паслухаць звон манетаў..., і – пачуць, як у тым самым месцы пачынае свярбець дух авантурызму. Калі скарбонку я разбіў, дык у ёй знайшоў больш за семдзесят рублёў – шчодрасць вымяралася, праўда, усяго двума чырвонцамі, траплялiся пяцёркі, траячкі й рублі...; але найбольш назбіралася разменнай дробязі – запомніліся поўныя кішэні жаўцякоў. Да назбіраных грошай я далучыў колькі чырвонцаў, якія, каюся запознена, прыхапіў з шухлядкі бацькоў, і – разам з Віктарам Ляонікам па мянушцы Бык Віллі, які вучыўся на клас ніжэй за мяне, мы зьехалі з Мастоў у Менск маскоўскім цягніком.

Перад ад’ездам некалькі дзён запар, каб нас не знайшлі, калі кінуцца шукаць, я распавядаў аднакласнікам і ўсім сваім знаёмым, што маюся ехаць у Гародню. Па прыездзе ў Менск мы скіраваліся ў школу, дзе вучыўся Сяргей і адшукалі яго на перапынку. Я растлумачыў акалічнасці нашага прыезду, і Сяргей зараз жа прапанаваў спыніцца ў падвале дома, у якім ён жыў.

Сутарэнне падыходзіла для жытла як мае быць: яно ацяплялася, было абсталяванае каналізацыяй і замыкалася. Сяргей даў нам ключ ад дзвярэй, і мы абжылі сабе ўтульны закуточак. Мне і сёння ўспамінаюцца вечары ў спад’зяменні, тая абсалютная бесклапотнасць менскае цемры, у якую мы, спаліўшы па цыгарэтцы, соладка засыналі, і з якой прачыналіся наранку ў пачуццё лёгкае расчараванасці – няпэўнасць дня напроці ціхамірнае мудрасці ночы была нашай платаю за свабоду, мінусам, што ўраўнаважваў плюсы рамантыкі.

Бязлітаснасць іроніі хавалася ў тым, што гэта была толькі завязка фабулы. З гадамі высветлілася, што ў доме, дзе мы атайбаваліся – на Пуліхава, 29, – жыло шмат вядомых у беларускай культуры людзей. Са шмат якімі мне давялося пазней пазнаёміцца вочна, а з некаторымі пазнаёміцца я так і не паспеў. Тут касіў канюшыну пясняр Уладзімір Георгіевіч Мулявін, тут вершаспавядаўся паэт Пімен Емельянавіч Панчанка, тут блукаў у Вялікім Лесе празаік Барыс Іванавіч Сачанка, тут слухаў плач перапёлкі празаік Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў, тут глядзеў камсамольскія сны з жудаснымі ружовымі соцрэалістычнымі кашмарамі будучы, а ўжо магчыма і былы, эміграноцкі літкрытык-рэцыдывіст Сяргей Іванавіч Дубавец, тут і мы з Быком Віллі сваім зьяўленнем, прысутнасцю, дымком танных цыгарэтаў і сілаю маладога ды вечнага Духу мацавалі фундаменталізм беларускае культуры.

Сяргей нас не пакідаў: ён падкормліваў нас, падтрымліваў маральна. У размовах з ім закінутасць нашых дзён і бунтарскія парыванні акрасляліся ў філасофскую глыбіню свабоды, а ягоная спагадлівасць грэла душу.

Менскія канікулы скончыліся негадана. У часе чарговага сталавання на кухні ў кватэры Сяргея нас застукала ягоная маці Галіна Ігнатаўна. Мы з Быком Віллі спрабавалі зацішыцца за кулісамі штораў. Каб не абутак і адзенне, пакінутыя намі ў прымені, гэта быў бы хітры ход, а так – атрымалася вельмі наіўна і даволі камічна. Праз ужо колькі гадзінаў каля пад’езду стаяў міліцэйскі “варанок”, на якім мы з Віцем у суправаджэнні начальніка Мастоўскага раённага аддзела ўнутраных справаў падпалкоўніка Булая былі дэпартаваныя ў Масты на бацькаўшчыну.

Потым мы яшчэ неаднаразова сустракаліся з Сяргеем: ён прыязджаў у Масты, а я, ужо афіцыйна, гасцяваў у доме на Пуліхава; збіраліся мы разам і ў студэнцкія гады – і ў яго, і ў мяне, у інтэрнаце на Кастрычніцкай вуліцы...

Пасля журфаку я паехаў на раён. Сяргей пасля Інстытуту замежных моваў два гады служыў афіцэрам у войску, камандваў танкавым узводам; потым рабіў перакладчыкам у Менску, пэўны тэрмін працаваў за мяжою, у Афрыцы; нарэшце з дзяржаўнай службы падаўся ў камерцыю... Праца ды дарослы век разлучылі нас, але маё сяброўства з Сяргеем ня скончылася – проста перайшло ў латэнтныя, не відавочныя формы; стасункі нашыя перапыніліся, але з дапамогаю памяці яны працягваліся ўва мне...

Нейкага дня я выпадкова спаткаў Сяргея на менскай вуліцы, на ўсё той жа Пуліхава, каля ягонага дома. Craналогія гэтай падзеі цалкам выпадае з успамінаў; атаесамленні кажуць на пару нейкае ўнутранае спустошанасці, на грамадскі час, у якім усе, а мо і кожны, раптам страцілі сваю асабістую мінуўшчыну, знялёсіліся; а мо, нашае спатканне адбылося ў тым пункце кронікі, дзе час траціць свае ўласцівасці й размываецца ў бесчасоўі?.. Ва ўсялякім разе, у памяці адлюстраваўся адно эмацыйны фон сустрэчы. Мы абняліся. Помніцца ўзнёслы, радасны твар Сяргея. Але, як гэта здараецца пасля працяглага расстання, калі рвецца кантэкст сталае ўзаемапрысутнасці, размову апалонілі агульныя фразы. Наўкольная пустота ўсмоктвала мяне ў свае адоймы – я спяшаўся кудысь насустрач з кімсьці, і Сяргей ня стаў навязвацца. Мы развіталіся. Ён павольна пайшоў у мітульгу, восеньскага, а мо вясновага, халаднаватасонечнага дня, а я павярнуў у нейкі завулак гістарычнае кавітацыі – насустрач пустагазавым утварэнням з персанажаў без біяграфіяў і лёсаў, з тухлаватых лозунгаў, з нікчэмных, падобных на выдраныя з рыбы зябры, бутафорскіх душаў...

Высветлілася, што гэта была нашая апошняя сустрэча, і асадак, што заставаўся ад непрамоўленасці патрэбных словаў, якія б маглі пакінуць засечку на часе, афарбаваўся ценем віны. Нявыказанасць шматлікіх гадоў так і засталася цяжарам. Чамусь нам з Сяргеем больш не патрапіла пабачыцца ці хоць бы пагутарыць па тэлефоне... Да мяне раз-пораз даходзілі чуткі, што ўсё ў яго ідзе сваім торам, і звесткі пра ягоную ўладкаванасць сталіся, відаць, прычынаю мае супакойлівасці. Пры тым сяброўства з ім па-ранейшаму жыло ў тым далёкім цэнтры свядомасці, вакол якога павяртаецца астатні космас; адымі гэты цэнтр, і – рассыпіцца ўсё наўкольнае... І раптоўнае, нечаканае ўсведамленне страты раптам прыадкрыла далячынь самасвету, які ня скончыўся з заўчасным сыходам Сяргея, не паменеў, а напоўніўся новым, дагэтуль ня вызнаным у нашым сяброўстве пачуццём болю.

Пра смерць Сяргея я даведаўся толькі праз тры дні па ягоным пахаванні й таму не прысутнічаў на развітанні. Трэцяга верасня ў Масты патэлефанаваў ягоны бацька Эдуард Іванавіч і паведаміў пра трагедыю. Сяргей памёр трыццаць першага жніўня, а дваццаць пятага верасня 2009 года яму споўнілася б сорак сем гадоў.

Як заведзена ў выпадках, калі трэба вызначыць сябе ў прамінулым часе, я разгарнуў свой "бартавы часопіс" і пабачыў, што ў тыя чорныя дні мне добра не было. Паводле пакрыёмых законаў, што тояцца па-за знешнімі праявамі свету і зашыфраваныя ва ўмоўных калізіях гульняў, адкрытых калісьці праз Сяргея, мая душа не была на месцы – у апошні летні дзень яна насілася там, у пакоі, дзе ўрачы хуткай дапамогі марна спрабавалі запусціць спыненае сэрца, і назаўтра лунала над Менскімі паўночнымі могілкамі...

Цяпер прытулак душы – у далёкім пункце свядомасці, вакол якога развіваюцца цэнтрабежныя сілы рэчаіснасці, у абуджаным, шчымлівым часе памяці, у незнікомым пачуцці дзівоснага сяброўства, якое зьявілася раней за мяне самога, дзесьці за ўскраінаю дзяцінства, там, дзе ўсё яшчэ адбываецца бяспамяцтва распачатага жыцця; то сяброўства, якое ніколі не расчаравала, якое падарыла шмат таго, што зрабілася родным, блізкім, дарагім, і якое нічога не папрасіла ад мяне ўзамен.

***Масты, верасень 2009 года.***

# ЛІСТ СЯРГЕЯ НАГОТКІ ДА ЛЯВОНА ВАШКА[1]




27/V/80

*Здравствуй, Лёня!*

*Решил написать тебе пару слов, т. к. давно мы с тобой уже не виделись, а следовательно, не разговаривали. Живу я ничего (“so, so” по англ.: и не плохо, и не хорошо). Уже на носу летняя сессия. 29 мая сдаю 1 экзамен – языкознание. Теперь сижу и усиленно готовлюсь. Недавно я решил сделать себе небольшой “отпуск”. Поехал в Гродно, никому ничего не сказал. Такие заскоки иногда бывают. Зато посмотрел Гродно, встретил “кучу” знакомых. В общем, время провел отлично. Правда, по возвращении было небольшое (brainwashing) “промывание мозгов” от родителей. В общей сложности я проездил целую неделю. Пришлось наверстывать упущенное в институте. После экзаменов опять собираюсь съездить в Гродно (уже легально). У тебя сейчас период времени будет не из лёгких. Сначала школьные экзамены, потом вступительные, а потом пойдут сессии. Тебе теперь главное сделать хороший аттестат, “4,5”, не меньше, и поступить в ВУЗ, потому что это не техникум или ёще что-нибудь в этом роде. Студенческая жизнь – самая весёлая, это тебе не школа. Так что смотри сам, что тебе лучше. Думай!!!?*

*На июль и август я еду в стройотряд, так что у меня будет свободным только июнь, да и тот не весь. Я заканчиваю сессию только 7 июня.*

*На этом заканчиваю свою писанину. Извини меня за такие каракули и исправления. Пишу полулёжа в кровати.*

*Ответа не жду, т.к. у тебя теперь скопление всяких “дел”. Расшифровывать эти “дела” не буду, потому что ты о них лучше меня знаешь.*

*Если получится, то может быть приеду на день, два, тогда обо всем поговорим.*

*Сергей*

*P. S. 2 июня ты пишешь сочинение. Ни пуха тебе, ни пера!*



***Сяргей Наготка (25 верасня 1962 года, Гародня – 31 жніўня 2009 года, Менск). Адзін з апошніх здымкаў. Станькава, 3 ліпеня 2009 года. Фота з сямейнага архіва Наготкаў.***




**[1]Гэты ліст Сяргей Наготка напісаў у Менску дваццаць сёмага траўня 1980 года і даслаў у Масты да Лявона Вашка. Захоўваецца ў асабістым архіве Лявона Вашка.**

*Алесь БЕЛАКОЗ*

# САМАРОСЛАЯ МЕТОДЫКА

***Пяць секунд на адказ...***

У часе працы ў школе я сутыкнуўся з праблемай выкладання, шляхі вырашэння якой доўга не мог знайсці. Цяжкасць была ў тым, што праверка хатняга задання адбірала на ўроку шмат часу і яго мала заставалася на тлумачэнне новага матэрыялу. Сэканоміш на тлумачэнні – гэта ўскосна адаб’ецца на якасці той жа хатняй падрыхтоўкі. Праверка ж якасці выканання хатняга задання абавязковая, без яе навучальны працэс не дасць станоўчага выніку. Але як яе правесці за 5-10 хвілін?

На гэтае пытанне адказу я не знаходзіў.

Спрабаваў праводзіць ушчыльненае апытанне – апытваў адначасова некалькіх вучняў па картках.... Але час усё роўна не эканоміўся.

Тады прыйшла выснова, што трэба дзетак вучыць скарочанаму напісанню адказаў на пытанні, якія неабходна ставіць так, каб вучань за 5-8 секунд даў поўны пісьмовы адказ.

Але ж да гэтага трэба рыхтаваць дзетак. А як гэта зрабіць?

Пасля адпаведнай падрыхтоўкі мой урок па беларускай мове выглядаў, прыкладна, так.

Першае. Заходжу ў клас і з парога стаўлю такое пытанне (з дзецьмі мы ўжо бачыліся):

– Запішыце ўсе глухія зычныя.

На папярэднім уроку праходзілі правапіс прыставак. Картачкі

**Самарослая методыка Алеся Мікалаевіча Белакоза – творчы вынік шматгадовае педагагічнае дзейнасці. Распрацаваная методыка з цягам гадоў ня толькі ня траціць значнасці, але наадварот – час актуалізуе вартаснасць народжаных ідэяў і знойдзеных прыёмаў, робіць іх надзённымі ў сённяшнім навучальным і выхаваўчым працэсе.**

**Каштоўнасць дадзенай сістэмы ў тым, што яна дазваляе за кароткі тэрмін перадаць вучням павялічаны аб’ём ведаў, што ў цяперашніх умовах асабліва важна. Педагагічны бок самарослай методыкі скіраваны на збуджэнне ў дзецях творчага стаўлення ў спасціжэнні ведаў і навакольных зьяваў – яна мае на мэце фармаванне ў вучню развітае, актыўнае, ініцыятыўнае асобы з самастойнымі поглядамі на рэчаіснасць і аналітычнымі здольнасцямі. Алесь Мікалаевіч бязмежна пашырыў вузкія межы асобнай дысцыпліны, напоўніўшы іх бясконцасцю вечных існінаў, якія часта застаюцца па-за ўвагаю ў працы іншага настаўніка і якія часцяком з вялікімі цяжкасцямі даводзіцца спасцігаць кожнаму з нас скрозь усё жыццё. Урокі беларускіх мовы і літаратуры Алеся Мікалаевіча сталіся для вучняў і духатворчымі ўрокамі. Апрача асноўнага прадмета, вучні спасцігалі сакрэты мастацкае, выдавецкае, навуковае дзейнасці, займаліся літаратурнай творчасцю, даследваннем гісторыі свайго краю, збіраннем беларускай фальклорнай спадчыны, музейнай працаю, выпускалі самавыдавецкі часопіс “Праменьчык”, знаёміліся з сакрэтамі кнігадрукавання і працы на друкарскай машынцы, вялі перапіску з вядомымі ў Беларусі й свеце асобамі, якія зычліва дзяліліся з дзецьмі сваёй мудрасцю... Праз закладзеныя ў родныя літаратуру і мову вялікія маральныя каштоўнасці, філасофскія глыбіні гудзеўскі настаўнік выхоўваў у дзецях высокія духоўныя якасці, пры гэтым вялікае значэнне ён надаваў выхаванню шчырага беларускага патрыятызму.**

**Выкладчыцкі й педагагічны досвед Алеся Мікалаевіча Белакоза вывучаўся Міністэрствам асветы. Гэты досвед і сёння маральна не састарэў і ня страціў практычнае вартасці; а ва ўмовах глабальнага вынішчэння духоўных каштоўнасцяў беларусаў ён над’звычай патрэбны. З некаторымі падрабязнасцямі самарослае методыкі можна пазнаёміцца на старонках “Дзеячасу”. Надрукаваныя тут урыўкі з успамінаў Алеся Мікалаевіча прыдадуцца як педагогам, так і тым, хто імкнецца да папаўнення ўласных ведаў і духоўнага самаўдасканалення.**



***У настаўніцкай дзейнасці Алесь Мікалаевіч Белакоз аддаваў вучням усе свае сілы і час. Гэта патрабавала ад яго ных блізкіх разумення і гэткай жа самаадданасці. Вера Ігнатаўна, жонка Алеся Мікалаевіча – таксама педагог. Дзякуючы ейнай падтрымцы творчых ініцыятываў мужа, самаpрослая методыка дала свой плён.***

***На здымку: Алесь Мікалаевіч і Вера Ігнатаўна Белакозы. Гудзевічы, дваццаць першага чэрвеня 1986 года. Фотарэпрадукцыя Ўладзіміра Каўшовіка.***

– восьмая частачка ліста са сшытка – у кожнага вучня на парце. Прозвішча падпісана.

Вучні запісваюць: *птш, сфх, кчц* – так вучні дзеляць глухія зычныя, каб лягчэй завучыць іх. Некалькі секунд і – адказ гатовы.

Другое пытанне:

– Запішыце ўсе прыстаўкі, якія канчаюцца на *з*?

Дзеці пішуць: *з-, уз-, раз-, без-, цераз-, праз-*. Зноў – дзесяць-пятнаццаць секунд.

Прашу:

– Запішыце тыя прыстаўкі, якія ніколі не мяняюць свайго апошняга зычнага.

*Аб-, ад-, над-, пад-, прад-, перад-* – яшчэ пятнаццаць секунд.

– Прыдумайце слова, у якім прыстаўка перад глухім зычным мяняе апошні гук.

Дзеці пішуць: *расклад*.

Затым прапаную пытанні на паўтарэнні.

– Якія лічэбнікі захоўваюць *е* нават у першым складзе перад націскам.

Адказ: *інш. пах.* (іншнамоўнага паходжання), *9-ы* (дзевяты), *10-ы* (дзесяты), *17-ы* (семнаццаты), *18-ы* (васемнаццаты).

– Разбіце на склады, пастаўце націск і пранумаруйце склады.

Дзеці пішуць: *це²-ця¹-рук/, зям¹-ля/...*

Нарэшце вучні адказалі на ўсе пытанні.

Вучань з апошняй парты збірае толькі свой рад. Адразу збіраюць карткі 4-6 вучняў. Гэта займае толькі некалькі секунд. Усё апытванне доўжыцца тры-чатыры хвіліны.

Вядома, перад тым, як пачаць такое апытванне, трэба навучыць дзетак

***"Дзеячас" працягвае публікаваць нарысы Алеся Мікалаевіча Белакоза з кніжкі ягоных успамінаў, якая рыхтуецца да выдання. Асобныя раздзелы з будучай кніжкі друкаваліся ў папярэдніх выпусках "Дзеячасу" (№ 14, № 15).***

даваць сціслыя адказы і запісваць іх скарочана: “разумны разумнага разумее” – часта я казаў сваім вучням.

Тэма “Скарочанае напісанне слоў” праходзілася ў пятым класе. Не маглі мы чакаць да пятага. Вывучылі гэтую тэму ў пачатку верасня ў чацвёртым. Тыдняў тры вучням памылкі ў скарачэннях не ўлічваў, толькі папраўляў і выносіў на палі, каб дзеткі мелі магчымасць рабіць працу над памылкамі, а вось праз нейкі месяц ужо гэтыя памылкі ўлічваў, але пакуль лічыў іх не грубымі.

І вось запоўненыя карткі ляжаць на стале настаўніка. Пачынаю тлумачыць новую тэму. Вучні слухаюць вельмі ўважліва: яны ведаюць, што зараз на гэтыя пытанні трэба будзе адказваць вусна, а пасля пісьмова, а таксама – на наступным уроку.

Пасля тлумачэння, якое займае каля трыццаці хвілін, ставлю пытанне па новай тэме. Падымаюць рукі не ўсе вучні. Выклікаю аднаго, а астатніх папярэджваю, што зараз жа гэтае пытанне будзе пастаўлена зноў. Вучань адказаў. Зноў паўтараю гэтае пытанне. Рукі падымаюць усе, акрамя Максіма. Хтосьці са слабейшых вучняў адказвае. Пытанне паўтараю трэці раз. Падымае руку і Максімка. Адказвае. Паўтараю пытанне чацвёрты раз. Вучні скарочана, у хатніх сшытках запісваюць адказ на пытанне. Хтосьці са слабейшых чытае запісаны адказ.

Пераходзім да другога пытання. Зноў стаўлю пытанне раз, другі, трэці, а як трэба, то і чацвёрты. Запісваем адказ у сшытак. Так прапрацоўваем увесь параграф.

Пераканаўшыся, што дзеці правілы ведаюць, даю самастойнае заданне (практыкаванне з падручніка). Дзеці працуюць, а я хуценька аб’яўляю адзнакі за карткі. Вучні працягваюць працаваць, а я чытаю кожнаму адзнакі за карткі. Называю прозвішчы:

– Ахрэмчык – 5/5, Багдан – 5/5, Дзямбіцкі –5/5, Леська – 5/4...

– Чацвёркі, калі ласка, не стаўце, – просіць Леська...

Чытаю:

– Ягнешка – 4/5...

– Чацвёркі не стаўце, – просіць Ягнешка...

Гэта значыць, што вучань яшчэ раз выканае пісьмовае хатняе заданне і, калі атрымае пяцёрку, то я яе пастаўлю ў класны журнал. Спачатку па метаду Шаталава[1], з якім я ліставаўся, ставіў вучням, што не былі згодны з першай адзнакай, апошнюю. Аднак дзеці прасілі дазволу пераздаць яшчэ раз, але – не вучылі. Следам за мной пачалі хадзіць усе вучні: яны не рыхтаваліся, але хацелі атрымаць пяцёрку. Тады я аб’явіў наступнае: пры выстаўленні адзнакі ўлічваю першую, другую і трэцюю. Вучань атрымаў першы раз чатыры, другі раз пяць – заўсёды акругляю ў карысць вучня: стаўлю ў журнал пяцёрку.

На ўроку, у часе, калі вучням заношу ў журнал усе адзнакі, выстаўляю іх і ў дзённікі. Увесь клас выконвае практыкаванне на замацаванне новай тэмы, а вучні з першай парты нясуць да стала настаўніка дзённікі – гэтым выстаўлю адзнакі, падходзяць вучні з наступнай парты... Калі выстаўлю ўсім вучням адзнакі ў журнал і дзённікі, то правяраем самастойную работу, запісваем хатняе заданне. Калі застаецца хвіліна ці дзве часу, вучні маюць права выконваць хатняе заданне, якое звычайна займае менш за паўстаронкі.

Лічу памылковым імкненне некаторых настаўнікаў загрузіць вучняў бескарысцнай працай. Часам задаюць перапісаць васемнаццаць ці дваццаць сказаў. Я найчасцей задаваў адзін-два сказы з практыкавання. Але ў першым сказе вучні павінны растлумачыць усе граматычныя і сінтаксічныя арфаграмы.

Напрыклад, у слове *ад’язджае* вучань павінны над ненаціскной літарай *а* паставіць націск і закрэсліць яго – гэта значыць, што тут літара не пад націскам, таму пішацца не *о*. Таксама вучань павінны растлумачыць, што *ад-* пішацца разам,

**[1]Шаталаў Віктар Фёдаравіч (н. 1927), украінскі педагог, настаўнік-матэматык. Распрацаваў сістэму выкладання з выкарыстаннем апорных сігналаў; педагогіка заснаваная на прынцыпах супрацоўніцтва настаўніка і вучняў.**

бо прыназоўнікі з дзеясловамі не ўжываюцца. Да таго ж ён павінны ўказаць: *ад- – нязм. прыст.* – гэтыя скарачэнні абазначаюць: *ад-* – нязменная прыстаўка, а таму *д* у дадзеным выпадку ніколі не пераходзіць у *т*. Далей вучань указвае: пасля прыстаўкі *ад-* перад ётавым галосным пішацца апостраф. Чаму слова пішацца праз *я* вучань не тлумачыць, бо ён ужо над другім *а* паставіў націск, а над *я* адзінку – гэта значыць, што *е* ў слове *ад'язджае* перайшло ў *я*, бо яно ў першым складзе перад націскам. Таксама вучань паказвае, што *д* можа чаргавацца толькі з *дз* і *дж* – ён піша: *д-дз-дж*, – што пасля зацвярдзелых зычных ётавыя галосныя не ўжываюцца, што дзеясловы ні ў якой форме не маюць канчатка *-я*, таму слова мае канчатак *-е*.

Такое тлумачэнне кожнай арфаграмы займае два-тры радкі ў першым, а часта і адзіным для задання сказе. Вучні абавязаны падкрэсліць адпаведнымі рыскамі дзейнік, выказнік, азначэнне, дапаўненне, акалічнасць. Над кожным словам надпісаць, калі гэта назоўнік – *н.*, прыметнік – *пр.*, дзеяслоў – *дз.*, лічэбнік – *л.*, займеннік – *з.*, прыслоўе – *прысл.*, прыназоўнік – *прыназ.*, часціца – *ч.*, выклічнік – *в.*

Прашу ў вучняў чацвертага класа тых часцін мовы, якіх мы не вывучалі, не вызначаць. Але ж гэта дзеці! Яны дапытлівыя. Часта сыплюцца пытанні, якая часціна мовы *ой, на, і, весела, сем*... Даводзіцца тлумачыць...

Што гэта дае?

Неяк выкладчыцу беларускай мовы, якая працавала ў шостым класе, паслалі на курсы. Яна мне кажа:

– Мы скончылі вывучаць прыслоўе, а наступны ўрок абагульняючы. Вядзіце, як хочаце.

Зайшоў я ў клас, выклікаў да дошкі вучня:

– Пішы: *Весела пераліваліся праменьчыкі сонца ў буйнай кроплі расы.*

Напісаў.

– Падкрэслі адпаведнымі рыскамі члены сказа.

Так-сяк падкрэсліў, хоць даводзілася падказваць. На слове *весела* забуксавалі і ні з месца. Не ведае, якая часціна мовы. Задаў пытанне ўсяму класу – ніхто не можа адказаць. Сказаў я вучню:

– Там, на калідоры, чацвёртакласнікі, у іх будзе рэпетыцыя, то падыдзі, Кажэцкі, запрасі каго-небудзь з іх у клас: няхай дапаможа.

Кажэцкі прывёў Максіма, самага слабога вучня. Захваляваўся я, але надзеі не трачу:

– Скажы, Максімка, шостаму класу, якая часціна мовы *весела*, бо мы не можам вызначыць.

– Гэта ж прыслоўе! – горда абвёўшы позіркам клас, заявіў Максім.

Ён прыслоўе пачне вывучаць толькі ў шостым класе, а ўжо сёння пазнае нават і дзеепрыметнікі – тут, бывае, і дзесяцікласнік заблытаецца...

Акрамя скарочаных тлумачэнняў сказа, у кожным заданні ёсць кароткі разбор слова. Праходзім назоўнік – даю заданне: разабраць першы назоўнік у першым сказе. Праходзім дзеяслоў – разбіраем яго. Праходзім фанетыку – робім фанетычны разбор. Праходзім сінтаксіс – робім сінтаксічны.

Такое кароткае заданне, якое выконваецца вучнем за некалькі хвілін, прымушае яго паўтарыць дзесяткі правілаў. А паўтарэнне – гарантыя трывалых ведаў, тым больш, што такая праца адбываецца кожны дзень, у кожным класе.

### *Узаемадапамога*

Некалькі першых месяцаў некаторым дзеткам цяжкавата зарыентавацца ў скарачэннях, але паступова нават самыя слабыя пачынаюць выдатна разбірацца ў граматычных пушчах.

На занятках я прасіў у дзетак, каб на ўрокі беларускай мовы моцныя вучні сядалі са слабымі; у слабых прасіў, каб яны па кожнай незразумелай драбніцы звярталіся да суседа, каб,

выконваючы практыкаванні ці тлумачэнне або разбор, раіліся з мацнейшым вучнем, каб перад пачаткам урока сусед праверыў падрыхтоўку задання свайго падшэфнага: гэта давала гарантыі падапечнаму вучню атрымліваць толькі станоўчыя адзнакі.

Пасля ўрокаў збіраю моцных вучняў і тлумачу ім, што ад дапамогі суседу найбольш выйграюць яны; адна справа вывучыць матэрыял самому, а другая растлумачыць яго слабому вучню: калі ён зразумее цябе, то ты, ягоны “настаўнік”, запомніш правіла навечна. Кожны раз, калі ты падрыхтуеш суседа да самастойнага тлумачэння, то і сам яшчэ раз паўторыш правіла. Нават можаш дазволіць слабому вучню спісаць той ці іншы каментарый, але – растлумач яму, што абазначаюць твае скарачэнні, як гучыць правіла ў поўным варыянце. Толькі перад тым, як звярнуцца па дапамогу да суседа, слабы вучань абавязаны запісаць усе каментарыі, якія ён сам можа выканаць. Раз спіша, другі, трэці, дзесяты, а нарэшце зразумее ўсё сам і ўжо тлумачэнне будзе выконваць самастойна: пакрысе ён сам навучыцца сістэме разбору, пераканаецца, што разбор можна зрабіць самому хутчэй, чым спісваць у суседа.

Пасля аднаго з урокаў збіраю таксама слабых вучняў і прашу ў іх, каб не крыўдавалі, што суседзі ўзялі на сябе некаторыя абавязкі настаўніка: у іх лепшыя ўмовы ў хаце, яны, магчыма, менш трацяць часу на дапамогу бацькам...

Тлумачу дзецям, якія не паспяваюць:

– Можа ў вас здольнасці да рамонту машын, да малявання... Можа замнога часу прысвячаеце спартыўным трэніроўкам, больш дапамагаеце бацькам, але, калі будзеце супрацоўнічаць з суседзямі, то з часам і вы станеце выдатнікамі.

Дапамога суседа, веданне, на якія пытанні давядзецца адказваць на наступным уроку, упэўненасць, што адказваць давядзецца абавязкова – усё гэта спрычыняецца да таго, што нават самыя слабыя вучні часта пачынаюць атрымліваць пяцёркі.

Неяк, помню, зайшоў на перапынку ў прыбіральню і чую, што за перагародкай нехта штосьці шэпча. Гляну: там адпеты двоечнік, які рабіў выгляд, што ганарыцца двойкамі, вучыць беларускую мову, павярнуўшыся ў кут. Ён мяне не бачыў. На пытанні па картках ён адказаў на чацвёрку з плюсам, а я яму паставіў пяцёрку. З якім гонарам ён глядзеў на клас, калі яму ў дзённік і ў журнал ставіў пяцёркі. Каб бачыць такое, каб пацешыцца з хлопчыкавага шчасця, варта жыць, варта горы перавярнуць.

Адна настаўніца мяне папракнула:

– Яны спісваюць, а вы цешыцеся, што вельмі добра ведаюць...

Аднак у часе кантрольных ды, асабліва, кантрольнай на картках вучні ў мяне не спісвалі.

Найперш дзеці былі ўпэўненыя, што я праз сцены бачу. Бывала, вучань на апошняй парце схаваўся за таго, хто сядзеў перад ім, і нешта шэпча суседу. Я зусім не бачу і не чую ягонага шэпту. Але – высланяецца ягонае вушка, і яно варушыцца: значыць – шэпча. Я звычайна на ўроках не рабіў заўваг, а толькі гляну на таго, хто парушае дысцыпліну. Гэтага дастаткова... Помню выпадак, калі назаўтра пасля кантрольнай адзін хлопчык ў мяне здзіўлена спытаўся::

– Вы кажаце, што дрэнна чуеце. Я шаптаў толькі губамі, то як вы дагадаліся, што я шапчу?

– Міша, гэта сакрэт фірмы, які я не магу раскрыць, – адказаў я.

Здаралася, што вучань парушаў дысцыпліну. Тады я без натацыяў казаў:

– Шульга, устань.

Хлопчык падымаўся. Праз некалькі хвілін – пажадана, каб не кожны ў класе гэта заўважыў – паказваю яму рукой, каб сеў.

І ўсе ж вучні, магчыма, штось спісвалі і ў мяне на кантрольных... Аднак у часе адказаў на картках спісваць не мэтазгодна. Дзеткі пісалі скарочана, таму адказ на адно пытанне

звычайна займаў пяць-дзесяць секунд. Дапусцім, што вучань падрыхтаваў шпаргалку, на якой адказы на дзесяць-пятнаццаць пытанняў (новы матэрыял і паўтарэнне). Вучні адказваюць на картках на дзесяць-пятнаццаць пытанняў. Яны не ведаюць, якія менавіта пытанні я прапушчу, у якой паслядоўнасці буду іх ставіць. Каб знайсці адказ на патрэбнае пытанне, вучань павінен ў шпаргалцы капацца секунд пятнаццаць-дваццаць, а за гэты час дзеці адказваюць ужо на наступнае пытанне. У гэтым выпадку той, хто будзе шпаргаліць, атрымае не больш за двойку.

І яшчэ. Я імкнуўся, каб на маіх уроках вучні адчувалі сябе свабодна:

– Трэба табе пазычыць у суседа ці нават у вучня з іншай парты аловак, не пытайся ў мяне дазволу, – казаў я. – Ціхенька ўстань, вазьмі ў сябра аловак і зноў ціхенька сядзь на месца.

Тады пісалі аўтаручкамі. Скончылася чарніла, ідзі да акна (там стаяла бутэлечка з чарнілам), набяры і сядай. Упала ручка – лезь пад парту і падымі: я бачу, калі ты суседку за касу пацягнуў, а калі лінейку ёй падаў. Лінейку падаваць трэба без дазволу настаўніка, а за касу пацягнуць – пытайся...

Быў такі жартаўнік Міколка Дзямбіцкі. Я тлумачу, а ён цягне руку.

– Што хочаш, Міколка?

– Ці можна Аксану за касу пацягнуць?

– З такімі пытаннямі, – адказваю, – звяртайся да Аксаны: калі яна табе дазволіць, то асцярожненька пацягні.

Аксана жарт зразумела і прамовіла:

– Я дазваляю...

Міколка асцярожненька пацягнуў за касу. Як усе цешыліся!..

У часе тлумачэння матэрыялу я прасіў, каб слабы вучань, які ў чымсьці не ўпэўнены, паглядзеў да суседа ў сшытак, запытаўся ў яго, каб моцны вучань не чакаў просьбы, а сам пацікавіўся і заглянуў да суседа, паправіў ягоную памылку, растлумачыў арфаграму. А вось на дыктоўках, іншых кантрольных работах, працы на картках вучні на партах сядзелі амаль плячамі адзін да другога, каб адны другім не перашкаджалі.

### *Шанаванне*

Лічу свінствам, калі настаўнік пры выстаўленні адзнак не звяртае ўвагі на некаторыя з іх. На кожную адзнаку вучань працуе, таму ўсе яны паўнавартасныя, раўнапраўныя. Пры выстаўленні адзнак за чвэрць, я прасіў вучняў на перапынку выпісаць з журнала свае адзнакі, палічыць, што атрымліваецца. Калі адзнака не задавальняе, то трэба здаць залік ці напісаць слоўнікавую дыктоўку. І для заліку, і для дыктоўкі даваліся для паўтарэння адпаведныя параграфы, звычайна восем-дванаццаць. Аднойчы адзін гарэзлівы вучань, у якога былі дзве тройкі і шэсць чацвёрак пытаецца ў мяне:

– Ці магу я атрымаць за чвэрць пяцёрку?

– Можаш, – кажу.

– А колькі пяцёрак мне трэба атрымаць?

– Дванаццаць выдатных адзнак і – пяцёрка за чвэрць твая. Да канца чвэрці тры тыдні. Вось заўтра і пачынай свой цяжкі марафон.

Запісаў я на дошцы, якія параграфы паўтараць для заліку, якія для слоўнікавай дыктоўкі.

Я не жартаваў, калі б вучню ўдалося атрымаць толькі дзесяць пяцёрак замест патрэбных дванаццаці, то выдатную адзнаку за чвэрць я яму паставіў бы, але ж на першым заліку ў яго атрымалася чацвёрка...

Чаму дзесяць пяцёрак, а не дванаццаць?.

У мяне быў такі закон, калі вучань атрымаў запар пяць пяцёрак ці ў сшытку для хатніх заданняў, ці ў кантрольным, ці ў класным журнале, то стаўлю пяцёрку ў запасе. Што гэта значыць? На любым уроку вучань з запаснай заахвочвальнай пяцёркай меў магчымасць заявіць: “Не хачу за адказ тройкі, а пастаўце тую пяцёрку, якая ёсць у мяне ў запасе”. Аднойчы

мне завуч школы Вера Цеафілеўна кажа:

– Учора мы вельмі позна скончылі выбіраць бульбу, і Рыта гаворыць: “Заўтра шэсць урокаў, усе цяжкія. Па беларускай мове я маю пяцёрку ў запасе, таму не буду вучыць. Гісторыю таксама не буду, бо пазаўчора адказвала, а нас выклікаюць толькі праз тры-чатыры ўрокі. Рускую літаратуру не вывучу, бо там верш на памяць, – папрашу, каб адказаць на другім уроку. Па алгебры заўтра кантрольная... Толькі геаграфію мушу вывучыць, бо там у мяне толькі адна адзнака...” – Распавяла гэта завуч, а тады дадала з дакорам: – Вось бачыце, што нарабіла ваша пяцёрка ў запасе: дзяўчынка не вучыла беларускай мовы.

– Але ж яна не вучыла і іншых прадметаў, – адказаў я, – а, між тым, яна сёння атрымала дзве пяцёркі. Па хатнім заданні папрасіла паставіць пяцёрку ў запасе, а па картках – яна на мінулым уроку вывучыла, перад урокам паўтарыла...

Добра, калі дзіця адчувае сябе на кожным уроку ўпэўнена, не перажывае. Бывала, у вучня назбіраецца столькі пяцёрак у запасе, што ён просіць ставіць іх адразу. У чацвёртым ды пятым класах, а часам па просьбе вучняў і ў шостым, на сшытку, у якіх ёсць некалькі камплектаў “пяць па пяць”, чырвоныя зорачкі на вокладкі сшыткаў наклейвала адна з выдатніц. Прыемна было аддаваць вучню такі сшытак.

Здаралася, што і сам грашыў: у вучня чатыры пяцёркі запар, а ў пятай рабоце бачу памылку. Кажу:

– Ты правер яшчэ раз уважліва: гэта ж пятая пяцёрка!

Калі дзіцятка знойдзе памылку, то яно пра яе раскажа матулі ці сяброўцы, а як не знойдзе, то таксама запомніць яе на ўсё жыццё.

Вельмі абураюся, калі некаторыя настаўнікі не ставяць выдатнай адзнакі праз нягрубую памылку або нават апіску ці папраўку. Нават даводзілася чуць ад аднаго настаўніка:

– Бог ангельскую мову ведае на пяцёрку, я на чацвёрку, а вучань больш як на тройку не можа ведаць.

Вось куды махнуў: ставіць сябе побач з Богам...

Лічу, кожны вучань варты таго, каб быць здольным, таленавітым, разумным. Задача настаўніка раскрыць у сваім вучні гэтыя не заўсёды заўважныя на першы погляд здольнасці – з пашанаю паставіцца да скрытых магчымасцяў, якія існуюць у чалавеку.

### *Захаванне слова*

Вучням я казаў:

– Кожны чалавек ведае не больш за дзесяць-пятнаццаць тысяч слоў. Значыць, і я ведаю не больш за пятнаццаць тысяч. А ў беларускай мове ў слоўніках ужо ўключана каля ста тысяч. А ёсць іх, магчыма, каля мільёна, то атрымліваецца, што я ведаю толькі сямідзесятую частку ўсіх беларускіх слоў... Вось якая багатая наша мова! Таму будзьце ўважлівыя да кожнага слова, да кожнага правіла, да кожнага сказа... Збірайце дыялектызмы, каб яшчэ больш узбагаціць нашу мову...

Не раз паўтараў дзецям:

– Кажуць, што няма такога доктара філалагічных навук, які б напісаў сшытак ці два не заглянуўшы ў слоўнік... Не саромейцеся пытацца, заглядаць у слоўнікі, вучыцца...

Калісьці пытаецца ў мяне настаўнік Баравік:

– Як ты ваюеш з дыялектызмамі?

Адказваю:

– Я не ваюю, а збіраю іх. Калі вучань дапусціць у сачыненні неапраўданы дыялектызм, якога я не чуў, то я яму кажу: “Гэта вельмі важны дыялектызм, калі ты напішаш яшчэ хоць адно такое трапнае наша мясцовае слова, то я табе пастаўлю пяцёрку, але ў гэтым выпадку ужывай літаратурны адпаведнік, бо ў іншай мясцовасці гэтага слова не зразумеюць: яно пакуль не агульнаўжывальнае.”

Адзнакі за дыялектызмы я не зніжаў, але прасіў, каб дзеці пакуль не карысталіся гэтым словам у літаратурнай мове. А ў

гутарковай яно вельмі прыгожа гучыць, бо мяккае, далікатнае. Таму ў падобным выпадку я казаў вучню:

– Будзем спадзявацца, што гэта толькі нараджэнне яшчэ аднаго літаратурнага слова ў нашай багатай і прыгожай мове. Віншую са знаходкай! Слова прыгожае, трапнае! Будзем спадзявацца, што яно зробіцца літаратурным...

### *Патрыятызм*

Помню, яшчэ ў 1944 годзе, калі вучыўся ў восьмым класе, я разважаў пра тое, як некалі ў царскасельскім ліцэі задавалі вучням складаць на ўроку вершы. Мне здавалася гэта чымсьці неверагодным. “Якія былі разумныя вучні, – самотна думаў я, – мы гэтак зрабіць не здолелі б.”

У 1965 годзе, працуючы настаўнікам у Гудзевічах, я пачаў вучыць на ўроках дзетак напісанню вершаў, апавяданняў, нарысаў, драматычных твораў... Разам з гэтым мы збіралі па вёсках дыялектызмы, прыказкі, прымаўкі, лічылкі, казкі, песні, загадкі... Распачалі перапіску з беларускімі патрыётамі: пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, дзеячамі навукі і культуры.

Разам з гэтым збіраліся матэрыялы для стварэння літаратурна-краязнаўчага музея; вучні пачалі ткаць паясы...У 1969 годзе мая жонка Вера Ігнатаўна арганізавала ў школе гурток ткацтва: нам патрэбны былі саматканыя гальштукі, паясы, закладкі... Іх мы пасылалі нашым рэспандэнтам. Янка Брыль, Міхась Забэйда-Суміцкі, Уладзімір Караткевіч, Аляксей Марачкін, Пімен Панчанка, Пётра Сергіевіч, Станіслаў Шушкевіч... вельмі цанілі нашы падарункі, рабіліся шчырымі нашымі сябрамі.

Плёнам творчасці вучняў стаўся наш літаратурны часопіс “Праменьчык” – орган гуртка беларускай літаратуры, – дзе мы публікавалі творы дзетак.

Гэта быў нялёгкі час для беларускай культуры. Паўсюдна ішла русіфікацыя Беларусі, выкараняліся нашы нацыянальныя асновы. Калі я канчаткова пераканаўся, што ЦК КПСС, КДБ і Міністэрства асветы робяць усё магчымае, каб знішчыць беларускую мову, вырашыў у меру сваіх сіл перашкаджаць гэтаму.

Паехаў у Эйсманты, Луну, Вярэйкі падымаць настаўнікаў на барацьбу за абарону беларускай мовы ад знішчэння. Настаўнікі сустракалі мяне прыязна, але тлумачылі, што гэтым мы даб’емся толькі таго, што нас вызваляць з працы, а на наша месца прышлюць рэнегатаў. Яны мелі рацыю, але я пасварыўся з імі і адзін напісаў ліст у ЦК КПБ.

Пасля гэтага майго ліста пачалося “райскае” жыццё.



***Праз творчасць Алесь Мікалаевіч адкрываў сваім вучням неацэнныя скарбы душы. У стварэнні Гудзеўскага музея школьнікі бралі самы чынны ўдзел. З іх дапамогаю паўстала экспазіцыя і ў беларускай хатцы XVIII стагоддзя. Тут Алесь Мікалаевіч і ягоныя вучні стала ладзілі вечарыны ў этнаграфічным стылі – беларускія сялянскія вячоркі.***

***На здымку: адзін з карпусоў Гудзеўскага музея – хатка XVIII стагоддзя. Гудзевічы, восьмага траўня 2003 года. Фотадзеячас.***

Бясконцыя саветы РАНА па маёй персоне, праверкі школы з настройваннем педагогаў супраць мяне, з выдумваннем “недахопаў” у маёй працы, абмежаваннем маіх педагагічных магчымасцяў і шмат іншага... Аднак мне хочацца звярнуць большую ўвагу не на цяжкасці, а на метадычны бок працы.

Мае вучні, складаючы вершы, нарысы, драмы..., не толькі спасцігалі моўныя правілы, але развівалі сваю мову. Заняткі па мове і літаратуры зрабіліся не толькі прадметам па завучванню параграфаў, але і напоўніліся педагагічным сэнсам – праз літаратуру і мову я імкнуўся выхаваць у вучняў пашану да ўсяго роднага, шчыры беларускі патрыятызм. Вучань духоўна збліжаўся са сваім родам, калі ў творы апісваў ліпу ці бярозу, што пасадзіў дзядуля, адыходзячы на вайну, з якой не вярнуўся. У нарысах пра гісторыю навакольных вёсак, пра назвы мясцовых палеткаў, балот, лясоў вучань збліжаўся з родным краем. Ён меў магчымасць запытацца пра штось вельмі важнае для яго ў вялікіх, мудрых людзей, калі пісаў лісты Аляксандры Бергман, Янку Брылю, Зосьцы Верас, Ларысе Геніюш, Уладзіміру Караткевічу, Івану Мележу, Паўліне Мядзёлцы, Пімену Панчанку, Юрыю Семяняку, Пятру Сергіевічу, Хведару Янкоўскаму, дочкам Іларыёна Свянціцкага і сотням іншых беларускіх і замежных пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, былых палітычных дзеячаў і пачуць іх думку, параду, падказку. Мы пісалі сачыненні па лістах Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Яна Гушчы, Юрыя Тарасевіча, Вечаслава Целеша, рабілі карэспандэнцыі ў “Праменчык” і газеты пра М. Арла, Міхася Грыбава, Сяргея Крыўца, Міхася Явара, Агату Тарасевіч ды іншых. Мы пачалі ладзіць у сялянскай хаце-музеі XVIII стагоддзя фальклорна-этнаграфічныя вечарыны... Усё гэта развівала ў вучнях ўласную мову, спрыяла выхаванню ў іх духу пашаны да Беларусі і свайго народа, мацавала веды.

### *Праменьчыкі*

Цяжка было брацца за выданне “Праменьчыка” і стварэнне музея, але каб выхаваць вучняў патрыётамі, мала толькі гаварыць пра патрыятызм. Трэба нешта рабіць, ствараць...

Бяда была ў тым, шго я ў душы не лірык, а матэматык, але праз гэтую акалічнасць кожны, нават слабы верш здаваўся мне шэдэўрам; я адчуваў, што сам і такога не складу.

У чацвёртым класе мае вучні пачыналі складанне вершаў амаль з першага верасня. Казаў дзецям:

– Навучальны год прабяжыць хутка. Праз шэсць месяцаў будзе Восьмага сакавіка – свята вашых мамаў. Што вы ім падрыхтуеце для падарункаў?

Дзеткі адказваюць:

– Куплю хустачку...

– Куплю цукерак...

– А дзе грошай возьмеце? – цікаўлюся ў іх.

– Тата дасць... – чую адказы.

– То атрымліваецца, што гэта татаў падарунак. А што вы прапануеце матулі ад сябе?

– Не ведаем...

Вось тут я і кажу:

– Вельмі добрым падарункам для матулі быў бы верш... Але як яго скласці? Давайце паглядзім, як гэта рабіў Якуб Колас. Разгарніце “ Родную літаратуру” на старонцы, дзе надрукаваны верш “Ручэй”. Што цікавага пра ручэй кажа Якуб Колас?

– Ён ручэй называе срэбразвонным,– адказвае Таня.

– Дык якое ж слова тут найбольш трапна, прыгожа распавядае пра ручэй?

– Самае цікавае слова тут *срэбразвонны*, бо яно паведамляе нам, што ручэй звініць, нібы срэбра, вельмі прыгожа, – кажа Пеця.

– У пачатковых класах вы ўжо знаёміліся з даданымі членамі сказа. Хто ведае, які гэта член сказа?

– *Срэбразвонны* – гэта азначэнне, – гаворыць Таня.

– У мастацкай літаратуры такое азначэнне называюць эпітэтам, – удакладняю я. – *Несціхны, густы* – гэта эпітэты да назоўніка спеў. – І дадаю: – У другой страфе паэт ужыў вельмі трапнае параўнанне. Знайдзіце яго, што тут з чым параўноўваецца?

– Тут вярба параўноўваецца з матулькай, – кажа Таня.

– А ці падабаецца вярба аўтару?

– Вядома, вельмі падабаецца, бо ён яе параўноўвае з матулькай. А што можа быць мілей за матулю!

Перад школаю ў нас раслі векавыя ліпы, якія па загаду старшыні сельскага савета Ірыны Адольфаўны Жукоўскай і дырэктара школы Ніны Сцяпанаўны Дзенісевіч паспілоўвалі ў 2006 годзе. А тады я казаў дзеткам:

– За акном нашага класа расце вялізная ліпа. Яе ў 1903 годзе пасадзіў настаўнік Гудзевіцкай школы Карп Герасімавіч Зянюк. Хто можа прыдумаць параўнанне да назоўніка ліпа?

Чуюцца адказы:

– Ліпа як стог...

– Ліпа як матуля...

Запісваю адказы на дошцы, тлумачу:

– У Якуба Коласа ў параўнанні вярбы з матуляю стаіць коска, бо гэта – параўнальны зварот... А мы на дошцы коскі не паставілі, бо ў выразе *ліпа як стог* слова стог з’яўляецца выказнікам, а выказнік ад дзейніка не можа аддзяляцца...

У гэтым вершы Якуба Коласа шмат цікавых выразаў, слоў, якія па-мастацку абмалёўваюць прадмет. І мы пра гэта гутарым з вучнямі. *Глядзяцца кусты, падыходзіць мурог, хмурынка... зазірне ў ручаёк, гучным смехам дрыжыць, сярдзіта бубніць* і інш. Тлумачу дзеткам: такі прыём, калі ўласцівасці аднаго прадмета пераносяцца на другі, называецца метафарай, бо хіба ж можа глядзець куст, смяяцца ці сярдзіта бубнець ручэй, гэта нават не звычайная метафара, а – увасабленне...

– Ну, а цяпер, – нарэшце кажу, – давайце, дзеткі, прыдумаем эпітэт да слова *мама*. Удалыя выразы, якія мы зараз знойдзем, можна будзе




***Першы нумар літаратурна-мастацкага альманаха “Праменьчык”. Гудзевічы, 1966 год.***

***Літаратурна-мастацкі альманах “Праменьчык” у самарослай методыцы Алеся Мікалаевіча граў вельмі важную ролю: ствараючы часопіс, дзеці спрычыняліся да беларускае творчасці, дакраналіся да тых важных духоўных глыбіняў, дзе хвалюецца родная мова і дзе існуюцца любоў да Бацькаўшчыны, патрыятызм. Праз выданне “Праменьчыкаў” дзеці вучыліся калектыўнай працы, займаліся даследчыцкай справаю, спасцігалі творчыя сакрэты рэдакцыйнай і выдавецкай дзейнасці, асвойвалі друкарскую і кнігашытную справы, прыёмы працы на друкарцы... Усяго выйшла чатырнаццаць нумароў “Праменьчыка” зборам у чатыры асобнікі.***

***“Праменьчык” № 1. Гудзевічы, 1966 год. Літаратурна-мастацкі альманах, орган літаратурнага гуртка Гудзевіцкай сярэдняй школы. Самавыдавецтва. На беларускай мове. У нумары друкуюцца творы Віталя Бобрыка, Канстанцыі Буйло, Ларысы Геніюш, Мікалая Іваноўскага, Уладзіміра Караткевіча, Таісы Клімуць, Івана Мележа, Леанарды Палавені, Софіі Палавені, Мікалая Рудніка, К. С., Уладзіміра Стацкевіча, Валі Хомкі, Зузаны Эйсмант, Кацярыны Юзафовіч, Марыі Янушкі. Рэдакцыйная калегія: Ганна Дзямбіцкая, Людміла Кібік, Святлана Лапа, Лілія Пазняк, Тэрэса Слемп, Уладзіслава Талочка, Ганна Трацяк, Аліна Чарняк, Марыя Янушка. Карэктары: Вера Клімуць, Леанарда Палавеня, Софія Палавеня, Марыя Янушка. Збор 4 асобнікі.***

***МОВАПРОМНЈ***
***Праменнем дзіцячых душаў моваззяе сонцавечнасць беларускіх запаветаў.***

выкарыстаць у вершах пра маму, якія вы складзеце ёй да 8-га сакавіка.

– Ласкавая мама... – прыдумала Міра.

– Чулая маміна ласка... – сказала Таня.

– Ды гэта ж радок для верша! – ухвальна кажу я. – Дзеткі, Таня прыдумала эпітэт да назоўніка *ласка*... Запішы, Таня, гэты радок ў літаратурны сшытак, каб не забыцца, бо выраз – каштоўны.

Таня сёння чацвёрты раз дае выдатны адказ, і таму я стаўлю ёй пяцёрку ў класны журнал і ў дзённік.

– Мама ласкавая, чулая, вясёлая, мілая, – аж чатыры эпітэты прыдумала Іна.

– А хто можа прыдумаць параўнанне да слова *мама*? – пытаюся ў вучняў.

– Матуля мая, вы паверце, ласкавая, быццам вясна... – кажа Марынка.

– Марыначка! Ды гэта ж выдатныя два радкі для верша пра маму!.. Давай дзённік.

Марына першая ў класе склала аж два радкі верша. Стаўлю ёй выдатную адзнаку.

Пасля гэтага прапановы радкоў да верша пра маму пасыпаліся градам. Я паабяцаў, што кожнаму, хто складзе верш ці напіша нарыс пра матулю, ці хоць маленькі абразок прозай, будзе мець пяцёрку ў запасе.

– Як толькі складзеце чатыры радкі верша, – сказаў вучням, – прыносьце на занятак гуртка, ці перад урокам пакажыце мне свой пачатак верша, ці пасля ўрока, ці нават на ўроку... Я абавязкова дапамагу, дам параду. Падумаем разам, як выправіць недахопы. А яны абавязкова будуць. Нават у сапраўдных майстроў слова крытыкі знаходзяць шмат пагрэшнасцяў...

На наступным уроку чацвёртакласнікі атакавалі мяне сваімі вершамі.

Нават калі ў вершы не было ні складу, ні ладу, я заўсёды імкнуўся знайсці ў ім што-небудзь удалае – метафару, ці трапную рыфму, ці хоць эпітэт... – і расхваліць твор, і толькі пасля гэтага асцярожна выказацца пра ўсе недахопы. Калі пераконваўся, што паэта з вучня не атрымаецца, то раіў перайсці на прозу.

– У цябе такія добрыя сачыненні атрымліваюцца! – казаў я яму. – Вось паглядзі: Янка Брыль не піша вершаў. Чаму? Ён вельмі патрабавальна ставіцца да сваёй творчасці. Яго не задавальнялі напісаныя вершы, таму перайшоў на прозу, якая дае большую свабоду ў мастацкай творчасці. А які ён празаік! Лепшы ў Беларусі! Я табе параіў бы пісаць прозай.

Пасля такой размовы вучань не адчуваў сябе горшым, ганарыўся, што піша прозай.

Я вучыў пісаць вершы не ўсіх вучняў, а толькі тых, у каго штосьці атрымлівалася. Перад урокам, пасля ўрокаў, на перапынках звычайна вучань і я сядалі за ягоную парту і аналізавалі верш. Заўсёды ў пачатку разбору імкнуўся знайсці што-небудзь каштоўнае ў творы: ці рытм, ці рыфму, ці выяўленчыя сродкі мовы, ці захапляўся важнасцю тэмы, надзённасцю, ідэйнасцю... Пасля гэтага ішла добразычлівая крытыка. Бывала, разаб'ю верш, а вучань выходзіць радасны: як жа ён знайшоў такую патрэбную тэму! Часта ў часе кансультацыі падсядаў яшчэ хто-небудзь з дзетак, каб падвучыцца на памылках сябра. Тады я быў менш катэгарычны, стараўся знайсці ў творы больш станоўчага, а такія-сякія крытычная заўвагі пераносіў на наступныя заняткі.

Вучні, якім вершаскладанне даецца лёгка, не любяць чарнавой працы над вершам – яны нясуць новыя і новыя творы. Я тлумачу, што сыры верш нікому не патрэбен, ён толькі ганьбіць аўтара. Трэба скончыць адзін верш, а тады прыносіць наступны. Таму прапаную працаваць над творам, шліфаваць вершы...

Аднойчы дырэктар Луненскай сярэдняй школы Мсціслаў Уладзіміравіч Сямак пытаецца:

– Калі вы паспяваеце пісаць столькі артыкулаў? Ва ўсіх газетах і часопісах друкуюцца вашы вершы, артыкулы, літаратурныя даследаванні...

– У гэтым годзе я не надрукаваў ніводнага артыкула ці верша, – адказваю.

– У публікацыях подпісы вашых вучняў, але ж я ўпэўнены, што такія даследаванні можа напісаць толькі настаўнік. У нашай школе каля пяцісот вучняў, а ў вашай у два разы менш. У нас ніхто не піша, а ў вас – усе. Чаму?

Я адказваю:

– У мінулым годзе ў нас скончыла шэсць класаў Аленка Ягнешка. Цяпер яна вучыцца ў вашай школе, бо ў Луну пераехалі яе бацькі. Яна свае вершы прысылае ў нашу школу, і мы друкуем іх у “Праменьчыку “, пасылаем з яе згоды ў газеты. А вашы настаўнікі нават не ведаюць, што яна піша вершы. Вось і запытайцеся ў яе, чаму яна не паказвае сваіх твораў настаўнікам.

Праз гады чатыры сустракаю Аленку і пытаюся, ці цікавіўся Сямак, чаму ты не паказвала сваіх вершаў выкладчыкам беларускай літаратуры.

– Так, пытаўся, – адказала дзяўчына.

– Што ты сказала?

– Сказала, што не ведаю.

– А ўсё ж, чаму ты нікому ў Луне не паказвала сваіх вершаў?

– Адзін раз паказала... – прызналася дзяўчына.

– І што сказаў табе настаўнік?

– Сказаў, што дрэнна.

– Што дрэнна?

– Усё дрэнна.

Не дзіўлюся, што пасля такой “дапамогі” дзяўчынка больш ніколі не звярталася да настаўніка.

Нават у самым найгоршым вершы ёсць нешта добрае: ці патрэбная, надзённая тэма, ці актуальная выснова, ці ўдалая метафара, або параўнанне, ці эпітэт... У такім выпадку я акцэнтую ўвагу на станоўчым, шчыра захапляюся поспехам дзіцяці, а пасля гэтага асцярожна раскрываю недахопы. Кажу, напрыклад:

– У цябе ў другім і чацвёртым радках рыфмуюцца дзеясловы. Але ў тым няма нічога страшнага, бо дзеяслоўная рыфма сустракаецца шмат у каго з класікаў. Але іх чапаць нашы крытыкі не асмельваюцца, а вось, калі ў вучня знойдуць такое, то паўгода будуць яму перамываць костачкі. Адзін дзеяслоў можа застацца, а другі замяні назоўнікам ці іншай часцінай мовы, і – размовам крытыкаў канец.

Пасля нашай размовы вучань сваім недахопам амаль ганарыцца, бо такія недахопы былі нават у Купалы ды Пушкіна.

Вось вучань ужыў дыялектнае слова.

– Якое вельмі прыгожае, ёмкае слова,– хвалю вучня. – Хто ведае, можа з тваёй лёгкай рукі яно стане літаратурным. У нашай багатай і прыгожай мове табе можа ўдасца ўзаконіць новае слова. Яно нават у дыялектных слоўніках не сустракаецца. Такая прыгажосць! Такі сэнс!

Вось у асобных радках верша юнага паэта атрымалася неаднолькавая колькасць стоп.

– Гэта дапускаецца, – суцяшаю я яго, – але калі радкі з меншай ці большай колькасцю стоп паўтараюцца заканамерна. А так, што ў адным радку дзве стапы, а ў другім тры, а дзесьці нават чатыры... – Такое не дапускай. Мушу пахваліць цябе за бездакорны анапест. Але адна бяда: у радках розная колькаспь стоп...

Недахопы я заўсёды называю, але стараюся побач паказаць станоўчае і нават таленавітае. Дзіця пасля такой кансультацыі выходзіць з упэўненасцю ў сваіх здольнасцях. Магчыма, з часам вучань адкрые ў сабе іншы талент, але ён пераканаецца, што паэзія – гэта цяжкая праца, што недахопы бываюць нават у геніяльных паэтаў і што верш патрабуе бясконцай працы, бясконцага шліфавання...

Вельмі ўдалыя вершы дзеці друкуюць на пішучай машынцы і ахвяруюць матулі ці тату. У бацькоў я заўсёды прашу, каб яны ганарыліся талентам дзіцяці, чыталі верш і ў сям’і, і сваякам, і сябрам, і суседзям...

Такія вершы мы змяшчаем у нашым “Праменьчыку”,

пасылаем у рэдакцыі. Вялікі гонар, калі твой твор чытае ўся Беларусь ці хай нават толькі раён. За ўдалы верш стаўлю вучню пяцёрку ў запасе.

Рыхтаваць да выдання свой часопіс мы вырашылі ў 1965 годзе – адразу ж, як пачалі пісаць вершы, апавяданні, нарысы, драматычныя творы, збіраць мясцовы фальклор, апісваць этнаграфічныя экспанаты, тлумачыць тапонімы і мікратапонімы, знаходзіць звесткі з гісторыі Гудзевічаў, запісваць дыялектызмы, друкаваць лісты пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў да нашых вучняў. Да траўня 1966 года мы сабралі крыху матэрыялу.

У пачатку чэрвеня частка нашых выпускнікоў пайшла на пасадку лесу каля школы. Я працаваў разам з імі, і трэці радок дрэваў справа ад школы – мой. У гэты ж дзень другая частка выпускнікоў, а таксама вучні іншых класаў перапляталі першы нумар “Праменьчыка” пад кіраўніцтвам маёй жонкі Веры Ігнатаўны Белакоз. Пераплёт рабіўся на стагоддзі, бо прайшло ўжо больш за сорак гадоў, а нашыя “Праменьчыкі” не распадаюцца.

Першы нумар меў толькі трыццаць шэсць аркушоў фармату А4. Другі амаль такога ж аб’ёму. А трэці – разоў у сем большы. Пазней ужо кожны нумар меў па чатырыста-шэсцьсот машынапісных лістоў. У апошні год маёй працы ў Гудзевіцкай школе, выдалі чатырнаццаты нумар. Гэта было ў 1989 годзе. Тыраж кожнага нумара – чатыры экземпляры.

Адзін камплект з усіх нумароў застаўся ў кабінеце беларускай літаратуры Гудзевіцкай сярэдняй школы, другі камплект захоўваецца ў Гудзевіцкім дзяржаўным літаратурна-краязнаўчым музеі, трэці – у мяне, чацверты – на руках у чытачоў.

Аднойчы краязнаўца Міхась Вераціла мне сказаў:

– Я сёння ўсю ноч чытаў трэці нумар “Праменьчыка”. Што вы вытвараеце! Калька дрэнная, часта амаль не прачытаць асобных слоў, папера то мелаваная, то са сшыткаў, то газетная... Друкуюць і дзесяцікласнікі, і вучні чацвёртых класаў, а таму сустракаюцца памылкі...

– А чаму вы ўсю ноч чыталі ? – запытаўся я.

– Бо цікава,– прызнаўся Вераціла.

– Вось для гэтага мы выдаем “Праменьчык”, – адказаў я. – Пройдуць стагоддзі, а людзі змогуць даведацца, чым жылі нашы вучні, настаўнікі, як і пра што думалі. А гэта вельмі важна...

Калькі для друкаркі я ні разу не знайшоў у магазінах – жабраваў ва ўстановах. Бывала, хто-небудзь даваў два-чатыры лісты новай – адрывалі ад сэрца, бо і калькі заўсёды не хапала. Найчасцей мы карысталіся ўжыванай калькаю. На старых лістах калькі мы друкавалі па пяцьдзесят-восемдзесят аркушоў “Праменьчыка”. Вось таму чытаецца дрэнна. Якаснай, ці як казалі “фінскай” паперы тады ў магазінах вясковы пакупнік знайсці не мог. Жабраваў у райвыканкаме. Машыністка старшыні райвыканкаму ахвяруе дзесяць-трыццаць аркушоў мелаванай паперы, а работнікі друкарні пры раённай газеце за бутэльку дадуць лістоў дзвесце газетнай паперы; калі ж няма ніякай, то расшываем сшыткі, закладаем двайныя лісты ды друкуем...

Праца над “Праменьчыкам” шматбакова развівала вучняў.

Над альманахам працавалі дзеці ад чацвёртага да дзесятага класаў. У “Праменьчыку” пазначалі не толькі прозвішчы аўтараў, але і імёны ды прозвішчы друкароў. Друкаваць мелі права толькі лепшыя вучні па беларускай мове і літаратуры. Друкаваць тэксты для “Праменьчыка” было гонарам. У школе ў той час займалася больш за дзвесце вучняў, а друкароў было толькі каля васьмідзесяці.

У часе працы вучні даведваліся шмат новага для сябе: як складаецца ліст, дзе размяшчаецца чырвоны радок, як ён пазначаецца, чаму выбракоўваюцца роднасныя словы, якім чынам размяшчаецца ўстаўка, як робіцца перанос... У працэсе стварэння “Праменьчыка” дзеці засвойвалі прыёмы працы на

пішучай машынцы, якая тады лічылася апошнім дасягненнем тэхнікі.

Дабраахвотных друкароў заўсёды хапала. Бывала, вучань не падрыхтуе ўрока, то хітруе – просіцца друкаваць. Я разумеў гэта і імкнуўся арганізаваць навучанне такім чынам, каб праца над “Праменьчыкам” не была прычынаю нядбайнага стаўлення да вучобы, – вучня я ўсё роўна выклікаў на наступным уроку і дамагаўся ад яго ведання матэрыялу.

## *Самастойнасць*

Для мяне было вельмі важна дабіцца, каб кожны вучань меў сваю думку і ўмеў яе выказаць. Патрабаваў, каб дзеці правілы не зазубрывалі, а разумелі іх і тлумачылі сваімі словамі: зазубранае забудзецца, а засвоенае, зразумелае застанецца часам нават на ўсё жыццё.

Памятаю, прыйшоў да мяне на ўрок беларускай літаратуры дырэктар школы Язэп Ігнатавіч Радзевіч. Гэта быў разумны і ўдумлівы педагог. Я пачаў урок з тлумачэння новай тэмы “Ідэя трылогіі Якуба Коласа “На ростанях”...

Я абавязкова дабіваўся, каб вучні ведалі сюжэт, тады з імі лёгка працаваць: звычайна задаваў частку мастацкага твора прачытаць, а назаўтра па прачытаных раздзелах даваў усяму класу пытанні, на якія дзеці адказвалі пісьмова. Я гэтак наладзіў вучобу, што ў школьнай бібліятэцы дзеці бралі выключна беларускую літаратуру – кожную чвэрць я вёў гутарку па прачытаных кнігах для пазакласнага чытання. Бібліятэкарка Лідзія Васільеўна Шылкіна злавала на дзетак:

– Нечево белокозовшчину погонять: берите книги, которые даю, и уходите...

Магчыма, яна настройвалася адпаведнымі органамі, бо аднойчы, у час перапынку, калі ў калідоры першага паверху сабралося шмат вучняў, у маёй прысутнасці яна закрычала:

– Алесь Николаевич Белокоз во время войны расстреливал партизан!..

Адно шчасце, што я тут нарадзіўся, вырас і працую. Таму людзі толькі пасмяяліся з гэткіх заяваў... Аднак мне было тады не да смеху: у той час кожная навалач магла абразіць, абвінаваціць, зганьбіць...

І так, у прысутнасці дырэктара пытаюся ў вучняў:

– Як вы лічыце, якая галоўная думка трылогіі “На ростанях”?

Удумлівы вучань Віталь кажа:

– Саханюк, Бацяноўскі, айцец Кірыл, настаўнік Хрыпач не імкнуцца дапамагаць народу: імі кіруе задавальненне сваіх жаданняў, нават нянавісць да вольналюбівых людзей. Яны не прыносяць карысці народу, нават шкодзяць яму. Яны дэградуюць, апускаюцца, становяцца на шлях п’янства, даносаў, сквапнасці. Значыць, занядбанне інтарэсаў народу спусташае чалавека, вядзе яго да апускання, да нянавісці... А вось Лабановіч, Тукала, Садовіч імкнуцца працаваць добра, думаюць пра тое, што нешта ў жыцці трэба мяняць. Яны становяцца актыўнымі змагарамі за народнае шчасце. Няхай пакуль яны асуджаны, вызвалены з працы, вымушаны туляцца, але будучыня за імі, бо абарона інтарэсаў народу ўзвышае чалавека, прымушае добра вучыцца, працаваць, быць сумленным.. Кожнаму варта ісці па гэтым шляху.

– Ды ты, братка, нам лекцыю прачытаў, – хвалю я вучня. – Я цалкам згодзен з тваёй думкай. І хоць гэта сёння новая тэма, але ты паказаў веданне сюжэту, разуменне літаратурных герояў, даў трапную характарыстыку многіх з іх. Стаўлю табе, Віталь, выдатна.

Кожны раз, скончыўшы чытаць мастацкі твор, чалавек думае пра літаратурных герояў, робіць свае высновы пра тое, што блізкае яму. Разважлівасць, самастойнасць думання “паглыбляе” мастацкі твор, адкрывае жывыя абсягі, якія часам цяжка заўважыць за канъюктурнымі ці ідэалагічнымі наслаеннямі. У той жа час зазубрыванне утойвае гэтыя жывыя

абсягі, робіць твор непрыдатным для спасціжэння.

Я пытаюся ў класа:

– Магчыма, хтосьці з вас можа вызначыць іншую ідэю?

Лідачка паспела прачытаць у падручніку, што галоўная думка ў трылогіі пра адзіны правільны шлях, які абрала РСДРП.

– Менавіта камуністы прывядуць народ да шчаслівага жыцця, – кажа Лідачка. – Гэта даказваюць высновы Галубовіча.

Любую ініцыятыву вучняў да ведаў я заахвочваю. І таму згаджаюся з Лідачкай:

– Дзеткі, Лідзіна ідэя супадае з ідэяй трылогіі, выкладзенай ў падручніку. Таму мы з гэтай думкай павінны лічыцца. Урэшце, аўтар падручніка мае права на самастойную думку. Ён яе і выказаў. Так і вы павінны адказваць, калі станеце абітурыентамі. – І разам з гэтым падштурхоўваю дзяцей да развагаў: – Аднак і думка Віталя вельмі прывабная. Яе таксама нельга адмаўляць. І калі вы пакажаце ў адказе, што абарона інтарэсаў народу ўзвышае чалавека, то гэта толькі засведчыць пра глыбокае разуменне вамі твора. Разам з тым нядрэнна было б выказаць і думку аўтара падручніка: яна ж афіцыйная. Ад вас захоча выкладчык-экзаменатар пачуць і гэты варыянт ідэі. Добра, каб вы на наступным уроку ў адказах агучылі і думку Віталя, і думку, выкладзеную ў падручніку.

І тут жа пытаюся:

– А можа ў каго-небудзь ёсць і іншыя думкі?

У вучня Сяргея, які быў закаханы без узаемнасці, свой погляд на твор:

– Сапраўднае каханне таксама ўзвышае чалавека, бо яно прымушае кожнага стаць лепшым. А дабрыня і праўдзівасць – гэта вельмі добрыя рысы. Паглядзіце, як Лабановіч ставіцца да дзяўчат. Ён паважае іх, шануе: для яго Ядвіга – гэта сама дасканаласць. Мне здаецца, што ў час маладосці Якуба Коласа і каханне было чысцейшае, святцейшае... Можа, гэта не галоўная ідэя, але, прачытаўшы трылогію, можна ўбачыць, якімі прыгожымі могуць быць узаемаадносіны паміж закаханымі.

У ходзе ўрока я некалькі разоў падымаў і Лідачку, і Сяргея, і ў канцы ўрока за актыўнасць, за адказы з месца паставіў ім пяцёркі.

Разбіраючы мой урок Язэп Ігнатавіч дзівіўся:

– Трое вучняў далі зусім розныя адказы на адно і тое ж пытанне. І ўсе атрымалі пяцёркі. То нехта ж з іх памыліўся? Гэта ж відавочна на матэматычным узроўні...

– Матэматыка – навука дакдадная, – адказаў я, – а літаратура – гэта роздум, само жыццё, філасофія... Вы бачыце: тры чалавекі – і тры думкі. Так і павінна быць... Чаму я нікому з іх не знізіў адзнакі? Першы вучань, Віталь выказаў тую ідэю, да якой я іх падштурхоўваў у часе азнаямлення з сюжэтам. Гэта былі далікатныя, не заўважныя для вучняў захады, але я на сёмым небе, што дзеці думаюць правільна: гэта і ёсць галоўная ідэя твора. Лідачка выказала тую думку, якая выкладзена ў падручніку. Я не маю права за гэта знізіць ёй адзнаку. Ад абітурыентаў пры паступленні ва ўніверсітэты будуць патрабаваць менавіта гэтую ідэю: яна афіцыйная. І гэта вучні зразумелі. Толькі самыя прынцыповыя на ўступным экзамене выкажуць і першую, і другую думку. Не думаю, што гэта можа ім нашкодзіць, бо экзаменатары павінны зразумець, што вучань ведае і сапраўдную ідэю твора, і навязаную падручнікам... Значыць, ён разумны чалавек. Я не згадзіўся з думкай Сяргея, але цешуся, што ён пайшоў сваім шляхам. І ягоная думка мае права на існаванне. Быў бы я экзаменатарам, то можа запытаўся б, ці можна тут вызначыць іншую ідэю, можа нават сам паказаў бы, што імкненне Лабановіча, Тукалы, Садовіча і іншых настаўнікаў служыць справе вызвалення народу ўзвышае іх, што ў жыцці трэба браць прыклад з іх, але ацаніў бы і тое, што ў Сяргея адметная ад ішых думка. Калі я аднаму-другому зніжу адзнаку за тое, што не згодзен з ягонай высноваў, то адаб'ю гэтым ахвоту выказвацца ва ўсіх астатніх вучняў.

Вядома, калі б вучань на маім уроку ў адказах даводзіў яўна аблудныя думкі, я пераконваў бы яго ў адваротным. Але калі ён

пры гэтым паказваў выдатнае веданне сюжэту, то адзнакі не зніжаў бы. Я спрачаўся б з ім, даваў бы яму кнігі, дадаткова гутарыў бы з ім пасля заняткаў, стараўся б выхаваць у ім сапраўднага інтэлігента-патрыёта... Але лічу – зніжаць адзнаку за погляды нельга.

Дырэктар тады ў многім згадзіўся са мной. Мушу прызнацца, што ў маёй педагагічнай дзейнасці было многа выпадкаў нязгоды з начальствам, здаралася, што і вучні не згаджаліся...

Калі выбіралі старасту класа, то я заўсёды патрабаваў, каб было некалькі кандыдатур, бо якія ж гэта выбары, калі ёсць толькі адзін кандыдат. Часам нават сам прапаноўваў яўна спрэчную постаць у старасты, каб дзеці маглі ў будучыні пераканацца, што яны прапанавалі і выбралі лепшую кандыдатуру; пазней, у выпадку якогась праступку з боку майго кандыдата, я хваліў вучняў, што яны адстаялі сваю думку і выбралі таго, каго палічылі вартым. Вядома, у тых умовах, у якіх даводзілася працаваць, цяжка было разбудзіць самастойнасць, але я да гэтага імкнуўся.

Стараўся рабіць так, каб гэтага не заўважылі настаўнікі-стукачы. І ўсё ж даносы паступалі. Праз гэтыя даносы і ўз’еліся ўлады на маю методыку, на мае рабочыя планы, на “Праменьчык”, на стварэнне музея, на перапіску з патрыётамі...

### *“ЛіМ”, ды ня ўсім...*

Мая самарослая методыка была скіраваная на выхаванне ў дзетак актыўнага, творчага стаўлення да вучобы і жыцця. Я заўсёды заахвочваў памкненні вучняў сфармаваць уласны погляд на тую ці іншую зьяву, вучыў іх прынцыповасці ў адстойванні ўласных перакананняў. У гэткай педагогіцы важную ролю грала перапіска дзетак з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі. У часе ліставання закладвалася духоўная аснова асобы – у дзетак фармаваліся прынцыпы і ідэалы пад уплывам разумных, мудрых, таленавітых людзей...

Але здараліся на гэтым шляху і зусім неспадзяваныя перашкоды.

Неяк у чэрвені 1974 года вучаніца 8 “А” класа Гудзевіцкай СШ Ганна Салтан звярнулася да мяне з просьбай, каб дапамог ёй падабраць тэму для заметкі ў штотыднёвік “Літаратура і мастацтва”. Я ёй параіў апісаць чацвёрты нумар школьнага літаратурна-краязнаўчага часопіса “Праменьчык”.

Дзяўчынка з запалам узялася за гэтую справу. Падрабязна апісала гісторыю стварэння часопіса, яго раздзелы, асобныя вершы і заметкі. Да свайго артыкула прыклала шмат матэрыялаў з “Праменьчыка” і ўсё гэта паслала ў “ЛіМ”.

Восьмага ліпеня 1974 года Ані адказаў загадчык аддзела прозы і паэзіі Яўген Каршукоў. Ён пісаў: “Рэдакцыя атрымала вашы матэрыялы пра школьны літаратурна-краязнаўчы музей, вершы. Вельмі добра, што вы цікавіцеся гісторыяй роднага краю, сабраныя ў вашым музеі краязнаўчыя звесткі будуць падрыхтаваны па меры магчымасці да друку. Вершы і празаічныя ўрыўкі вылучаюцца сапраўднай любоўю да роднай беларускай прыроды, такія, як “Сасняк”, “За што”, “Мая вёсачка”, і любоўю да роднай мовы, скарбніцы беларускай культуры...”

Аднак першага жніўня загадчыца аддзела культуры штотыднёвіка “ЛіМ” Яўгенія Данская прыслала на маё імя ліст зусім супрацьлеглага зместу: “Атрымалі ўсе матэрыялы Вашых вучняў. На жаль, апублікаваць іх не зможам. Зразумейце і вы наша становішча. У рэспубліцы не адна сотня сярэдніх школ. А рэдакцыя няспынна будзе друкаваць матэрыялы толькі пра літаратурна-краязнаўчы музей адной Вашай школы...”

Дзяўчынка з нецярплівасцю гартала свежыя выпускі газеты, бясконца цікавілася, ці няма ў “ЛіМе” яе заметкі. Я быў вымушаны расчараваць яе і паказаць ліст Данскай да мяне, бо маніць сваёй вучаніцы не мог. Аня зажурылася. Суцяшаючы яе, я параіў, каб яна напісала ліст да Данской, у якім запыталася,

на колькі часу накладзена забарона на друкаванне твораў нашых вучняў, ці варта наогул пісаць нашым вучням у “ЛіМ”, чаму не друкуюцца ў “ЛіМе” творы іншых вучняў, з іншых школ.

Замест пісьмовага адказу Данская асабіста прыехала ў Гудзевічы.

Думаў, што ехала яна, каб папрасіць прабачэння за тое, што “ЛіМ” паабяцаў надрукаваць творы нашай вучаніцы, абнадзеіў, але не выканаў свайго абяцання. Аднак мае спадзяванні былі дарэмныя.

Напярэдадні прыезду журналісткі загадчык Мастоўскага РАНА правёў адпаведную работу, дырэктар школы папрацаваў сярод настаўнікаў, і Данская выступіла ў ролі пакрыўджанай добразычлівкі.

Сабралі сход. Выступіў дырэктар школы, – пазней ён пагарэў на камбінацыях з прысваеннем чужых заробкаў: атрымліваў у калгасе грошы за працу вучняў па фальшывых ведамасцях. Дырэктар назваў амаральным учынкам тое, што я азнаёміў вучаніцу са зместам ліста ад Данской. Большасцю галасоў настаўнікі сцвердзілі, што я не павінен быў паказваць ліст Ані, а яна не павінна была пісаць у рэдакцыю.

Я ж лічыў амаральным удзельнічаць у змане лімаўцаў і хлусіць сваёй вучаніцы – беспадстаўна абнадзейваць яе, ведаючы пры гэтым сапраўдныя намеры рэдакцыі. Спрабаваў растлумачыць: асабіста я ніякага ліста да рэдакцыі не пісаў, ніякіх заметак не пасылаў – дык чаму ж яны адказалі мне, а не ёй.

Нічога не дапамагло. Больш таго, упяцёх, без мяне, гэтыя дарослыя дзядзькі і цёткі дапытвалі дзяўчынку ў кабінеце дырэктара. Уяўляю, які ўрок самастойнасці і прынцыповасці атрымала Аня...

Данская папрасіла, каб экскурсаводы расказалі ёй пра музей. У часе экскурсіі часта перапыняла іх, загадваючы прапускаць самае істотнае, а фондаў музея зусім не пажадала глядзець. Калі яна запытала ў мяне, як дапамагае нам дырэкцыя школы, то я паведаміў, што дырэктар не дапамагае ні як гісторык, ні як адміністратар: чацвёрты год прашу шафу для захавання фондаў музея, аднак шафы і сёння няма, другі год прашу квадратны метр фанеры, але фанеры няма… Яна запярэчыла:

– А вы як думалі. З мэбляй цяпер вельмі цяжка, а з фанерай яшчэ цяжэй...

Пасля той даўняй сустрэчы з журналісткаю і недарэчнага выпадку з штотыднёвікам “ЛіМ” застаўся ў душы асадак. Ён і сёння не пакідае мяне. Крыўдна, што такія прышыбеевы трапляюць у беларускі цэнтральны друк і адтуль шкодзяць нашай культуры.

А тады я атрымаў суровую вымову за антысавецкую арыентацыю вучняў...

### *Гэта не цяжка*

Самарослая методыка ў некаторых педагогаў выклікае пярэчанне.

– Пры такой методыцы я буду працаваць без выхадных, – заяўляе хтось з выкладчыкаў.

Так, мая методыка патрабуе ад настаўніка шмат працы, асабліва першы месяц. Аднак, з кожным тыднем, месяцам, годам працаваць па ёй усё лягчэй.

Яшчэ перавага мае методыкі і ў тым, што выкладчык атрымлівае шмат добрых эмоцыяў, а гэта ператварае працу ў адпачынак: вы бясконца цешыцеся з поспехаў вучняў. Добрыя эмоцыі станоўча ўплываюць на здароўе.

Урэшце, правяраць работы, у якіх няма памылак, значна лягчэй, прыемней і хутчэй.

– Цяпер у школах увялі тэсты, – кажуць мне мае апаненты, – а адказы па тэстах патрабуюць новай методыкі...

– Дык гэта і ёсць тая методыка, якая патрэбна для тэстаў…– адказваю я.

У маёй методыцы кожны параграф дае адказы на многія тэсты.

Мае апаненты пярэчаць:

– Цяпер у цэнтр увагі ставіцца духоўнае выхаванне вучняў. А як вы па картках выхаваеце духоўнасць?

Але мая методыка заснавана на творчых памкненнях дзетак – гэта і перапіска з пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, і збіранне фальклорнае спадчыны, дыялектызмаў нашага краю, і напісанне вершаў, апавяданняў, драматычных твораў, і расшыфроўванне тапонімаў і мікратапонімаў, і праца па ахове прыроды, і збіранне экспанатаў, і выданне свайго часопіса “Праменьчык”, і распрацоўка даследванняў, і іншае. Гэта і ёсць выхаванне духоўнасці.

Каб эфектыўна арганізаваць навучальны і выхаваўчы працэс, настаўнік павінен эканоміць свой час. Дзеля гэтага варта да мінімуму зменшыць хатнюю гаспадарку, працаваць на ёй па адной-дзве гадзіны кожны дзень усёй сям’ёю. Паступова, кожны год па адным класе, складаць капітальныя рабочыя планы шматгадовага выкарыстання з дапаўненнямі, выпіскамі з перыядычнага друку, з навуковых артыкулаў, з запісамі каштоўных матэрыялаў з тэлерадыёперадач, з апісаннем удалых метадаў, прыёмаў, момантаў з аналагічных урокаў мінулых гадоў, з выразкамі, карткамі, фотакопіямі... Трэба задаваць вучням кароткія, але змястоўныя хатнія заданні – каб вучань мала пісаў (шэсць-восем радкоў у сшытку), але многа думаў; пры гэтым варта было б, каб пісьмовае выкананне хатніх заданняў займала не больш за пяць-восем хвілін. Гэта дасць магчымасць разгрузіць вучняў, эфектыўна праверыць усе іхнія хатнія работы і ацаніць веды. Арганізаваць урок трэба так, каб за тры-пяць хвілінаў апытаць усіх вучняў праз адказы на картках і кожнаму вучню на кожным уроку выставіць па дзве адзнакі – за карткі і за хатнюю пісьмовую работу: такая арганізацыя ўроку дасць магчымасць выкарыстоўваць па 40-42 хвіліны на тлумачэнне і замацаванне новай тэмы. Вучні павінны ведаць усе пытанні, якія могуць быць пастаўлены на наступным уроку і ўмець адказваць на іх.

Пры такой арганізацыі працы кожны урок для вучняў і настаўніка радасць, свята.

Міністэрства асветы абавязана забяспечыць кожнага настаўніка роднай мовы і літаратуры кампутарам, прынтарам, ксераксам – хаця б старымі, якія спісаны ў школах, ва ўстановах, на заводах, у калгасах...

Кожны настаўнік павінен імкнуцца да таго, каб амаль усе вучні мелі дзевяткі і дзесяткі: адзнакі вучняў – паказчык эфектыўнасці працы настаўніка.

Вось пакаротцы мае меркаванні паводле дзейснага выкарыстання самарослай методыкі.



***Алесь Мікалаевіч Белакоз і Міхась Скобла гутараць пра беларускую вечнасць на сальцы (мансардзе) у доме гудзеўскага гаспадара. Гудзевічы, васемнаццатага красавіка 2009 года. Фотадзеячас.***

# *ГРАМНІЧНАЯ СВЕЧКА*

**Сёлета спаўняецца дзесяць гадоў з дня, як ня стала паэткі Ніны Чарнейкі. Яна памерла дваццаць сёмага ліпеня 2000 года. Гэтая публікацыя прысвечаная ейнае памяці.**



*Ніна Чарнейка (1966 – 2000). Жодзіна, лета 1997 года. Фота Генадзя Пузанкевіча. Здымак з сямейнага архіва Пузанкевічаў.*

**Ніна Чарнейка нарадзілася дзевятнаццатага кастрычніка 1966 года ў вёсцы Пераналока Рэчыцкага раёна Гомельскае вобласці трэцяй па ліку ў беларускай сям'і з сямі дзяцей. Яна з маленства пісала вершы. Скончыла Менскую медычную вучэльню № 2 і працавала медсястрою ў Менску ў шостай клінічнай больніцы, у раддоме.**

**Калі адбылася аварыя ў Чарнобылі, Ніна Чарнейка гасцявала ў бацькоў у Пераналоцы, якая знаходзіцца паблізу атамнага рэактару. У 1997 годзе ў аўтамабільнай катастрофе загінуў ейны муж. Ніне давялося адной гадаваць малых дзяцей – сына і дачку. У 1997 годзе Ніна Чарнейка пачала траціць прытомнасць, і яе паклалі ў шпіталь. У 1998 годзе ёй зрабілі аперацыю, пасля якой Ніна атрымала першую ступень інваліднасці; у яе знік сон, зьявіліся сталые галаўныя болі, пагоршыўся зрок. У 2000 годзе была праведзеная яшчэ адная, паўторная аперацыя. У канцы ліпеня 2000 года ў трыццацітрохгадовым веку Ніна памерла. Пахавалі яе ў Жодзіне, куды пасля чарнобылю перасяліліся ейныя бацькі.**



**Ніна Чарнейка пісала вершы з дзяцінства. Друкавалася ў газетах "Піянер Беларусі", "ЛіМ", часопісах "Першацвет", "Маладосць". У 1999 годзе, нягледзячы на цяжкую хваробу, Ніна Чарнейка выдала зборнік паэзіі "Грамнічная свечка"; кніжка выйшла ў шэрагу "Бібліятэчка часопіса "Маладосць".**

# ЗГАДКІ ПРА НІНУ ЧАРНЕЙКУ

З паэткаю Нінай Чарнейкай я пазнаёміўся ў сярэдзіне 1990-х гадоў у Менску ў рэдакцыі часопіса "Першацвет", які ачольваў Алесь Герасімавіч Масарэнка. Рэдакцыя мясцілася ў прыймальні Саюза пісьменнікаў, які зычліва і бескарысліва

***Увазе прапануюцца ўспаміны Лявона Вашка пра паэтку Ніну Чарнейку. Яны напісаныя ў снежні 2009 года.***

прапанаваў для часопіса плошчу і тэлефон; рэдакцыйны пакой быў адмысловым “прахадным дваром”, тут часта вядомыя пісьменнікі патаналі ў стракатай гурме тых, хто толькі што ступіў на літаратурную сцяжыну. Па панядзелках у “Першацвеце” праходзілі паседжанні маладых літаратараў, увечары тут збіраліся галоўным чынам пачаткоўцы – школьнікі, студэнты, працоўная і беспрацоўная моладзь. Калі выпадаў час, я з задавальненнем прыходзіў на гэтыя сустрэчы, каб паслухаць творы ў выкананні аўтараў.

Ніна Чарнейка вылучалася з агулу тым, што была крыху старэйшая за астатніх. Характэрная рыса маладых літаратараў – гэта сувязаная з імкненнем звярнуць на сябе ўвагу прэтэнцыёзнасць у творчасці: гучныя заявы і вершадэкламацыі, палымяныя адозвы, правакацыйны эпатаж... Для Ніны Чарнейкі гэтае было не ўласціва, і акурат гэткая ейная рыса была вызначальнай, розніла яе з шэрагам. Ейная сціпласць была падобная на мудрасць, а вершы – пазбаўленыя налёту часцяком беспадстаўнае саманадзейнасці, што зазвычай апаноўвае творцаў насупраць маладога веку; вершам былі ўласцівыя сумненні й нейкі рахманы, крохкі, ледзь адчутны, бо таямнічы, ідэялізм, тая безабаронная і драматычная наіўнасць, без якой няма паэзіі, і без якой не існуе мастацкае праўды, і без якой паэт адсутнічае або знікае, пераўтвараецца ў прагматыка, гадаванца, выкармка, папаўняе войска калямастацкіх літматэрыялістаў...

Здавалася, вершы Ніны зьявіліся беспрычынна – як выдых, проста так – і выпадкова, без аніякіх амбіцыяў пакінуліся аўтаркаю на паперы ў падарунак часу; пра ўнутраныя “матывацыі” уласнае творчасці ёсць у Ніны Чарнейкі верш поўны “жаночых” вобразаў – “сатканы” са сплеценых косаў ды пакутаў раджэння:

На мяне вершы наплываюць
хваляй гукаў і слоў.
Часцей гэта бывае ноччу,
калі я папаўняю сваю энергію
ў аблоках сну.
Нібы звар’яцелыя,
накідваюцца рытмы і выразы,
цесна сатканыя ў косы,
якія не расплесці, не разарваць.
Накідваюцца,
як боль на жанчыну,
якая збіраецца сёння нарадзіць.
І гэты боль то мацнее, то слабее,
і калі ён зусім сціхне,
я, нібыта згубіўшы прытомнасць,
засынаю.
Засынаю, так і не паклаўшы
на паперу ніводнага радка.
І так з дня ў дзень.
з ночы ў ноч...
І вось аднойчы,
як праменьчык сонца,
загараецца маё сэрца,
перапоўненае
цеплынёй і спакоем.
І на паперы
нараджаецца верш...

***(“Нараджэнне верша”)***

У імклівым навокалсусвеце вершы Ніны Чарнейкі гучаць сумна і ціха – шэптам; ейныя вершы, гэта тая праўда, якая не паўстае дэкларацыйнай неабвержнасцю фактаў аб’ектыўнае рэальнасці, а – загадкавы абсяг, на парог якога прыходзіш сам, сам адкрываеш творчую шчырасць, сам перажываеш боль знікнення нязначных, непрыкметных і блізкіх зьяваў, якія трывала

акаляюць душу, і якія ў судакрананні з тваёй душою ёсць і ты таксама, і якія, знікаючы ў пражытасці, негалосна сведчаць і пра тваё няўпыннае, сталае, няўмольнае знікненне...

Гэтая паўсюльісная знікомасць чытаецца ў вершы "Маё сэрца": тут існіна жыцця – выпадковые імгненні наваколля, што спалучыліся з выпадкам уласнае ўсхваляванае душы. Сугучны гэтаму твору і верш "Мой дзень", у якім параннае наваколле, што выднела са шчаслівых сноў, аберагаецца ў душы праз узвышаную творчасць:

Кожны мой дзень
прачынаецца з чысціні і пяшчоты,
якой мяне саграває Бог,
і яны крочаць побач
да таго часу,
пакуль хто-небудзь
не сыпне на мяне
попел крыўды і болю.
І тады мой дзень
робіцца самым звычайным
і самым зямным.

Але кожны дзень
па маленькай іскрынцы
я стараюся пакласці на паперу
рэшткі
той ранішняй чысціні і пяшчоты,
каб імі сагрэць
калі не чыёсьці сэрца,
дык хоць бы маленькую
і кволую травінку,
каб яна дарасла,
прасціраючы свае
кволые рукі,
да Бога.

Знікомасць чуецца ў вершы "Прыцягненне", што напісаны на падставе горкага досведу паслячарнобыльскага высяленства; у творы бацькаўшчына, якая знікае... застаецца... траціцца... ва ўспамінах, настальгічна збуджае пачуццё зямнога прыцягнення, гравітацыйнае ўзаемадзеянне між душою і пакінутаю незваротнасцю:

Дык што ж мяне так балюча
цягне на Радзіму?
– Магілы тваіх продкаў, –
кажуць адны.
– Успаміны, –
кажуць другія.
– Прыцягненне, –
шэпча зямля...

У вершы "Старая бабуля" з невераґоднай шчымлівасцю, вобразнасцю выказаная філасофія жывога ў ягоным пачатку-завяршэнні: супраць-



*Ніна Чарнейка. Здымак узяты з часопіса "Першацвет", № 4, 1997.*

*Ніна ЧАРНЕЙКА*

***Я*** – чалавек:
зямное цела і нябесныя думкі.
Цела штодзень
цягне
мяне ў зямлю.
Думкі – у неба.
Цела і думкі разрываюць мяне
на дзве часткі.
І калі была пагроза
разрыву,
я стварыла ў сабе сярэдзіну –
сяброў і сям'ю,
кнігу і веру,
якія ўтрымліваюць мяне
на зямлі.

***"Першацвет", № 4, 1997, с.54.***

***Вершы Ніны Чарнейкі друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. У тым ліку публікаваліся і на старонках штомесячнага часопіса маладых літаратараў Беларусі "Першацвет", які быў заснаваны праз дбанне ягонага галоўнага рэдактара Алеся Герасімавіча Масарэнкі. У выданні змяшчаліся творы на роднай мове беларускае моладзі. Часопіс быў зачынены ўладамі.***




***Чацверты, красавіцкі нумар "Першацвету" за 1997 год выйшаў зборам у 1 200 асобнікаў. Між іншых матэрыялаў там друкавалася падборка вершаў Ніны Чарнейкі.***

пастаўленне станаў маленькае дзяўчынкі, што жыве ў сваю старасць, і старое бабулі, якая працягвае жыццё за кошт свае маладосці, адбіраючы яе ў сябе, адкрывае суцэльнае ў гэтае пярэчлівасці, утварае адзінае – жывалёс з ягонымі ўнутранымі сутыкненнямі, дапаўненнямі й пераменамі якасцяў, з ягоным болем, надзеяй, роспаччу, таемствам, абыдзённасцю, неабходнасцю, наканаванасцю...

Уласцівая для беларускае літаратуры і шматлікіх аўтараў развітальная інтанацыя ў творчасці Ніны Чарнейкі падкрэслівае жыццёвую нетрываласць, плыннасць у адоймах паэтавечнага. Развітальнасць Ніны Чарнейкі – з таго парадку мастацкага выяўлення, якое адбываецца найбольш абвострана, трагедыйна. Трагічнае часта можна сустрэць і ў растайных сугуччах пісьменнікаў, якія дасягнулі глыбокае старасці, – але ў тым разе журба праз дотык да апошняга і невыпраўнага утаймаваная вычуваннем творчае сілы, што ператварыла адмераны адрэзак часу ва ўкнігаваны жыццёвы досвед; такой літаратуры ўласцівыя спавядальнасць, разважлівасць, роздум, падрахунак... – трагічнае ў ёй адшуканае, знойдзенае, здабытае, перажытае...; трагічнае – насамрэч шмат у чым і не трагічнае, паколькі смерць у дадзеным выпадку не зусім ёсць пагібель у невырашальным канфлікце, яна – не безвыходнасць, што сцверджаная супрацівам унутранага духу наўзверхнім умовам, а, увадваротку, яна – прадбачны выхад з суджанага кола, лагічнае завяршэнне жыццёвых калізіяў... Трагізм развітальнае літаратуры маладых якраз у адваротным – у нездзяйснёнасці, у досведзе, які мог бы адбыцца, аднак так і застаўся гіпатэтычным, неперажытым, але разам з тым ён прадчувальны ў пакінутых радкох як расчараванне, самота, надзея, шчасце кароткага яскравага імгнення... Падобная літаратура ўражвае творчай воляю, якая адбываецца наперакор блізкай смерці, творчай прагаю, якая паўстае над сконам, духафіласофіяй, якая хвалюецца непрамоўленасцю з-за зарадкоўя.

Кніжку Ніны Чарнейкі “Грамнічная свечка” поўніць спакойнае, светлае і трагічнае пачуццё смутку й надзеі, а ў нізцы, прысвечанай памяці мужа, які загінуў у аўтакатастрофе, эмацыйны вершаволеск гучыць з узмоцненай сілаю душы, – калі першацветаўская машыністка Лідзія Аляксееўна Рамашына друкавала рукапіс твораў у нумар, дык плакала ў рэдакцыі над вершамі з гэтае нізкі. Развітальнасць творчасці – ня толькі ў сыходзе, але і ў літаратурным падарожжы да свайго апошняга дня: у вершах Ніны падспудна гучыць гэты самарэквіем з божай дарогі, і ёсць творы, у якіх выразна прадказаны заўчасны скон; вершы паэткі трывала зьяднаныя з ейным лёсам, з ейным хуткім шляхам, з ейным негаданым знікненнем...

Помню, як у 1998 годзе, адразу пасля Новага года, сёмага студзеня ўдзень у рэдакцыі часопіса “Першацвет” азваўся тэлефон. Я працаваў тады ў часопісе на чвэрцьстаўкі, знаходзіўся ў рэдакцыі й падняў слухаўку. Званіла Ніна, яна была ў адчаі, – тэлефанавала са шпіталя: паведаміла, што ляжыць у Навінках, у нейрахірургіі, і заўтра ёй зробяць складаную аперацыю, вынік якой цяжка прадказаць. Я пачаў суцяшаць яе, пераконваць, што ўсё будзе добра...

Пасля аперацыі я наведаўся да яе ў палату. На двары было цёмна, стыла і пуста; здаецца, падаў снег. Папоцемку я не адразу знайшоў хірургічны корпус з акварыюмным, мутнаватым мёртватрывожным святлом у вокнах, а калі знайшоў, не адразу патрапіў у дзверы – даў кругаля вакол будынка ў пошуках уваходу.

Да палаты, дзе ляжала Ніна мяне правёў медбрат; ягоныя выгляд і голас былі спачувальныя, у бязлюдным вечаровым калідоры ён папярэдзіў мяне, што пасля аперацыі Ніна можа ўспрымаць рэчаіснасць неадэкватна. Аднак я гэтага не адчуў: яна пазнала мяне, мы завялі агульную размову... Адзінае, я заўважыў, калі зайшла гаворка пра зборнік “Грамнічная свечка”, Ніна пачала апавядаць пра яго як пра здзейснены факт. Мне



***Вольга Ахрэмаўна Семчанка (у дзявоцтве Чарнейка), маці паэткі, з унукам Сашкам – сынам Ніны Чарнейкі. Жодзіна, дваццаць чацвертага кастрычніка 2001 года. Фота Алеся Масарэнкі.***

было вядома, што кніжка насамрэч ня выйшла – была падрыхтаваная да друку, але выхад раз-пораз адтэрміноўваўся і пераносіўся ў рэдакцыйных планах; проста Ніне прытрызнілася ўкнігаванне "Грамнічнае свечкі", і я прамаўчаў ды ня стаў разбураць ілюзіі.

Кніжка пабачыла свет дзесьці праз паўтара года. У Ніны, нягледзячы на дрэнны стан здароўя – пасля аперацыі й хіміятэрапіі ёй была нададзеная першая група інваліднасці, – хапіла сілы выдаць свой адзіны паэтычны зборнік; запомнілася, як вахцёркі ў інтэрнаце на Паўднёвым Захадзе Менску, дзе жыла паэтка, у фае прадавалі "Грамнічную свечку", каб вярнуць патраты: Ніна Чарнейка аплочвала выданне з уласных сродкаў, і таму ганарар атрымала кніжкамі. Асобнік яна падпісала мне; я папрасіў яе, каб яна падпісала кніжку Лявону Юрэвічу, і з аўтографам паэткі адправіў "Грамнічную свечку" у ліку іншых выданняў да яго ў Амерыку...

Сваю хваробу Ніна трывала мужна, з задуменнай, ускрыленай і прытоенай самотаю: я ня ўбачыў ні паняверкі, ні страху, ні слязы...; у ейным жыццёвым завяршэнні не было душэўнае слабасці, – яна з нейкай светлай, пакорлівай цішынёю, асцярожна кратала рэшткі свайго апошняга часу, і нават не наракала на фізічны боль, што стала трывожыў яе пасля аперацыі.

Нядужасць не перашкодзіла асяліць па Сухараўскай вуліцы трохпакаёвую кватэру, на чарзе да якой Ніна стаяла доўгія гады, – хвароба й інваліднасць нават прыспешылі ўваходзіны. Ніна рабіла гэта дзеля сваіх маленькіх дачкі й сына, яна ня дужа спадзявалася на выздараўленне.

Паўторную аперацыю Ніне зрабілі дваццаць другога лютага 2000 года. У тым часе я ўжо даўно зьехаў з Менску, большую частку кідаўся ў Мастох, але а той пары – быў у Гародні, жыў у апусцелай кватэры майго дзядзькі Шуры, рабіў там першы выпуск "Маленькага сшытку" ды "Дзеячасы". Калі наязджаў у сталіцу, праведваў Ніну на ейнай кватэры. Нейкага дня, на пачатку сакавіка я без папярэджання завітаўся да яе. Дзверы адамкнула ейная маці, – гэтак я пазнаёміўся з ёю і з роднаю

сястрой, Таццянай Пузанкевіч. Ад ейных сваякоў я даведаўся, што Ніну толькі што, у гэты ж дзень выпісалі са шпіталя пасля другое аперацыі. Для мяне навіна сталася нечаканасцю, я ня думаў пра такі хуткі рэцэдыў хваробы. Запомнілася народжанае невытлумна, невядома скуль дрэннае прадчуванне... Ніна ляжала на канапе ў зале; яна ўзрадвалася майму прыходу. Мы крыху пагаварылі з ёю, я падарыў ёй першы выпуск “Маленькага сшытку”, дзе на абачыне была змешчаная анатацыя “Грамнічнае свечкі”. Было вельмі цяжка авалодаць сваімі пачуццямі, таму я развітаўся чым хутчэй...

Нашая апошняя сустрэча адбылася праз некалькі дзён, здаецца, восьмага сакавіка: мы сядзелі на кухні й пілі гарбату з тартом. Ніна пасля аперацыі рэчаіснасць успрыймала даволі лагічна – толькі, было, доўга ўспамінала прозвішчы агульных знаёмых... У тым часе я рыхтаваў першы выпуск свайго спамроссылу “Духахрам”, які меўся распаўсюдзіць між розных адрасатаў інтэрнэту. Я сказаў Ніне, што між іншых матэрыялаў хачу змясціць у рассылцы інфармацыю паводле хваробы і папрасіць дапамогі ў лячэнні, – я спадзяваўся, што за мяжою, магчыма, існуюць эфектыўныя метады лекавання ейнага нядужжа. Яна адказала: ня варта, ёй ужо нічога не дапаможа... Тым ня меньш я настойваў на сваім, пераконваў яе, што трэба змагацца.

Вядома, Ніна мела рацыю...

Я зрабіў копію выпіскі з гісторыі ейнае хваробы і звярнуўся да свайго аднакласніка Алега Кукальніка, менскага ўрача-неўролага. Пазнаёміўшыся са справаю, ён нічога суцяшальнага не паведаміў, сказаў, што ў дадзеным выпадку наўрад ці ёсць у свеце штосьць прынцыпова лепшае за тое, што ўжо зробленае; разам з тым ён спрабаваў збудзіць надзею, казаў, што, здараецца, пасля падобнай аперацыі людзі жывуць па дзесяць і больш гадоў...

Мая вэбрассылка не атрымалася дзейснай: просьба пра дапамогу была пазбаўленая канкрэтыкі – ні банкаўскага рахунку, ні пэўнасці ў тым, якія патрэбныя захады...; проста друкаваліся інфармацыя пра хваробу, хатні тэлефон, вершы Ніны і пафасныя заклікі. Падрыхтоўка “Духахраму” ішла марудна; хуткаму выхаду замінала адсутнасць вопыту ў гэтай справе, брак належных праграмаў, абсталявання – у інтэрнет а тым часе я выходзіў праз знаёмых, бо ня меў уласнага мадэму; дый розныя паўзбежные справы адрывалі мяне ад галоўнага – адначасова я рабіў другі выпуск свайго “Маленькага сшытку”, рыхтаваў “Дзеячас”, уладжваў друкарскія справы і між усім спрабаваў пісаць у шухлядку. Да таго ж, страцілася сувязь з Нінаю – апошні раз тэлефанаваў ёй дваццаць чацвертага красавіка ў 12:11, мы размаўлялі з хвілінаў шэсць; некалькі разоў набіраў ейны нумар улетку, але тэлефон не адказваў і не было магчымасці скаардынаваць дзеянні, – як потым высветлілася, Ніну забралі да сябе ў Жодзіна бацькі, адрасу якіх я ня ведаў.

Ведамка “Духахрам” пабачыла свет толькі ў другой палове ліпеня, яна была распаўсюджаная на



***Сын Ніны Чарнейкі Сашка. Жодзіна, дваццаць чацвертага кастрычніка 2001 года. Фотадзеячас.***

ангельскай, рускай і беларускай мовах па ўсім свеце сярод прыватных асобаў, рэдакцыяў, грамадскіх арганізацыяў; россыл быў адпраўлены больш як на трыста электронных адрасоў. Тэкст быў прымацаваны да допіса ў "экзэшным" заархіваваным файле і самараспакоўваўся пры адкрыцці, і гэтае насцярожыла некаторых атрымальнікаў, – да мяне прыйшло некалькі прапановаў дасланць інфармацыю ў асноўным целе электроннага ліста. Мяркуючы па атрыманых водгуках, "Духахрам" быў сустрэты станоўча. Разам з тым не абышлося і без неспадзяванасцяў; ад імя галоўнага рэдактара незалежнае газеты ў Маладэчні прыйшоў раздражнёны ліст з абурэннямі з прычыны адабранага часу. Давялося выбачацца...

Праз колькі дзён па выхадзе "Духахраму", дваццаць сёмага ліпеня Ніны ня стала. У гэты дзень а другой палове дня, у 14:15 да мяне патэлефанавала з Жодзіна Нініна родная сястра Тацяна і паведаміла пра смерць. У пашпарце Ніны выпадкова знайшлася мая візітоўка, і сястра вырашыла пазваніць па нумары на ёй...

Я набраў некалькі менскіх тэлефонаў – спрабаваў дазваніцца да тых, хто яксьці далучыўся да творчасці паэткі, і мне ўдалося сувязацца з параю рэдакцыйных і выдавецкіх мужчынаў. Аднак мае прапановы зьездзіць у Жодзіна і развітацца з Нінаю засталіся без падтрымкі: развітанню заміналі больш важныя мерапрыемствы, запланаваныя на дзень пахавання...

Адгукнуўся на прапанову Алесь Масарэнка; у тым часе яго ўжо звольнілі з пасады галоўнага рэдактара "Першацвета", а сам часопіс быў зачынены.

Увечары я, набыўшы кветкі, выехаў сваім "гольфікам" з Мастоў у Менск з тым, каб абначаваўшыся на летніку, назаўтра раніцаю рушыць у Жодзіна.

Разам з Алесем Герасімавічам Масарэнкам мы скіраваліся на пахаванне... Памню, доўга не маглі выехаць з Менску – мы, здавалася, бясконца чакалі ў пад'земным пераходзе на плошчы Перамогі Адама Выгодскага, які вёз са Смалявічаў да Алеся Герасімавіча друкапіс свае кніжкі; разам з намі ён паехаў да ростаняў, дзе дарога на Смалявічы. Потым заблукалі на Жодзінскіх ускраінах, шукаючы Судабоўку і Зарэчную вуліцу... Аднак на развітанне ўсё ж паспелі. Вольга Ахрэмаўна, маці Ніны, распавяла пра апошнія часы паэткі; Ніна памірала пакутна, быў жудасны боль… На могілках Алесь Герасімавіч сказаў развітальнае слова.

У часе хаўтураў адбыўся выпадак, які падаўся мне містычным. На памінкі мы не засталіся – я меркаваў у гэты дзень быць у Мастох, таму не хацелася затрымлівацца з прычыны далёкае дарогі. Аднак ашчадзіць часу не атрымалася: па вяртанні



***На сядзібе Пузанкевічаў. Злева направа: Тацяна, родная сястра паэткі, сын Ніны Чарнейкі Сашка, муж Тацяны Генадзь Пузанкевіч, Алесь Масарэнка. Жодзіна, дваццаць чацвертага кастрычніка 2001 года. Фотадзеячас.***

з кладоў, едучы наперадзе агульнае жалобнае чарады аўтамабіляў, акурат на паваротцы да хаты Ніністых бацькоў мы пачулі ў салоне моцныя ўдары ў падлогу. Я збочыў і запыніў машыну. Агледзеліся. Высветлілася, што прагарэў глушыльнік; выхлапная труба адарвалася, і – білася аб корпус. Збіраючыся ў дарогу, я затлуміўся і ня ўзяў з сабою інструмант; давялося скарыстацца з падручных сродкаў, таму шафёрскія кемлівасць і багаты стаж Алеся Герасімавіча былі дарэчы. У прыдарожнай калюжыне я знайшоў кавалак дроту; мы паддамкрацілі машыну, і Алесь Герасімавіч надзейна замацаваў трубу, каб не барабаніла. Калі мы працягнулі падарожжа, я ўжарты сказаў Алесю Герасімавічу, што Ніна ня хоча нас адпускаць са сваех памінкаў... Мне падалося, што яна дзесьці побач з намі, сядзіць на заднім сядзенні, глядзіць на нас сваім сінім позіркам і, пазбыўшыся страшных пакутаў, усміхаецца з блізкай і разам з тым недатыкальнай субстанцыі – з празрыстага і таямнічага абсягу душы і вершаў.

Гэтае пачуццё ўперамешку з жалобаю заставалася са мною і ў Менску, вуліцы якога дрыжэлі ад рэактыўнага самалётнага грому, што вырынаўся з адгарэлага глушыльніка, і на шляху дахаты, на якім я, спрабуючы прыцішыць гук рухавіка, пускаў “гольфік” накатам скрозь міліцэйскія пасты...

На адваротным шляху, надвячоркам я заехаў у Правыя Масты да праграміста з завода Андрэя Авечкі, які дапамагаў мне ў духахрамных справах і меў доступ да майго інтэрнэтрэсурсу, і папрасіў яго, каб ён змясціў у сеціве, на старонках саду інфармацыю пра заўчасную смерць Ніны.

*Масты, снежань 2009 года.*

# ЖАНОЧАМУДРАННЕ

***рэцэнзія***

***Ніна Чарнейка. Грамнічная свечка. Вершы. Бібліятэка часопіса “Маладосць”. Менск, 1999. – 32 старонкі.***

Вершаваны зборнік Ніны Чарнейкі прываблівае сваёй непадробнай жаноцкасцю пачуццяў і перажыванняў; ён створаны як бы насуперак адвечным памкненням паэзіі да мужнасці-ідэалу, ажно гэткае “занядбанне” мужнасці нейкім няўрозумным чынам арыгіналіць “Грамнічную свечку”, замілоўвае і зачароўвае суперажывальніка; там, дзе чакаеш спаткаць у вершах глыбакадумную філасофію, налучаеш адно непрыхаваныя наіў і гарэзлівасць, і наўпроць, з наіву і гарэзлівасці нечакана і раптоўна выісточваецца глыбокая філасофія; Ніна Чарнейка “падпарадкуе” паэзію сваім уласным “капрызам”, але гэткая жаночая прывярэдлівасць, якая па ўсіх “правілах” літаратуры мусіць хібіць вершатворы, увадваротку, негадана ім пасуе; паэзія Ніны Чарнейкі нагадвае прыгожую жанчыну, якую немагчыма ў нечым не падазраваць, але і немагчыма ў нечым выкрыць з прычыны бяздоказнасці запасокаў; і неўгамоннае жаночамудранне паэткі ўлёгкасці, як бы забаўляючыся, пераўтварае бяздоказныя здагадкі ды запасокі ў цноту, а банальнасць і рахманасць – у мудрасць і глыбежу.

Мароз
размалёўвае шыбы дамоў
думкамі,
і таму няма
зусім аднолькавых
малюнкаў.

Ты пайшоў –
я застаюся
гарачым сэрцам
на падушцы,
ў якім яшчэ

***Гэтая рэцэнзія была напісаная Лявонам Вашком у 1999 годзе. Яна друкавалася ў другім выпуску “Маленькага сшытку Лявона Вашка” (Масты-Менск, 2000).***

блукае
шчасце…

Ізноў растану,
быццам шакалад,
ў руках тваіх,
пяшчотных
і гарачых…

Усё ў кніжцы дыхае мудрай жанотаю – вобразы, асацыяцыі, лёс…; ясны і чысты жаночы сусвет Ніны Чарнейкі – гэта драма пачуцця, якая народжаная ў душы праз сутыкненне з як бы прошжаночае па свае грубае сіле і бязлітаснасці рэчаіснасцю;

**Кніжка Ніны Чарнейкі "Грамнічная свечка" – літаратурна-мастацкае выданне. Зборнік склалі вершы паэткі. Кніжка выдавалася на сродкі аўтара. Дасловак напісаў Казімір Камейша.**

**Лірычныя творы раскрываюць самотны стан душы, якая ў выпадковых і нязначных праявах навакольнага свету прагне знайсці прытулак і раўнавагу.**

**Кніжка пабачыла свет у шэрагу "Бібліятэчка часопіса "Маладосць". Галоўны рэдактар Г. Далідовіч. Рэдактары К. Камейша, А. Камароўскі. Мастацкі рэдактар У. Малахаў. Кампутарная вёрстка: В. Марынчанка. Карэктар Н. Доваль. Кампутарны набор: А. Гарон. Збор выдання склаў 660 асобнікаў. Кніжка надрукаваная з арыгінал-макета рэдакцыі ў друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку".**




***Ніна Чарнейка. Грамнічная свечка. Дзяржаўнае прадпрыемства "Дом прэсы". Менск, 1999. На тытуле падоранай Лявону Вашку кніжкі Ніна Чарнейка пакінула аўтограф: "Дарагому Лявону з пажаданнем здароўся і шчасця, моцнага кахання, ва ўсім поспехаў і ўдач. З павагай, аўтар Ніна Чарнейка. 05.07.99"***

***Казімір КАМЕЙША***

## *СУАДПАВЕДНА ДУШЫ*

Чарговая кніжка яшчэ адной паэткі... Не хацелася б усё ж дзяліць паэзію на мужчынскую і жаночую, бо як быць тады з многімі жаночымі імёнамі, якія талентам сваім змусілі пачціва схіліць галовы геніяльных мужчын. А прыкладаў такога многа. Існуе проста паэзія з яе нечаканымі законамі, таямніцамі, варажбой і, вядома ж, адкрыццём. Думалася так, гартаючы ды рэдагуючы старонкі першай кнігі Ніны Чарнейкі "Грамнічная свечка".

Ня трэба шукаць у зборніку нейкіх вясёлых, бесклапотных матываў, бадзёрай узнёсласці, якія часта ўласцівы маладым. Тут вельмі многа самотнага і разумнага. Нават цнотнае часта мяжуе з самотным. Бо так на душы, так у асабістым лёсе паэткі. Усё тут суадпаведна душы. А таму вершы яе чытаюцца з глыбокай павагай і разуменнем. Яны кранаюць і змушаюць задумацца.

Глыток бы радасці!
Ну хоць адзін глыток,
каб валачы далей
цяжар зямнога быту,
каб кожны дзень зямны,
які слязой абліты,
вяртацца з памяці хацеў каб і ня мог.

Не, крыку душы тут няма. Тут больш роздуму, суперажывання, маўклівай лагоды. І самае галоўнае, што ў кнізе ёсць паэт. Пажадаем жа ёй шчаслівага паэтычнага лёсу.

***Дасловак Казіміра Камейшы да паэтычнага зборніка Ніны Чарнейкі ўзяты з кніжкі "Грамнічная свечка" (Менск, 1999).***

але рэчаісная процідухоўшчына, разам з тым, і выяўляе сваю суадпаведнасць з душою паэткі: Ніна Чарнейка апаэчвае нягоды, натхнёна пераўтварае жорсткі лёсасвет у шчырую і светлую паэзію; трапна піша ў кароткай прадмоўцы да "Грамнічнай свечкі" Казімір Камейша: "Не трэба шукаць у зборніку нейкіх вясёлых, бесклапотных матываў, бадзёрай узнёсласці, якія часта ўласцівыя маладым. Тут вельмі многа самотнага і разумнага. Нават цнотнае часта мяжуе з самотным. Бо так на душы, так у асабістым лёсе паэткі. Усё тут суадпаведна душы. А таму вершы яе чытаюцца з глыбокай павагай і разуменнем. Яны кранаюць і змушаюць задумацца".

Калі маё сэрца,
даведзенае да адчаю і болю,
гатова расплакацца,
як малое дзіцятка,
я нясу яго
да штучнага возера,
што побач:
няхай маё сэрца,
вольнае,

пабегае з ветрыкам,
пакорпаецца ў прыбярэжным пясочку,
пералічыць усе лісточкі на асіне,
паспявае разам з птушкамі,
сагрэе кожную сваю крывінку на сонцы.
…І калі,
знясіленае,
упадзе на зялёную травінку,
нібы кропельку расы,
каб не расплёскаць на далоні,
пяшчотна і асцярожна
я аднясу яго дахаты.

Глыбіня вершаў Ніны Чарнейкі, філасофія вершаваных вобразаў выяўляюцца ў ейнае творчасці супраць усялякіх "законаў" паэзіі, – і гэтае, "процізаконнасць", бадай што, самы галоўны паэтычны "закон" усіх паэтачасоў; Ніна Чарнейка сваёй паэзіяю не дакларуе аніякіх творчых ідэяў, не сцвярджае аніякіх аўтарскіх пазіцыяў, не шукае аніякіх эстэтычных прынцыпаў, – часцяком узнікае ўражанне, што ейная творчасць, увогуле адбываецца беспрынцыпова, эклектычна, – але акурат гэтае ў дадзеным выпадку, як ня дзіва, і нараджае хараство паэзіі, якая прысутнічае ў ейных вершах чысцінёю, святлом і мудрасцю; "Грамнічная свечка", і сапраўды, ёсць суадпаведнасць душы, суадпаведнасць шчыраму творчаму хваляванню; жаноцкі паэтычны свет Ніны Чарнейкі вельмі адчувальны, ён уражвае сваёй самотнай музыкаю і сваёй таемнай задуменнасцю; ён нараджаецца сярод сумнага лёсу, жыццёвых нястачаў і зямных клопатаў чароўна і загадкава і палоніць шчырасцю ды глыбокім жаночамудраннем, – толькі жанчына бо можа гэтак чула, і трапна, і бясконцаглыбока прамовіць быт, як прамовіла яго Ніна Чарнейка ў сваім вершы "Старая бабуля", змешчаным у "Грамнічнай свечцы":

Некалькі разоў
да мяне прыходзіла старая бабуля,
худая і гарбатая,
з выцвілымі валасамі.
І кожны раз
прасіла ў мяне
маё басаногае лета,
а я аддавала яго.
І на вачах
яе твар пераліваўся вясёлкаю,
яна ляцела ад мяне, нібы
праглынуўшы крышан шчасця…

Заўсёды пасля сустрэчы
на маім твары прарастала
маршчынка,
а за плячыма быў мех з каменнем.
…Я разумею: кожны раз
яна забірае маю маладосць.
Я так не хачу быць падобнай да яе!
Але мне так шкада старую,
што і ў наступны раз
я аддам ёй тое,
чаго яна папросіць.

# ПАЛЕСКАЯ ЧАРАЎНІЦА

Чараўніцтва Ніны Чарнейкі наваражылася казкамі і пакрыёмым паляшуцкім сусветам, у якім лесавікі і ваўкалакі ўсё яшчэ жывыя і час прабягае па сэрцы асаблівай кроўю – кудзебнай, напоўненай свабодаю мараў і праўдаю багоў; напэўна, Ніна Чарнейка самая зьявілася з гэтае спрадвечнае казкі – сярод шэрага змрочнага быту ейнае жыццё хвалявалася спакойным і невыказным хараством, бяздоннай загадкаю і шчымлівай светлай варажбою; яна бясконцавечна варажыла, размалёўваючы шэрабыт чыстымі сонечнымі фарбамі; “Я пакідаю краіну зданяў пачварна-чорных, дзе валадарыць заўсёды званні, пагарда й грошы. Я пакідаю краіну цемры, іду да сонца, дзе промень цёплы, надзіва светлы, ня рэжа вочы”; яна пісала вершы па-прарочы, на развітанне; яна пісала іх на сценах свайго жытла – роднае хаты, інтарнатаўскага пакою, у якім пражыла доўгага часу, менскае кватэры, якую атрымала за некалькі месяцаў да смерці, пісала над сваім ложкам і калыскаю дзіцяці; гэта былі дзіўныя, паэтычныя заклёны, самотная беларуская богавера, – праз свае жыванадпісы Ніна Чарнейка выісточвала пакрыёмы чарасвет, чутны адно ўсхваляванню душы і незразумелы абыклае абывальніцкае думцы; то было няўрозумнае валхвaванне, больш паэтнае за самыя вершы, – жыццё Ніны паэцілася незвычайнапрыгожай музыкаю, і з гэтае жыццямузыкі шчырагучнымі нотамі вершаваўся ейны лёс; жыццё было паэзіяй, а вершы – ейнаю часцінкаю; і Ніна жыла ўласнай богамузыкаю-вершамі і ёю памірала; яна пакрысе і немінуча, наканавана знікала ў сваім вабным і тайнічым чарасвеце.

Жыву паміж Зямлёй і Небам,
гляджу ў бяздонне Таямніц,
шукаю сэнс у Незямным
і мару адшукаць Прыстанак
у Новым свеце, забыццi
за бясконцасцю Неба
ці на мяжы Жыцця.

Няўхільная смерць-паміранне Ніны Чарнейкі поўнілася творчай дзеяю, неўміручасцю і жыццём, і музыка ейнае душы радзілася гэтым невядомым нябёсным жыццепазамежжам, якое вычувала ў сабе паэтка; то вельмі пяшчотная музыка, яна праменілася дабрынёю і спакоем. Ніна Чарнейка ўражвала тым святлом, якое ішло ад яе; ейная душэўная бездань была напоўненая да краёў спагадаю і нейкаю святою безабароннасцю перад жорсткім лёсам: гэты свет нішчыў яе каменным цяжарам, а яна адорвала яго сваімі прыгажосцю і ласкаю; яна больш чым хто мела патрэбу ў дабрыні і ў спагадзе ад гэтага свету і, не атрымліваючы яе, самая несла ў яго дабрыню і спагаду; яна ніколі не дакарала гэты свет, і не злавала на яго, і не наракала, – яна яго ціхамана, як

***Гэтая апасмертка была напісаная Лявонам Вашком у Мастох на пачатку жніўня 2000 года для газеты “ЛіМ”, паводле папярэдняе дамоўленасці з рэдакцыяй, і дасланая ў штотыднёвік. Аднак матэрыял не прынялі да друку. Апасмертка апублікаваная ў другім выпуску “Маленькага сшытку Лявона Вашка” (Масты-Менск, 2000).***



***Адзін з апошніх здымкаў Ніны Чарнейкі. Фота ўзятае з кніжкі Ніны Чарнейкі “Грамнічная свечка” (Менск, 1999).***

бы ўтайкі, пакідала, сыходзячы ў свой чароўны і шчасны край, адно заварожана шаптала ў перадсмяротных вершах: “Іду да шчасця, іду паволі да лепшай долі. І не вярнуся сюды ўжо болей я аніколі…”; яна існавалася асаблівай чуласцю: ейнае сэрца ўмела не забыцца на якіясь абавязковапатрэбныя дробязі і шчыраўсхваляваць мудрай глыбінёю якоесь выпадковае свята, якісь выпадковы дзень, якіясь выпадковыя словы…; Ніна няўгадным чынам заўсёды дазнавалася, калі неабходна паталефанаваць камусь з сяброў, і гаючa дакрануцца да ягонае душы сваёй нягучнай пяшчотаю; і чаравала, і гаіла.

Ніна Чарнейка памёрла гэтак, як звычайна паміраюць беларускія паэты: самотна, безабаронна і загадкава…; і разам з тым яна пайшла адметнай, толькі сваёй сцяжынаю: ейная самота – ад ведання нечага больш вечнага і мудрага за навакольны свет, ейная безабароннасць – ад шчырага жыцця ў гэтае мудравечнасці, ейная загадкавасць – ад нашае немагчымасці вычуць мудравечны чаракрай, які спасціглавычула яна…

Ейная смерць – жывое ўзвышэнне над смерцю, сыход у чароўную казку; яна знікла негадана і непрыкметна, каб калі-небудзь казачнапрахваляваццa сярод нас спакойным праблескам святое дабрыні, тайнічым задуменнем разгорнутае сусветакнігі, жыватворным пошаптам палескага таемначару…; чараўнікі бо не паміраюць – яны ператвараюцца ў птушыную адбожнасць сузор’яў і сусветаў і па-ранейшаму дораць наваколлю свае таямніцы; разумеючы гэтае, Ніна Чарнейка незадоўга да свайго пераўтварэння, калі была ўжо на божай дарозе, зайшла ў фотаатэлье і зрабіла апошні здымак, які друкуецца разам з гэтай апасмерткаю; трываючы боль і прадчуванне смерці, у адказ гэтаму свету, пакутам і нястачам яна ўсім сваім паляшуцкім жывачарам, заварожана і таемназагадкава ўсміхнулася ў фотааб’ектыў на развітанне з нікчэмным бытам і насустрач сваёй шчаслівай казцы.

***Масты, жнівень 2000 года.***

Ніна ЧАРНЕЙКА

# “Я ПАКІДАЮ КРАІНУ ЦЕМРЫ...”

***Вершы са зборніка Ніны Чарнейкі “Грамнічная свечка”***

### *Абяцанне*

Я адвязу цябе на мора,
дзе ты і я і нашы горы,
дзе ты і я
і пена хваль...

Збіраць мы ракавінкі будзем
і водарасці ўсе разбудзім
дзівоснай музыкаю мар.

На жаль, я не знайшла яшчэ на свеце
цудоўнага такога месца,
дзе ты і я
...і пена хваль.

Бо там, дзе горы,
там, дзе мора,
заўсёды шум, і крык, і рогат,
мільён вачэй
і людзі, людзі...
Мы там шчаслівыя ня будзем!

Давай рабіць машыну часу,
каб паляцець з табою разам
у светлы май,
у вечны рай.

### *Д’яблаў пір*

Ізноў вядуць мяне да плахі,
а пад нагамі –
снег і соль,
а галаву і рукі
птахі
дзяўбуць,
адчуўшы спелы боль.

І пах крыві маёй пачуўшы,
ушчэнт
гатовы разарваць
ды за спіною крык:
– Дачушка!
Табе шчэ рана паміраць!

Адкуль жа крык той мог узяцца,
да болю родны,
да крыві?
Не разумею,
Бог ці маці
тады мне крыкнулі:
– Жыві!

Той крык – святлей
за сто маланак.
І знікла плаха
й д’яблаў пір
у чортава балота,
ў жвір.
Зноў грэе сонца.
Лета.
Ранак...

### *Хвароба ад нявыказанага*

У дзяцінстве,
калі я ня бачыла перад сабою дарогі,
урачы, хвалюючыся за маё здароўе,
забаранілі мне пісаць.
...Ішлі гады,
і пачало збівацца з рытму сэрца.
Спачатку мне было цяжка бегаць,
яно задыхалася, калі я
падымалася на паверх.
І вось, калі я ўжо не магла
падысці да маці,
якая, абапіраючыся на мыліцы,
сумна глядзела на мяне,
у яе вачах быў адказ,
які я шукала ўсё жыццё:
“Твая бяда ад нявыказанага!”

І з таго часу
я кожны дзень размаўляю
з паперай,
выказваю ёй свае думкі і мары,
крыўды і радасці.
І заўважаю:
хваробы паступова знікаюць,
а сэрца ажывае,
нібы спалены лес
ад подыху часу.

***

Глыток бы радасці!
Ну хоць адзін глыток,
каб валачы далей
цяжар зямнога быту,
каб кожны дзень зямны,
які слязой абліты,
вяртацца з памяці хацеў каб і ня мог.

Глыток бы радасці!
Ці часам ласкі простай,
ці дотыку гарачае далоні!
Калі душа заблытана ў палоне
людскога раўнадушша,
кпінаў, злосці.
Глыток бы радасці!
Глыток бы ласкі!
І разарве душа
цяжкія пасткі!

### *Лотаў яблык*

Пакахала я Д’ябла,
быў добры
і пяшчотны, бы летні вечар.
Дык ніхто і ніколі ў свеце
яго ў дрэнным ня мог западозрыць.

А ён кінуў мяне – колькі болю!
На талерцы знайшла я яблык,
яблык Лота духмяны, прывабны
адкусіла – ў грудзях закалола.

І забіла мне горла пылам,
а ня водарам смачнага соку,
і калі пыл пабег па жылах,
Д’ябал мой
рагатаў каля плота.

### *Я падам на далоні агонь*

Я падам на далоні агонь,
ты ня бойся,
ня бойся пагрэцца,

дакраніся душой да яго,
цеплынёю сагрэй сваё сэрца.

Мы на вечным стаім скразняку
і таму замярзаем у спёку
і ніхто не падасць нам руку,
калі мерзнуць ад холаду шчокі.

Мы ня можам, ня ўмеем сагрэць –
гэта наша ня лепшая якасць
чалавека, які ледзь ня ўвесь
умярзае ў сваю абыякавасць.

Уласцівасць душы, ад якой
выгараюць жаданні, надзеі.
Падаю на далоні агонь.
Дык няхай ён цябе адагрэе!

## *Бацькава хата*

Мне кожную ноч сніцца яна
і кожную ноч папракае мяне,
і я з вечара да ранку іду да яе,
але не паспяваю дайсці,
бо такая кароткая ноч.
Сёння вечарам я лягу спаць раней,
бо ты глядзіш на мяне
пустымі вокнамі,
бо ты глядзіш на мяне пустымі кроснамі,
ты завеш мяне дзіцячымі думкамі,
ты завеш мяне матчынай калыханкаю,
ты завеш мяне старэнькай газніцаю,
ты запрашаеш
на чыста вымыты ганак
і зноў папракаеш,
што я не зачыніла дзверы.
Дык вось сёння
я лягу спаць рана.
Я прыйду да цябе і зачыню дзверы,
каб у святыню бацькавай хаты
не заходзілі
няпрошаныя госці.

***

Зноў бяссонне кружыць галаву,
і калі бяссонне гэтай ночы
упадзе расінкай на траву,
можа, хоць тады заплюшчу вочы.

Можа, хоць тады агорне сон
і прысню мінулага сцяжыну.
Дзе калісь хадзілі я і ён,
Пыл ляжыць, а ў ім – мае ўспаміны.

Аскалёпкі самай светлай мары,
ведаю, не склею… Сум на сэрцы
пра каханне выплача гітара,
ды, іграючы, адна струна парвецца.

Успаміны пакрысе растрачу
і схаваю боль свой і бяду…
Болей не чакай, што я заплачу,
Болей не чакай – я не прыйду.

## *Малюю цябе*

Парванымі аблокамі
я малюю твой твар.
Ня хопіць сілы,
тады засну,
каб прачнуцца
і...
 маляваць ізноў.

Хачу ўбачыць
цябе ж ы в о г а.
Сярод аблокаў
ці на зямлі.
Хачу ўбачыць
апошні раз,
хоць на імгненне,
каб
 развітацца.

***

Любы, паглядзі! Ну колькі руж!
На вяселлі не было іх столькі –
ўся труна засыпана. А з рук
крыж ірвецца ў свет іскрыста-тонкі.

Мілы і халодны твар цалую,
гладжу з сівізною валасы,
ты мяне пакінуў маладую –
ў трыццаць на руках дачка і сын.

І якою б не пайшла сцяжынай,
не забыць пражытыя гады…
На зямліцы пад кустом ажыны
цёплыя
ад ног тваіх
сляды…

***

Я так сціскала рукі твае,
яшчэ ня верыла –
ім не балець!

Адагравала шчокі твае,
не разумела я –
ім не гарэць!

І цалавала вусны твае,
о, як хацела я
іх запаліць!

Цябе будзіла я,
не дабудзілася –
бо ты ня спіш!

А горыч з холадам
марозяць шчокі мне –
ты ўсё маўчыш...

У рукі жоўтыя
з малітвай светлаю
паклалі крыж...

А я чакала ўсё,
вось-вось устанеш ты
ў апошні міг...

Сляза гарачая
ільдзінкай стала ўжо –
застыў мой крык.

***

Я пакідаю краіну зданяў
пачварна-чорных,
дзе валадараць заўсёды
 званні,
пагарда й грошы.

Я пакідаю краіну цемры,
іду да сонца,
дзе промень цёплы,
надзіва светлы,
ня рэжа вочы.

Іду да шчасця,
іду паволі
да лепшай долі.
І не вярнуся сюды ўжо болей
я аніколі…

# ДЗВЮПРАЎДА

***рэцэнзія***

***Анатоль Вярцінскі. Святло зямное: выбраныя вершы, паэмы. Менск. "Мастацкая літаратура", 1981 год. – 430 старонкаў.***

Ад'значым, двзюпраўднаснасць зьявы – гэта не адсутнасць праўды як такой, калі ісціна губляецца ў расшчэпленай напал, рознасэнсавай дваістасці сцвярджэння, і не падваенне, калі на адзін аб'ект распаўсюджваюцца два разнастайныя, паўзбежныя суб'ектыўныя позіркі, і не дуалістычнае процістаянне-узаемадзеянне, што нараджае аднацэласць процілеглых скраняў... Гаворка пра мастацкае спраўджэнне рэчаіснасці, у якой праўда як фактычная дадзенасць развіваецца, дужэе і ўрачыстуе праз суб'ектыўную, унутраную праўдатворчасць мастака – гаворка пра звышпраўднаснасць: праўду аб'ектыўную, якая, памножаная на праўду душы, набывае ўласцівасць вечнасці. У кніжцы "Святло зямное" Анатоля Вярцінскага выразна заўважаюцца гэтыя рэальныя час і свет, што, мінаючы праз душу паэта, аднаўляюцца ў самачасасвеце невычэрпнай паэтычнай праўданаканаванасцю...

Памятаю, як у "Цэнтральнай" кнігарні ў Менску ў 1981 годзе, калі вучыўся на першым курсе журфаку, я набыў зборнік Анатоля Вярцінскага "Святло зямное". Пасля кніжка падарожнічала са мною па гарадох Беларусі, наўслед майму мітусліваму лёсу яна пераязджала разам з тымі неабходнымі рэчамі, што прырастаюць да цябе цягам жыцця, а ты зрастаешся з імі. А потым налучылася пазнаёміцца з Анатолем Іллічом асабіста, і – праз дваццаць гадоў пасля выхаду кніжкі, у 2001 годзе, у часе сустрэчы ў Менску ў Саюзе пісьменнікаў аўтар пакінуў на тытуле зычлівы аўтограф.

"Святло зямное" – збор выбраных твораў. Ён складаецца з вершаў і паэмаў розных гадоў, якія былі апублікаваныя ў зборніках паэта "Песня пра хлеб" (1962), "Тры цішыні" (1966), "Чалавечы знак" (1968), "'Зьяўленне" (1975), "Час першых зорак" (1976), "Ветрана" (1979), а таксама з вершаў, якія не ўвайшлі ў вышэйпералічаныя выданні.

Пры першым знаёмстве з кніжкаю паэзія Анатоля Вярцінскага захапіла сваёй выразнай індывідуальнасцю, беспадобнасцю, сучаснасцю "навукова-тэхнічных" вобразаў:

Фізік квантуе
    прастору і час.
Глядзяць касманаўты
    у бок Венеры.
На змену тым,
    што пайшлі ў запас, –
новые меры,
    сферы і эры.
***("Бар'еры".)***

Паэзія ўсхвалявала парадаксальнай здольнасцю лаканічна раскрываць ў некалькіх радкох ці словах неабсяжны псіхакосмас скрозьдрамы:

– Вам тэлеграма...
"Памерла мама".
***(Паэма "Заазер'е".)***

Кніжка адразу ж уразіла мяне наталёнасцю радкоў афарыстычнай канцэнтрацыяй драматычных сэнсаў:

Ад вёскі да могілак –
    паўвярсты.
Ад вёскі да могілак –
    доўгія вёрсты.
Ад вёскі да могілак –
    шлях няпросты.
Гарацьза спіною тваёю масты.
***(Паэма "Заазер'е".)***

І сёння, калі мінулася ўжо амаль трыццаць гадоў, вершы паранейшаму хвалююць і разам з тым па-новаму адкрываюць тыя шматкроць адкрытыя і вечнатаямнічыя абсягі творчае самапраўды, якая – у адмысловай рытміцы твораў, што прамоўленыя на рызыкоўнай мяжы пошуку словапаўторамі, рэфрэнамі, таўталагічнымі, часам спрошчанымі рыфмамі, якія тым ня менш неверагодна, па-чарадзейску ўтвараюць нечаканыя інтанацыі нават у абыклых, абыдзённых, зусім не “паэтычных” словах, настраёва ажыўляюць гэтыя словы ў радку мастацкай энергіяй і праз філасофію збуджанага вобраза трапна, з яснасцю шчыразьяўлення, перадаюць самыя няўлоўныя адценні лірычнага пачуцця: “Сож”, чуеце, гучыць, як “нож”.

І мільганула гэта назва
перад вачамі там выразна,
як – рэйка,
зорка,
нож
ці Сож.
Такое вострае ўспрыняцце
бывае толькі уначы...

***(Паэма “Начны бераг”.)***

**Кніжка Анатоля Вярцінскага “Святло зямное” пабачыла свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура” аб 1981 годзе. У зборнік увайшлі выбраныя творы з кніг “Песня пра хлеб” (1962), “Тры цішыні” (1966), “Чалавечы знак” (1968), “Зьяўленне” (1975), “Час першых зорак” (1976), “Ветрана” (1979); таксама друкуюцца вершы, якія раней не кнігаваліся.**

**Характэрная рыса паэзіі Анатоля Вярцінскага – філасоўская паглыбленасць у імкненні супрацьпаставіць канкрэтным жыццёвым фактам чуллівы свет творчае душы.**

**Прадмову “Мера чалавечнасці” да зборніка вершаў Анататоля Вярцінскага “Святло зямное” напісала Ала Сямёнава. Між іншага ў прадмове ёсць і такія словы: “Паэт Анатоль Вярцінскі з тых, хто трывала ўвайшоў у літаратуру досыць позна. Увайшоў, добра паваструўшы пяро на старонках раённых газет допісамі пра сяўбу, пра касавіцу, пра хлебанарыхтоўкі, пра ўсё, што было і будзе клопатам раённых будняў. І, мабыць, нездарма першая яго кніга называлася “Песня пра хлеб”, а ва ўсіх астатніх – ад “Трох цішынь” да “Ветрана” – адчуваецца гранічная публіцыстычная завостранасць, імкненне падумаць над фактам, адгукнуцца на падзею дня. Баявая, штодзённая журналісцкая загартоўка шмат у чым абумовіла актыўнасць творчага і грамадзянскага тэмпераменту паэта. Але, мабыць, у нечым і адтэрмінавала знаёмства шырокага чытача з паэтам Анатолем Вярцінскім. Затое, калі такі момант наспеў, мы пазналі паэта цікавага, яркага, актыўнага, мэтанакіраванага ў выяўленні сваіх мастакоўскіх прынцыпаў.”**

**Рэдактары кніжкі П. М. Макаль, Ф. Д. Жычка. Мастак Ю. К. Зайцаў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін, тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо, карэктар К. У. Дзмітрыенка. Кніжка мае 480 старонкаў плюс адзін ліст – партрэт. Выйшла зборам у 6 000 асобнікаў. Надрукаваная ў паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа ў Менску.**




***У 2001 годзе, у Саюзе пісьменнікаў у Менску Анатоль Ілліч пакінуў зычлівы аўтограф на тытуле асобніка, што захоўваецца ў бібліятэцы Лявона Вашка: “Святла зямнога табе, дарагі Лявон! Пажаданне, выказанае праз дваццаць гадоў пасля выхаду гэтай кнігі. 28.05.01.”***

Рэфрэны і словапаўторы ў творах Анатоля Ілліча – быццам шаманскі заклён, з іх чаратворыцца хвалёўны мастацкі сусвет са сваёй вечнай звышпраўдаю – чуллівым, сакральным, магічным словам; істасць відавочная, аб’ектыўнарэчаісная праз магію слова раптам разгортваецца як творчая чарадзея, у якой знешняе імклівае наваколле, асвечанае сілаю душы, набывае ўласцівасць жывога, бясконцага, неўміручага патаемства, што закрытае, утаямнічанае ў абыклым існаванні й адкрываецца, вытаемніваецца адно праз паэтычную містэрыю.



***Ілюстрацыі да твораў Анатоля Вярцінскага зрабіў мастак Ю. Зайцаў. Малюнкі, што друкуюцца разам з рэцэнзіяй “Дзвюпраўда”, узятыя з кніжкі “Святло зямное” (Менск, 1981).***

У нейкі жыццёвы міг,
на нейкай вярсце жыццёвай
прыслухаўся я, прыціх,
і ўлавіў мой слых
ціхі шэпт раніцовы.
Шапталіся вецер з дажджом,
шапталіся хмара з зямлёю,
шапталіся дождж з лісцём...
І нехта шаптаўся са мною.
І ўжо ня слыхам – душой
адчуў я, што пошум той дзіўны –
ня проста вецер з імжой,
а голас самой Радзімы.
Прыйшла і шаптала: “Мой сын!
Была я, я ёсць і буду!
Буду да вечных часін
явай тваёй, тваім цудам.
Ніщто не падзеліць нас.
У нас шлях і лёс адзіны...”
У гэты ранішні час
усё было – ад Радзімы.
І след дажджу на акне,
і першая чырвань рабіны –
усё было – ад Яе.
усё было – ад Радзімы.
На яве было, як у сне,
усё ў гэта ранне летняе...
Усё было запаветнае,
усё было – ад Яе.

***(Паэма “Колькі лет, колькі зім!”)***

У імгненні паэзіі знешняя рэальнасць – вецер... дождж... лісцё... хмары... жыццёвыя вёрсты..., – дакранаючыся да творчага ўнутранага свету, адкрывае сваю метафізічную звыш’якасць; тое абыдзённае, якое непрыкметна пачалося калісьці ў табе і якое непрыкметна ў табе было як канстанта, – адпачатнасць і заўсёднасць, – раптоўна ідэявыясняецца “новай” праўдаю твайго існавання – мігам збуджэння душы, мігам ейнага чуллівага “нараджэння” ў табе праз вычуванне сакральных вобразаў, запаветных, дарагіх і непадменных.

Рэчаіснапраўда “перадпаэтычная”, якая папярэднічае творчасці Анатоля Вярцінскага, пачынаецца ў часе, што напоўнены выпрабаваннямі, журбою, стратамі... Паэт належыць да пакалення беларусаў, дзяцінства якіх напаткала Другая сусветная вайна, – пакалення, якое не змагалася збройна, але тым ня менш напоўніцу зазнала жах свайго часу. Праўдарэчаіснасць прысутнічае ў творчасці Анатоля Вярцінскага болем беларускае страчанасці – тэмаю забітага на вайне кожнага чацвёртага суайчынніка.

Вы бачылі лес,
                дзе прагал скразны?
Скажыце, вы бачылі бор той,
дзе кожнай другой няма сасны
ці сама меней – чацвёртай?

***(“Рэквіем па кожным чацвёртым”.)***

Трагічная памяць – гэта пасляфактычная ўжо, творчая рэчаіснасць, другая, наўзверхняя часціна дзвюпраўды. Паэзія выісноўвае вечнасць вобраза, ягоную мастацкую сталасць, інварыянтнасць, у якой драма напаўзнішчанага народа жыве, не гіне, працягвае жыць праз трагічную эстэтыку вершаў як духоўны супраціў невыпраўным праявам жорсткае, бязлітаснае

перадмастацкае рэальнасці. Боль не забітай, забітай на чвэрць, ацалелай у вынішчэннях нацыі гучыць у шмат якіх творах Анатоля Вярцінскага. Верш "Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня" аб'ядноўвае ў сабе празаічны пачатак, які сімвалічна надае твору дакументовы характар, падкрэслівае немінучасць, суджанасць рэчаіснапраўды, і пачатак паэтычны, у якім – вусцішная эстэтыка мастацкае праўды ўражвае карцінаю апакаліпсіса, што падзяліў нацыю на жывых і забітых. У вершы Анатоль Вярцінскі звяртаецца да насамрэчнага факту – забойства нямецкімі карнікамі жыхароў вёскі Кісялёва, суседняй з паэтавай роднай вёскай Дзямешкава, што на Лепельшчыне; вобраз пеўня, які кліча ахвяраў з нябыту ў пакінутае імі жыццё, што напоўненае скрухаю жывых, – шчымлівая вершапраўда трагедыі, якая болем, жалобаю, памяццю духазлучае тых, хто працягвае зямны век, з тымі, хто гвалтоўна быў пазбаўлены гэтага працягу. А ў вершы "Дынамік" паўстае вобраз старой жанчыны, якая ў адзіноце свайго жыцця і ў шчаснасці жыцця навакольнага жыве жалобнай памяццю пра зніклых у вайне сыноў... Бясконцая беларуская элегія, спрадвечны славянскі плач гучыць у вершы "Цётка плакала..." – гэта плач, у якім праз відавочную бездапаможнасць у наканаваным лёсе абуджаецца магутнасць чалавечага духу, у навакольнае жорсткасці праяўляецца мудрасць самотнае душы, ейнае шчырае любові...



Цётка плакала па ўсім свеце...
Былі ў цёткі муж і дзеці.
Іх забрала ў цёткі вайна,
засталася цётка адна.
Вылівала цётка душу,
цётка плакала па мужу,
цётка плакала па дзяцях,
цётка плакала па людзях...
па ўсіх раненых і забітых,
незабытых і забытых,
па ўсіх, хто ў палоне-няволі,
па ўсіх, хто замярзае ў полі,
па ўсіх тых, каму не салодка,
горка плакала цётка.
Цётка свету ўсяму спагадала,
яго раны лячыла аддана.
Які б вылечыў іх урач,
каб ня цётчын спагадлівы плач?
Цётка плакала па ўсім свеце...
Пахавалі цётку суседзі,
пахавала цётку сяло,
бо радні ў яе не было.
Былі калісь муж і дзеці,
ды загінулі на вайне...
Цётка плакала па ўсім свеце,
а па цётцы хто плакаў ці не?

У прадмове да кніжкі "Святло зямное" Ала Сямёнава напісала: "...Вярцінскі ня з тых паэтаў, што лунаюць толькі ў стратасферы духу і думкі. Ён ставіцца з увагай да канкрэтнага дзеяння, учынку, факта. Умее часам за прыватным фактам вылучыць вялікі мастацкі сэнс, за звычайнай падзеяй пабачыць важнасць зьявы." Звышпраўдная пасляфактычная рэальнасць мастацтва і ў грамадзянскае лірыцы, і ў філасофскае, і ў любоўнае раскрывае паэтычны сусвет душы, напоўняе яго думнаглыбінёю мастацкага вобраза, нараджае пранікнёную, глыбокую мудрасць – іранічную, як, напрыклад, у вершы "Платны мост", які паэт напісаў а часе паездкі ў ЗША на асамблею Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў: у вершы факт наяўнасці платнага маста, які злучае два берагі, супастаўлены са звышпраўдаю мастацкаю, якая разглядае мост як філасофскі панятак шляху.

Ты ведаў: іншаю цаной
знаходзім бераг, веру, мэту:
А тут табе: "Гані манету –
І супрацьлеглы бераг твой..."

Ці кажа мудрасць задуменна-асэнсавальную, як, напрыклад, у вершы “Вяртанне”, дзе мастацкім творам надаецца звышуласцівасць – якасць духаасновы, перад якою творча спавядаецца паэт:



Я вяртаюся ў вершы
　　　　　　　　пасля адсутнасці доўгай.
Супакойся сэрца!
　　　　　　　　Сэрца, ня тоўхай!
Думаў, што пражыву,
　　　　　　　　абыдуся бяз вас я, вершы.
Ды пачаў галаву я бяз вершаў вешаць.
.........................................................................
Я вяртаюся ў вершы
　　　　　　　　зусім не па славу паэта.
Я вяртаюся ў вершы,
　　　　　　　　і ёсць запаветная мэта.
Я хачу расказаць ім,
　　　　　　　　паведаць ім многа-многа
з падарожжа майго,
　　　　　　　　майго шляху зямнога.

А ў вершы “Я жыў высока...” паэзія перадае ўзнёслы, збуджаны каханнем стан духовага ўзвышэння над праўдасветам:

Я жыў высока на гары.
Было высокім неба поўдня.
Была высокай ноччу поўня.
Высокім быў – як свет, стары –
спеў петушыны на зары.
І быў высокім горны вецер...
І снілася мне на дасвецці.
што я ўзлятаю нібы пух.
Вучыўся зноў лятаць мой дух.
Зноў чуў я покліч вышыні,
прасторы кліч...
　　　　　　　　І, як над дахамі,
лятаў над крыўдамі і страхамі,
над дробязямі мітусні.



Класічныя “Пачаткі” Еўкліда, дзе паралельныя прамыя ніколі не судакранаюцца, руйнуюцца тым ня менш сістэмаю шматвымернае прасторы паэтаметрыі, і – паэтычная рэчаіснасць урачыстуе:

Бачу: сустрэліся, як жывыя,
дзве паралельныя прамыя.
　　　　　　　　***(“Дзве паралельныя прамыя”.)***

З вяртання рэчаў у сваю сутнасць, з метафарыстыкі паўсюдназьяваў, з руху часахвілінаў і супыненасці бесчасоўя прыходзіць у радкі верша “Навагодні тост” ідэя жывога, наталёнага паэтафіласофіяй Часу :



Я прапаную тост за Час!
Давайце ўзнімем чашы
за Час, працуе што на нас,
на спадзяванні нашы.
Я прапаную тост за Час! –
за Час, працуе што на нас
настойліва, сумленна,
нястомна і нязменна!
Парою здацца нам магло,
што Час – ён безудзельны:
не за дабро і не за зло,
што Час – ён ненадзейны.
Мы памыляліся тады.
Бываюць дні бяз шчасця,
бясчэсця сумныя гады, –
то паласа бясчасся.
А Час прыходзіць – як зара,
як свежы подых ветра,
і адступае хваля зла,
і робіцца зноў светла.
Прыходзіць Час,
　　　　　　　　прыходзяць дні.



Час ставіць кропкі ўсе над "і".
Усё на месца ставіць ён.
І называе рэчы –
ня любіць Час ілжэімён –
іх назваю адвечнай,
Хлуснёю назаве хлусню,
а мітуснёю – мітусню,
нядоўгае – нядоўгім,
нядобрае – нядобрым,
нячыстае – нячыстым,
злачыннае – злачынствам.
Тырана так і назаве
Тыранам і – вянок сарве.
Нам памагае ўбачыць Час:
тут – толькі попел,
там – алмаз,
тут – зерне,
там – палова,
тут – пустазвонства гучных фраз,
там – ісціннае слова.
Я веру ў добры, мудры Час,
Як веру ў добры, мудры сказ.
Я ў трудны дзень кажу сабе:
"Нічога, скора Час праб'е,
Нічога, прыйдзе скора Час
і ён тады рассудзіць нас!"
Я прапаную тост за Час –
саратніка, сааўтара!
За Час, што працаваў на нас,
за Час, працуе што на нас,
што будзе працаваць на нас,
служыць нам верна заўтра!

Святло зямное Анатоля Вярцінскага – паэзія, якая ацяжараная волею ўзвышэння. У творчасці паэта ня знойдзеш тае фальшывае, псеўдамастацкае прыхарошанасці, якая імітуе мастацтва, забівае яго, ператвараючы твор у літкандытарскі выраб. Святло зямное Анатоля Вярцінскага поўніцца стыхіей чалавечае драмы ад мімалётных, амаль нябачных фактаў паўсядзённага драмаіснавання і ўсцяж да самых акрайніх межаў жудаснага днабыту і, напоўненая болем і шчасцем чалавечага жыцця, пераадухаўляе гэтую жорсткую праўду сусвету ў мастацкую звышпраўду – у ясны акрай высокіх надзеяў і памкненняў. Святло зямное Анатоля Ілліча – промні вечнага, чыстага, жыўленчага агню, што апантана, заўсёдна імкнецца запаліць творчая душа над чорнай безданню самараспаду і самазнікнення.



Гудзела, гуло ў маіх вушах.
Гудзела, гуло ва ўсім маім целе.
А з целам была заадно і душа –
суладна яны звінелі, гудзелі.
Як мора ў бераг,
так біўся той гул
ў мае барабанныя перапонкі.
І мроіўся белы, рамонкавы луг:
ад краю да краю бялелі рамонкі.
Гудзела, гуло ў маіх вушах.
Гуло і звінела ва ўсёй істоце.
Гуло на высокай пранізлівай ноце.
І я зразумеў –
о, шчасце!.. О, жах! –
што значыць той гул,
што значыць той луг.
Я быў улюбёны.
Я быў як усе мы.
І я, як звяно,
уключаўся ў ланцуг
любові, яе ўсепланетнай сістэмы...

*Анатоль ВЯРЦІНСКІ*

# СВЯТЛО ЗЯМНОЕ

***Вершы са зборніка Анатоля Вярцінскага "Святло зямное"***

### *Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня*

Гэта была не проста вайна.
Гэта было нешта больш страшнае, больш дзікае.
Помню, міма маёй роднай вёскі ішлі карнікі – маю вёску яны абышлі.
А праз нейкі час мы пачулі страляніну, убачылі дым – чорныя клубы дыму.
Назаўтра мы даведаліся, што спалена вёска Кісялёва (вы знойдзеце гэтую назву на могілках вёсак у Хатыні), а жыхары яе забіты, ад старога да малога.
І яшчэ мы пачулі жахлівы расказ пра тое, як некалькі дзён "дыхала" магіла, куды карнікі скідалі кісялёўцаў, як крычаў на вогнішчах здзічэлы певень.



*Анатоль Вярцінскі. Здымак узяты з кніжкі "Святло зямное" (Менск, 1981).*

...І толькі апоўначы,
прарэзліва, з усіх сваіх сіл,
свой векавы абавязак помнячы,
певень запеў, загаласіў.
Запеў і здзівіўся ён, напэўна:
"Чаму не спяваюць іншыя пеўні?"
А потым крычаў і двойчы, і тройчы,
на золку вёску будзіць пачаў.
Крычаў, на абпаленым плоце стоячы,
крыламі лопаў і крычаў.
Ён вёску будзіў,
крычаў да хрыпу.
Будзіў у каторы ўжо раз.
А вёска маўчала – ні рыпу, ні скрыпу,
ні груку, ні гуку ў адказ.
Ён вёску будзіў, галасіў адчайна,
пакуль не здзічэў, пакуль не знямеў.
А вёска маўчала, вёска маўчала.
Яна ўжо ня чула той ранішні спеў...
Быў дзень вызвалення,
дзень перамогі вячыстай.
Вярталіся людзі да мірных спраў і сноў.
І пеўні – нястомныя фанфарысты –
мірныя дні абвяшчалі зноў.
Будзяць яны на досвітку сёлы,
і ў сёлах пачынаецца рух.
Яны, жывыя сёлы – ня соні,
спяшаюцца рана на ніву і луг.
З пеўнямі сёлы прачынаюцца...
Толькі нічым не разбудзіш яе –
вёску,
дзе ранак інакш пачынаецца,
вёску,
дзе певень больш не пяе.

### *Дынамік*

Ён пасіпеў, пахрыпеў і змоўк.
Болей нічога сказаць ня змог.
Падышла старая, паслухала.
"Што гэта сёння з ім?"
Падышла бліжэй, пастукала.
"Маўчыць, не гаворыць зусім".
Хуценька ў печы дапаліла,
трохі прыбрала, падмяла.
Пайшла вуліцай тапалінай
у другі канец сяла.
Кажа ўсім: "Іду да радзіста.
Нешта радзіва маўчыць".
А ў радыста сын нарадзіўся,
сын нарадзіўся і крычыць.
"У вас весела, – кажа старая. –
Гэта добра, што сынок.
Бач, крычыць як, як стараецца...
Галасісты крыкунок.
Так крычаў і мой малодшанькі,
што забілі на вайне...
Бач, выпроствае як ножанькі.
Імя выбралі ці не?
Так крычаў і мой сярэдненькі,
не вярнуўся што з партызан...
Бач, які галасок сярэбранькі!
Слаўны, слаўненькі пацан!
А старэйшы быў ціхоня.
Як радзіўся – спаў і спаў...
Можа, дзе жыве і сягоння,
раз бяз весткі ён прапаў?

Ні сынкоў няма,
нікога.
Толькі радзіва адно.
Толькі радзіва –
мне падмога.
Што б рабіла, каб не яно?
І пагаворыць, і паспявае,
добрай ночы жадае мне.
І паплачам з ім, бывае,
як успомнім аб вайне.
Ды здарылася з ім штосьці,
не гаворыць яно зусім.
Падбяжы як-небудзь, Косця,
паглядзі, што гэта з ім.
Дык падыдзеш?
Пастарайся...
Добра ў вас, ды я пайшла”.

І пайшла дамоў старая,
у другі канец сяла.

***

Маўчанне бывае рознае.
Адны маўчаць таму,
што вельмі асцярожныя, –
баяцца розных табу.
Маўчанне бывае рознае.
Маўчаць занадта цвярозыя.
Скептыкі маўчаць:
“Ну што карысці крычаць?”
Маўчаць і абыякавыя –
твары масляна-лакавыя.
Што ім да таго,
да болю майго і твайго!
Ёсць маўчуны – аматары
смеласці чужой.
Развесяць свае лакатары:
“Ой, як цікава, ой!”
Маўчанне бывае рознае.
Яшчэ ёсць маўчанне грознае.
Маўчыць чалавек, трывае,
маўчыць, як і побач маўчаць.
І раптам рашуча зрывае
з вуснаў сваіх пячаць.
І раптам сябе ўзрывае:
“Я больш не магу маўчаць!”
І скажа такое адчайнае...
Калі ўжо і маўчаць –
дык я за такое маўчанне.

***

Ляцеў груган.
Сеў на курган.
Агледзеўся навокал.
Знаёмае штось заўважыў груган
сваім старэчым вокам..
Ці то гэты дуб,
ці то гэта косць,
ці роў той, –
яму нагадалі
яго, груганову, маладосць,
яго, груганову, балі.
Здаецца, вось тут, –
бо той жа роў.
тыя ж валун і дрэва, –
ляжалі трупы,
стаяла кроў,
еш – колькі табе трэба.
Здаецца, вось тут
і быў той баль,
тая салодкая трызна.
Калі то было?
Яму ж амаль
дзвесце, калі ня трыста.
Калі насыпаны
гэты курган?
Хто ведае,
хто знае...
Стаіць груган.
Глядзіць груган.
Сваю маладосць ўспамінае.

### *Нервы*

Позна! Выйшлі з-пад кантролю.
У стыхію сваю ўвайшлі,
увайшлі ў сваю ролю,
сябе, сілу сваю знайшлі.
Позна! Разышліся нервы.
Пачынаюць свае манеўры.
Пачынаюць зноў яны
рыхтавацца да вайны.
Агнявую моц патройваюць,
ваяўніча сябе настройваюць.
Позна! Нервы – на ўзводзе!
Не паможа болей бром.
Такі бром яшчэ ня знойдзен,
каб спыніць іх...
Выбух! Гром!
І ляцяць аж пад аблокі
ва ўстрывожанай цішы
супакою твайго абломкі
ды асколкі тваёй душы.

### *Няма дурных*

*Дурны, дурны,*
*а шкварку любіць.*
*Народная прыказка*

Ён любіць ня толькі шкварку.
Ён любіць яшчэ і чарку.
Ён любіць і булён.
А бачылі, з якім смакам
есць ён булку з макам?
Ці мала што любіць ён.
Пакуль вядуць разумныя
свае размовы сумныя,
сухі жуюць бутэрброд,
пакуль разважаюць разумнікі,
дурань есць ласункі
на поўны рот і жывот.
На смачнае ён ласы.
І любіць ня толькі кілбасы.
Ён любіць яшчэ шмат што:
і добрую апратку,
і лайкавую пальчатку,
і выезд на аўто.
Ня толькі цёплае месца,
дзе добра п’ецца і есца, –
ён любіць і арэол.
Ён любіць высокае званне,
і тытул, і шанаванне:
ня курыца, а арол!
Ён любіць...
Ён шмат што любіць.
Ён нас прадасць і купіць,
разумнікаў, тых і другіх.
Прадасць і пакажа кукіш –
маўляў, мяне ня купіш,
маўляў, няма дурных.

# ЧЫТАННІ НАД НЁМНАМ



Дваццаць шостага ліпеня 2009 года на Мастоўшчыне адбыліся ўрачыстасці прысвечаныя прынёманскаму паэту Міхасю Явару, які нарадзіўся ў гэты дзень у 1903 годзе ў вёсцы Мінявічы. Ва ўрачыстасцях пабралі ўдзел беларусы з розных куткоў Бацькаўшчыны: Алесь Мазур, Вечаслаў Сіўчык, Васіль Якавенка з Менску, Юрый Гумянюк, Хрысціна Марчук з Гародні, Лявон Вашко, Аляксандр Грэшчык, Алесь Зарэмбюк, Павел Кейка, Алег Пронскі, Сяргей Тарыма з Мастоў. Удзельнікі ўрачыстасцяў прынеслі кветкі да помніка Міхасю Явару на Падбаранскіх могілках, наведаліся да ягонай хаты ў Мінявічах, завіталіся на бераг Нёмна, дзе ў 1933 годзе трагічна абарвалася жыццё паэта.

На месцы трагедыі адбыліся літаратурныя чытанні. Гучалі вершы Міхася Явара, аповеды пра ягоную творчасць і лёс. Удзельнікі ймпрэзы пазнаёміліся з творчасцю беларускага пісьменніка Васіля Якавенкі ў часе прэзентацыі ягоных кніжкаў “Пакутны век” (Менск, 2006), “Нячывелле” (Менск, 2008).

***На здымку: Васіль Якавенка ў часе яварынаў распавядае пра сваю творчасць. Мінявічы, дваццаць шостага ліпеня 2009 года. Фота Алеся Зарэмбюка.***

## *НЯЧЫВЕЛЛЕ*

***Васіль Якавенка. Нячывелле.***
***Апавяданні, публіцыстыка, дакументы. Менск, 2008.***

**У кніжку ўвайшлі проза, эсэістыка, нарысы, звароты, публіцыстычныя артыкулы Васіля Якавенкі; друкуюцца лісты як пісьменніка, так і да яго; змешчаныя ананімныя паэтычныя творы; у кнізе друкуюцца рэпрадукцыі карцінаў Міхала Карпука, публікуюцца фотаілюстрацыі.**

**Кніжка пабачыла свет у Менску ў 2008 годзе. Выдадзеная грамадскім аб’яднаннем “Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз “Чарнобыль”. Адказны за выпуск Георгій Ліхтаровіч,**




**рэдактар Міхась Кенька. Кампутарная вёрстка, макет: Яраслаў Мальдзіс. Кампутарны набор: Зоя Лашук. Карэктар Лілія Сяргеева. Кніжка выйшла зборам у 400 асобнікаў. Мае 432 старонкі. Надрукаваная ў Менску ў СТАА "Медысонт".**

***СКРУШНАЛЁС. Беларуская скруха – тэма публіцыстычнага роздуму ў кнізе Васіля Якавенкі "Нячывелле".***

"***П***існьменнік Васіль Якавенка добра вядомы чытачам сваім адкрытым характарам і праўдзівым мастацка-публіцыстычным даследваннем рэчаіснасці, што яскрава праявілася пры рэдагаванні ім, у 90-я гады мінулага стагоддзя, газеты "Набат". Можна сказаць, што ён ішоў на літаратурны Парнас па прыступках, утвораных уласнымі кнігамі: "Земля, открытая нами" (1971), "Пробны камень" (1974), "Пакуль сонца ў зеніце" (1977), "Дайсці да ладу" (1985), "Вясковыя дыспуты" (1987), "Другой зямлі ня будзе" (1989), "Чорная ружа" (1996), "Крушэнне на ростані" (2002), "Надлом" (2003), трылогія "Пакутны век" (2006), інш.

Літаратурна-публіцыстычны зборнік "Нячывелле", які атрымаў сваю назву ад напаўзабытага беларускага слова *нячывель*, што азначае нядолю, насланнё, нешчаслівы лёс, – гэта ўласна пра нас. За нячывеллю, кажуць, і ў агонь кінешся. І кідаліся беларусы ў сівыя стагоддзі хто ў агонь, хто ў ваду."

***Дасловак да кніжкі "Нячывелле", які змешчаны на вокладцы.***



***Кніжка Васіля Якавенкі "Нячывелле" аздобленая карцінамі Міхала Карпука. На фотарэпрадукцыі, узятай з кніжкі, карціна Міхала Карпука "Стары гасцінец" (1995).***

## *ПАКУТНЫ ВЕК*

***Васіль Якавенка. Пакутны век.***
***Трылогія. Менск, 2006.***

**Трылогію склалі "Пралог", кніга першая "Кабала", кніга другая "Надлом", кніга трэцяя "Гульня на згубу". У творах праз лёс Пятра Рамановіча (Пісарчука) перададзеныя калізіі XX стагоддзя; рэтраспекцыі сягаюць далёкае мінуўшчыны. У кнізе паўстаюць гістарычныя постаці: Н. Арсеннева, Л. Геніюш, А. Гітлер, В. Захарка, Б. Кіт, В. Кубэ, К. Мазураў, Р. Скірмунт, Н. Хрушчоў... Трылогія ўздымае тэму нараджэння і станаўлення беларускае нацыі. У эпіграфе да трылогіі Васіль Якавенка напісаў: "Радзіме, высокім парываннем продкаў, вольнаму духу зямлі прысвячаю".**

**Кніжка выдадзеная ў Менску грамадскім аб'яднаннем "Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз "Чарнобыль" у 2006 годзе. Літаратурна-мастацкае выданне. Надрукаваная пры**

**падтрымцы спадарыні Алены Міхалюк і яе сяброў, на ахвяраванні зацікаўленых асобаў і чытачоў. Пры падрыхтоўцы выдання былі ўлічаныя крытычныя пажаданні Фелікса Баторына, Анатоля Клышкі, Георгія Ліхтаровіча, Алены Мімрык, Аляксея Рагулі, Анатоля Валахановіча, Міхася Карпука, Міхася Малько. Садзеенне і падтрымку ў працы зрабілі ў Беларусі Анатоль Верабей, Пятро Герасімовіч, Уладзімір Дамашэвіч, Міхась Кенька, Анатоль Леасевіч, у Нымеччыне Алег Аніська, Валянцін Герайн, у Ангельшчыне Міхась Швэдзюк. У кнізе выкарыстаныя гістарычныя матэрыялы з прыватных архіваў даследчыка літаратуры Уладзіміра Сакалоўскага (Менск) і краязнаўца Васіля Бандарэвіча (Сянно). Кніжка аздобленая фотаілюстрацыямі, а таксама графічнымі творамі Міхася Карпука. Адказны за выпуск Сяргей Пыткевіч. Рэдактар Павел Міська. Мастацкае афармленне зрабіла Таццяна Якавенка. Набор Ларысы Ваўчок, Алы Ткачовай. Варштаванне Ларысы Ваўчок. Тэхнічны рэдактар Яраслаў Мальдзіс. Карэктар Лідзія Карамазава. Кніжка мае 768 старонкаў. Выйшла зборам у 1 000 асобнікаў. Надрукаваная ў Менску ў СТАА “Медысонт”.**




***НАЦЫЯВЕК. У трылогіі Васіля Якавенкі з сялянскіх лёсаў нараджаецца гісторыя нацыі й паўстае новы, беларускі век.***

“**АЎТАР ПРА СЯБЕ**

***Н***арадзіўся 5 мая 1936 года на экзатычным камарыным хутары пры вялікай копанцы, у якой маці рэшатам лавіла карасёў. Акурат на той час з гэтага і іншых раскінутых па багністаму абшару хутароў сцягвалася вёска Пажыхар, яна тады падпарадкоўвалася Васілевіцкаму раёну, цяпер – у Салігорскім. Ну а Васілевічы прыгорнуты да Рэчыцы.

Вучыўся ў Васілевіцкай “сталінскай” школе-мураванцы, Беларускім індустрыяльным тэхнікуме (на геолага), БДУ імя У. Леніна (на журналіста).



***Васіль Якавенка.***
***Здымак надрукаваны ў кнізе “Пакутны век” (Менск, 2006).***

У вандроўках па роднай зямлі, якія мелі пераважна пошукава-геалагічны характар, даследаваў нетры і разам прыдонны сацыяльны масіў у грамадстве; сачыняў (яно змалку рупіла), адточваў сціло публіцыста. Прайшоў сапраўдную літаратурную школу, працуючы ў часопісе “Полымя”.

Напісаў і выдаў шэраг кніг мастацкай публіцыстыкі, казак, п’есу “Персона нон грата” (пры ўдзеле М. Місюка), раман “Надлом”.

Урэшце прыспеў час трылогіі “Пакутны век”. Як чытач можа здагадвацца, гэтая рэч вынашана і выпакутавана ўсім жыццём, зрэшты, ня толькі маім асабіста.

Героі эпічнага твора – прыхільнікі беларускай ідэі. Яны стаяць перад выбарам: страціць па “ўласнай ахвоце” свае этнічныя карані і растварыцца ў свеце шырокім альбо жыць жыццём народа і нацыі, дбаючы пра росквіт апошняй.

Аддаў Краіне, грамадзянскай супольнасці нямала часу і, так бы мовіць, абаронча-экалагічнай энергіі дзеля яе найшчаслівейшага лёсу, напэўна, ня марна, пра што засведчылі і газета “Набат”, якую ў свой час выпускаў, і кнігі “Письма к живым”, “Крушэнне на ростані”...

Жыў, тварыў, адным словам, і – з Божай ласкі твару.”

***Аўтабіяграфія Васіля Якавенкі***
***на вокладцы кнігі “Пакутны век”.***

# СУСТРЭЧА Ў МАСТОХ



Дваццаць першага ліпеня 2009 года Лявон Вашко завітаўся на адну з мастоўскіх кватэраў, дзе адбылася прэзентацыя кніжкаў доктара гістарычных навукаў Алега Латышонка "Нацыянальнасць – Беларус" і "Жаўнеры БНР". Беластоцкі прафесар расказаў мастоўскім чытачам пра свае навуковыя знаходкі й творчасць. Пра кніжкі Алега Латышонка, іншых беларускіх навукоўцаў, а таксама пра часопіс "Архэ" распавёў Валер Булгакаў.

***На здымку: Валер Булгакаў (Менск), Алег Латышонак (Беласток), Аляксандра Зарэмбюк (Масты) у часе сустрэчы. Фотадзеячас.***

### *НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ – БЕЛАРУС*

***Алег Латышонак. Нацыянальнасць – Беларус. Польшча – Беларусь, 2009.***




**Ад белых русінаў да беларусаў: ля вытокаў беларускай нацыянальнай ідэі. У кнізе даследуецца гісторыя станаўлення беларускае нацыі; гістарычны дослед ахоплівае перыяд ад глыбокае старажытнасці й усцяж да XX стагоддзя; таксама друкуюцца газетныя артыкулы аўтара і ягоныя інтэрвію прысвечаныя дадзенай праблеме; на старонках публікуюцца фотаілюстрацыі. У кнізе змешчаны імёнапаказнік і землепаказнік. Гэтую кнігу аўтар прысвяціў сваёй маці.**

**Выданне першае. Кніжка выдадзеная Інстытутам беларусістыкі, Беларускім гістарычным таварыствам у 2009 годзе пры дапамозе Польскага інстытута ў Менску, Інстытута кніжкі ў Польшчы, Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Бацькаўшчына". Навуковы рэдактар Алесь Пашкевіч. Карэктары Софія Багам'я, Наталка Харытанюк, Марына Салавей. Варштаванне Паўла Матусевіча. Дызайн вокладкі Антона Баранава. Адказны за выпуск Валер Булгакаў. Кніжка мае 558 старонкаў. Надрукаваная ў Літве невядомым зборам.**

***НАЦЫЯПРЫЙСЦЕ. Ад богастратаў у скрозьчасе, праз гістарычны самапошук у сучаснасці і да натхнёнае надзеі на будучыню высняецца нацыяўтворны беларускі шлях у кнізе "Нацыянальнасць – Беларус" беластоцкага гісторыка Алега Латышонка.***

"*А*днойчы Белбог убачыў, што перад ім плыве шарык, з якога чуваць тужлівае мяўканне. Спытаўшыся няшчаснага вязня, Бялун



*Выява Ўсяслава Чарадзея ўзятая з кніжкі Алега Латышонка “Нацыянальнасць – Беларус”, 2009.*

даведаўся, што гэта быў адзін з другарадных бажкоў. Маліў ён Белуна, каб ён вызваліў яго. Бог багоў, заўсёды літасцівы, дапамог няшчаснаму. Шарык разарваўся – і дэман выйшаў на волю. Бялун сказаў бажку, што мае намер стварыць свет, і загадаў яму сысці на дно мора і вынесці жменю зямлі. Дэман паслухаў Белбога, але калі апускаўся ў ваду, прыйшло яму ў голаў, што ён таксама можа стварыць свет. Дзеля таго ўзяў у рот крыху зямлі з дна мора, каб потым выкарыстаць яе для выканання свайго плану. Вярнуўшыся на паверхню, дэман даў жменю зямлі Белуну. Бог багоў загадаў “Зямля, расці!” Жменя зямлі пачала расці і тварыць сушу. Але ў той час расла таксама частка, схаваная ў роце дэмана. Ягоныя шчокі раздзьмуліся, і зямля пачала імкліва з іх высыпацца. Збянтэжаны дэман адвярнуўся і ўцёк, пакідаючы за сабой след – рассыпаную зямлю, якая сфармавалася ў горы і пагоркі.”

*Алег Латышонак. Беларускі Алімп.*
*З кніжкі “Нацыянальнасць – Беларус”, с. 14.*

---

## *ЖАЎНЕРЫ БНР*




***Алег Латышонак. Жаўнеры БНР. Польшча – Беларусь, 2009.***

**Кніжку склалі гістарычныя манаграфія і артыкулы розных гадоў, прысвечаныя збройнаму змаганню беларусаў за ўласную дзяржаву, – разглядаюцца беларускія вайсковыя фармаванні 1917-1923 гадоў, апавядаецца пра лёсы беларускіх салдатаў. Тэксты аздобленыя фота-ілюстрацыямі; у кнізе выкарыстаныя ілюстрацыі са збораў Уладзіміра Ляхоўскага, Андрэя Чарнякевіча і Эстонскага гістарычнага архіва; у афармленні першай старонкі вокладкі выкарыстаныя фотаздымкі беларускіх вайскоўцаў 1917-1920 гадоў. Надрукаваны імёнапаказнік.**

**Выданне першае. Кніжка выдадзеная Беларускім гістарычным таварыствам у Беластоку й Інстытутам беларусістыкі ў Вільні ў 2009 годзе. Выйшла пры дапамозе Польскага інстытута ў Менску, Інстытута кніжкі ў Польшчы. Навуковы рэдактар Алесь Пашкевіч. Карэктары Наталка Харытанюк, Марына Салавей, Галіна Рабянкова. Зверштаваў кніжку Павел Матусевіч. Дызайн вокладкі зрабіў Антон Баранаў. Адказны за выпуск Валер Булгакаў. Выданне мае 366 старонкаў. Кніжка надрукаваная ў Літве. Збор не пазначаны.**

***ПАРАЗАПЕРАМОГА. У самаахвярнасці, адданасці Беларусі – перамога салдатаў нездабытае Беларускае Народнае Рэспублікі.***

“***К***ожны даследчык прывыкае да сваіх герояў. У свой час асабліва блізкай асобай стаў для мяне Алесь Гарун, што стала вынікам працяглых пошукаў магілы героя і пабудовы яму помніка, падчас якіх я часта звяртаўся да ягоных вершаў. Хочацца ўспомніць тут і

айца Ўладыслава Чарняўскага, які адмыслова прыехаў з маім бацькам у Кракаў, каб асвяціць помнік паэтузмагару. У сваіх афіцэрскіх ботах айцец Уладзіслаў выглядаў узорным капеланам беларускіх вайсковых фармаванняў. Загадаў проста з цягніка весці сябе на Ракавіцкія могілкі, дзе спачывае Алесь. Асвяціў помнік і гэтаксама рашуча загадаў весці сябе на цягнік назад.

Аддаючы ў рукі беларускага чытача плён дваццацігадовай працы, застаюся з надзеяй, што нашая гісторыя будзе ўжо непарыўнай, а героі маіх даследванняў прычакаюць нарэшце сваіх помнікаў.”

*Алег Латышонак, “Жаўнеры БНР”, с. 12.*




***Беларускі паэт Алесь Гарун (1887-1920) паверыў заклікам Пілсудскага заснаваць на абсягах Рэчы Паспалітае федэрацыю вольных народаў. Ён быў чынным стваральнікам беларускага войска, што ваявала разам з польскімі ўзброенымі сіламі супраць Чырвонае Арміі. У ліпені 2010 года мінае 90 гадоў з дня яго заўчаснага сыходу. На здымку: Алесь Гарун у беларускай вайсковай форме. Канец 1910-х гадоў. Здымак узяты з кніжкі “Жаўнеры БНР”, 2009.***

“***Б***еларуская прэса ў Вільні і Менску, не чакаючы рашэнняў польскіх уладаў, распачала прапагандыскую дзейнасць, інфармуючы пра падрыхтоўку да стварэння беларускай арміі. У гэтай сітуацыі прыкрай нечаканасцю для беларускіх дзеячоў стаў пачатак правядзення польскім бокам вярбоўкі ў часткі Літоўска-Беларускай дывізіі. Дэзарыентаваныя беларускія добраахвотнікі ўступалі ў шэрагі гэтай дывізіі, перакананыя, што гэта якраз і ёсць беларускае войска.”

*Алег Латышонак, “Жаўнеры БНР”, с. 113.*

## *твораспакметнік*

**РЭГІЁН**

***“Рэгіён”, інфармацыйнае выданне. Масты, 2009.***

**У** чэрвені 2009 года ў Мастох Лявон Вашко завітаўся дахаты да Ўладзіміра Каўшовіка, дзе Зміцер Кухлей падарыў чарговы выпуск газеты “Рэгіён”. У чэрвені гэтага ж года Алесь Зарэмбюк падарыў іншы нумар “Рэгіёну”.



РЭГІЁН

№ 12

МОСТОВСКИЙ БЮДЖЕТ: ПРОГНОЗЫ СБЫВАЮТСЯ. ПОЧЕМУ К НИМ НЕ ПРИСЛУШИВАЮТСЯ ВЛАСТИ?

Рамонт запланаваны на трэці квартал

Дзіцячыя пляцоўкі таксама ў планах камунальнікаў

**“Рэгіён”, № 12. Інфармацыйнае выданне за 10 чэрвеня 2009 года. Адказны рэдактар Зміцер Васілеўскі. Збор 299 асобнікаў. E-mail: region@gmail.com. Выходзіць раз на месяц. Распаўсюджваецца бясплатна). У гэтым жа месяцы газету “Рэгіён” падарыў Лявону Вашку Алесь Зарэмбюк (“Рэгіён”, інфармацыйнае выданне № 1 (12) за 8 чэрвеня 2009 года, Гарадзенская вобласць. Адказны рэдактар Зміцер Васілеўскі. Збор 299 асобнікаў. Надрукавана ў друкарні ААТ “Смоленская печать”, г Смаленск, вул. Ламаносава, д. 3. Распаўсюджваецца бясплатна.)**

“***Д***эпутат Мастоўскага райсавета Зміцер Кухлей атрымаў адказ ад кіраўніцтва жыллёва-камунальнай гаспадаркі Мастоў на свой зварот, у якім спытаў, чаму шыльды з назвамі вуліцаў вырабляюцца выключна па-руску. Па словах дырэктара жыллёва-камунальнай службы Сяргея Фралова, “Закон аб мовах” не вызначае прыярытэтнасць моваў напісання шыльдаў. Аднак мастоўскія камунальшчыкі паабяцалі

## кроніка



Дваццаць шостага ліпеня 2009 года на мастоўскую сядзібу да Лявона Вашка завіталіся паэт Юры Гумянюк (Гародня), грамадскія актывісты Алесь Зарэмбюк (Масты), Хрысціна Марчук (Гародня), Алег Пронскі (Масты). У часе сустрэчы Юры Гумянюк запісаў гутарку з Лявонам Вашком для радыё "Рацыя". Пакуль ішоў запіс, Хрысціна Марчук завіхалася па гаспадарцы і карміла кабаноў. Потым за сяброўскім сталом гучалі тасты, абмяркоўваліся пытанні літаратуры і грамадскага жыцця. Удзельнікі вячэры наведаліся праз мабільную сувязь у інтэрнэт, на старонкі блогу Юрыя Гуменюка ***(Humianiuk.livejournal.com)***, і паэт уголас пачытаў з мабільнага тэлефона свае беспадобныя вершы.

***На здымку: (злева направа) Алесь Зарэмбюк, Юрый Гумянюк, Хрысціна Марчук, Алег Пронскі на сядзібе ў Лявона Вашка. Масты, дваццаць шостага ліпеня 2009 года. Фотадзеячас.***

прыняць да ведама просьбу дэпутата райсавета і наступным разам замаўляць ужо беларускамоўныя шыльды".

***Радыё "Рацыя". Беларускамоўныя шыльды ў Мастох будуць. "Рэгіён" № 12, с. 4.***



РЭГІЁН
ГАРАДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
№ 1 (11)
8 чэрвеня 2009 г.

Адбылося паседжанне Рады Руху "За Свабоду"

Ты не адзін! ДАЛУЧАЙСЯ!

"Рэгіянальнаму каардынатару руху за "Свабоду" у Гарадзенскай вобласці Алесю Зарэмбюку паведамілі пра немагчымасць распрацоўкі беларускамоўнай версіі афіцыйнага сайта Мастоўскага райвыканкама. Старшыня Мастоўскага райвыканкама А. Шафарэвіч паведаміў сябру рады руху "За свабоду" Алесю Зарэмбюку, што асноўнай версіяй афіцыйнага сайту мясцовых уладаў зьяўляецца рускамоўная."

***Антон Верамейчык. Мастоўскія чыноўнікі лічаць беларускую мову другаснай? "Рэгіён" № 1 (11), с. 8.***

***СВАБОДАРЭГІЁН***

***Старонкі газетаў "Рэгіён" – рэгіён творчае беларускае свабоды.***

---

## СЦЕЖКАМІ МАСТОЎШЧЫНЫ

***Сцежкамі Мастоўшчыны, гісторыка-краязнаўчы часопіс. Масты, 2009.***

Дваццаць першага ліпеня 2009 года на сустрэчы Валеркі Булгакава і Алега Латышонка з чытачамі ў Мастох Дзмітры Краснапеўцаў падарыў Лявону Вашку другі і трэці выпускі часопіса "Сцежкамі Мастоўшчыны".

**“Сцежкамі Мастоўшчыны”, гісторыка-краязнаўчы часопіс, № 2 (2007), № 3 (2008). Рэдакцыя: А. Габрусевіч, Д. Краснапеўцаў, А. Сабасцян. Нумары надрукаваныя пры тэхнічнай падтрымцы сайта “Masty.org” зборам у 100 асобнікаў. Электронны адрас: mastyways@mail.ru. Кантактны тэлефон: 8 029 1387994.**

СЦЕЖКАМІ МАСТОЎШЧЫНЫ
ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС



№3, 2008 г.
г. МАСТЫ

“***П***рыкладна, да XIX стагоддзя параходаў на Нёмне не было. Тавары з нашага краю ў той час у іншыя землі вывозіліся на сплаўных судах, якіх было некалькі відаў. Гэта былі драўляныя пласкадонныя вялікія баржы са значнай грузапад’ёмнасцю. Большая з такіх баржаў называлася віціна. Яна мела даўжыню, прыкладна, 52 метра, шырыню 7,8 метра. Яе борт узвышаўся над вадой на 1,7 метра і мог прыняць груз у 224 тоны. Пабудова такога карабля каштавала 1 200 рублёў на тыя грошы. Віціну абслугоўвалі лочман і 12 рабочых.”

***Георгі Барташ. “Бацька Нёман. З гісторыі развіцця водных зносін на Мастоўшчыне.” “Сцежкамі Мастоўшчыны”, № 3 (2008), с. 10.***

***НЁМНАСЦЕЖКІ***

***Старажытныя сцяжыны продкаў і вякоў адкрываюць на старонках часопіса “Сцежкамі Мастоўшчыны” таямніцы прынёманскага сусвету.***

## СІМВАЛЫ БЕЛАРУСІ

***Сімвалы Беларусі. Буклет.***




Дваццаць другога жніўня 2009 года да Лявона Вашка завітаўся Зміцер Кухлей, які падарыў буклет “Сімвалы Беларусі”.

**“Сімвалы Беларусі”, каляровы буклет. Месца, час і збор выдання не пазначаныя. *WWW. Sciah.info*.**

“***Б***ел-чырвона-белым сцягам называюць сцяг Хрыста.

2000 гадоў таму ўкрыжаванага скрываўленага Ісуса, хаваючы, загарнулі ў белую палатніну. Калі Хрыстос уваскрос, бел-чырвона-белы сцяг застаўся чалавецтву як сымбаль перамогі над злом.”

*“Сімвалы Беларусі”.*




***Беларускі сцяг з 1937 па 1951 год. Выява ўзятая з буклета “Сімвалы Беларусі”.***

***ВЕЧНАСЦЯГІ***

***Вечнае беларускае пытанне, які сцяг лепшы – тэма буклета “Сімвалы Беларусі”.***

## ЖЫЦЬ!

***Рыгор Барадулін. Жыць! Зборнік вершаў. Прага, 2006.***

rb
Ryhor Baradulin
Žít!

Дваццаць трэцяга жніўня 2009 года Міхась Скобла, гасцюючы ў Мастох, падарыў Лявону Вашку кніжку Рыгора Барадуліна “Жыць!”

**“Жыць!”, зборнік вершаў у беларускім арыгінале і ў перакладзе на чэскую мову. Выдадзены ў Празе ў 2006 годзе Нацыянальнай бібліятэкай Чэскай рэспублікі й Славянскай бібліятэкай. Кніга мае 137**

**старонкаў. Пераклад на чэскую мову Францішкі Сакаловай. Аформіла кніжку мастачка Алена Дзіясава. Да выдання кніжкі таксама спрычыніліся Алена Крэсалава, Уладзімір Каткоўскі, Алена Ціхановіч, Максім Шчур, Ружэна Шышкава. У кнізе надрукаваны ўступ Вацлава Гавела, прадмова Міхася Скоблы, інтэрвію "Застаюся паднявольнікам беларускага слова", якое Рыгор Барадулін даў Ф. Сакаловай і З. А. Ціхаму.**


***Фотапартрэт Рыгора Барадуліна надрукаваны ў кніжцы "Жыць!".***

***Рыгор БАРАДУЛІН***
*Анёл, які на лютні грае...*

*Ё*н будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае,
Калі забытыя сляды
Згадае сцежка маладая.

Калі гады, нібы дзяды,
На прызбу стомы сядуць з краю.
Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае.

Калі не позірку бяды,
А зноў душа паверыць раю,
Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае.

***Рыгор Барадулін. "Жыць!", с. 98.***

"Энергетыка барадулінскага верша здольная абудзіць старую анемічную Еўропу, закалыханую верлібрам. Зрэшты, Еўропа і сама спрасоння пацягнулася да сілабатанічнай паэзіі – да прыкладу, у Італіі ізноў уваходзяць у моду санеты ў духу Пятраркі."

***Міхась Скобла. Прадмова "Быць нататнікам Бога". "Жыць!", с. 20.***

***ЖЫЦЦЯВЕРШЫ***

***Прагаю, мудрасцю і філасофіяй жыцця прасякнутыя вершы ў зборніку Рыгора Барадуліна "Жыць!"; "Ты жывеш, пакуль шалёным птахам у тваёй душы на ўсё размашша б'ецца страх перад апошнім страхам, за якім, відаць, адно бястрашша..."***

---

## ЗА АРХІЎНЫМ ПАРОГАМ

***Язэп Янушкевіч. За архіўным парогам: Беларуская літаратура XIX–XX стагоддзяў у святле архіўных пошукаў. Біяграфічныя нарысы гісторыі беларускіх літаратуры і культуры. Менск, 2002.***

Дваццаць трэцяга жніўня 2009 года Язэп Янушкевіч, гасцюючы ў Мастох, падпісаў Лявону Вашку сваю кніжку "За архіўным парогам".




**"За архіўным парогам. Беларуская літаратура XIX–XX стагоддзяў у святле архіўных пошукаў", біяграфічныя нарысы гісторыі беларускіх літаратуры і культуры. Друкуюцца гутаркі Язэпа Янушкевіча са Сцяпанам Александровічам, Сакратам Яновічам, літаратурна-крытычныя артыкулы.**

**Кніжка выйшла ў менскім выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 2002 годзе зборам у 2000 асобнікаў. У кнізе 384 старонкі плюс восем аркушоў блоку ілюстрацыяў. Адказны за выпуск Н. І. Семашкевіч, рэдактар Н. А. Давыдзенка, мастак У. М. Якунін, мастацкія рэдактары А. І. Дрозд, М. Я. Шкурпіт. Тэхнічны рэдакатар Л. М. Шлапо. Карэктары Я. А. Бебель, Л. М. Маслоўская. Кніжка набраная і зввярстаная на настольна-выдавецкай сістэме ў выдавецкім рэспубліканскім унітарным**

*"Спакойна спі, пясняр, далёка на чужыне...*
*Нашто пакінуў край, які быў сэрцу міл?*
*Ці, можа, ты хацеў, каб на палёх краіны*
*Стаяла меней крыжоў і меней было магіл?.."*

*Магіла Алеся Гаруна, адшуканая Алегам Латышонкам. Кракаў, красавік 1988 года. Фота Язэпа Янушкевіча. Здымак узяты з кніжкі Язэпа Янушкевіча "За архіўным парогам" (Менск, 2002).*




**прадпрыемстве "Мастацкая літаратура" Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Надрукаваная з арыгінала-макета заказчыка на рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве "Паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа".**

# ПАМЯЦІ ВАЛЕРЫЯ ЛАСОЎСКАГА



*Валеры Ласоўскі (1945 – 2009). Здымак узяты з сайта Менскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладэчні (theatre.modt.iatp.by).*

Дваццаць шостага верасня 2009 года ў Менску памёр Валеры Ласоўскі. За месяц да смерці ён пахаваў сына.

Валеры Аляксандравіч Ласоўскі нарадзіўся ў Менску 22 лістапада 1945 года. Скончыў тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у тэатрах Расіі, у Рускім драматычным тэатры імя Максіма Горкага ў Менску. У 1973 годзе стаў лаўрэатам прэміі ймя Ўладзіміра Яхантава (Ленінград). Супрацоўнічаў з Беларускім тэлебачаннем у якасці сцэнарыста і вядучага папулярнай у васьмідзесятыя гады музычнай праграмы "Сустрэнемся пасля адзінаццаці". З 1975 года па 1994 працаваў артыстам-чытальнікам у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. З 1994 па 1999 год працаваў мастацкім кіраўніком Мазырскага драматычнага тэатра імя Івана Мележа. У 2000 – 2002 гадох быў галоўным рэжэсарам Магілеўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя Вінцука Дуніна-Марцінкевіча (Бабруйск). З 2002 па 2004 год – мастацкі кіраўнік Менскага абласнога драматычнага тэатра (Маладэчня). З верасня 2004 года працаваў артыстам у Рэспубліканскім тэатры беларускай драмы. Неаднаразова ўзнагароджваўся дыпломамі міжнародных тэатральных фестываляў.

Па п'есе Лявона Вашка "Сэкс па перапісцы" Валерый Ласоўскі паставіў спектаклі "Любоў па перапісцы" у Акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа ў Віцебску (2000), Магілеўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя Вінцука Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску (2001). Ён жа зрабіў і сцэнаграфію спектакляў.

Валеры Ласоўскі запомніўся як шчыры інтэлегентны чалавек, таленавіты рэжэсэр, яскравая асоба з чулай, натхнёнай душою. Ён пахаваны ў Менску на Ўсходніх могілках.

2009

*кроніка*



***Ш***аснаццатага жніўня 2009 года на Заслаўскую сядзібу Лявона Вашка завіталіся Алесь Зайцаў з Ваўкавыску, Алесь Зарэмбюк і Васіль Клімовіч з Мастоў. Гаворка зайшла пра фанатаў аўтамабіля "Масквіч".

***На здымку: (злева направа) Алесь Зарэмбюк, Васіль Клімовіч, Алесь Зайцаў на сядзібе Лявона Вашка. Фотадзеячас.***

"***Г***історыя распарадзілася так, што ў апошнія стагоддзі ў беларускае прыгожае пісьменства прыходзілі адно асобы годныя, свядомыя, адданыя справе адраджэння і развіцця роднай літаратуры. Іншым тут і рабіць не было чаго. Бо замест рэальнага ганарару літаратарам выплачвалі яго чэкамі з подпісамі: "рэкрут" (П. Багрыму, Ф. Савічу), "правінцыйны вершаплёт і хлопаман" (В. Дуніну-Марцінкевічу), "катаржнік" (А. Вярыга-Дарэўскаму), "выгнаннік" (Ф. Багушэвічу, В. Суліму-Савічу-Заблоцкаму), "несостоятельный должник и умопомешанный" (А. Абуховічу)."

***Язэп Янушкевіч. "Кодэкс грамадзянскасці. Хрэстаматыя беларускай літаратуры XIX стагоддзя". "За архіўным парогам", с. 274.***

*На тытуле падоранае кніжкі Язэп Янушкевіч пакінуў зычлівы подпіс: "Паважанаму Лявону Вашко на памятку пра гарачую лазню і ня менш ачышчальныя размовы. Гэта і застанецца ў душы. 22 – 23. 09.2009 г."*

***ЛЁСАГІСТОРЫЯ***

***Лёсамі літаратараў і грамадскіх дзеячоў напісаная духагісторыя Беларусі на старонках кніжкі Язэпа Янушкевіча "За архіўным парогам".***

---

**МАГАЗЫН ПОЛЬСКІ**

***"Магазын польскі", штомесячны часопіс "Саюзу палякаў на Беларусі", Гародня, 2009.***

**У**летку 2009 года Алесь Зарэмбюк прэзентаваў Лявону Вашку часопіс "Магазын польскі".

**"Магазын польскі" ("Magazyn Polski", № 5 (41), май, 2009). На польскай мове. Штомесячны часопіс "Саюзу палякаў на Беларусі". Выдаецца з 1992 года. Асноўныя тэмы часопіса – жыццё палякаў у Беларусі; закранаюцца тэмы польска-беларускіх узаемадачыненняў. Галоўны рэдактар Ігар Банцэр (ibancer@wp.pl тэл. +375-29-7850387). Нумар**

**выдадзены за сродкі польскага сенату і фонду "Свабода і дэмакратыя". Мае трыццаць восем старонкаў. Адрас для карэспандэнцыі: абаненцкая скрынка 107, 230025, Гродна, Беларусь. magazin.polski@gmail.com.**

*Надпіс пад здымкам, што адкрывае сорак першы нумар "Магазына польскага": "Александр I з царэвічам Колем".* ▶




*Святкаванне Саюзам палякаў на Беларусі Дня польскае канстытуцыі. Гародня, 3 траўня 2009 года. Здымак з часопіса "Магазын польскі".* ▼



***ВІТАННЕПАЛАНЭЗ***

***Гукі прывітальнага паланэзу злятаюць са старонкаў часопіса беларускіх палякаў "Магазын польскі".***

## АКНО ДЛЯ МАТЫЛЬКОЎ

***Міхась Скобла. "Акно для матылькоў". Паэзія й проза. Менск, 2009.***




Дзевятнаццатага кастрычніка Лявон Вашко завітаўся ў Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва ў Менску, дзе напаткаў Міхася Скоблу, які падарыў сваю кніжку "Акно для матылькоў".

**Кніжку выбранага Міхася Скоблы "Акно для матылькоў" склалі як творы з ранейшых выданняў аўтара, так і яшчэ не публікаваныя. Друкуюцца вершы са зборнікаў "Вечны зніч", "Вочы савы", "Нашэсце Поўні", вершы новага тысячагоддзя, пераклады твораў Адама Міцкевіча, Канстанты Ідэльфанса Галчынскага, Васіля Стуса, Міхала Чэрніка, Юзэфа Шымана, Ліны Кастэнка, Гінтараса Патацкаса, Антанаса А. Ёнінаса, Івана Малковіча, Івана Андрусяка, літаратурна-крытычныя артыкулы, бібліяграфічная даведка. Кніжка пабачыла свет аб 2009 годзе ў менскім выдавецтве "Про Хрысто" зборам у 500 асобнікаў; мае 312 старонкаў. На вокладцы і тытуле графічныя працы мастака Ігара Гардзіенкі. Рэдактар Х. Лялько, тэхнічны і мастацкі рэдактар А. Глекаў. Камп'ютэрная вёрстка А. Глекава, карэктар Л. Камінская. Надрукаваная ў друкарні УП "Ходр" ОО "БелТІЗ".**

"*І*ван Антонавіч засмяяўся і сказаў, што калі ён працуе пры адчыненым акне, матылькі залятаюць і бязбоязна садзяцца на пісьмовы стол.

Паводле народных уяўленняў матылькі – гэта душы памерлых людзей. Хто ведае, магчыма, да Брыля прыляталі душы ягоных шматлікіх сяброў, якіх ён надоўга перажыў і якіх увесьчасна ўспамінаў ў сваіх абразках..."

***Міхась Скобла. "Акно для матылькоў", с. 217.***

*Міхась СКОБЛА*

*Аляксею Марачкіну*

Мастакі – падгасподнікі Бога.
На паддашках іх хата і схоў,
Дзе сваячкай вясёлкі – падлога,
Дзе збаўленне ад нізкіх грахоў.

У майстэрнях у іх паднябесных,
Дзе тварыліся цуды шматкроць,
Ты пашлі ім высокую бессань
І ў чало пацалуй іх, Гасподзь.

Блаславі і заданне ім вызнач,
Нездарма ж багамазы яны,
Уздыхне жаўтавокая Свіслач
І навяжа чаўны-маўчуны.

І мастак, што ня ведаў паклона
На чужой іншамоўнай імшы,
Здасца сам у палон Апалона
І вясёлку дастане з душы.

А станцуе прамень на мальберце,
І прыдрэмле мастак, каб сасніць,
Што касой, адабранай у смерці.
Добра ў лузе атаву касіць!

***Міхась Скобла. "Акно для матылькоў", с. 134.***

*У падоранай кніжцы Міхась Скобла пакінуў зычлівы аўтограф: "Лявону Вашко, зь якім прыемна бавіць час і пад дубамі на беразе Нёмана, і ў парыльні, і ў шчырых гутарках."*

***БАРАЗНАЧАССЕ***

***Зямнымі роднавобразамі кранаецца небавышыняў творчасць Міхася Скоблы; "О баразна, эратычны пейзаж! Ты нам штовосень – і пеклам, і раем. Поле – штодзень, навакол і наўсцяж, дземы кахаем, жывем паміраем. Рукі ў парэпінах, зморшчаны лоб, іншых памкненняў няма ані знаку. О баразна – беларускі акоп, скуль нам аднойчы ісці у атаку".***



***Міхась Скобла. Фотапартрэт узяты з кніжкі "Акно для матылькоў" (Менск, 2009).***

***"У чым адметнасць паэтычнай стылістыкі Міхася Скоблы? У ёмістасці яго сацыяльных і псіхалагічных метафар, у шчыльнасці і гушчыні яго мастацкага пісьма, калі "словам цесна, а думкам прасторна". Метафары яго ня толькі яркія, але і вельмі змястоўныя, маштабныя... У душы і сэрцы такі касмічны напор энергіі, што "язда са спушчанымі лейцамі" не для яго."***

***Ніл ГЛЛЕВJч, "Народная воля".***

***Дасловак Ніла Гілевіча ўзяты з вокладкі кніжкі Міхася Скоблы "Акно для матылькоў" (Менск, 2009).***

***"Акно для матылькоў" – выбранае з ранейшых кніг паэта, чый першы зборнік "Вечны зніч" (1990) выйшаў нечуваным для дэбютных выданняў накладам 23 000 асобнікаў і – разышоўся. З таго часу многае ў нашым жыцці непазнавальна змянілася, але паэзія і эсэістыка М. Скоблы і ў XXI стагоддзі застаецца ўраджайнай на шматасацыятыўныя вобразы, на ёмістыя метафары, на паэтычныя парадоксы. Нездарма аўтару гэтай кнігі ў 2000 г. была прысуджаная Літаратурная прэмія імя Алеся Адамовіча – ці ня самага парадаксальнага беларускага пісьменніка."***

***Анатацыя з кніжкі "Акно для матылькоў" (Менск, 2009).***

## АД СКАРЫНЫ ДА КУПАЛЫ

***Алексей Кавко. От Скорины до Купалы: Белорусская литература в контексте национально-культурного возрождения. Научное издание. Москва, 2006.***




Дзевятнаццатага кастрычніка 2009 года Лявон Вашко завітаўся ў Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва ў Менску, дзе напаткаў беларускага рупліўцу з Масквы, даследчыка беларускае літаратуры Аляксея Канстанцінавіча Каўку, які падарыў сваю кніжку "Ад Скарыны да Купалы. Беларуская літаратура ў кантэксце нацыянальна-культурнага адраджэння".

**Кніжка Аляксея Каўкі "Ад Скарыны да Купалы. Беларуская літаратура ў кантэксце нацыянальна-**

**культурнага адраджэння” выдадзеная на рускай мове ў Маскве ў 2006 годзе Інстытутам сусветнае літаратуры імя А. М. Горкага Расійскае Акадэміі Навук зборам 500 асобнікаў. Выданне склалі літаратуразнаўчыя артыкулы, прысвечаныя гісторыі беларускае літаратуры. Публікуюцца фотаілюстрацыі, імянны паказнік. Выданне здзейсненае пры фінансавае падтрымцы Расійскага гуманітарнага навуковага фонду. Кніжка зацверджаная да друку Навуковай радаю Інстытута сусветнае літаратуры імя А. М. Горкага Расійскай Акадэміі Навук. Навуковы рэдактар кніжкі доктар філалагічных навук, прафесар *Н. С. Надъярных*. Рэцэнзенты доктар філалагічных навук, прафесар *А. С. Демин*, доктар гістарычных навук *Л. У. Звонарева*. Тэхнічны рэдактар *В. Н. Костылев*. Кніжка надрукаваная ў друкарні “Типография “Наука”.**

“Для белорусов, к примеру, самосохранение и самораскрытие своей самобытности, своего неповторимого “я” было на протяжении столетий и остается поныне, пожалуй, самой кардинальной, ключевой и самой трудной проблемой их исторического бытия, более того – их выживаемости, политической и духовной полноценности как отдельного и самостоятельного народа.

Этой же проблемой национально-творческого самосохранения и самоутверждения предопределено одно из основных типологических свойств белорусской культуры, её самовосстановительных

## *кроніка*



Дваццаць другога і дваццаць трэцяга жніўня 2009 года на мастоўскай сядзібе гасцявалі Міхась Скобла і Язэп Янушкевіч. У лазне былі абмеркаваныя пытанні беларускае літаратуры. Язэп Янушкевіч падарыў Лявону Вашку сваю кніжку “За архіўным парогам”, Міхась Скобла прэзентаваў зборнік вершаў Рыгора Барадуліна “Жыць!” (анатацыі кніжак можна пачытаць у гэтым нумары літаратурнага агляду ў раздзеле “Твораспакметы”). Лявон Вашко аддзячыў гасцям “Дзеячасам”.

***На здымку: Міхась Скобла і Язэп Янушкевіч у дуброве за сядзібаю Лявона Вашка. Масты, дваццаць трэцяга жніўня 2009 года. Фотадзеячас.***

способностей, одолевающих самые затяжные кризисы, непрестанное ассимиляторское давление. Что однако не означает исключительности белорусского примера. Он по своей сути типичен, универсален и вполне объясним международным опытом противостояния притесняемых наций и культур всяким формам колонизации.”

***Аляксей Каўка. “Ад Скарыны да Купалы”, с. 3-4.***

“**Х**орошо известно о пиетете Скорины к родному слову. К исходу XVI столетия мотив этот постепенно слабеет и почти замирает. На смену ему рождается тревожная, некогда набатная мелодия, вызванная упадком национальной культуры, отступничеством от нее имущих кругов Белоруссии. Так, обедневший шляхтич, владелец “убогой друкарни” Василий Тяпинский жертвует свои скудные средства на печатание книг, чтобы принародно осудить национальное предательство, предостеречь сородичей от опасности забвения отечественных духовных традиций, собственных самобытных корней”.

***Аляксей Каўка. “Ад Скарыны да Купалы”, с. 48.***

“***И***так, – о творческих исканиях Янки Купалы начала 1920-х годов, о мучительном переживании его поэтическим сознанием противоречивых реалий и грядущих последствий большевистской нови. В основе этих переживаний, обусловивших вектор художественного мировосприятия поэта, оказался трагический разлад между декларированием права наций на самоопределение и его фактическим попранием, которое с лихвой испытала на себе Белоруссия в 1917-1920 гг... В создавшихся условиях с новой силой обострилась извечная для белорусского этноса проблема политического и духовного выживания, целиком овладев умом и творческим воображением Купалы.

Так рождается стихотворение “Перед будущим” (“Перад будучыняй”, 1922) – острая, по-своему дерзкая антитеза “светлому будущему”, провозглашенному коммунистическими властями. В нем стянуты и прочно связаны тугим смысловым узлом главные идейные нити драматической судьбы белорусов. Здесь и проблема невыявленности исторического пути Беларуси на непростом геополитическом перекрестке Востока и Запада, и саднящая душу и сердце тень колонизатора-чужака, надменно развалившегося за белорусским столом, и, едва ли не самое ранимое, мучительное, – вялость, безропотность в характере народа, надломленном вековым притеснением. Всё это подано в ассоциативном ключе, прочерчено размашистыми метафоричными линиями, отчеканено сочным разящим слогом.”

***Аляксей Каўка. “Ад Скарыны да Купалы”, с. 177-178.***

*На тытуле падоранай Лявону Вашку кніжкі Аляксей Канстанцінавіч пакінуў зычлівы надпіс: “Рупліваму сыну Беларусі Лявону Вашко з нагоды мілага знаёмства.”*

***СКАРЫНААСНОВЫ***

***Ад першых беларускіх кніжкаў да сённяшняга часу нацыятворыцца Беларусь праз духоўныя запаветы ў роднай мове.”Родной язык, национальная идентичность, духовное просвещение – таковы основные опорные точки и линии многовекового развития белорусской культуры, источники кристаллизации национальной идеи этого народа.”***



***Кніжка Аляксея Каўкі аздобленая фотадакумантамі. На здымку: заснавальнікі газеты “Наша Ніва” Іван Луцкевіч, Антон Луцкевіч, Александр Уласаў. 1910 год. Здымак узяты з кніжкі “Ад Скарыны да Купалы (Масква, 2006).***

кроніка



**С**ёмага верасня 2009 года на мастоўскую сядзібу Лявона Вашка завіталіся грамадскія актывісты Васіль Дзям'янаў, Янка Дзяшук, Сяргей Трафімчык з Бярозаўкі й Алесь Зарэмбюк з Мастоў. Лявон Вашко прэзентаваў гасцям пятнаццаты выпуск літаратурнага агляду "Дзеячас".

***На здымку: (злева направа) Васіль Дзям'янаў, Сяргей Трафімчык, Янка Дзяшук, Алесь Зарэмбюк. Фотадзеячас.***

**НІВА**

***"Ніва", тыднёвік беларусаў у Польшчы. Беласток, кастрычнік 2009 года.***

Дваццаць восьмага кастрычніка 2009 года на сядзібе Алеся Мікалаевіча Белакоза ў Гудзевічах Алесь Зарэмбюк падарыў Лявону Вашку беластоцкую газету "Ніва" № 42 (№ 2 788) за васемнаццатага кастрычніка 2009 года.



Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
Гміна Чыжы — па-беларуску

**"Ніва", тыднёвік беларусаў у Польшчы № 42 (№ 2 788). Галоўны рэдактар: Яўген Вапа. Намеснік галоўнага рэдактара: Віталь Луба. Тэхнічны рэдактар: Адам Паўлоўскі. У нумары друкуецца ўкладка выпуску для дзяцей і моладзі "Зорка" (э-адрас: zorka@niva.iig.pl). Рэдактар "Зоркі": Ганна Кандрацюк-Свярубская. Публіцысты "Нівы": Міхась Андрасюк, Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч. Канцылярыя: Галіна Рамашка. Кампутарны набор і карэктура: Яўгенія Палоцкая. Надрукаваная ў друкарне "Orthdruk", Беласток. Выдавец: праграмная рада тыднёвіка "Ніва". Старшыня: Яўген Вапа. Адрас рэдакцыі: 15-959 Bialystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84. Тэл./факс: (+ 48 85) 743-50-22. Internet: http://niva.iig.pl/. Э-пошта: redakcja@niva.iig.pl.**




***Дарожны знак на беларускай мове ў Польшчы. Каментар штотыднёвіка да здымка: "У Чыжоўскай гміне красуюцца ўжо двухмоўныя назвы вёсак – у рамках Царскага гасцінца – і гэта ўспрымаецца нармальна."***

***Аляксей Мароз. Гміна Чыжы – па-беларуску. "Ніва" № 42 (2 788), с. 1. Фота Аляксея Мароза.***

"**Ч**ыжоўская гміна ў час апошняга перапісу насельніцтва апынулася на першым месцы па адсотку насельніцтва беларускай нацыянальнасці. Ажно больш за 80% жыхароў гэтай гміны свядома назвалі сябе беларусамі. На апошніх самаўрадавых выбарах жыхары Чыжоўскай гміны паставілі на кандыдатаў ад Беларуска-народнага

## *кроніка*



***На здымку: Урачысты момант – Андрэй Бесараб і Наталля Бельская на палубе яхты напаўняюць келіхі шампанскім. Менскае мора, рэспубліканскі яхт-клуб. Фотадзеячас.***



***На здымку: прыбыццё судна ў рэспубліканскі яхт-клуб на Менскім моры. Фота ўзятае з сайта часопіса "Катэры і яхты" (katera.ru).***



***На здымку: Спуск яхты на ваду. Фота ўзятае з сайта часопіса "Катэры і яхты" (katera.ru).***

**У**восені 2009 года Лявон Вашко быў запрошаны Андрэем Бесарабам на ўрачыстае ўвадненне яхты, зробленай паводле праекту ўкраінскага канструктара Альберта Назарава (***amdesing.co.th***) "Кавалер 800". Спуск яхты на ваду адбыўся ў рэспубліканскім клубе на Менскім моры сямнаццатага кастрычніка. Раніцай на пірсе з гэтае нагоды сабраліся беларускія яхтоўцы. Пасля азнаямлення з суднам прысутныя выйшлі ў мора пад рухавіком – у якасці кармача выступіў капітан яхты "Рэспубліка" Уладзімір Коржаль. Удзельнікі імпрэзы зрабілі падарожжа да зацішных берагоў, дзе была арганізаваная бясёда.

Пабудаваная Андрэем Бесарабам яхта мае восем метраў даўжыні. У ёй ёсць насавая каюта з двума спальнымі месцамі, каюткампанія, два спальныя месцы пад кокпітам; у рубцы прадугледжаны стол для штурмана, камбуз, гальюн. У бліжэйшых планах самабудаўніка завяршэнне аздобчых працаў, усталяванне на лодцы кіля, узбраенне судна мачтаю і ветразем.

выбарчага камітэта, якія ўзялі ўсе 15 месцаў у Радзе гміны, а войтам чарговы раз стаў Юрый Васілюк, які таксама балаціраваўся ад Беларускага камітэта. Радныя Чыжоўскай гміны 24 верасня аднагалосна прынялі пастанову аб увядзенні беларускай мовы ў якасці дапаможнай у зносінах паміж мясцовым насельніцтвам і гміннымі чыноўнікамі."

***Аляксей Мароз. Гміна Чыжы – па-беларуску. "Ніва" № 42 (2 788), с. 1.***



***На здымку з газеты "Ніва": дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Анна Несцярук. Фота Міхала Мінцэвіча. "Ніва" № 42 (2 788), с. 9.***

"**У** вёсках паўднёва-усходняй Беласточчыны сярод маладога пакалення хуткімі тэмпамі выходзіць з карыстання тутэйшая (беларуская) мова; можна нават сказаць, што ўжо выйшла. Маладыя не карыстаюцца гаворкай сваіх продкаў, аднак многія ахвотна вывучаюць беларускую мову ў школах. Вялікая доля заслугі ў гэтым "Нівы" (крыху і "Часопіса"), якую чытаюць ахвотна, калі пішацца пра іх саміх, іхніх знаёмых ці мясцовасць; так дзеецца прынамсі ў Орлі. У Арлянскай гміне важным апірышчам беларускай тоеснасці насельніцтва – на месца "тутэйшай" мовы – становіцца літаратурная ў шырокім сэнсе беларуская мова. Гэта заслуга школы, гмінных улад, Гміннага асяродка культуры, у тым ліку і ладжаных апошняй установай беларускіх фэстаў. Пра гэта размова з Аннай Несцярук, дырэктарам Гміннага асяродка культуры ў Орлі."

***Міхал Мінцэвіч. "Нам дапаможа Беларуская мова": гутарка з Аннай Несцярук. "Ніва", № 42 (2 788), с. 9.***

***ТВОРАСПАКМЕТЫ газеты "Ніва" друкаваліся на старонках "Дзеячасу": у № 11, № 14.***

---

## ВЕРШАКРОПЛІ

***Генадзь Коўш. "Вершакроплі". Менск, 2009.***

**С**ямнаццатага лістапада Лявон Вашко, апынуўшыся ў Менску, завітаўся на кватэру да Міхася Скобля, дзе зычлівы гаспадар падарыў кніжку Генадзя Каўша "Вершакроплі".




**Кніжка Генадзя Каўша "Вершакроплі" – літаратурна-мастацкае выданне. Зборнік склалі вершы, разважанні. Адказны за выпуск Г. Вінярскі, рэдактар С. Чыгрын, кампутэрны набор С. Коўш, вёрстка Л. Ваўчок, карэктар В. Аскерка. Кніжка выйшла зборам у 150 асобнікаў у менскім выдавецтве "Кнігазбор" аб 2009 годзе, мае 96 старонкаў. Надрукаваная ў ПУП "Ходр" ГА "БелТІЗ".**

**Творам уласцівыя метафарычнасць мастацкае мовы, філасофская паглыбленасць ва ўнутраныя сэнсы навакольных прадметаў і зьяваў.**

"*Х*олад. Вельмі распаўсюджаны стан прыроды, адносінаў, душы. Холад у прыродзе – гэта нармальна, натуральна, ён патрэбен, бо экзаменуе, загартоўвае, павучае, застаўляе задумацца. Прыродны холад дазваляе нам адчуць космас, уявіць касмічную прастору, ацаніць цеплыню Сонца, чалавечых адносінаў. Як ня дзіўна, а прыродны холад саграе. Але існуе холад душы, холад у адносінах паміж людзьмі. Гэты холад мы стварылі самі, і гэты холад больш небяспечны, чым прыродны.

У сваіх вершах я імкнуўся паспрыяць задумацца над гэтым душэўным холадам, перагледзець адносіны да навакολля, да іншых людзей, дапамагчы зрабіць патрэбныя высновы."

***Генадзь Коўш. Уступ."Вершакроплі", с. 3.***

Генадзь КОЎШ



***

*Р*эчка.
Бераг.
Сухі адзінокі
дуб.
Мой позірк
зачапіўся
За яго галіны.
Дзіва.
У сухім дубе
Я распазнаў
Твар
Вечнасці.

***“Генадзь Коўш нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Александрыя Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. У 1979 годзе скончыў Дзярэчынскую СШ, што ў Зэльвенскім раёне, а ў 1984 годзе – фізічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы. Пасля вучобы працаваў інжынерна-тэхнічным работнікам на заводзе “Оптык” у Лідзе. З 1985 па 1986 гады служыў у радах Савецкай Арміі ў Прыбалтыцы і ў Забайкаллі. Пасля службы працаваў настаўнікам, дырэктарам школы ў Зэльвенскім раёне, намеснікам дырэктара школы ў Шчучынскім раёне. Цяпер жыве і працуе ў вёсцы Дзярэчын на Зэльвеншчыне. Друкаваўся ў часопісе “Роднае слова”, газеце “Праца” (Зэльва), “Газеце Слонімскай”, у “ЛіМе” і ў зборніку “Зоры над Зальвянкай” (2008).” Тэкст і здымак з вокладкі кніжкі “Вершакроплі”.***

***КРОПЛЯАКІЯНЫ***

***Вершакроплі Генадзя Каўша хвалююцца сэнсаакіянамі метафізічных адкрыццяў; “Туман. Стары адзінокі закінуты будынак. Трэск. Гул. Будынак рухнуў. Мінулае преатварылася ў туман.”***

## ДАРОГА

***Івонка Сурвіла. “Дарога”. Успаміны. 2008.***

**С**ямнаццатага лістапада Лявон Вашко ў Менску на кватэры ў Міхася Скоблы атрымаў ад зычлівага гаспадара падарунак – кніжку Івонкі Сурвілы “Дарога” (2008).



**Кніжка Івонкі Сурвілы “Дарога. Стоўпцы – Капенгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск” выйшла ў 2008 годзе ў шэрагу “Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе.”Выдавец Радыё “Свабодная Яўропа”/Радыё “Свабода”. Месца выдання, друку і колькасць асобнікаў не паказаныя. Заснавальнік і каардынатар шэрагу Александр Лукашук, мастацкі рэдактар Генадзь Мацур, адказны рэдактар Аляксандра Макавік, рэдактар і ўкладальнік Сяргей Навумчык, мастак Генадзь Мацур, карэктар Галіна Рабянкова. У кнізе багата публікуюцца фотадакуманты, друкуюцца карціны і малюнкі Івонкі Сурвілы. Змешчаная прадмова Аляксандра Лукашука “Яе азімут”. Кніжка мае 144 старонкі плюс ілюстраваныя ўкладкі.**

**“Дарога” – мемуары Івонкі Сурвілы, у якіх яна апавядае пра свой лёс, а таксама пра людзей, якія сустрэліся на жыццёвым шляху.**

“*С*ёмы старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, якая ніколі не жыла ў незалежнай Беларусі, нарадзілася пад польскім панаваннем, перажыла савецкую акупацыю, пакінула радзіму падчас гітлераўскай, але яе дарога заўсёды была вольная, і дарога вяла да Беларусі і была яе Беларуссю, і цяпер яна запрашае ўсіх з сабой у памятныя мясціны свайго доўгага падарожжа.”

***Александр Лукашук, радыё “Свабода”. “Дарога”, с. 10.***



***Івонка Сурвіла. Фотапартрэт узяты з шмуцтытула кніжкі “Дарога”.***

“*Н*арадзілася я ў Стоўпцах. Першыя гады жыцця прайшлі ў Засуллі, потым бацькі пераехалі ў Баранавічы.

Першае дасведчанне савецкай акупацыі між 1939 і 1941 годам было для іх страшным і незразумелым. Бацьку (ён тады працаваў галоўным інжынерам на электрастанцыі ў Баранавічах) арыштавалі і засудзілі на пяць гадоў ссылкі ў Сібір. Памятаю, як прыйшлі яго арыштоўваць. Хацелі ў мяне з шыі сарваць залаты крыжык, і я крычала, каб яго ня даць. Мне было толькі тры гады, але памятаю маміны слёзы".

***Івонка Сурвіла. "Дарога", с. 11.***

"Было гэта 10 красавіка. Самалёт ужо далятаў да Менску, калі я нарэшце паверыла, што сапраўды неўзабаве прызямлюся ў Беларусі. Прыпомнілася раніца, калі сорак восем гадоў таму ў Баранавічах зрушыў з месца таварны цягнік, у якім мае бацькі, з трыма малымі дзецьмі, выбраліся ў невядомы свет. Прыпомніла цёцю Ганку ў белай хустачцы, якая з плачам бегла за цягнікам."

***Івонка Сурвіла. "Дарога", с. 93.***

"Паваенная хваля эміграцыі была эміграцыяй палітычнай, таму беларуская афіцыйная прапаганда мяшала яе з гразёй. І робіць гэта аж да сённяшняга дня. Між тым эміграцыя гэтая жыла і жыве сваёй бясконцай любоўю да бацькаўшчыны і ўсімі даступнымі сродкамі змагаецца за вольную і незалежную Беларусь. Менавіта такая мэта запісаная ў Статутце Рады БНР."

***Івонка Сурвіла. "Дарога", с. 106.***



***Івонка Сурвіла. Ефрасіння Полацкая. 1985. Дрэварыт. З кніжкі "Дарога".***

***ДАРОГАБЕЛАРУСЬ***

***Дарога з Беларусі ў Беларусь нарадзіла шлях вернага Бацькаўшчыне і беларусазапаветам жыцця.***

## СЭРЦА МАЙГО СВяТЫНя

***Зелімха Яндарбі. Сэрца майго святыня. Зборнік паэзіі ў перакладах Рыгора Барадуліна. Вільня, 2005.***

Сямнаццатага лістапада 2009 года ў Менску Міхась Скобла на сваёй кватэры падарыў Лявону Вашку кніжку чачэнскага паэта Зелімха Яндарбі "Сэрца майго святыня" у перакладзе Рыгора Барадуліна.

**Кніжка Зелімха Яндарбі "Сэрца майго святыня" – першыя ў гісторыі пераклады з чачэнскай мовы на беларускую. Вершы пераклаў Рыгор Барадулін. У зборніку друкуецца прадмова Зелімха Яндарбі. Кніжка выйшла дзякуючы Малікі Яндарбіевай (Катар). Перакладчык удзячны за спрыянне Вользе Караткевіч (Прага). Рэдактары кніжкі Ю. Бушлякоў, М. Скобла. Адказны за выпуск Л. Зубраўскас. Вёрстка Л. Верашчака. Карэктар Н. Аляксеева. Кніжка пабачыла свет у Віленскім выдавецтве "Гудас" у 2005 годзе. Збор 500 асобнікаў. Аб'ём 148 старонкаў. Надрукаваная ў Літве, у віленскай друкарні "Гудас".**

**Самахвярнае служэнне Радзіме – галоўная тэма лірыкі Зелімха Яндарбі.**

"Дарагія сябры! Браты й сёстры, Беларусы! Ад стварэння нашага свету ўпершыню перакладаецца чачэнскае слова на беларускую мову, упершыню гучыць чачэнскі верш, думка, журба і радасць на вашай высакароднай мове. Небывалае ў жыцці сваім пачуццё радасці адчуваю я ў сувязі з тым, што чачэнскае мастацкае слова, якое зноў гучыць сёння на Вашай мове, пададзена мяноўна маімі вершамі. Я ведаю, што нашае знаёмства – гэта вялікі падарунак мне ад Звышняга."

***Зелімха Яндарбі. Прадмова да зборніка "Сэрца майго святыня", с. 3.***




*Зелімха ЯНДАРБІ*

***Песня муджахеда***

Думкі пра немач сэрцу майму не ўмушчай.
Свет, як ня стане цябе ці мяне, анічога
Не заўважыць – ні светлы сподзеў,
ні цёмны адчай.
У справе сваёй я паклаўся на нашага Бога.
Без яды застануся, дык, як і мае дзяды,
Сыціцца буду сырымі лістамі дуба.
Без вады застануся, каб смагу прагнаць, тады
Светлую з траваў расу
ў далоні збіраціму люба.
А разлучаць з сямейным агменем,
з яго цяплом,
Між гранітных скалаў прылягу й засну,
як шчаслівы.

Небам, як коўдрай, акрыюся,
лічачы зоры чалом,
Чорную самую пасцялю я зямлю
з абражанай нівы.
Пад галаву пакладу
пяшчотную ад мазалёў даланю.
У мальбе да Звышняга сэрца сваё ўціхманю.
Закладу, не шкадуючы,
ў заклад наступнаму дню
Я цябе, ненадзейны свет,
што загруз у здрадзе і спадмане.
З сонцам я падымуся, калі дазволіць Алах.
А як час, мне адведзены Творцам,
зусім звечарэе,
Перад ім ціха стану, як неразвееny прах,
На Яго міласэрдзе бясконцае ў кволай надзеі.
Думак хмарных, спраў марных ня зыч мне,
свет,
Скіраваны да Бога шлях мой
праз перашкоды
І аддаць, як трэба, душу, я даў запавет.
І нястрымным жаданнем гарэў і шчырэў
заўсёды.
Пэвен я, што мяне любіць Звышні наш,
Бо люблю Яго больш за жыццё, і ніякая звада
Не зашкодзіць жыць і канаць, сцяг узвеяць
наўзмаш.
Звышні мяне ашчасліві шляхам джыхаду!

***Пераклад з чачэнскай мовы Рыгора Барадуліна. "Сэрца майго святыня", с. 46.***

***ВЕРШАДЖЫХАД***

***Нязломнасць духу і мужнасць сэрца – вершаджыхад паэта Зелімха Яндарбі; "Любоў, нібы агонь на далонях, данесці да людзей шчырэй імкнуся. А ты зняверцам, што паснулі ў скрусе, надзею будзіш, прэч прагнаўшы страх. І ў духу, і ў крыві маёй табе жыць суджана кунежыста й сурова, чачэнская мая святая мова, ты чуеш маці й любую ў журбе."***



***"Зелімха Яндарбі (1952 – 2004) – чачэнскі паэт і палітычны дзеяч. Вучыўся ў Літаратурным інстытуце ў Маскве, пісаў спачатку на вайнахскай мове, што на той час было зьявай антысавецкай. У 1990 г. стварыў і ўзначаліў Вайнахскую дэмакратычную партыю, мэтай якое было стварэнне незалежнай чачэнскай дзяржавы. Займаў розныя пасады, у тым ліку віцэпрэзідэнта Чачэнскай рэспублікі Ічкерыя. У 1996 г. выконваў абавязкі прэзідэнта. З 1999 г. – паўнамоцны прадстаўнік у мусульманскіх краінах, жыў у Катары, дзе загінуў у выніку тэракту." Тэкст і фота з кніжкі "Сэрца майго святыня".***



***"Рыгор Барадулін (нар. 24 лютага 1935 г.) – паэт, эсэіст, перакладчык. Народны паэт Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1976). Выдаў каля 50 кніг паэзіі й чатырохтомавы Збор твораў (1996 – 2002). На беларускую мову пераклаў паэтычныя зборнікі І. Драча, Ф. Гарсія Лоркі, А. Вазьнясенскага, Г. Містраль, А. Хаяма, М. Шагала, С. Вальехі ды інш. За пераклады з латышскай узнагароджаны ордэнам Трох зорак (Латвія). Жыве ў Менску." Тэкст і фота з кніжкі "Сэрца майго святыня".***

## НОВЫ ЧАС – ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

***"Новы час", масава-палітычная газета. Менск, 2009.***

***"Літаратурная Беларусь", культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і газеты "Новы час". Менск, 2009.***

Пятага снежня 2009 года на мастоўскую сядзібу завітаўся Алесь Зарэмбюк, які падарыў некалькі выпускаў газеты "Новы час ".



Новы Час

МЯСЦОВЫЯ ВЫБАРЫ ПА НОВЫМ ЗАКАНАДАЎСТВЕ

**"Новы час" № 44 (172), № 45 (173), масава-палітычная газета. Выдаецца з сакавіка 2002 года. Галоўны рэдактар Аляксей Кароль. Заснавальнік: Менская гарадская арганізацыя ГА Таварыства Беларускае**



*На здымку: Барыс Васілевіч Стральцоў (1926 – 2009). Журфакаўская курылка на Маскоўскай вуліцы. Менск, дванаццатага верасня 2002 года. Фотадзеячас.*

# БАРЫС СТРАЛЬЦОЎ

Дзевятнаццатага кастрычніка 2009 года на восемдзесят чацвертым годзе жыцця памёр доктар філалогіі, прафесар Барыс Васілевіч Стральцоў. Яго ведалі як таленавітага журналіста, дапытлівага навукоўца, руплівага педагога, патрыёта беларускай мовы.

Барыс Васілевіч нарадзіўся 1 сакавіка 1926 года ў вёсцы Хутар Быхаўскага раёна. Скончыў філфак БДУ. Больш за дваццаць гадоў ён прарабіў журналістам у газетах “Голас Радзімы”, “Чырвоная змена”, “Звязда”; сорак гадоў ён працаваў на журфаку Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта, доўгі час узначальваў кафедру тэорыі і практыкі журналістыкі. Ягоныя шматлікія навуковыя працы прысвечаныя тэарэтычным пытанням журналістыкі: творчым метадам карэспандэнцкае працы, станаўленню і развіццю газетных жанраў... Тысячы беларускіх журналістаў розных пакаленняў абавязаныя яму сваімі ведамі й прафесіяй.

У васьмідзесятых гадох ён выкладаў тэорыю журналістыкі курсу, на якім вучыўся Лявон Вашко. Запомніўся ён як цікавы, удумлівы выкладчык. Ягоныя постаць і лекцыі прыгадваюцца і сёння.

Барыс Васілевіч Стральцоў пахаваны ў Менску на Паўночных могілках.

2009

Мовы імя Францішка Скарыны. Выдавец: прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства “Час навінаў”. Адрас: 220012, Менск, завулак Інструмянтальны 6-214. Тэл: +375 29-651-21-12, +375 17-280-17-91. Збор 5 050 асобнікаў. Кошт свабодны.



ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

КРЫТЫКАВАЦЬ НЕЛЬГА ПАМІЛАВАЦЬ

“Новы час” № 45 (172) мае дадатак “Літаратурная Беларусь” № 8 (36) за лістапад 2009 года. “Літаратурная Беларусь”, культурна-асветніцкі праект Грамадскага абяднання “Саюз беларускіх пісьменнікаў” і газеты “Новы час”. Кіраўнік праекта “Літаратурная Беларусь” Алесь Пашкевіч. Рэдактар Барыс Сачанка. Тэлефон для даведак: (8-017) 280-17-91. Менск-25, а.с. 91. Э-адрас: sbp@tut.by. Надрукавана ў Менску ва УП “Плутас-Маркет”.

### *Васіль ЗУЁНАК*

***

***К****ажуць: убачыў грака –*
Мудрасць такая даўняя, –
То і вясну сустракай
Вітальнымі песнямі-дайнамі.

А як, калі не сакрэт,
Быць з сённяшняю акрасаю:
"Гракі прыляцелі" – сюжэт
Нязменны – з карціны Саўрасава.

Ці збіўся ў зямлі разварот,
Ці сонца іначай схіляецца:
Гракі-мінчукі круглы год
У горадзе аціраюцца.

Бяснежжа – а ім самы раз
Няўдаліца гэта сезонная:
Без просьбы птушыных мас
Уладу трымаюць над зонаю.

Дубінкамі дзюбаў трасуць,
Пабліскваюць чорнымі робамі, –
Па сметніках гонар нясуць
Шыхты прызначэння асобага...

І масленка, як з-пад ярма,
На свет выязджае з подзівам:
Нібыта й вясны няма,
Бо і зіма не прыходзіла...

***"Новы час" № 44 (172), 2009 / "Літаратурная Беларусь" № 8 (36), 2009, с. 11.***



***Здымак Васіля Зуёнка ўзяты з газеты "Новы час" № 44 (172) / "Літаратурная Беларусь", № 8 (36).***



***Здымак Алеся Камоцкага ўзяты з газеты "Новы час" № 44 (172) /"Літаратурная Беларусь", № 8 (36).***

### *Алесь КАМОЦКІ*

### *Мітусня*

***Я*** з гадоў перажытых помню
Мітусню каляровых дзён,
Пошук выйсця і шлях дадому
І гуканне наўздагон.

І памылак былых атрута
З цягам часу губляе смак –
Што калісьці было пакутай,
Таго проста ўжо няма.

Я, бывае, блукаю летам
За ўспамінамі след у след,
Я, бывае, гляджу бяз мэты
То ў люстэрка, то на партрэт.

А, бывае, сябе здзіўляю,
І ў доўгім жыцці надзей
Я спакою сабе шукаю
З цягам часу ўсё часцей.

***Новы час" № 44 (172), 2009 /"Літаратурная Беларусь" № 8 (36), 2009, с. 15.***

***"Алесь Камоцкі – бард, паэт, філосаф. Нарадзіўся 9 чэрвеня 1958 года ў Барысаве. У 1975-1976 гадах навучаўся па класе кларнета (Маладзечна). У 1977-1979-м служыў у войску. У 1986 годзе скончыў філасофскі факультэт БДУ. Жыве ў Мінску.***

***Бібліяграфія: "Спроба ісці па расе" (1997), "Неспадзяванае" (2004), "48" (2007), "Глыбіня дажджу" (2007).***

***Супольные праекты: "Край" (фотаальбом) (2005), фота Вадзіма Грудзько.***

***Дыскаграфія: "Першы сшытак" (1986), "Зорка спагады" (1999) на вершы Рыгора Барадуліна, "Псалмы" (2000) на вершы Рыгора Барадуліна, "Асяніна" (2001) на філасофскія вершы Ганада Чарказяна ў перакладзе Р. Барадуліна, "Дым" (2002), "Дом" (2003), "Дах" (2006), "З бацькоўскай кружэлкі" (2008), "9" (2009).***

***Асноўныя супольныя праекты: "Як усё ў жыцці" (1998) на творы Ўладзіміра Жылкі, "Віно дажджоў" на творы Ўладзіміра Караткевіча, "Паравіны году" (2003), песні ў выкананні Змітра Вайцюшкевіча, "Бывайце здаровы! Bello Ciao", італьянскія песні па-беларуску, беларускія па-італьянску, "Месяц і сонца" (2004), японскія песні па-беларуску, "Тое, што трэба" (2008), песні ў выкананні Змітра Вайцюшкевіча."***

***"Новы час" № 44 (172), 2009 /"Літаратурная Беларусь" № 8 (36), 2009, с. 15.***

***ТВОРАСПАКМЕТЫ газетаў "Новы час" і "Літаратурная Беларусь" друкаваліся ў дванаццатым нумары агляду "Дзеячас", с. 47.***



*“Вера “Джэці” Бурлак – паэтка, перакладчыца, спявачка, перформерка. Нарадзілася ў 1977 годзе ў Кіеве. Выпускніца філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук (сфера даследвання – дзіцячая літаратура Срэбнага стагоддзя). Піша паэзію і прозу. Аўтарка некалькіх скандынаўскіх зборнікаў, кнігі вершаў “За здаровы лад жыцця” (2003). З 1997 года зьяўляецца галоўным рэдактарам самавыдавецкага часопіса “Вясковые могілкі”. Перакладае паэзію і прозу з англійскай, рускай, украінскай моваў. Жыве ў Мінску.”*
*Тэкст і здымак з газеты“Новы час”, № 45 (173), 2009, с. 14.*

**Льюіс КЭРАЛ**

### Мармазяўр

**Б**рылела... Слюткія джгуркі
Лацверна свердзілі ў наллі.
Мурнелі ў мэмзе бабукі
І снінкі-хатылі.

“Бяжы да Мармазяўра, сын:
Кіпцісты ён, ікласты ён!
Ён горш, чым птах Дзвюбдзюб і чым
Жахматы Гамазон!”

Але ў руцэ ўжо двостры меч
На вусціш ворагу звінеў.
Герой пад дрэвам Думдум прэч
Адкінуў сум і неў.

І пасярод вышэрных мар
Апёк яго агністы зрок.
Са свістам з лесу Мармазяўр
Вылётвае ўпрыскок.

І – раз! І – раз! І – бах! І – брамс!
І чыкільжыкнуў двостры меч!
Аей! З варожай галавой
Герой кірзуе прэч!

“Ты Мармазяўра збіў і сцяў?
Ідзі ж, дзіця, у мой абдым!
Салоўная пара! Ура!” –
Пеў бацька, рады ў дым...

Брылела... Слюткія джгуркі
Лацверна свердзілі ў наллі.
Мурнелі ў мэмзе бабукі
І снінкі-хатылі.

*З ангельскай мовы пераклала Вера Бурлак. “Новы час”, № 45 (173), 2009, с. 14.*

**Льюіс КЭРАЛ**

### Жабавокі

**У**поўдне рысы барзюкі
Свярбяху а крыўляху,
Сычаша птах, і мертвакі
Ва горбех верашчаху.

“Хавайся, сыне, Жабавок,
Звышнедачалавек!
Час, дабы з піхваў ты валок
Жлухлівы крывасек!”

Узяўшы ў пясць вяшчарны меч,
Ваяр, змяюку зрэўшы,
Акі Баян, пачаўша цеч
Размысляю па дрэўцы.

Се распярэджан ён стаяў,
А тут ня ў знакі – скок!
З дубровы сам сябе із’яў
Пачмурны Жабавок!

Іду на вы! Галоў далоў
Жалудны меч стрыгаша
Страхот гатоў – і стрымгалоў
Дамоў асілак бяша.

“Дзе Жабавок? Убіен?
Падзі да рук мая!
О, жарсны дзень! О, гласны дзень!”
Зрадзіцель успяяў.

Упоўдне рысы барзюкі
Свярбяху а крыўляху
Сычаша птах, і мертвакі
Ва горбех верашчаху.

*З ангельскай мовы пераклаў Макс Шчур. “Новы час”, № 45 (173), 2009, с. 15.*



*“Макс Шчур – паэт, празаік, перакладчык. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Брэсце. У Мінску ў лінгвістычным універсітэце вывучаў іспанскую мову. З 1988 года – палітуцякач у Чэхіі. Аўтар п’есы “Смерць тырана” (Мінск, 1997), паэтычных зборнікаў “Амфітэатар” (Прага – Гданьск, 1999), “Ранні збор” (Стакгольм, 2006). За непублікаваны раман 600-старонкавага сатырычна-палітычнага раману “Там, дзе нас няма” атрымаў прэмію Янкі Юхнаўца (2004). Заснавальнік інтэрнэт-часопісу www.niamiesta.se, у якім публікуе найперш уласныя тэксты і свае пераклады замежных аўтараў на беларускую. Перакладае з англійскай, іспанскай, чэшскай і іншых моваў. Паслядоўны перакладчык англійскай літаратуры абсурду: на сайце knihi.com публікаваўся яго пераклад “Кнігі бязглузду” Эдварда Ліра. Жыве пад Прагай.” “Новы час”, № 45 (173), 2009, с. 15.*

# 2010 ЯК ЗДЗЕЙЦЬ "ДЗЕЯЧАС"?




*"Кіясэра Міта" – паслухмяная гейша з лагодным штучным інтэлектам. Фотадзеячас.*

*Скарынаўскім шляхам*

Эканамічны рост краіны, сталае паляпшэнне дабрабыту народа, развіццё навукова-тэхнічнага і грамадскага прагрэсу ставіць перад намі новыя надзённыя задачы паводле традыцыйнага для беларуса ад часоў Францішка Скарыны занятку – друку ў роднай мове. На першы план выходзіць пытанне самавыдавецтва і самадруку як найпаўнейшага творчага выяўлення асобы.

**_У сувязі з юбілеем "Дзеячасу" увазе чытача прапануецца матэрыял, у якім можна пазнаёміцца з прыёмамі друку самавыдавецкае газеты._**

…І вось калі тэксты напісаныя, а выданне




*Збор нумару: у стосах на стале аркушы з надрукаванымі старонкамі. Фотадзеячас.*

зварштаванае, паўстае самы цяжкі й адказны момант ісціны – матэрыялізацыя ідэі. І тут на дапамогу прыходзяць разумныя машыны, кемлівыя завіліны і ўвішныя пальцы.



***Пры зборцы нумару варта паклапаціцца, каб пад рукамі была вільготная ганучка. Фотадзеячас.***

### *Друк*

Вядома ж, самавыдавецкую газету найлепей друкаваць лічбавым дублікатарам, ці па-простаму – рызографам.

Рызограф выдае на рататар: робіць друкарскі адбітак на паперы таксама ў трэфарэтны спосаб. На адмысловай плёнцы машына лазерам прапальвае матрыцу з адсканаванага арыгіналмакету. З дапамогаю спецыяльнага інтэрфейса, якім камплектуецца рызограф дадаткова, трэфарэт можна зрабіць мінуючы сканер, адразу ж з кампутара, што паляпшае якасць друку і эканоміць час ды расходныя матэрыялы. Майстарплёнка з трэфарэтам знаходзіцца на барабане, пракат якога наносіць адбітак на паперу. Пры зборы ў дзвесце дзевяноста дзевяць асобнікаў кошт адной копіі зробленай на рызографе значна таннейшы за копію, якая надрукаваная на ксераксе, ужо не раўнуючы з угазетаваным экземплярам на афсетнай машыне.

Рызограф мае большы працоўны рэсурс у параўнанні з ксераксам. Друкуе ў шмат разоў хутчэй за ксеракс. Ім можна друкаваць на паперы паніжанае шчыльнасці. Існуе магчымасць друку ў некалькі колераў; вытворцы фарбаў прапануюць багаты выбар барваў. Чарніла ў рызографе не зьяўляецца шкодным, яно пакідае трывалы друкарскі адбітак, які здольны добра захоўвацца цягам шматлікіх гадоў.

Галоўны мінус лічбавага дублікатара – адносна вялікі кошт. Ніжэйшая лінейка рызографаў пры друку перадае адценні ня вельмі выразна – таму ў арыгіналмакеце лепш выкарыстоўваць здымкі кантрастныя, без паўтаноў. Апарат даволі важкі – гэта ўплывае на ягоную мабільнасць: пры пагрузцы, выгрузцы, транспартыроўцы могуць зьяўляцца пэўныя нязручнасці.

Таксама газету можна надрукаваць і на лазерным копіры, ці па-простаму – ксераксе; японка "Кіясэра Міта" (ілюстрацыя 1) вельмі добра падыдзе для гэтае справы. У ксераксе тэкст й ілюстрацыі наносяцца лазерам на паперу. Арыгіналмакет загружаецца ў памяць апарата праз сканер або таксама праз спецыяльны інтэрфейс.



***Таблойд згінаецца напал і заціскаецца шрубцынгамі, якія здатныя ствараць гнёт у некалькі тонаў. Фотадзеячас.***

У параўнанні з рызографам ксеракс значна, у некалькі разоў, таннейшы. Ён больш распаўсюджаны сярод карыстальнікаў – праз гэтае лягчэй дамовіцца з друкам, арэндаю ці пазыкаю тэхнікі. Пры ўмове выкарыстання рэкамендаваных вытворцам расходных матэрыялаў можна дасягнуць вельмі высокай выяўленчай якасці. Апарат ня дужа цяжкі.

Сярод мінусаў – даволі дарагія расходныя матэрыялы. Друк на ксераксе павінны здзяйсняцца на паперы высокае шчыльнасці – 80 г/м$^2$, – што падымае кошт асобніка. Друкарскі адбітак атрымліваецца ня вельмі трывалы – тэкст і выявы маюць схільнасць асыпацца. Парашок, якім друкуецца тэкст, шкодны для здароўся.

### *Зборка*

Пасля таго, як тыраж надрукаваны, стосы аркушоў раскладваюцца на стале (ілюстрацыя 2) і – уручную збіраецца нумар. Існуюць аўтаматычныя старонкападборнікі – неяк даводзілася дамаўляцца з працаю на такім апараце. З дапамогаю гартача гэтая даволі марудная і карпатлівая работа выконваецца вельмі хутка і лёгка. Але падобная тэхніка ня дужа распаўсюджаная сярод карыстальнікаў. Таму найчасцей даводзіцца спадзявацца на ўласныя рукі. Зборка ўручную пойдзе значна хутчэй, калі пальцы будуць вільготныя – таму трэба паклапаціцца пра тое, каб пад рукамі была мокрая ганучка (ілюстрацыя 3).




***Паводле старога добрага звычаю, выхад нумару трэба замачыць. Фотадзеячас.***

### Фармаванне

Сабраныя асобнікі згінаюцца напал і заціскаюцца ў шрубцынгі (ілюстрацыя 4). Вытрымка пад гнётам не дае аркушам разгортвацца самавольна.

## *кроніка*



*Д*ваццаць шостага кастрычніка ў Мастох да Лявона Вашка завіталіся грамадскі дзеяч Алесь Зарэмбюк і карэспандэнт інтэрнэтнага выдання “Салідарнасць” (***gazetaby.com***) Руслан Гарбачоў. Лявон Вашко падарыў гасцям пятнаццаты нумар “Дзеячасу”.

***На здымку: Руслан Гарбачоў (злева) і Алесь Зарэмбюк на мастоўскай сядзібе. Фотадзеячас.***

*Эпіграф*




КВАС

***Квас***

Не ўжываць каб “карвалолу”,
Лепш ня пі ты “кока-колу”,
І не крыўдуй на медыцыну
Пасля “кокі” кафеіну:
Як нажрэсся “кока-колы”,
Сядзеш попаю на ўколы,
Выпра вокі, сціснe бокі
Ад прысмакаў “кола-кокі”...
Каб ня стала спіна колам,
Стараніся “кока-колы” –
Не жаруць яе і свінні,
А ты пусціў над пойлам сліні...
Ня жджы, покі з крывёй какі
Ад той “кокі” пойдуць з сракі...
Не меняй на “кокі” газ
Беларускі родны квас –
Натуральны, хлебны, з бочкі
Пі глыточак за глыточкам,
Спажывай яго ты годна
Штоквартальна, і штогодна,
І штодзённа, і, канечне,
Спажывай яго штовечна...
Дзеля сілаў адраджэння
Бочка дзьмецца ад бражэння:
Не якіесьці там “кокі” –
У квасе ходзяць стрэптакокі!
Ды бурбоыяць з імі дрожжы,
Каб жылося ўсім нам гожа...
Цягні з куфля, пі са шклянкі,
Налівай квас у крышанку... –
Не душыла каб зараза,
Запраўляй свой шлунак квасам...

Хай бароніць нас ад клізм
Наш квасны патрыятызм!

***Коля***

Хіба ў качане на полі
Адшукаўся гэты Коля? –
Аблупілі ўсей качан,
А ўнутры – сядзіць пацан...
Хаця не... Па небе, мусі,
Прынес Колю ў дзюбе бусел,
Скінуў Колю з неба ўніз:
– Атрымай кіндар-сюрпрыз!..
А можа проста ў магазіне
Выстаўляўся на вітрыне –
З прамакаткаю на пару
Прадаваўся ў “Канцтаварах”?..
Мог на чорны рынак Коля
Лёгка трапіць мімаволі –
З-пад палы замежнай майкі
За “уе” прадалі Майкла?...
Ці на сходзе ў лукамоле
Пастановаю той Коля
Быў народжаны дазвання
Патайным галасаваннем?
А мо зацверджаны хлапчына
Пастановаю Саўміна?..
А мо дужымі рукамі
Зьлеплены сілавікамі?..
Цалкам верагодна, роды
Магла здзейсніць уласць народа
Праз рэферэндум, рэвалюцыю
І змены ў канстытуцыі...

Дзе чыя тут роля
У зьяўленні Колі?...

***Чаму вёску Гамасекава людзі называюць Підарасаўкай***

У Гамасекава ля рэкі
Пражываюць гамасекі.
Ходзяць дружнай чарадою
Па-над мутнаю вадою
Тае рэчкі-гаўнацечкі
Чалавечкі гамасечкі.
Ходзяць дружна ўсім народам
Сэксуальным карагодам:
Ля калгаснага гей-клуба
Ходзяць хлопцы мужалюбы,
З эрацічаскім прыветам
Ходзяць вакол сельсавету,
Ходзяць ракам каля касы
Мужалюбскага калгаса,
Вакол збожжавых сусекаў
Ходзяць хлопцы гамасекі,
Ля рэдакцый і выданняў
З попай голаю дазвання
Сюд-туд сноўдаюць памалу
Хлопцы гомасексуалы,
Носяць тоўсты хер у срацы
Вакол гей-адміністрацыі
Тыя гомачалавенькі
Са сваёй душой маленькай...
Іх маленькіх душаў подых
Абуджае задні дотык:
Змізарнелых душаў гены
Пакрывае хтосьці хрэнам –
Б’е залупай па вушшу
Ды кладзе хрэн на душу,
Хера тоўстай плоццю хера
Арыентацыю гетэра
Ды перайначвае планіду
Сваім наюшаным лібідам.
Змізарнелых душаў попы
Не ўглядзець пад мікраскопам,

Дык праз мізэр попаў хрэна
Папрэш проці тоўсці хрэна.
Нехер торгаць мінітранты
Супраць полавых гігантаў –
Калі дух на ўзроўні нана,
Хрэн папрэш супраць банана.
Вось і шырыць нанасраку
Конскі хер гігаманьяка...
Ад напорыстай мілосці
Пярдзяць попы, хрумсцяць косці,
І – шчыруюць сракі з дрыстам
Прад здзіўлёным інтурыстам,
І бянтэжыць сракаў гадскасць
Міжнародную грамадскасць.
У зад па тэлеперадачы
Робіцца струкоў раздача:
Скача крывы хмуй у задзе
На сялектарнай нарадзе
І нават па мабільніку
Чысцяцца пярдзільнікі...
Ад вечара да рання
У срацы – гігаманія,
У нанаанатоміі –
Гігагегемонія.
Невядома, чаму, як
Старшынёю стаў маньяк.
Зранку выйдзе на парог,
Настаўбеніць бычы рог,
Утаропіць свае вокі
У абасраныя аблокі,
Крыкне ў попу неба:
– Гэй!..
З попы рэха пукне:
– Гей!..
Паўзіраецца з мінуту
На нанагомаліліпутаў,
А тады шчаміць маментам
Іх з нейкім скоцкім элементам.
З элементам скаталюбства
Карыстае тое людства:
Пальцам пора ў жываціну
Буйнарогую скаціну,
І лезе пальцам тым наўпрост
У віты свінячы хвост.
Карыстае скатоў прама
Каля сіласнае ямы,
Ля амбара, каля печкі,
Каля рэчкі-гаўнацечкі...
Недзе верашчыць свіння –
Гэта гігастаршыня
Запярдольвае ў капыты
Нанасранае эліты.
І тапыраць жываты
Дзяржмастацкія скаты,
Пісьменнікі элітныя –
Літпарнакапытныя...

Працы аж не прадыхнуць
У калгасе “Задні пуць”.
Не прадыхнуць ад працы
У абасранай срацы...

### *Графік*

Каб пайшоў нармальна трафік,
Трэба скласці строгі графік –
Хай вызначыць ён пэўна
Ня болей за два тэрміны.
Трэба нам, ядрона маць,
Навучыцца планаваць:
Дбаць, каб пачародна
Узнаўляўся тэрмін годна.
Каб кіравалі сволачы
Ня болей, як двойчы...

Выйшаў графік –
Пайшоў нахвік!..

### *Асноўнае пытанне філасофіі*

Полавыя функцыі
Здзівілі б і Канфуцыя:
У попы сэксуальнай сране
Зблыталіся іні й яні...
Дочкі... мацеры... айцы...
Ой, здзівіўся бы Кун-дзы.
Сэксуальны той дзівос
Ёсць філасофіі вапрос:
Вызначыць праблематычна,
Што пярвічна, а што ўтарычна...

Калі пускаюць зад у дзела,
Што пярвей – дух або цела?..

### *Хмуйяк*

З вышыні эстэтыкі
Скаціўся ён да этыкі –
Цяпер знае ўсе прыёмы
У гісторыі праёмах.
Знае добра той мужчына,
Што рабіць і якім чынам:
Як сварыцца... як мірыцца...
Як любіцца... як жаніцца...
Як драчыцца... як дружыцца...
Як журыцца... весяліцца...
Як ісціцца... паміраць...
Як парткі не абасраць...
Як пісаць сціхі ды прозу...
Хутаць яйцы ад марозу...
Насіць яйцы ў цеплыні...
Трымаць яйцы ў чысціні...
Як злавацца... як кахацца...
Як сцвярджацца... адбывацца...
Знае нават наш гуру,
Як падскочыць на хяру...
І на кожнае імгненне
Ёсць Вучыцеля Вучэнне!
І на чыхі ды на пукі
Распаўсюджана Навука –
Кропкі ўсе расставіла
Вучыцелева Правіла...

Правілам язды на поцы
Нас навучыць хмуяплёцтва...
– Ну то як?
– Хмуйяк!..

### *Тэарэма*

Марыць мераць марна, глупа
Ад душы шлях аж да дупы,
Ды ўсё роўна трэба верыць,




Што шлях гэты можна змераць –
Ёсць над тымі нетрамі
Навука хрэнаметрыя.
Вось бярэ навука шчуп
Ды засоджвае пад пуп,
Ды пад пупам вонутры
Мерае хрэнометрам.
Шчупаў шчык праз дупу пупа –
Душы шлях усцяж да дупы:
У шчупа сраных дэцыметрах –
Шлях душы ў каафіцыентах,
У кожным сраным міліметры –
Духашлях на тэраметры.
І – увачавідкі паўстае
Шлях ад пункта *a* да *b*:
Ад душы і да сартыра
Паўстае той пуць пункцірам...
Адкрывае дупы тэма
Духасрання тэарэму:
***Калі Дух саспеў для мух,***
***Ён пачынае ў попу рух.***
Духу ігрык зверху ўніз
Крые ў срацы цьмяны ікс:
У імгненне ўсё дазвання
Набывае якасць срання –
Да мух Дух і ўсё святое
Рухаецца ў месца тое.
Дзядзька меў святое ў сэрцы,
А цяпер – святым тым срэцца,
Высірае ў небыццё
І святое, і жыццё...
Пруцца ў попы магістраль
І сумленне, і мараль,
У духамухапукадзеі
Прасіраюцца ідэі,
Прасіраюцца надзеі
У, бляха-муха, попабздзеі,
У попу шчымяцца з душы
Ганарары, барышы,
І палучкі, і авансы
За пярдзючкі рэверансы,
Лезуць цераз Духа млосці
Пераваранья косці,
У пацвярджэнне тэарэмы
Сруцца вершы і паэмы,
Пакручастым шляхам кішкі
Ідзе проза, лезуць кніжкі...
Дэманструе шчупаў сінус
Сраны *x* на *y* мінус:
Срэцца душа поўная
Лічбамі адмоўнымі,
І сыходзіць годнасць
У мінус бясконцасць –
У апозадны праход
Дзень пры дні ды з году ў год
Цераз сракі бісектрысу
Усё вывальваецца знізу...

У духасранстве гэным
Доказ тэарэмы:
Настолькі ён вядомы,
Што нават – аксіёма...

### *Суюзнікі*

**А**басраныя рэйтузы
Падцягнулі, і з саюзу
Далі цягу наўгалоп,
Быццам пацукі ў патоп, –
Прадаліся за пячэнікі
Пацукі-пісьменнікі:
У новым творчым аб'яднанні –
Крыты стол для аб'ядання.
Важка ў новым дзяржсаюзе
Срэцца з пузаў у рэйтузы –
Вось і лезуць ракам, юзам,
Бягуць гадам з карабля
На дзяржаўны крэйсер, бля,
З святой вераю ў Айца
Ды ў чудатворца Чаргінца...

Дзесьці ў попе тая вера –
На канцы таўстога хера...

### *Рэпутацыя*

**З**дзеў бялізну, скінуў лапаць:
Можна турзаць, можна лапаць...
На канапе ў выдавецтве
Без лапцёў ён аддаецца.
Ляжыць голы ён і босы
Ды мяняе пяткаў позы...
Ды зіхоча голай пяткай
Без лапцёў і без апраткі...

Такая рэпутацыя:
Хтосьці турзае... нехта мацае...

### *Гарманіст*

*Гарманіст сядзіць адзін –*
*Давайце, дзевачкі, дадзім.*
*Ой, дзяўчаты, трэба даць –*
*Будзе весялей іграць!*
*З народнай песні.*

**Б**ы з пахмелля ананіст,
Сядзіць злосны гарманіст...
А вакол яго рабяты
Агаляюць яйцы й пяты.
Агаляюць зад, птамаць –
Гарманіста весяляць.
Ой, рабяты, трэба даць –
Будзе весялей іграць!
Лезуць весела ў ладошкі
Попаў звонкія гармошкі.
Лезе пеніс з пяткаў парай
Семіструннаю гітарай –
Лезуць яйцы і зады
Ва ўсе гармонныя лады.
І расцягваюць далоні
Попаў звонкія гармоні:
Вунь збуджаюць пальчыкі

У звонкіх попах мальчыкаў
Канадныя кантаты
Ад пальцаў з попаю кантактаў.
Мо і звонка, ды – нячыста
Гучыць песня гарманіста:
Ліецца песня то са свістам,
А бывае, што і з дрыстам –
То засвішча, захрыпіць,
А то проста запярдзіць...
Гарманісту не да шуткаў –
Столькі ў яго гранні смутку.
Столькі ў яго песнях злосці,
Што бракуе весялосці...
Вунь мінорыць, стаўшы ракам,
Нейкага паэта срака,
Вунь пранізліваю нотай
З прафесуры пукнуў хтойта,
Вунь жалобна заякочыў
Зад сялянскі ці рабочы...
Быццам лезе з пуза кал –
Такая гаўнамузыка;
З пахам попы і мачы
Усе скрыпічныя ключы,
І ад смуроду з попы нотаў
Апаноўвае самота...
Душыць горла камяк горкі
На журботных тых вячорках –
Бы на пахаванні
Пальцаў сракагранне.

Дзе знайсці тое дупло,
Каб – вясёла загуло?

### *Загадка*

Вершы гладка дзядзя піша –
Быццам чыюсь попу ліжа.
Хай сабе яно і гадка,
Ды затое – надта гладка
Вадзіць па гладзі копчыка
Языка шурпатым кончыкам.
Водзіць гадка... піша гладка...
Што кіруе ім? – загадка...
Чаму дзядзя гадка ліжа?
І чаму так гладка піша?
Адкуль гэты сракаліз
Бярэ гэткі гладкапіс?..

Чаму ўсе “сціхатварэнні”
Пахнуць водарам сярэні?..

### *Свіны грыпер*

Мабыць, ад інфляцый гіпер
Распачаўся свіны грыпер:
У журботны міг нястачаў
Свіны грыпер засвінячыў.
Так свінячыць грыпер гадка –
Не ратуе ў марлі ватка.
Распаўзаецца, як трыпер,
Гэты гадкі свіны грыпер,
Закажае ўсіх урад
Грамадзянаў дый урад,
І плябеяў, і цароў,
Трактарыстак, даяроў...
Свінагрыперу насраць,
Хто чый кум, а хто чый зяць –
Віруснай заразай крые
Бацькаўшчыну пандэмія!
То вам не птушыны грып –
Тут зусім інакшы хрып...
Гэта вам ня тры пяры –
Усе трыста ў грыпяры!
То не ганакокі вам –
Гэта люты свіны штам!
Лезе ў чэрава бяз страху
Свіны грыпер цераз сраку,
З сракі ў душу, з душы ў тушу
І – растуць свіныя вушы...
Апаноўвае, бы ВІЧ,
І – расце свінячы лыч...
Свіны грыпер свінскім гадствам
Інфікуе ўсё грамадства,
Працавітае суполле
Аскаціньвае паволі.
Ад лыча да жывата
Перайначвае ў ската
Люты свіны грыпер гэты
Небараку-пацыента.
Ідуць свінні да аптэкі,
А там – адсутнічаюць лекі...

Колькі яшчэ нацыі
Быдлець без вакцынацыі?
Тэрмінова ад скаціны
Трэба выпусціць вакцыну!..

### *Прыезд*

Прыляцеў на нашы гоні
Самалётам Берлусконі,
З усмешкай шчыраю бяз грыму
Прызямліўся проста з Рыму –
Так займелі мы друзей,
Дзе Пантэён і Калізей.
Калісь тварыў там Мікеланджала,
А зараз – дружба ў нас наладжана...
Сяброўству гімны мы пяём,
Дзе суіцыд рабіў Нярон...
Калісьці рэзалі там Гая,
А сёння – дружба расквітае...
Штось з Апенінаў кліча іх
На бераг нашай Свіслачы,
І цягнуць душаў фібры
На берагі нас Тыбра...
І аж ад Буга ўсцяж да Проні
Лепшы сябра – Берлусконі.
Сярод нашай цёмнай хеўры
Ён – прамень у царстве цемры!
Самавіты, сімпатычны,
Грашавіты, эратычны,
Тэмпераментны, запальны,
Талерантны, сэксуальны...
Хвацка, кажуць, у Італіі
Ён працуе геніталлямі...
Ды што нам тыя геніталлі –
Мы і самі, бы ў Італлі:
Мы на “вобліка марале”
Самі ўжо даўно насралі,
Навалілі ўсім народам
На сумленне і свабоду,
І на сцяг, і на Пагоню...
Дык што нам гэты Берлусконі?..
Што ягоныя каханкі?..

Мы і самі – як вакханкі...
Мы і самі – быццам юды,
З дранай попаю прыблуды...
Таму рады мы сягоння
У нашай хаце Берлусконю.
З Берлусконем там і тут
Зладзім мы фелічыту,
Пусцім цераз ягадзіцы
Нашу бульбу з іхнай піцай,
Будзем есці з Берлусконем
Сала разам з макаронам
І ліць з бутэлек у адно
Самагонку і віно.
Зладзім лёгка, без праблем
Мы культарамі абмен –
Мы заўжды абмену рады,
Бо на таленты багаты...
Ёсць паэт – як вып’е чарку,
Піша спрытна, бы Пятрарка...
Ці вунь холдынгавы гніды –
Вершы лепяць, як Авідый,
А як жлуктануць па чарцы,
Строчаць вершы, бы Гарацый...
Ёсць танцоры і штангісты,
Хакеісты ды артысты,
Цудадзеі-аграномы,
Фокуснікі-эканомы,
І – могуць нашы воперы
Распяваць у воперы...
То народ у нас такі:
Усе і кожны – мастакі...

Пачуцце маем сільнае
Да Берлусконя Сільвія –
Вітаем шчыра шлях самца
Да сінявокай і айца!
Абы ён нам не заспяваў:
– О, Беларусь, о, Бела... чаў!..

### *Нірвана*

Мо з мільярд ці два парсекаў
Уверх ад нашых гамасекаў,
Дзе знікае ў цемры свет,
Ёсць люстэркавы сусвет.
Там вірующь несупынна
Атамы з зваротным спінам,
І творыць часанесканечнасць
Антычасавую вечнасць.
Анатоль жыве там Сыс
Ды пазірае зверху ўніз,
Глядзіць зверху і здаля...
– Дух, – гаворыць, – гэта я...
З вышыні мільярдаў двух
Гучыць ясна Толеў Дух,
Гучыць блізка Толеў голас,
Бы між намі прорва – з волас.
Праз касмічную прастору
Адмысловым калідорам
Гучыць Толеў голас гэты
З паралельнага Сусвету,
З атамаў з зваротным спінам
Гучыць голас, бы з-за спіны.
Бы з-за спіны, кажа Толя:
– Гаўно, хлопцы – ваша доля,
Гаўно пчолы, гаўно мёд
І ваш дзядзька пчалавод...
Сказаць шчыра я вам мушу:
Гаўно, хлопцы – вашы душы,
Гаўно, хлопцы – ваша рабства,
Гаўно, хлоцы – ваша бгляцтва...
Пашукаць між розных нацый,
Больш няма такіх засранцаў,
Больш ня знойдзеш гэткіх юдаў,
Вырачэнцаў і паскудаў.
Больш ня знойдзеш гэткіх сук –
Кажу гэта вам як Дух.
Вы ж таксама, хоць і лохі,
Трохі Духі й трохі Богі:
Дык адкіньце ж гаўна троха
Ды пачуйце ў сабе Бога,
Разграбіце ж гаўно, сукі,
Ды адчуйце, што вы – Духі...
Гаўнадолей, – кажа Толя, –
Лепш хмяліць лыч алкаголем,
Лепш штовечар напівацца –
Да Нірваны прычашчацца...
Лепш співацца ў роднай хаце,
Чым душу гаўняць ва ўладзе
У выданнях, выдавецтвах,
Холдынгавых прадпрыемствах...
Лепш гарэлку піць бяз меры,
Ды – ня здраджваць сваёй веры,
Чым у попе з тоўстым херам
Рабіць сраную кар’еру.
У срацы з хмуем, – кажа Толя, –
У Рай ня трапіце ніколі:
З сракай дранай да Эдэму
Трапіць – цэлая праблема...
З сракай дранай, – кажа, – лохі,
Хмуй відаць вам Крышналокі,
З сракай дранай, з душой сранай
Хмуй патрапіце ў Нірвану...
Нахмуй вашы, гаўнюкі,
У Нірване гальштукі,
Ды з гальштукамі заадно
Нахмуй вашае гаўно!
Для Нірваны, – кажа Толя, –
Годнасць трэба мець і волю,
Трэба Духу песціць вечнасць,
А ня лёсу гаўнацечнасць...

Эх, Толя, вып’ем па сто грамаў,
Ды – зьездзім да цябе ў Нірвану...

...УПерад...

*Крочым мы за далягляд,*
*А на ім – маячыць зад...*
*Ды буйнее з году ў год*
*Срака на ўвесь гарызонт.*
*Павярнуць назад нам трэба.*
*Ды там – залупа на ўсё неба...*

*Папалі ў нерат –*
*Ні ўзад, ні ўперад...*

...узад...

НЕРАТ

# Melittis sarmatika



*Кадзіла сармацкае занесенае ў “Чырвоную кнігу”. Расліна знікае з Беларусі, таму знаходзіцца пад аховаю дзяржавы. На здымку: кадзіла сармацкае. Масты, трыццатага траўня 2003 года. Фотадзеячас.*

2009

*У 2009 годзе мінулася 30 гадоў з часу выхаду другога тома пяцітомнае энцыклапедыі “Беларуская ССР” пад рэдакцыяй Петруся Броўкі. Кніжка выйшла ў Менскім выдавецтве “БелСЭ”. Том прысвечаны прыродзе, эканоміцы, дабрабыту Беларусі.*

“**К**адзіла сармацкае (Melittis sarmatika), шматгадовая травяністая расліна губакветных. На Беларусі пашырана толькі на ПдЗ у дубровах, грабняках, хмызняках. Цвіце ў маі – чэрвені. Нар. назва лясная табака.

Выш. 20-80 см. Сцябло прамастойнае, чатырохграннае, мяккаапушанае. Лісце яйцападобнае, чаранковае, зубчастае. Кветкі буйныя, двухгубыя, бела-ружовыя, з мядовым пахам, па 2-6 у пазухах верхняга лісця. Плод – шматарэшак. Лек. і меданосная расліна. Ахоўваецца.”

*“Беларуская ССР”. Кароткая энцыклапедыя. Менск, 1979. Т. 2, с. 307.*

## рана ці позна

***Анатоль ВЯРЦІНСКІ***

**Рана ці позна**
**позна ці рана**
**высахнуць слёзы,**
**загоіцца рана.**
**Рана ці позна...**
**Рана ці позна,**
**позна ці рана**
**суровая помста**
**спасцігне тырана.**
**Рана ці позна...**
**Як светла,**
**як росна!**
**Гляджу ўсхвалявана.**
**А рана ці позна,**
**позна ці рана.**
**Рана ці позна...**
**Рана ці позна,**
**позна ці рана**
**хай будзе, што лёсам**
**наканавана.**
**Рана ці позна!..**

*Анатоль Вярцінскі. “Сятло зямное”. Менск, 1981. С. 141.*

Лявон Вашко ўдзячны Алесю Зарэмбюку, Уладзіміру Каўшовіку, Зміцеру Кухлею, Язэпу Палубятку з Мастоў, Станіславу Судніку з Ліды за арганізацыйную дапамогу ў выпуску гэтага нумару “Дзеячасу”, сям’і Наготкаў за фотаздымкі з сямейнага архіва, Міхасю Скоблу за дапамогу ў сканаванні фотаздымкаў Сяргея Наготкі, Вользе Савулавай, Алене Пузанкевіч, Таццяне Пузанкевіч за сканаванне і перасылку здымка Ніны Чарнейкі.

**Літаратурны агляд “Дзеячас” № 16 (2009 – 2010). Распаўсюджваецца бясплатна.**
**Выдадзены ў Мастох. Самавыдавецтва. Збор 299 асобнікаў.**
**Савецкая, 138 231600 Масты Беларусь e-mail:liavonvashko@mail.ru**